—Недасканаласць. Вы хацелі сказаць дасканаласць, але ўсе мае творы — сама недасканаласць. І мелі рацыю тыя, хто здзекваўся з мяне, смяяўся.

— Гэта, пэўна, былі  вельмі недалёкія, тупыя людзі.

— Ды не... Сярод тых, хто смяяўся з мяне, былі нават геніі.

Леанарда адвёў, апусціў вочы. Адыйшоў убок. І скрозь люстэркавую смугу я ўбачыла вуліцу... На лавачцы сядзелі, нешта абмяркоўвалі некалькі маладых італьянцаў. Па іхнім адзенні я здагадалася, што яны жывуць у эпоху Леанарда. Прыслухалася.

— ... Так казаў Дантэ. Але што гэта значыць...

— Спытаемся ў Леанарда. Вунь ён кіруе сюды ад царквы Санта-Трыніта.

Лёгкаю хадою той якраз праходзіў паўз іх. Ад просьбы сумеўся, разгубіўся. Але тут з ім параўняўся і, злёгку кіўнуўшы, пайшоў  далей не хто іншы, як Мікеланджэла. Леанарда з хваляваннем гукнуў яго:

— Можа, ты патлумачыш гэтым людзям адзін урывак з Дантэ?

Мікеланджэла рэзка павярнуўся  і груба кіўнуў:

— Не-не. Растлумач лепш ты, ты, які зрабіў праект бронзавага каня, але не змог адліць яго і, да сораму свайго, пакінуў яго недаробленым.

Леанарда пачырванеў. Мікеланджэла ж кіўнуў яму здаля:

— І гэтыя тупагаловыя міланцы маглі паверыць табе!

Леанарда, счырванелы, разгублены, падняў да мяне свае вочы. Я ўсё зразумела,  і паспрабавала суцешыць яго:

— Не трэба, не трэба нічога тлумачыць. Гісторыя ўсё расставіць на свае месцы. Я ведаю, шаноўны, дарагі Леанарда, чытала пра тое, што сталася. На ваш час, як, зрэшты, і сёння, мастакі не маглі  абыйсціся без багатых заказчыкаў. А фларэнтыйскія банкіры Медычы любілі надуманыя творы і занадта вытанчаную, далёкую ад рэальнасці манеру. Не для Вас. І Вы вырашылі перабрацца з фларэнцыі ў Мілан, дзе цараваў герцаг Ладавіка Мора, які даў Вам магчымасць выявіць сябе ва ўсім.

— Перш чым паехаць у Мілан, - усміхнуўся з залюстроўя Леанарда, — я напісаў герцагу ліст, у якім падрабязна пералічыў усё, што ўмею... І найперш пра тое, што датычыць ваенных вынаходніцтваў. Усе ўладары ў наш час любілі ваяваць. “Я ведаю спосаб рабіць надзвычай лёгкія масты, — пісаў я, — якія да таго ж лёгка пераносіць і іх можна выкарыстоўваць для праследвання ворагаў і для ўцёкаў ад  іх...” А пра свае мастацкія здольнасці толькі ў канцы: “У мірны час я спадзяюся вытрымаць спаборніцтва з кожным

у архітэктуры, у пабудове дамоў… Я таксама бяруся ў скульптуры, у мармуры, бронзе або гліне, як і ў жывапісу, выкнаць усё, што магчыма, не горш за кожнага, хто жадае памерыцца са мною.” Але для багатых людзей нашага часу важней былі ваенныя вынаходніцтвы…

— І Вы прыдумалі танк, падводную лодку, парашут…

— Людзям у будучым давялося ўсё вынаходзіць і называць нанова. Але для мяне гэта былі вымушаныя вынаходніцтвы. Я іх рабіў дзеля таго, каб мець магчымасць займацца мастацтвам. Кожная краіна мусіць мець моцную армію, каб пад яе ахovаю мастакі і паэты маглі спакойна ствараць шэдэўры. І мне давялося выстройваць сваю лінію абароны.

— Але ж Вы, як пішуць, афармлялі святы, рабілі эскізы касцюмаў і зброі, чыталі герцагу і ягоным гасцям байкі, ігралі на розных музычных інструментах…

— Самае цудоўнае, што я паспеў зрабіць у Мілане, гэта канструкцыя, якую я прыдумаў, каб увасобіць рай. Рухаліся па колу планеты, мігцелі зоркі, потым з’яўляліся знакі задыяка. Калі акцёры пачыналі чытаць вершы, здавался, яны вымаўляюць словы неба, словы самога Бога.

Леанарда зірнуў мне проста ў вочы. І ягоны позірк, падалося, апёк маю душу. І праз люстэрка апёк. Але я, імгненна змоўчаўшы, працягвала:

— А яшчэ ў Мілане Вы напісалі партрэт каханай герцага Мора Цэцыліі Галярні. А потым пачалі працаваць над помнікам у гонар яго бацькі Франчэска Сфорца, тым самым конным манументам, з якога так жорстка пакпіў Мікеланджэла. Мы можам меркаваць пра веліч Вашай задумы толькі паводле малюнкаў і невялікай групы з бронзы. Калі на пачатку ХУІ стагоддзя пачалося французскае нашэсце, салдаты Людовіка ХП стралялі па гліністай мадэлі помніка, як па мішэні. Вы тады з’ехалі з Мілана… І, дзіўна, не затаілі крыўды на французаў. Больш за тое, свае апошнія дні пражылі пры двары французскага караля Францыска І.

— Я шукаў, дзе мяне зразумеюць… Цяпер магу сам сабе прызнацца, я быў вельмі, страшэнна няўпэўнены ў сабе чалавек. І я прывык, звыкся з няўдачамі… Але тады я з’ехаў з Мілана ў Фларэнцыю, каб там напісаць ці не самы дарагі для мяне твор. Я яго не аддаў заказчыку. Я з ім не развітваўся да самай смерці. Там. У Мілане я сустрэў…

Я чакала, што Леанарда назаве імя, але ён задумаўся і замоўк. Давялося працягваць самой:

— Вы сустрэлі Мону Лізу дзі Антоніа дзі Кольдзі Герадзіні, жонку фларэнтыйскага купца Франчэска дэль Джаконда? Або знатную неапалітанку Канстанцыю д’Авалас? Навукоўцы дасюль ніяк не вызначацца...

— Няхай гэта застанецца таямніцай. Мона Ліза, дык Мона Ліза. Ёй было 24, мне — 42.

— 24-42, — паўтарыла я і напісала лічбы на паперы, — Ізноў люстэрка. Люстэркавая сіметрыя. Нават страшна робіцца. Вы, праўда, тры гады пісалі яго, гэты партрэт?

— Так, і скончыў у 1503 годзе.

— Поўтысячагоддзя прайшло.

— І вось мы зноў сустрэліся, — сказаў Леанарда і неяк сумна ўсміхнуўся, — Цяпер не ў рэальнасці. Праз люстэрка часу. Я сам вынайшаў гэтае люстэрка. І вось з’явіліся Вы. Жанчына з будучыні. Толькі я не буду пісаць Ваш партрэт. Лепш, чым “Джаконда” я ўжо ніколі нічога не напішу.

— Вашыя сучаснікі сведчаць, што, калі яна Вам пазіравала, Вы запрашалі і музыкаў, спевакоў з лірамі, і блазнаў, каб развесяліць яе, зняць з твару меланхолію...

— І яшчэ я чытаў ёй свае вершы...

— Вершы? Вы пісалі вершы? Мы ведаем, што вершы пісалі Мікеланджэла, Рафаэль. Але Вы... Трактаты, загадкі, байкі... гэта вядома. А дзе ж яны, Вашыя вершы зніклі?

— Я іх не запісваў. Толькі чытаў. Для яе. Потым усё ж вырашыў перапісаць, не простым шрыфтам, люстэркавым. Так, каб іх можна было прачытаць толькі з дапамогай люстэрка. Падарыў ёй. А яна, напэўна ж, схавала, а можа і выкінула тыя паперкі. Каб муж не заўважыў. Але яны, тыя вершы, я ў гэтым упэўнены, засталіся ў яе чароўнай таямнічай усмешцы. Яны пульсуюць у яе жывых вачах.

Ты космас майго залюстроўя,
Маё ў табе адкрыццё.
Адною усмешкай таемнай
Ты мне вяртаеш жыццё.

І крылы я зноў адчуваю,
Як птушка у неба імкну.
Я веру, што там адшукаю
Ключы. І рай адамкну.

— А на зямлі ўсё іначай, — міжволі прамовіла я, —

Банкіры, купцы, каралі.
І хмаркі у лужынах гразнуць,
Як толькі крануцца зямлі...

— Вось-вось... Тады ў ёй я ўбачыў самога сябе. Як у люстэрку. І каб я быў птушкай, я б навучыў яе лётаць. І мы б узляцелі. І мы б адляцелі туды, дзе пануе найвышэйшая гармонія. А так... Мы проста раставалі адно ў адным. Ці гэта мне толькі здавалася...

Леанарда падняў руку і дакрануўся да шкла. Я міжволі зрабіў тое ж. І мая далонь бяссільан слізганула па люстэрку.

— Птушцы, якая ляціць супроць ветра і хоча сесці на высокім месцы, неабходна ляцець вышэй гэтага месца, а потым павярнуцца назад і без узмахаў крыламі апусціцца на вызначанае месца...

— Я занадта важкая, каб узляцець...

— Душы не маюць вагі...

## РАДЭНАВА ВАКХАНКА
## Гліняны аскепак Парыжа

Паўнагучча і паўза,
Трапяткое маўчанне,
Калі словы бяссільныя,
Хай пульсуе жаданне...

Я доўга блукала па Парыжы ў пошуках старой брукаванкі. Мне хацелася прайсціся не па сучасных плітках ці асфальце, а менавіта па брукаванцы. Як адчувала. Шукала старое, з’езджанае, стаптанае каменне, каб спатыкнуцца, упасці, пабіць, параніць калена. Парваць новую шаўковую спадніцу. У якой увечары збіралася танцаваць развітаьнае танга. І параніць калена, ды не чым-небудзь, а гліняным аскепкам. Які немаведама як ушчыміўся ўбрук. Я выцягнула яго, акрываўлены, са спрасаванага часам пылу. І вырашыла ўзяць на памяць. Паклала на далонь, і аглухла ад цішыні. Яшчэ некалькі імгненняў назад вушы закладала ад звыклага гарадскога шуму, а цяпер — ад цішыні. Зелянелі каштаны, трава прабівалася скрозь брук. І мне здавалася, што я чую, як яна прарастае. Недзе далёка-далёка гучала надрыўная мелодыя вечаровага танга. Якое, аздабляючы музыку арэхавым французскім “r”незнаёмы палкі мужчынскі голас. Мне хацелася пайсці на яго, гэты голас, але я разумела, што не магу. Што мушу чакаць кагосьці, тут, у гэтай глухой цішыні, ля гэтай старой майстэрні, дзе калісьці працаваў сам Радэн.

Рыпнула дзверы. Я ўвайшла. І толькі тут зразумела. Чаму так ціха. Радэн забраў адсюль усе свае творы. І адсюль забраў усе свае творы. І гэтая майстэрня цяпер будзе як помнік, магільня аднаго-адзінага ягонага тварэння, якое загінула тут, на гэтай брукаванцы. Я цяпер разумею, што разам з тым тварэннем, палкаю гліняною “Вакханкай” загінула і нашае з ім каханне. Нешае з ім. Чаму я так падумала? Няўжо зноў заблукала ў часе? І гэты акрываўлены гліняны аскепак ператварыў мяне ў Мары-роз Бёрэ? Знойдзеную і кінутую Радэнам Мары-роз? Роза, ружа, агучаная святлом рознакаляровых шкельцаў, вітражовая ружа, а ў ёй вобраз вечнай пакутніцы Марыі. Яна нарадзіла свайго сына на пакуты... На пакуты...

А як лёгка крочыла яна. Я, па гэтай брукванцы, калі мы сустрэліся ўпершыню. Тады Радэн працаваў у ішай майстэрні, да яе адсюль недалёка. Але сустрэліся мы тут. Пэўна, яго ўразіла мая фігура, плынь аіх валасоў, мой сілуэт. Ён кепска бачыў, і, каб разгледзець

жанчыну, яму проста неабходна было яе абдымаць, лашчыць, доўга, упарта, як гліну. Усе жанчыны, якіх ён знаў пасля мяне, чакалі ад яго разумення, падтрымкі, хацелі, каб ён выслухаў іх, дапамог хоць чым-небудзь. А ў яго жывымі, чуйнымі былі толькі рукі, далоні. Пальцы. Гэта і была ягоная душа. І да мяне ён дакранаўся сваёю душою. Тады, даўно, пасля першай нашай сустрэчы.

Ён марыў вучыцца. Але акадэмікі яго не прызналі. Такіх непрызнаных тады было шмат у Парыжы. І ўсе яны едалі мяне, таму што мяне ляпіў Радэн. Словы не могуць перадаць таго, што здольнае сказаць цела. Я была вельмі. Занадта сціплай, я зусім не ўмела гаварыць і рухалася, як падлетак... Але. Калі Радэн глядзеў на мяне, кранаў мяне сваімі рукамі, цела, маё цела, я сама не ведала, што з ім адбывалася. Гэта быў сапраўдны танец агню, гэта было неўтаймоўнае полымя, мае рудаватыя, сонечныя валасы пераўтвараліся ў іскры. А рукі, мае рукі, пальцы спляталіся ўвышыні... Я танцавала без музыкі. Я сама пераўтваралася ў музыку. І ён зляпіў, сам ане веру, але ён узяў вільготную, мяккую гліну і зляпіў гэты мой танец, маю музыку. І ў той скульптуры, у той вогненнай Вакханцы жыў, пульсаваў кожны дотык ягоных пальцаў. Не паверыце, гліна дыхала. І Манэ, і Дэга былі ў захапленні. Яны паабяцалі, што гэтая скульптура будзе абавязкова экспанавацца на выстаўцы, і што яна будзе мець шалёны поспех.

Радэн быў шчаслівы, упершыню за ўсё сваё жыццё ён адчуваў сябе абсалютна шчаслівым. Ён быў прызнаны, і я, нічога не патрабуючы, была побач. І ў нас мусіла нарадзіцца дзіця. Тады я ўпершыню адчула, што жаночае цела, па-сутнасці, проста прыгожая пасудзіна, якая хавае ў сабе жывую мужчынскую плоць і можа выносіць, нарадзіць дзіця. Я выношвала нашага сына, а мой танец агню застаўся Вакханцы. Яна забрала маю душу, дакладней, Радэн перадаў ёй маю душу і голас майго цела. Потым. Калі ягоныя жанчыны прыходзілі да мяне высвятляць адносіны, я спрабавала растлумачыць ім, што Радэн ад іх вяртаецца да мяне не таму, што я яго трымаю, а таму што ён у кожнай з іх забірае душу, голас цела і перадае іх мармуру, гіпсу, бронзе. Ён любіць, кахае тыя свае тварэнні значна больш за жывых жанчын, але яны не верылі мне. Кожная думала, што здолее стаць для яго адзінай.

А я ні на вошта не спадзявалася. Ні цяпер, ні тады. Калі мая душа. І мой голас засталіся Вакханцы. Яна стаяла ў кутку, ля дзвярэй, ахутаная лёгкім вільготным покрывам, а я сядзела ля вакна і прыслухоўвалася да свайго, нашага з Радэнам яшчэ не народжанага сына. Мы абедзьве чакалі Радэна. Цёмнаблакітны, сіні, потым ліловы паўзмрок наталяў смагу восеньскім сутоннем. Змяркалася. А Радэна

ўсё не было. Я ў адрозненні ад Вакханкі была жывою. Я мела насалоду задрамаць. І я задрамала. А калі прахапілася, сын зсярэдзіны пабудзіў мяне, на стале трымцела, разганяючы вакол святло і даўгія, блытаныя цені, свечка.

Радэн вярнуўся. Але ён нават не падыйшоў да мяне. Да нас з сынам. Ён разгарнуў сваю гліняную Вакханку, укленчыў перад ёю і нешта шаптаў, шаптаў, быццам вар'ят, кранаў яе рукі. Выгнуты ў палымянным парыванні стан, цалаваў калені, ён мроіў ёю.

А назаўтра высветлілася, што сябры знайшлі яму вось гэтую, новую, больш прасторную майстэрню. І трэба тэрмінова пераязджаць. І Манэ з Дэга прыйшлі, каб дапамагчы перавозіць наш няхітры скарб. Спачатку, упрогшыся, як коні ў воз, яны перавезлі ўсе рэчы і інструменты. Я засталася тут, гатаваць ім вячэру. А яны паехалі забіраць Вакханку. Цяпер можн апрызнацца, калі тады я засталася ў новай майстэрні, вось тут, у гэтай майстэрні, я нарэшце адчула сябе свабоднай, вольнай. Я нават спяваць пачала, прытанцоўвала, збіраючы на стол. І толькі калі паставіла і пералічыла талеркі, раптам зразумела, што чакаю не толькі мужчын, але і Вакханку, што і ёй паставіла талерку. І трывога ахапіла мяне, спаралізавала. Я спужалася, мне стала страшна зноў пусціць гэтую жанчыну ў наш дом. Гэтая майстэрня тады была нашым домам. У роспачы я схапіла талерку і бразнула аб падлогу. На дробныя друзачкі. Потым кінулася хутчэй замятаць. Выйшла н авуліцу высыпаць друз. Яны якраз пад'язджалі. Як рабы цягнулі гліняную мадам, што разлеглася на возе. Манэ памахаў мне рукою. І ў тое ж імгненне кола трапіла на камень, вазок нахіліўся і захутаная ў сваё шэра-блакітнае пакрыва Вакханка саслізнула н абрук... Разляцелася на кавалкі. Я думала Радэн н еперажыве. Мне было вельмі шкада яго. Я ж усё жыццё кахала яго, і таму міжволі імгненна ўспрымала ягоны боль. Але, нічога не магла з сабою зрабіць, разам з тым болем прыйшла палёгка. Мая душа вярнулася ў цела, і цела зноў набыло голас.

Не, Радэн больш ніколі не любіў, не кахаў мяне так, як тады, калі ляпіў сваю, нашу Вакханку. Але ад усіх саіх жанчын, ён абавязкова вяртаўся да мяне, бо ўва мне пульсавала душа, і рэхам, у жэстах, рухаха, паглядзе гучаў голас Вакханкі.

Я цяпер думаю, што Каміле Кладэль, якая звар'яцела ад кахання да Радэна, дастаткова было пабіць усе свае выявы, усе тыя "Пацалункі", у якія Радэн пераўтварыў яе цела. Але. Ан жаль, мармур б'ецца не так лёгка, як гліна... І да таго ж, амбітная Каміла ніколі б не магла ўявіць сваё цела простай пасудзінай, хай сабе звышдасканалай, жывой, але толькі пасудзінай для Радэнавых пачуццяў, думак, ідэй.

Нават, калі ён забраў голас у яе цела, яна пакінула з асабой права мець свае думкі, пачуцці. Свой лёс. Яна спрабавала гаварыць з Радэнам праз свае творы. Але не ведала, што ён, як большасць мужчын, не бачыць і не чуе, што гаворыць, што прагне сказаць жанчына.

Як добра, што ад той Вакханкі застаўся ўсяго гэты аскепак, востры, акрываўлены, але бяздушны, безгалосы. Нямы...

Лепш аглухнуць ад цішыні, чым ад адчаю. Дзе там той прыемны мужчынскі голас з арэхавым "г" ? Я пайду на яго, на гэты голас. Босая, па брукаванцы. А раптам гэта Радэн?

## БЕЛАЯ РУЖА ГАЎДЗІ
## Дзень у прасторы генія.

Навязлівая ідэя — гэта міраж. Міраж у пустыні будзённасці.

Маім міражом, маёю навязліваю ідэяй быў барселонскі дом без кутоў іспнскага дойліда-летуценніка Антоніа Гаўдзі. Неўтаймўнага фантазёра, шукальніка шчасця, генія ці вар'ята Гаўдзі.

І вось нарэшце, зусім нядаўна, у адным з альбомаў я натрапіла на фотаздымак, які ўжо і не верыла, што калі-небудзь убачу. На ім быў адзняты пакой у тым самым дзіўным бяскутнім доме. Фотаздымак не вельмі выразны, чорна-белы, крыху як бы размыты. Я не стольскі бачыла, колькі адчувала. Як у імклівай. Чарадзейнай плыні не то вада, не то паветра—хвалямі, хвалямі набягае, накочваецца і ўтварае жывую, пульсуючую, здаецца, нават на дотык рэальную, падобную да лёгкага вэлюму, тканку. І фіранкі, там, на вокнах, бязважкія, празрыстыя фіранкі раставалі ў гэтым няўлоўным эфіры.

Я доўга ўглядалася ўжаданы, светлы міраж. Углядалася, пакуль сама не растала ў ім. І тады там. За рамкаю фотаздымка, ля акна, я раптам ясна, зусім дакладна разгледзела выпісаную святлом далікатную, стромкую жаночую постаць... і я... злілася з ёю. І адчула лёгкі, мяккі водар парфумы, з ледзі улоўным салодкім бэзавым прысмакам. Пачула нязвыклы. Мерны шум за вокнамі. Гэтая выпісаная святлом жаночая постаць, гэты сілуэт, гэты лёгкі цень быў мне якраз па памеры. І хоць цяпер пад даўгою, даўняга крою зеленаватаюсукенкай таліюі грудзі мне сціскаў гарсэт, я адчула... Упершыню за ўсё жыццё я адчула сябе абсалютна вольнаю. Мая душа дыхала на поўныя грудзі. Яна сцінулася ў прадчуванні нечага незвычайнага, незямнога і гатовая была прыняць у сябе, удыхнуць самыя розныя дзівосы і цуды.

Я стаяла ля акна. А ён ( з таго боку фотаздымка, пакуль не зайшла сюды, я яго не магла ўгледзець, заўважыць, а цяпер ясна бачыла) — ён сядзеў, адвярнуўшыся ад акна, ён сядзеў насупраць мяне, у фатэлі, падцягнуты, усхваляваны, з шыкоўнаю капною цёмных валасоў, у строгім касцюме, белай сарочцы, з аксамітным матылёчкам-гальштукам.

— Дык Вы прыйдзеце? — яшчэ н есловамі, рэхам, як бы ў працяг перарванай гаворкі спытаўся ён і, баючыся, імкліва апярэджваючы маё “не”, прыўзняўся, зазірнуў у самыя вочы. І ўсё паплыло. Я растала.Як калісьці даўно-даўно ( у юнацтве ў мяне было

ўжо такое, але не з ім). І вось цяпер я растала ў ягоным паглядзе. Ён хваляваўся:

—Я Вас прашу, я Вас вельмі прашу прыйсці на абарону майго дыплома. Там будзе шмат з таго, пра што я Вам расказваў.

— Гаўдзі, — сказала я не сваім, незнаёмым, яшчэ не абжытым мною, але прыемным, мяккім, меладычным голасам. — Але ж Вы ўжо, здаецца, даўно абаранілі свой дыплом. Я памятаю, Вы паказалі незвычайны, фантастычны праект абсталявання універсітэцкай актавай залы. І я была, я ж была тады на вашай абароне.

Гаўдзі адкінуў валасы з ілба і ўжо без усмешкі, у дзіўным светлым задуменні сказаў:

— Даруйце, але я і сам не ведаў, што варт абудзе нам пераступіць парог гэтага пакоя, тут, у гэтым дзіўным доме без ктоў, які я збудаваў і прсвяціў Вам і толькі Вам, — і дл янас з Вамі ўсё, усё пачнецца спачатку... А гэта значыць, што я... што я ўсё ж такі здолеў стварыць прастору, якая перацякае, пераўтвараецца ў час, час. Які тут, глядзіце, ён робіцца адчувальным, яго можна н етолькі бачыць, але і крануць... — і Гаўдзі працягнуў руку да аднаго з запоўненых рухомаю плынню святла ўяўных кутоў. — Гэты пакой... Гэтая кропка ў прасторы падобная да Дантавых дзевятых нябёсаў. Ці да бяздоннай па глыбіні Марыянскай упадзіны... Чуеце: гадзіннік. Ён прабіў, азваўся восем разоў. І зараз нам з Вамі зноў, як тады, трэба ісці ва універсітэт. Мы прыйдзем туды, і зала будзе поўнаю. І я расстаўлю свае макеты, разгарну чарцяжы і буду доўга расказваць пра тое, у што можа перптварыцца самая вялікая універсітэцкая зала, у тое, як можна праходзіць праз сцены і пераадольваць час. І адзін з членаў аміісіі, здаецца, нават сам старшыня, выціраючы насоўкаю спацелы лоб, незадаволена прабурчыць: “Ён ці геній, ці вар’ят”... А вы ўсхопіцеся і аднекуль здаля,з самае галёркі выгукніцеб “Геній!” Вы першаю скажаце мне іўсім у той зале гэта, пацвердзіце тое, пра што я баяўся нават думаць. І зала выбухне апладысментамі.

Але ж Вы і памысліць сабе не маглі, што я пасля той сваёй абароны, пасля абароны майго дыпломнага праекта сам сабе прысягну збудаваць дзеля Вас вось гэты незвычайны дом, дзе прастора перацякае ў час, а час набывае свой уласны цень, вагу, колер, водар, можа, нават голас і смак, і самае галоўнае, ён, час, робіцца адчувальным на дотык. Я паважаў Вас, шанаваў. Вельмі шанаваў, любіў, як выкладчыцу, як чалавека, як жанчыну. Вы разумелі, ці, прынамсі, спрабавалі зразумець мяне. А Вы...

— Я Вас пакахала... Тады, з першага Вашага позірку, з першай Вашай усмешкі я закахалася ў Вас...

— Вы сталі першай, хто так адчайна, безаглядна паверыў мне і ў гонар гэтага... Ды не, проста так, прост аза тое, што вы ёсць на свеце, я вырашыў падарыць Вам гэты пакой, кватэру ў гэтым маім не зусім звычайным доме, гэтым чароўным доме без кутоў. Тут Вы назаўжды застанецеся такою, як былі, калі я ўпершыню Вас убачыў: назаўжды застанецеся маладою....А я...я пасталею і вярнуся да Вас. І ўсё ў нас пачнецца спачатку. І будзе мець працяг...

— Ах, Гаўдзі, Гаўдзі... Нават падарункі ў Вас не такія, як ва ўсіх. Спачатку — гэтая парфума з бэзавы прысмакам, ад водару якой мроіцца Бог ведае што. Цяпер вось дом, гэтая кватэра, пакой без кутоў. Дзе час растае, як снег. А прастора на вачах ператвараецца ў жывое, пульсуючае святло...

— Не... Святло — гэта Вы. Гэта Ваш жывы цень. Ёсць людзі, іх няшмат, але яны ёсць, у іх ценем стаецца не паўзмрок, а святло. І Вы, і я. Мы з Вамі, пэўна ж, з такіх вось, не зусім звычайных людзей. Мы не жывем, а быццам плывем па жыцці ўхвалях. Акіяне святла нашых фантазій і сноў. І чым больш мы фантазіруем, марым, тым далей разліваецца вакол нас нашае святло...

— Акіян... Гэта ўжо небяспечна і ... нават страшна... Я ніколі не была на акіяне, але мора, мора заўжды вабіла мяне сваёй неўтаймоўнасцю. Я люблю яго да самазабыцця. Калі я была яшчэ дзяўчынкай, мы з сябрамі аднойч ыналадзілі на моры свята Нептуна. І мяне абралі за галоўную Русалку, намалявалі на нагах зялёнаю фарбай лускавінкі, як у рыбы, аздобілі водарасцямі. Разам з Нептунам мы мусілі выплысці да тых, хто сабраўся на беразе. Проста з мора. На лодцы. Сонца прыпякала ўсё мацней. І я ў сваім купальным касцюме не тое што загарэла — згарэла... Потым фарба змылася, а луска, лускавінкі там. Дзе была форба, так і засталіся. Потым так і хадзіла, у лускавінках. Мы плылі тады, а сонца, гэта я добра памятаю, яно было ў самым зеніце і зазірала ў самую глыбіню. У марское бяздонне. І яно, гэтае сняе бяздонне, як шкло, праглядалася наскрозь. І ў гэтай сапфіравай, з зеленаватаю павалокай сапфіравай сінечы лянотна варушыліся зманліва-празрыстыя. Слізкія, мяккія, пластычныя, гнуткія, як хвалі, мядузы...

— Мядузы... Я, калі бачу іх, чамусьці заўсёды думаю пра тое, з чаго іх можна было б зрабіць...

— Можа быць, са шкла?

— Не, гэта будзе занадта банальна. Да таго ж, шкло празрыстае, але не пластычнае...

— Тады мядузу трэба рабіць са святла. Гаўдзі, Вы маглі б зрабіць мядузу са святла?

— Не ведаю. Я ніколі не спрабаваў працаваць са святлом.

— мора, акіян, як і неба — калыска святла. У іх столькі таемнага, неспазнанага. Недасягальная вышыня, невымерная глыбіня. У нейкае імгненне, раптам, яны — мора і неба — робяцца такімі падобнымі. І ўспененыя хвалі пераўтвараюцца ў пухнатыя аблокі, хмары, якія зноў з дажджом ападаюць у мора...

— А мне аблокі, як і спавітыя пенаю хвалі, чамусьці заўжды нагадваюць белыя ружы. Ведаеце, мне нехта расказваў, што адзін мастак прадаў усё, што ў яго было, нават фарбы і пэндзлі дзеля таго, каб падарыць сваёй каханай мора, акіян белых ружаў. Яна прачнулася, вызірнула ў акно — і не паверыла сваім вачам...

— Мне дастаткова было б адной ружы... Калі б яна пусціла парасткі, я сама б выгадавала з яе мільён белых ружаў і пераўтварыла свой сад у аблокі... Дарэчы, у Сярэднявеччы белая ружа была знакам маўчання... Тады кожная кветка мела свой таемны сэнс. Белы цюльпан — каханне, а ружа — маўчанне...

— Гэта таму, што закаханы заўжды нямее ад...

І Гаўдзі падняў на мяне свае жывыя цёмныя вочы. І гэта быў самы палкі, самы сонечны і хвалюючы з усіх, зведаных мною да таго, позіркаў і дотыкаў. Мяне зноў агарнула, ахінула дзіўнае, незямное святло, у якім я раставала, плыла, выплывала ў бясконцасць. Апошняе, што я памятаю: гэта падобныя да празрыстых ліловых матыльковых крылаў дзверы з крыху запацелымі шкельцамі...

Ён пайшоў. А я засталася чакаць яго ў збудаваным ім самім для мяне не зусім звычайным доме без кутоў. І ў нейкае імгненне раптам адчула, што я не адна. Ува мне, недзе глыбока, усярэдзіне ўва мне засталіся пульсаваць ягоны пагляд, светлая ўсмешка, ягоны цёплы, мяккі дотык... Мой Гаўдзі...

І праз дзевяць месяцаў я нарадзіла... Нарадзіла ягонае... не. Ужо цяпер нашае з ім лёгкае, пульсуючае святло. Яно, як толькі з'явілася на свет... не. Не заплакала. Яно не закрычала, як усе дзеці. Яно ўсміхнулася і... затанцавала. Спачатку гэтае наноўнароджанае святло рухалася мякка, пластычна. Сціналася і расцякалася, як мядуза. Потым прыўзнялося, надзьмулася і заварушылася павольна, няўклюдна. Гэта была ўжо не мядуза, а смешны, таўстапузы, падобны да Вакха, трытон... А потым нешта зноў сталася, падзьмуў вецер — і на маіх вачах святло пераўтварылася ў чароўную, празрыстую дзяўчыну, жанчыну, якая Амфітрыдаю гатовая была прыпасці, усім сваім гнуткім, як ліяна, целам яна гатоая была абвіць, абгарнуць свайго ўладара, марскога пана Пасейдона... Гэта ўжо была не мая, а ейная мроя...

Я ведала, бачыла з акна, як Гаўдзі — то засяроджаны, то радасны, натхнёны — здзяйсняе свае новыя праекты, будуе дзіўныя, абкладзеныя featuringнакаляроваю кафляю дамы з падобнымі да ракавінаў вінтавымі лесвіцамі і столямі, прыдумляе поўныя дзівосаў паркі, стварае каменныя каралы і кветкі, казачных вастразубых драконаў і бясконцыя змейкі-лаўкі. І ўсе гэтыя ягоныя архітэктурныя фантазіі і вынаходніцтвы тут, у пакоі, паўтарала — у пластыцы, у колеры — нашае з ім так раптоўна, ад аднаго пагляду народжанае святло...

Я ведала, галоўным для Гаўдзі ўсе гэтыя гады заставаўся храм, які, так мроілася Гаўдзі, мусіў стварацца, вырастаць з самое зямлі... З зямлі, каменю, паветра. Так дзеці будуюць ля мора свае казачныя замкі з пяску... Ён хацеў так уславіць Бога, увасобіць у храме ўсе вобразы Святога пісання. Безліч фігур, кожная з якіх мусіла займець свой голас, сваю мелодыю. Яны, гэтыя галасы, ужо гучалі ў ягонай душы магутнымі арганнымі акордамі...

Я ведала, што Гаўдзі будаваў гэты храм не толькі для людзей, але і для нашага з ім неўтаймоўнага , так раптоўна, нечакана народжанага святла... Пакуль храм не будзе дабудаваны — яно, нашае святло, беспрытульнае, змушана будзе блукаць па свеце.

А тым часам я і не заўважыла, як дом без кутоў прадалі. Яго пераатварылі — увесь, за выключэннем майго, нашага з Гаўдзі і са Святлом пакоя — яго ўвесь ператварылі ў ігральны дом. Па вечарах, мне было чуваць, усе пакоі і залы запаўняліся шумлівымі, прагнымі да грошай і выпадковай удачы людзьмі. Яны крычалі, плакалі, клялі адно аднаго і свой лёс. Яны хутка хмялелі, п’янелі і брыдка лаяліся. Адзінае: ніхто з іх ніколі не набліжаўся, не адчыняў дзверы ў мой, у наш пакой. Ніхто з іх і памысліць не мог, што ў доме існуе гэты пакой з дзвярыма, падобнымі да крылцаў матылька, з празрыстымі ліловымі, крыху як бы запацелымі шкельцамі... Пакой, дзе я чакала Гаўдзі. І куды час ад часу ўсё яшчэ прылятала, прыплывала нашае з ім дзіўнае святло: празрыстая, прамяністая дзявочая здань. Прыплывала дзеля таго, каб для адной мяне выканаць па-Дунканаўску лёгкі, палкі танец кахання.

Гаўдзі апантана будаваў свой сабор і, можа, нават ніколі не згадваў пра мяне... Пр анас... Але аднойчы... Аднойчы, ідучы па горадзе ( я сасніла ці прымроіла ўсё гэта як бы наяве), ён раптам убачыў, выпадкова ўбачыў цудоўныя белыя ружы.

Па колеры яны былі не зусім звычайныя. Не халаднаватыя, не снежна-белыя, а мяккія, малочныя, з ледзь улоўным цёплым сонечным адценнем... Яны былі такія свежыя, што па іх пялёстках перакочваліся, міргалі дыяменцікі роснага святла. Жанчына, якая

зрэзала іх раніцой і прынесла на продаж, ведала іх сапраўдную цану. Яна была вопытным кветкаводам і ніколі не зразала апошніх, пры сцяблінцы, зеленаватых пялёсткаў, якія называюць “сарочкай” бутона.

Яны былі незвычайныя, надта жывыя... гэты яружы. Яны дыхалі , нават, здаалася, намагаліся нешта вымавіць. Гаўдзі спыніўся — а можа, гэта яны, гэтыя ружы, самі спынілі неўтаймоўнага Гаўдзі... Так ці іначай, Гаўдзі не ўтрымаўся і купіў адну ружу. І, пэўна ж, адразу (дзіўны, салодкі боль шыпоў!), ён адразу ўспомніў і пра мяне. І пра нашае з ім так раптоўна народжанае і ўсё яшчэ беспрытульнае чароўнае святло. Ён успомніў пра нас і, прыхінаючы ружу да грудзей, да душы прыхінаючы, замест таго, каб ісці на працу, замест таго, каб ісці будаваць харм, якому аддаў некалькі дзесяткаў гадоў свайго жыцця, ён заспяшаўся ў свой незвычайны, збудаваны дзеля мяне дом без кутоў, дом, які даўно стаў ігральным домам.

Ён так спяшаўся, мой, наш сівабароды Гаўдзі, Гаўдзі, які ў сталасці стаў падобны да Жана Вальжана, ён так спяшаўся, што. Пераходзячы вуліцу, не заўважыў трамвай. Першы ў Баселоне трамвай.

Ён упаў.

І белая ружа, малочна-белая ружа ўпала разам з ім. І з яе пялёсткаў, як слёзы пырснулі, рассыпаліся па бруку, азваліся святлом дыяментавыя расінкі...

Збегліся людзі. Выклікалі доктара. Але і ён не змог вырваць з пальцаў беспрытомнага, беспрытульнага Гаўдзі чароўную кветку, якая ва ўсіх на вачах ружавла, набівалася чырванню... Быццам, адлятаючы, хтосьці перадаваў ёй колер, святло, кроў, сваё жыццё... Людзі былі настолькі ўражаны, што ніхто,здаецца, не заўважыў, як, калі, куды раптам знік Гаўдзі.

І што ўрэшце рэшт сталася з ружаю, якую ён не выпускаў з рук. Святло, нячутнае, выслізнула з майго пакоя, падляцела да Гаўдзі — і дапамагло яму, ягонай душы пераадолець зямно епрыцягненне, забрала з сабою цяпер, без душы нікому не патрэбнае, непрыгожае, няўклюднае цела, дапамагло яму даляцець туды, куды ён столькі гадоў ніяк не мог дайсці...

І Гаўдзі — разгублены, нясмелы — зноў пераступіў парог ім жа самім калісьці збудаванага, дзіўнага  бяскутняга дома. Дома, які ён ніяк не мог пазнаць... Там, у тым доме, цяпер было поўна зусім незнаёмых, нервова-мітуслівых, п’яных людзей з чырвонымі, спацелымі тварамі. Іхнія грэблівыя ўсмешкі ранілі горш з ашыпы. І ружа ў ягонай руцэ залілася сорамам, счырванела, сцялася і ледзь н

езвяла ад болю. Гаўдзі крануў яе сваімі вуснамі, як бы суцешваючы, суцешваючы і яе, і сябе, і павольна пачаў падымацца па лесвіцы, якая нагадвала ракавіну. Вінтавое ўзыходжанне было падобнае да падзення. А падзенне ставалася ўзыходжаннем. Кожны крок то забіраў, то зноў вяртаў яму пражытыя ім гады... Сівыя валасы пераўтвараліся ў цёмныя і зноў сівелі. Нарэшце Гаўдзі адшукаў ім самім калісьці прыхаваныя ад чужых вачэй і расчыніў падобныя на крылцы ліловага матылька дзверы — і апынуўся, і вось ён нарэшце ён апынуўся ў тым самым пакоі, дзе я чакала, дзе я так чакала яго...

Замест ценю, я гэта адчувала, вакол мяне па-ранейшаму блукала святло. Гаўдзі зайшоў. І яно, гэтае неўтаймоўнае святло, як у кроплю, сцяклося ў белую ружу, якая адразу пачала люстравацца ў сценах, на стале, на падлозе. Гэты жывы, светланосны бутон то расцякаўся, тозноў набываў ясныя, выразныя абрысы, што рассыпаліся, расцякаліся ў пялёсткавым ззянні. Кветка пульсавала. Дыхала, і я ведала: яна прагне ператварыцца ў жанчыну, яна прагне паказацца і заваражыць неўтаймоўнага Гаўдзі...

— Усе думалі, што я загінуў. А я вось проста нарэшце, здаецца, дайшоў, наблізіўся да Вас. Мы здолелі. Глядзіце, мы з Вамі, усё ж пераадолелі час!

Гаўдзі пасталеў. Ён цяпер выглядаў нават старэйшым за мяне. Але ягоная вострая, светлая ўсешка, ягоны пагляд, як і раней, заставаліся для мяне цэлым акіянам святла, у якім я раставала — і адраджалася наноў.

Я раставала і адраджалася наноў у незвычайным аксамітным пялёсткавым ззянні магічнага светланоснага, жывога крышталіку любові...

**КОСМАС ДРАЗДОВІЧА**
**З першых беларускіх фэнтазі.**

Як толькі снег стаў гарачым, ён зразумеў, што ягонае існаванне на Зямлі скнчана, бо дакладна ведаў, нішто не жыве, не расце ў гарачыні, як нішто не жыве, не расце ў холадзе. Невыносная, смяротная сцюжа сталася невыноснай, смяротнай спёкай. Сонца засляпіла вочы. І ў тое самае імгненне, калі снег, у гурбу якога ён уваліўся, апёк яго, як агонь, перад ягонымі вачыма ў вясёлкавым сонечным ззянні з'явіўся чароўны замак, адзін з тых, якімі ён столькі разоў мроіў на маляваных дыванах, што аздабляюць сцены ў хатах ці не ўсіх навакольных вёсак, да кожнай з якіх яму цяпер ісці ды ісці. Не дайшоў. Уваліўся ў снег. І ўсё заглушыла, апякла завея. І вось тады чароўны замак сам прыплыў да яго. Дзверы расчыніліся.

— Дзядзька Язэ-ээп!

— ЭЭЭП! — рэхам азвалася наваколле.

На прыступках замка стаяў дзіўны маленькі чалавечак. Хопчык? Дзядзька Язэп падняўся. Абтрэс снег. Прыгледзеўся.

— Ты хто? — спытаў ён збянтэжана.

— Эээп.

Снег раставаў, сцякаў кроплямі, ручаінкамі, лужыны выпараліся, і з-пад іх прабівался трава. І праз цёплы туман твару таго. Хто стаяў на парозе чароўнаг азамка, было не ўгледзець. Толькі сілуэт. Невысокі чалавечак, пэўна ж, хлапчук у даўгой белай сарочцы. Вялікая галава і вушы, як вушкі пасудзіны, тырчком. Беднае дзіця! Дражняць пэўна... Цёпла. Цяпло. Вось яна формула жыцця — не мароз, н ехолад, не агонь, не спёка, а цеплыня і вільгаць. Дзядзька Язэп расшпіліў світку, пад ёй мірганула падпярэзаная тканым пасам сарочка-вышыванка, зрабіў колькі крокаў наперад і апынуўся перад прыступкамі, на якіх стаяў... лапавухі хлопчык з ... дарослым, старэчым тварам. Гэта быў не хлопчык, а дарослы чалавек-недаростак. На ягоным зморшчаным, як печаны яблык твары, блукала радасная, нават узнёслая ўсмешка. А вялікія лупатыя цёмныя вочы праменіліся шчасцем.

— За-раз я злаў-лю тва-ю мо-ву і мы па-га-во-рым, - павольна, па складах, загаварыў дзіўны незнаёмец. — Ты толь-кі га-ва-ры са мною. Чым больш ты са мною будзеш гаварыць, тым хутчэй мы зможам паразумецца. Што гэта ў цябе на... — і ён правёў сваёю ручкаю-лапкай па шчацэ і падбароддзі.

— Барада. Гэта мая сівая барада. Дажывеш да маіх гадоў і ў цябе вырасце такая... — пераадольваюч ызбянтэжанасць і. Што там

казаць. Страх, адказаў дзядзька Язэп і зрабіў яшчэ адзін крок да чароўнага замка. І толькі тут, яго ажно перасмыкнула, ён зразумеў, што ўжо бачыў гэтаг адзіўнага чалавечка, ды што там, ён добра ведае яго, ведае кожную зморшчынку н аягоным твары, ведае круглыя лупатыя цёмныя воч ыбез зрэнак. І нават гэтую даўгую белую сарочку... Ён ведае. Не можа быць. Ён жа сам, сам намаляваў калісьці такога. Такіх н аадной са сваіх карцін. Яны віталі Сонца... І ў іх былі даўгія сівыя бароды...

— Не, у мяне не вырасце. Я не той, пра каго ты падумаў. Я з іншай планеты. Але ты ведаеш мяне. І маю планету ведаеш. Кал іты пераступіш парог гэтага, табою ж прыдуманага замка, ты пазнаеш, ты пазнаеш маю. Нашу з табою планету...

— Але як я сюды трапіў? — спытаў дзядзька Язэп, — апошняе, што я памятаю, гэта зорнае неба і снег, гурба снегу, у якую я ўваліўся, спачатку халодны, сцюдзёны, а потым нясцерпна пякучы, гарачы снег.

— А ты хіба не ведаеш, што ўсе жывыя істоты, як толькі спазнаюць абсалютны холад ці абсалютную спёку, адразу трапляюць у свет сваіх мараў, у свет сваіх мрояў...

— Дык вось чаму нашую багіню смерці звалі Мара... — задумліва вымавіў дзядзька Язэп.

— Мара... але ты мастак. Мастакі, пісьменнікі, тыя, кам удадзены талент увасабляць у творах вобразны свет сваёй мары, у ім, гэтым свеце, і жывуць пасля, калі пераступяць парог Вечнасці.

— Гэта значыць, што я памёр? — удакладніў дзядзька Язэп і ўздыхнуў.

— Ты памрэш дл ятых, з кім жыў н а Зямлі. Але ж ты вельмі рэдка маляваў тых, хто жыў з табою побач. Ты спрабаваў уявіць тых, хто жыў раней, і нас, жыхароў іншых планет. Ты лягчэй існаваў не ў рэальным, а ва ўяўным. Табою самім створаным свеце. Ты адзін з першых сярод зямлян намаляваў нас такімі, якія мы ёсць наяве. Не так далёка ад цябе, у Расіі жыў яшчэ адзін касмічны вандроўнік — Цыялкоўскі. Але ён спрабаваў вынайсці транспарт, здольны пераадолець зямное прыцягненне. І праз некалькі стагоддзяў людзі, скарыстаўшы ракеты, даляцяць і да нашай планеты. А твой шлях да нас быў самым наўпростым. Ты нафантазіраваў, да не, хутчэй, дзякуючы сваёй мастацкай інтуіцыі, убачыў нас такімі, якія мы ёсць наяве. “Нябесныя бегі” тваёй фантазіі наблізілі цябе да ісціны, і вось ты тут, на парозе табою самім нафантазіраванга чароўнага замка. Ён чакае цябе. Заходзь. Я дапамагу табе пераступіць парог тваёй Мары...

І маленькі чалавечак працягнуў дзядзьку язэпу сваю ручку-лапку. Вільготную і халодную. Але дзядзька Язэп разумеў, што ён не можа, не мае права гідзіцца, бо і гэтага чалавечка з круглымі вочкамі без зрэнак, і гэтую вільготную халодную ручку-лапку ён сам прыдумаў. Намаляваў і пакінуў на ўспамін пра сябе на адно йса сваіх карцін.

За парогам замка іх чакала прахалода. Плынь сонечнага святла, праходзячы праз затканыя рознакаляровымі вітражамі спічастыя вокны, пераўтваралася ў дзівоснае вясёлкавае ззянне, дыванам клалася пад ногі. А далей быў яшчэ адзін выхад. З узвышша, на якім стаяў замак, адкрываўся дзівосны, незямны краявід.

З аднаго боку, сярод лясоў бялелі прыгожыя, дасканалыя. Падобныя на старажытнагрэчаскія храмы збудаванні з калонамі, з другога — узвышаліся вострыя, як іклы, вежы...

— Дзе ты спачатку хочаш пажыць, — не выпускаючы рукі дзядзькі Язэпа, ціха спытаў у яго маленькі чалавечак, — у сваім Артаполісе — горадзе мастацтва, ці ў Трывежы? І там, і там цябе чакаюць. Ты мусіш абжыць свет сваёй Мары. Працы хопіць табе на Вечнасць, на цэлую Вечнасць. Тут, у гэтай прасторы няма часу, дакладней, ніхто яго не адчувае. І ты не будзеш яго адчуваць. А ўсё, што здзейсніш тут, у гэтай прасторы, у гэтым вымярэнні, потым здзейсніцца на тых планетах, якімі ты мроіў у сваіх творах, у сваіх “Нябесных бегах”.

Дзядзька язэп маўчаў, зніякавеўшы ад грандыёзнасці жывой карціны свайго стварэння.

— Не хвалюйся. Я буду дапамагаць табе, — дадаў малы чалавечак.

— А як цябе зваць? — нахіліўся да свайго спадарожінка дзядзька Язэп і ўздыхнуў.

— Эп, заві мяне проста Эп. Так табе будзе прасцей. Я ж тваё стварэнне, — адказаў з усмешкаю, самаю прыемнаю, на якуюбыў здольны, чалавечак і ўважліва паглядзеў на дзядзьку Язэпа. — але я ведаю, пра што ты хочаш у мяне спытаць... Там, далей, за даляглядам ёсць яшчэ твая Беларусь, такая, якою ты яе маляваў. З рэшткамі замкаў, палацаў, храмаў, якія ты можаш адбудаваць, з кнігамі, якія друкуе твой скарына, з вогненнай “Пагоняй”, што ляціць над лугам, затканым рознакаляровымі кветкамі, якія ты столькі разоў маляваў на дыванах.

Цяпер уздыхнуў Эп, памаўчаў, а потым ціха дадаў:

—Ты можаш ісці туды. Але там у цябе будзе няшмат памочнікаў. І я... Я не пайду з табою. Ты ўсё мусіш рабіць там сам.

Дзядзька язэп адпусціў Эпаву руку, паправіў сівую чупрыну, прыгладзіў бараду. Ён ажывіўся. Ягоныя вочы засвяціліся. І нават усмешка з'явілася, заіграла ў ягоных сівых вусах:

— Калі я правільна цябе зразумеў, наяве, там на Зямлі, Беларусь стане такой, якою я зраблю яе тут?

— Так, але гэта адбудзецца пры адной умове. Калі цябе, твае творы будуць памятаць на тваёй радзіме, на тваёй Бацькаўшчыне, да той пары, пакуль ты будзеш аднаўляць тут сваю Беларусь.

— Што ж, на жывой Беларусі ў многіх вёсках засталіся мае маляваныя дываны з чароўнымі замкамі, за якія мне давалі паесці, недзе там блукаюць і мае карціны, тыя, што ажылі тут, у краіне Мары. Яшчэ засталіся мае дзённікі, некалькі драўляных скульптур, шмат графічных твораў...

— Дык ты не хочаш абжываць іншыя планеты? Ты кідаеш мяне? — горка ўздыхнуў Эп.

— Спачатку я мушу ўпарадкаваць сваю Беларусь, адбудаваць яе замкі, палацы і храмы, навучыць сваіх землякоў не толькі гаварыць, але і мысліць на мове нашай зямлі, сугучна з шэптам яе лясоў, траваў і кветак. А потым вярнуся сюды, да цябе. У мяне ж наперадзе Вечнасць. — супакоіў Эпа дзядзька Язэп і пагладзіў таго па зморшчанай ручцы-лапцы.

— Ты. Праўда, потым вернешся сюды? Ты хочаш абжыць і маю планету? — павесялеў Эп.

— Я змушаны буду вярнуцца. Гэта ж таксама мой свет. Свет маёй Мары. Але спачатку я ўпарадкую сваю Беларусь.

— Добра. Тады я дапамагу табе. Я зраблю так,каб усе, хто жыве на Беларусі. Заўжды памяталі пра цябе, заўжды бачылі цябе... За тое, што ты першым пачаў абжываць Космас, ты штоноч будзеш з'яўляцца на небе, такім, якім ты сам намаляваў сябе ў зорным небе...

*

... У чаканні зорападу мы ўглядаліся ў глыбіню аксамітнага жнівеньскага неба. Зорка міргнула і, чыркнуўшы, як запалка, блакітным агнём, імкліва скацілася за далягляд. Млечны шлях стаўся сівабародым старым.

— Глядзіце, глядзіце, на небе наш Драздовіч! Памятаеце, ён, прадчуваючы жахі другой сусветнай вайны, намаляваў сябе на фоне космасу. З крохкаю блакітна-зялёнаю нашай планетай у руцэ. Ляціць сярод зорак, планет, у бясконцасць і растае ў аксамітнай бездані...

— Бачу. Бачу...

— Памятаеце, я вам расказвала пра рускага паэта Максіміліяна Валошына, які лепшыя свае творы напісаў у Кактэбелі, там, дзе чорныя скалы Кара- Дага ўтвараюць ягоны, менавіта ягоны непаўторны профіль. Ён назаўжды застаўся ля мора. А наш Язэп Драздовіч у небе, у ім самім абжытым космасе. Я ведала, што калі-небудзь мы знойдзем яго сярод зорак, мы ўбачым яго... І вось мы ўбачылі...

МУЗЫКА СУЗОР'ЕЎ
Фантастычны эцюд з будучыні.

У кожнай жанчыны мусіць быць таямніца. Вось я, напрыклад, люблю глядзець на зоркі, жнівеньскія ці вераснёўскія, зыркія, ясныя, як крынічнай вадой, прамытыя сцюдзёным, ужо начным паветрам. Я выязджаю куды за горад, закідваю галаву і ... зоркі літаральна накотваюцца на мяне, колкія, імглістыя, вабныя. А я міжволі шукаю Вялікую мядзведзіцу. З яе лягчэй за ўсё пачынаць падарожжа па сузор'ях. І гэтым разам я ўгледзела яе, прыпала паглядам, душою і спынілася, тут, у мяккай аксамітнай зорнай калысцы, спынілася, бо, мне падалося, хтосьці закалыхвае мяне, спавівае таманамі, так, што голаў вядзе... І аднекуль з вышыні, з аксамітнае глыбіні Сусвету гучыць з маленства знаёмая бубуліна, маміна калыханка...

Люлі, люлі, люлі,
Дзеткі ўсе паснулі,
Толькі Галечка не спіць,
Ўсё на зорачкі глядзіць...

І я разумею, што, я ўжо не на зямлі, ляжу, спавітая, захутаная туманамі і люляюся ў калысцы, нябесным карцы Вялікай Мядзведзіцы. І ведаю, як я туды трапіла — мае бацькі паслалі мяне туды на канікулы. За тое, што сёлета я навучылася іграць н араялі любімы прабабулін "Вальс"Шапэна, яны прапанавалі мне самой выбраць летняе падарожжа. Я магла здзейсніць новамодную вандроўку ў часе, злётаць да маёй прабабулі і сыграць ёй Шапэна. А мне захацелася ў зорнае неба, у калыску Вялікай Мядзведзіцы. І вось я люляюся ў ёй, дзіўлюся на зоркі і засынаю пда бабуліну. Маміну калыханку...

Але я адчуваю, чую, што ўва мне пачынае пульсаваць, гучаць, ува мне гучыць іншая музыка... І дзеля яе, гэтай музыкі, рамантычнай. Узнёслай, з туману выплывае, матэрыялізуецца белы раяль. І я праз сон, у сне іграю. Спачатку гэтую рамантычную, узнёслую музыку старажытнага кампазітара Шапэна. А потым нешта сваё.

Мае рукі, кожаня па-свойму, голасна спавядаюцца Сусвету, гукі то сыходзяцца, то пераўтвараюцца ў рэха, трывожнае рэха Вечнасці. Я разумею, што гэта мае варыяцыі, мае паліфоніі на тэмы адной з фугаў Баха. Гармонія, бясконцыя сугуччы шматгалосся. Тут, на Вялікай Мядзведзіцы, мой белы раяль гучаў як арган. І з гэтых магутных гукаў раптам проста перада мною складаецца велічны вобраз Зеўса, такога, якім яго калісьці ўбачыў старажытнагрэчаскі

скульптар Фідый, той самы, якога называлі “творцам багоў”. У V стагоддзі фанатыкі з хрысціянскага духавенства загадалі знішчыць Зеўса, як язычніцкую святыню. Засталіся толькі ўспаміны, апісанні, замалёўкі. Але мне пашчасціла жыць у той час, калі разам з музыкай па маім жаданні я магу аднавіць амаль рэальны галаграфічны вобраз таго, нават у межах Сусвету каласальнага трынаццацімятровага Фідыева Зеўса, якога ён зрабіў для храма ў алімпіі.

Зеўс сядзіць н атроне з кедравага дрэва, магутны, велічны, строгі, непадступны. Ягоны задумлівы позірк, сапраўды, як пісаў хтосьці, скіраваны ў Вечнасць. У ягоных руках знакі ўлады, у левай — скіпетр, на якім сядзіць арол, у правай — багіня перамогі Ніка. Золатам адліваюць ягоныя валасы, барада, сандалі. На галаве — залаты ж вянок з аліўкавых галінак, такім дасюль вянчаюць пераможцаў Алімпійскіх гульняў. На ягоным плашчы — выявы кветак і звяроў. А сабранае з пласцінак слвновай косці ягонае цела глядзіцца зусім як натуральнае. Мускулы іграюць і пульсуе кроў. Гарачая, неўтаймоўная алімпійская кроў. Здаецца, ніводная жанчына не рашыцца дакрануцца да яго, прылашчыць, пацалаваць. Маланкі вылётаюць з ягоных цёмных вачэй. Але ж, грэкі ведалі, а цяпер пра тое вядома ўсяму свету, не зважаючы на шалёную рэўнасць сваёй жонкі Геры, Зеўс ніколі не мінаў прыгожых дзяўчат. І сёння, я здагадваюся, чаму так напружана пульсуе ў яго кроў, чаму ўглядаецца ён у мой бок, у бок Вялікай Мядзведзіцы. У душу ягоную, а калі праўда, што мужчыны любяць вачыма, то ў вочы, запала адна са служанак багіні Афрадыты — Калліста. І ён прагне авалодаць ёю, узяць сабе ў жонкі. І баіцца не столькі Геры. Колькі Афрадыты. Тая звыклася быць неперможнаю ў прыгажосці. А ён упадабаў не яе. А еёную служанку. Нонсэнс. Абраза, якую багіня кахання і прыгажосці не сцерпіць. Ператворыць яшчэ Каллісту ў якую пачвару і бывай каханне, бывай жаданне, бывай насалода! Таму трэба яе апярэдзіць, і ён, Зеўс, апярэдзіў Афрадыту, ператварыў Каллісту ў Вялікую Мядзведзіцу і забраў да сябе на неба. У ейнай калысцы я і люляюся зараз, іграю на белым раялі нешта падобнае на фугі Баха. А каб каханай не было адзінока, Зеўс утварыў яшчэ адно сузор’е — любімы сабачка Калліста стаўся Малою Мядзведзіцай.

Акорд, узыходжанне ў глыбіню. Аксамітны ўздых. Паўза. Цішыня. Кажуць, што ў сапраўдных музыкантаў паўза гучыць больш шматзначна, чым сама мелодыя. Бо гэта тое самае імгненне, калі не кампазітар, а кожны з нас выплёсквае свае пачуцці. Душа адкрываецца свету і спявае, шэпча нешта зусім патаемнае…

А цяпер я буд уіграць моцарта. Вось гэты ягоны “Менуэт”. Строгі, стройны, гарманічны. Нічога ні прыбраць, ні дадаць. Яго танцавалі дамы ў крыналінах (шырокія такія спадніцы) і мужчыны ў парыках і пантофлях на высокіх абцасах са спражкамі. Я бачыла ў адным музеі такую фарфоравую статуэтку. Сугуччы рознай вышыні, глыбіні... Сонечнае зацменне. Паклон. І зноў светлая мелодыя вяртання. Пошук і пошум гармоніі.

Адсюль, з вышыні. Я магу разгледзець не толькі палярную зорку і Малую Мядзведзіцу, але і яшчэ некалькі жывых Сузор’еў. Вось ляціць конь натхнення легкакрылы Пегас. Ягонае з’яўленне на небе звязана яшчэ з адным старажытнагрэчаскім міфам. Яснеюць, ператвараюцца ў мужнага, грубаватага эфіёпскага цара ў падобным на чалму галаўным ўборы зоркі сузор’я Цэфея. Вось і ягоная жонка Кассіяпея. Сядзіць на троне, і ніяк не можа сама на сябе налюбавацца. Не мож анацешыцца сваёй прыгажосцю, яна проста закаханая ў самую сябе. І яе зусім не турбуе, што тут, у зорным небе зусім непадалёк пакутуе, прыкутая ланцугамі да скалы любая дачка Цэфея Андрамеда, якую прынёс у ахвяру страшнаму Кіту ўласны бацька. Каб не Персей, які трымае ў руцэ галаву гаргоны Мядузы.

Музыка ажывіла героеў, і тут, у глыбіні Сусвету, я, назіраючы за кассіяпеяй і эфіёпскім царом Цэфеем, які літаральна сцелецца перад ёю, убачыла, як можа разбэсціць жанчыну залішняя ўвага закаханага ў яе мужчыны. У енйкае імгненне Кассіяпея, як і кожная, разбэшчаная закаханым мужчынам жанчына, пачала прагнуць, каб н етолькі муж, але і ўсе. Хто побач, і, галоўнае, жанчыны, прызнал іяе за лепшую, за найпрыгажэйшую. І яна пачала выхваляцца перад усімі, нават перад жыхаркамі мора — нерэідамі. Іх гэта абразіла, і яны кінуліся па абарону да Пасейдона. Той умеў помсціць. Наслаў на берагі Эфіёпіі страшнага Кіта. Кіт мог знішчыць усё жывое. Але аракул параіў Цэфею адкупіцца ад пасланай Пасейдонам пачвары, аддаць на спажыву Кіту ўласную дачку, ягоную любую Андрамеду.

Кассіяпея цешылася ў палацы. А прыкутая да скалы юная Андрамеда з жахам чакала, калі ж з глыбіні вынырне пачварны Кіт і праглыне яе. Каб не Персей, загінула б, так і не спазнаўшы кахання, шчасця, якое скраў у яе ўласны бацька...

Персей быў героем. Ён лётаў па свеце і здзяйсняў подзвігі. Нарэшце, на самым краі света, ён натрапіў на востраў, дзе жылі тры жанчыны-пачвары — гаргоны, у якіх замест валасоў быў клубок змей. Варта было гаргонам кінуць на каго-небудзь свой позірк, і той зараз жа ператвараўся ў камень. Персей захацеў перамагчы хоць адну з іх. І не прыдумаў нічога лепшага, як дачакацца, пакуль тыя заснуць і

адсекчы адной з іх па імені Мядуза галаву. У тое ж імгненне з яе цела вылецеў крылаты конь Пегас, на якім і даляцеў Персей да Эфіёпіі, дзе заўважыў прыкутую да скалы Андрамеду. Кіт вось-вось гатовы быў праглынуць яе. Ды толькі ў руках Персея засталася галава гаргоны Мядузы. І мёртвая, яна не страціла сваёй здольнасціператвараць усё жывое ў камень. Варта было патрапіць Кіту пад яе позірк, і ён скамянеў, ператварыўся ў востраў. Навечна. А Персей і андрамеда знайшлі сваё шчасце...

Узнёслы, светлы разбег гукаў. Стройныя антычныя калоны, бясконцы, заліты сонцам калідор... Моцарт — самы “сонечны” кампазітар. Сонечны... Зараз там, дзе я жыву, на Зямлі, на Беларусі ўзыйдзе сонца...

Яно выкаціцца з-за лесу, ахутанае ружовым туманам, падміргне і адорыць цяплом усё жывое. Раса адзавецца вясёлкавым граннем на мяккай траве, кветках, у густой лістоце кустоў і дрэваў. Нават колкія ялінкі і хвоі зайграюць расою. У птушак ад хвалявання перахопіць голас. А потым яны заспяваюць, ствараючы з музычных пераліваў, нецярплівага пошчыку, лёгкіх усхліпаў і светлага сакатання непаўторную музыку нашай з імі Бацькаўшчыны, музыку, якую людзі могуць пачуць і паўтарыць, прамаўляючы на мове сваіх бацькоў, на мове сваёй зямлі. Дзіўна, я чытала, што на Беларусі быў час, калі некаторыя не хацелі, сароме́ліся гаварыць па-беларуску... Вось зараз, каб мне выплысці з зорнай калыскі Вялікай Мыдзведзіцы, каб не памыліцца. І трапіць на Беларусь, а не ў Германію, ці Францыю, я мушу заспяваць, зайграць на сваім белым раялі бабуліну, маміну калыханку...

Люлі, люлі, люлі,
Дзеткі ўсе паснулі...

# 2. Сад роспачы.

**ДУШАЛОВЫ.**
**Самотная прыпавесць постперабудовы.**

*Не хадзі ты, дзядзька багаты,*
*Дзе галота п'е!*
(*З нашае любімае песні)*

Два племені, два народы ніхто не памятаў ужо, колькі стагоддзяў жылі непадалёк адзін ад аднаго. Адзін скрозь вякі мацаваў, гартаваў свой Дух, і яго назвалі Народам Моцнага Духу. Другі, надта й не дбаючы, ад прыроды быў надзелены Вялікаю Душой, і яго нараклі Народам Вялікае Душы.

Дух першага праз пэўную колькасць гадоў зрабіўся настолькі моцным, што яго час ад часу даводзілася выпускаць. І тое, што ўсе суседзі рабілі саромеючыся і пераважна ў прыбіральні, Людзі Моцнага Духу дазвалялі сабе рабіць пры ўсіх, дзеля чаго нават вынайшлі крэслы і зэдлікі з дзіркамі ( мы купляем падобныя нашым малым хадзіць н агаршчок). Што ж датычыць Велічы Душы другога народа, то яна паступова (падкрэсліваю, сама па сабе) дасягнула гэткіх памераў, што народу пачало здавацца, ён не здолее ўтрымаць яе самастойна, і пачаў ён гарнуцца то да суседзяў з Душою Больш Разняволенай, то да суседзяў з Душою Больш Шырокаю…

І толькі лепшыя з лепшых Вялікадушныя падарожнічалі далей, цікавіліся, што ж робіцца ў іншых народаў, у тым ліку і ў Народа моцнага Духам. А там ужо внайшлі машыну для друкавання кніжак, і адзін Чалавек Вялікае Душы хутка засвоіў гэтае майстэрства. Не дзеля ўласнае славы і прыбытку, а адзінае дзеля прасвятлення, ачышчэння ды ўмацавання напраўду Вялікае Душы свайго народа, дзеля таго, каб спраўдзіўся наканаваны яму Богам зорны лёс.

Ды толькі пэўна Вялікая Душа даецца не дзеля вялікіх ведаў, а дзеля вялікага болю. Гэты боль скрозь усе гістарычныя ды асабістыя несправядлівасці, скрозь войны, хваробы, што жорсткімі хвалямі безвыходнасці праносіліся, руйнавалі і так не надта шчодрую зямлю, дзе жыў, нікога не крыўдзячы. Працуючы да сёмага поту і спяваючы тужлівыя, светлыя свае песні Народ Вялікае Душы, гэты больш паглынаў, глушыў усё і найперш жаданне нешта спазнаваць,

перайначваць у гэтым ці тое Богам, ці тое Д'яблам падораным жыцці. Народ Вялікае Душы гарнуўся па-ранейшаму то да суседзяў справа, то да суседзяў злева, вучыўся гаварыць на іхніх мовах, спяваць іхнія песні, ды што там. Шчодр аадорваў суседзяў мастакамі, паэтамі, музыкамі. Акцёрамі, а яшчэ, глушачы свой лёсам наканаваны вялікі боль, шмат піў і маліўся. Пілі пераважна мужчыны. Маліліся за іх, за сябе, за дзяцей жанчыны. Толькі лепшыя з лепшых, мацнейшыя з мацнейшых спрабавалі вярнуць Вялікай Душы годнасць, выхаваць у свайго дабрэйшага і шчадрэйшага ў свеце народа Моцны Дух...

А між тым, Народ Моцнага Духу, прывучаны да парадку ў жыцці, у думках і пачуццях, ствыарыў дасканалую, падобную на цвёрды празрысты крышталь філасофію, вытанчаную, срэбрам шытую паэзію, глыбокую зорную музыку... І ўсё ж чагосьці не хапала яму ў такім, здавалася ж, заможным. Размераным, ціхамірным жыцці... Ці тое Моцны Дух шукаў выйсця. Ці тое народу не ставала Вялікае Душы. І тады, як там яго звалі старажытныя рымляне, Бог вайны Марс з радасцю прыняў так акуратна, дасканала выхаваных воінаў у свае шэрагі...

Некалькі разоў выдатна ўзброеныя, моцныя духам людзі прыходзілі на зямлю тых, хто меў адно што Вялікую Душу, ды працавітыя рукі (кемнасцю Бог тых, хто працуе, ніколі не абдзяляе). Людзі Моцныя Духам хацелі завесці на чужой зямлі свой ідэальны парадак. А Людзі Вялікае Душы звыкліся падначальвацца не чалавеку, а прыродзе. Яна, гэтая прырода, шматгалосая, шматаблічная, не выносіла нічога стэрыльнага і ідэальнага, яна паўстала. Чужынцы душылі тых, хто не даваў ім выканаць іхнюю, як ім здавалася, найвысакародную місію, серавадародам, яны душылі іх вядоўкамі, голадам, хваробамі, палілі, стралялі, рэзалі, яны вынайшлі цэлыя машыны для знішчэння няскораных, названыя *душагубкамі*, але Вялікая Душа перамагла Моцны Дух. Больш з атое. Нават тыя, каго Людзі моцнага Духу паспелі вывезці д асябе, нават дзеці, н езважаючы на ўгаворы больш уладкаваных у жыцці іншых насельнікаў планеты, упарта вярталіся дамоў, да разбураных сваіх гнёздаў.

Вялікая Душа перамагла Моцны Дух. Але паражэнне, безнадзейнасць, здараецца, гартуе моцных. А перамога кволіць слабых.

Адзін народ, пераможца, на ўсю сваю Вялікую Душу аплакваў ахвяры і ўпіваўся Перамогаю... Другі ж народ, пераможаны, сцяўшы зубы, захаваўшы што падалей крыўду, пачаў нанова наводзіць ідэальны стэрыльны парадак, хай сабе толькі на сваёй зямлі, у кожным, нават самым маленькім гарадку, у кожнай сям'і. Каб стол

быў штодня засцелены крухмальным абрусам, каб хораш апахла нават у прыбіральні, і, галоўнае, каб дзеці, дзеці іх, пераможаных, не страцілі свайго гонару, годнасці, каб і надалей мацавалі, гартавалі яны свой Дух. Ізноў Народ Моцнага Духу зажыў звыклым, багатым, размераным, разлічаным па хвілінах жыццём. Жылі б ды жылі. Але ж вось чуюць, у таго Народа Вялікай Душы, якому яны хацелі ж, хацелі прынесці вызваленне і парадак, зноў усё бязладна. Бяда за бядою.

І тады Народ моцнага  Духу ўжо без зброі рушыў да гэтых, іншаг аслова не падбярэш, "недацёпаў", што гаварылі невядома на якой мове, спявалі невядома якія песні, а пілі, о, пілі яны на святах, хаўтурах, а то і штодня... Што яны пілі, аднаму д'яблу вядома.  Не, цяпер Народ Моцнага Духу не вёз з сабою душагубак. Ён добра засвоіў, што нягоды ды страх смерці мацуюць дух, а вось дабрачыннасць, тая кволіць, безнадзейна кволіць душу... Народ Моцнага Духу прывёз і гасцінна расчыніў па ўсіх гарадах і нават вёсках *душалоўкі*. У гэтых маленькіх крамках на колах было ўсё— цукеркі, жуйкі, яркія часопісы, са старонак якіх самазадаволена ўсміхаліся абсалютна шчаслівыя Людзі Моцнага Духу, былі моцныя напоі для для тых, хто п'е, і таблеткі, каб не радзіліся дзеці для тых, хто займаецца каханнем, было зношанае, але акуратна вымытае і адпрасаванае адзенне, якое кілаграмамі аддавалі амаль за бясплатна.

Ад напоеў у мужчын муціўся розум, слабелі рукі і зусім пераставала балець душа (нехта сцвярджаў, што ў іншых землях гэтыя напоі даюць толькі свінням, каб лепш гадаваліся і не пра што не думалі, калі свінні пра што-небудзь калі-небудзь і думалі, ды хіба ж разбярэш, што там напісана на іхніх каляровых этыкетках!). Ад таблетак жанчынам рабілася мутарна, іх раздражнялі не толькі ўласныя мужы, але і дзеці, ды што там — нават колер шпалераў і фіранак ва ўласнай хаце.

А элегантныя высакалобыя замежныя гандляры, Моцныя духам, багатыя на грошы, гаспадарамі хадзілі па іхнімі дзядамі так і не скоранай зямлі. Яны ахвотна куплялі карціны, каб аздобіць свае добраўпарадкаваныя дамкі на радзіме, яны запрашалі, везлі з сабою зусім збяднелых мясцовых мастакоў і акцёраў, бо сапраўды навошта Народу Вялікай Душы шчэ мастакі і акцёры, анвошта расчульваць, куды ж больш гадаваць яе, гэтую Душу? Яна ж і так гняце, прыгінае да зямлі... Хіба можна лётаць з такімі вялікімі, важкімі крыламі?

Вось  у гэты, спрыяльны для моцных Духам час, жадаючы крыху падзарабіць, а болей усё ж дзеля цікавасці, дзеля спазнання неспазнанага (у Моцных Духам боль жыцця ніколі не глушыў цікавасці да жыцця) адзін з Моцных Духам, малады шчэ, назавем яго

пан Н., адчыніў краму (чытай, душалоўку) у далёкай палесскай вёсцы. Чаму менавіта там? .. Гэта было і засталося ягонай таямніцай. Казалі, быццам бы ягоны дзед калісьці добра-такі тут патаптаўся, і нават ці не загінуў. Але може гэта ўсё былі фантазіі тутэйшых людзей. Ад акропленае моцным напоем Вялікае Душы ого як працуе фантазія...

На полі, з вакна крамы было відаць, абсыпаўся немаведама дзеля чаго пасеяны авёс, а людзі стаялі ў чарзе, за немалыя грошы куплялі ў пана Н. Прывезеныя з ягонай далёкай краіны аўсянку, гарох. Муку, мясныя кансервы, маргарын і раз ці два на месяц ( каму ўжо зусім не маглося, то й часцей) моцны, зафарбаваны нечым да прыкрасці салодкім напой у зялёных бутэльках. Яны навучыліся, ці проста ўспомнілі, як звяртацца і дзякаваць гаспадару на мове моцных Духам, хоць ён даўно засвоіў і разумеў тутэйшую гаворку.

Пажыўшы сярод тых, у каго ледзь не штовечар шчымела, балела Душа, Чалавек Моцны Духам нічога не мог з сабою зрабіць, пачаў нудзіцца, сумаваць па сваёй сям'і, па жонцы і двух малых шчэ зусім сынах... Асабліва нясцерпнымі ставаліся вечары і раніцы. Па вечарах, калі зачыняў ён краму, даводзілася вяртацца да гаспадыні, пажылой адзінокай кабеты, якая. Узяўшы чарку, сядала вышываць навалачкі і да паўночы ледзь чутна спявала балесным, тоненькім галаском. А зраніцы, калі прачынаўся і бачыў абадраны ці пагрызены мышамі шматок шпалераў, рабілася нясцерпна ад усведамлення, што ён не дома. Ні разумныя кнігі. Ні шторанішняя гімнастыка ды халоднае абліванне не дапамагалі... А тут яшчэ хлапчук — бялявы, засыпаны рабаціннем кірпаносы падлетак, што гадзінамі стаяў пры дзвярах ягонае крамы, зачаравана разглядаючы рэчы, выстаўленыя на продаж. Ён так прагна ўслухоўваўся ва ўсе ягоныя словы, імгненна лавіў, схопліваў кожны ягоны пагляд, усмешку, знак... Пан Н. Частаваў хлапчука жуйкамі ці шакаладам і той са словамі ўдзячнасці пакідаў гэткі па-сабачы верны задумлівы пагляд чысцюткіх сваіх вачэй, што не было моцы ўстояць, хацелася прыгарнуць, пачасаць у таго за вухам, павесці за сабою... Праз колькі часу пан Н. ужо ведаў, што маці хлапчука памерла пры родах, бабка з дзедам, якія гадавалі яго, зусім старыя і нямоглыя, а бацька п'е не прасыхае, і вырашыў узнагародзіць малога за вернасць і адданасць. Ён узяў яго з сабою дамоў, у Краіну Моцных Духам. Пакуль што толькі ў госці.

З Краіны Моцных Духам хлапчук вярнуўся ў яркай майцы з Мікі Маўсам і стракатых шортах з пальмамі. Цяпер ён так хутка і спрытна гаварыў на мове Моцных Духам, што мала хто з вяскоўцаў разумеў, пра што гэта яны з панам Н. Перамаўляюцца, з чаго ці з каго смяюцца...

Ізноў папаўзлі чуткі, што, маўляў, пан Н. Хоча ўсынавіць хлопца, і што ўжо і ягоная жонка дала згоду, ды што там, ужо й новы дом купілі дзел ятаго, каб у гэтага іхняга беспрытульнага падшыванца быў свой уласны пакой... Заставалася дробязь, ды не, зусім жа н едробязь — заставалася ўзяць распіску. Згоду ў роднаг абацькі хлапца, што той не супраць, каб хлопца звезлі н ачужыну.

А сын, адораны, ахмелены кароткаю ды пэўна ж надта плённаю для Людзей Моцных Духам вандроўкаю, — раз вось так, з першага разу паланілі хлапечую душу, сын прагнуў як мага хутчэй вырвацца адляцець з роднае вёскі. Добр аведаючы свайго бацьку. Ён сам параіў свайму апекуну ісці па распіску з зялёнаю пляшкай. Хоць можна было б і без яе. Бацька быў ужо добрападдаўшы. І хапком заядаў недзе па дарозе ўхопленае салёным гурком.

Ад хвалявання ( такія госці да яго, ды яшчэ з нейкаю Просьбаю!) ён ледзь не папярхнуўся, і пот густа высыпаў на ягонай ледзь прыкрытай засаленымі валасамі лысіне. У рэшце рэшт, пракаўтнуўшы, уцяміўшы, у чым справа, ён адразу расчуліўся, падсунуў госцю муную шклянку і пакет з купленымі па дарозе ў вясковай краме салёнымі гуркамі (што-ніщто і мы робім і прадаем!), а сам, напусціўшы на твар сур’ёз, узяўся шукаць па кішэнях ручку, якой там, вядома ж, ніколі не ляжала. Пан Н.. які не выносіў гарэлачнага перагару, а ім, здавалася, патыхалі нават шпалеры, раз-пораз далікатна прыкладаў да носу надушаную хусцінку. А гатовы згарэць з сораму хлапчук нервова хадзіў па хаце і баяўся аднаго, каб бацька не перадумаў, ці яшчэ лепш не бразнуўся вось тут, вось зараз на падлогу ды не заснуў.

Але не. Распісаўся. Залачоным пяром пана Н.

Хлопец кінуўся да свайго, цяпер ужо законнага апекуна на шыю. А няшчасны ягоны бацька, малады ж шчэ зусім чалавек, расчулена і нават ці не з замілаваннем паглядаючы на важнага госця, адчуваючы, што ніколі ў яго не будзе ні такіх разумных вачэй, ні такіх залачоных акуляраў, ні вось гэткае грэблівае ўсмешкі, і насовачкі надушанае, якую той усё трымае ля носа, таксама ніколі не будзе, раптам загаварыў, таропка, нават пахапкам, спяшаючы давесці тое, што ўжо ніколі нікому не давядзе:

— Хай едзе... Аблюбуваў ты майго хлапца, дык хай едзе... Горай н ебудзе. Унё, мой бацька, ягоны дзед значыць... расказуваў, што ў вас там чысто... парадак... Яго малога з маткаю, сілаю, мо й твой дзед, з сабакамі да вас загналі... А во мо што пажыў там у вас, памучыўся, дык чалавекам стаў... Хоць і хварэў, а жыццё, як песню,

пражыў. А я што… Гнюсь, а не чалавек. Здрабнела мая душа, ссохлася… Хай едзе. Мо, як дзед, чалавекам стане…

А сын са сваім новым апекуном былі ўжо на двары, і пан Н. грэбліва адклаў ад носа, схаваў у кішэню надушаную хусцінку.

Над сцішанаю вёскай весела паміргвалі буйныя жнівеньскія зоркі.

Назаўтра ўвечары, пакінуўшы мясцовым гандлярам сваю краму на колах, яны ад'язджалі. І ў расчыненае вакно машыны ляцелі наўздагон з тольк іадбудаванага Дома культуры хораша з'ядданыя ў хор моцныя жаночыя галасы:

Дробна-драбніца,
Дробна-драбніца,
Дробны дождж ідзе.
Сабралася бедна галота
Мёд, гарэлку п'е.
П'ем мы гарэлку,
П'ем мы вішнёўку,
Будзем піць віно…

Пан Н. непатрэбную яму цяпер тутэйшую гаворку, тутэйшыя песні зусім не ўспрымаў, думаў пра сваё. Хлопчык у майцы з Мікі Маўсам скурчыўся н азаднім сядзенні і задрамаў. Ён шчасліва ўсміхаўся, ён мроіў сваім новым жыццём, якому зайздросцілі ўсе вясковыя хлопцы…

## КІНАТЭАТР “КАСТРЫЧНІК”
## Містыка сцюдзёных дзевяностых.

Зіма была ранняй і да безвыходнасці лютай. Маглі б, вядома, пра гэта здагадацца, падумаць загадзя: рабінаю ж ад канца лета зырчэлі ўсе лясы і нават паркі. Але дзе ўжо памятаць пра народныя прыкметы, калі і на мову забыліся.

А холад, як і голад, накатваецца раптоўна, паралізуе ўсе пачуцці і думкі. З восені не падумаў — узімку няма чаго шукаць выйсця. І не шукалі. Цярпелі.

Горад з першымі прыцемкамі рабіўся глухім і невідушчым. Уся электрычнасць ішла на тое, каб хоць крыху абагрэць, ды не, не кватэру, пакой, дзе, прыціснуўшыся адзін да аднаго, спалі ўпокат. Не да магнітафона, не да тэлевізара. Зрэшты. Тэлебачанне, як і гарачую ваду, уключалі два-тры разы на тыдзень. Перадавалі апошнія навіны, якія звычайна канчаліся просьбаю пацярпець, і новыя цэны, што раслі з той самай хуткасцю, як падала тэмпература ў кватэрах. Спачатку куры, мяса, каўбаса падоўгу ляжалі н апрылаўках, потым іх увогуле перасталі завозіць. Тыя, хто меў грошы, усё роўна куплялі толькі замежныя тавары. Па вечарах горад нагадваў цяжкахворага, які ўжо стаміўся, зняверыўся ў магчымасці дачакацца хоць якіх лекаў. І тольк іў закупленым нейкаю багатаю сумеснай фірмай кінатэатры “Кастрычнік” усю ноч гарэла святло і іграла музыка. Так, у горадзе былі людзі, якія маглі дазволіць сабе хоць дзень, хоць ноч правесці ў цёплай утульнай кавярні ці відэазале, маглі выпіць віскі, з’есці апельсін ці гронку вінагарду. Жылі яны ўсе ў асноўным за горадам у ацепленых катэджах, загадзя назапасіўшы колькі трэба дроў і брыкету, таму мала цікавіліся тэмператураю на вуліцы і ў гарадскіх кватэрах. Паколькі ніводзін рэстаран не працаваў, збіраліся тут, у кінатэатры “Кастрычнік”.

Ад жабрака ці люмпена няма чаго чакаць шчодрасці. Шчодрым можа быць (альбо не быць — усё залежыць ад узроўню ультуры). Толькі той, каму ёсць чым падзяліцца, апроч ланцугоў. І ў кінатэатры “Кастрычнік” былі дні, калі ён гасцінна расчыняў дзверы перад інвалідамі, пенсіянерамі, жабракамі. Іх шчодра кармілі, а потым паказвалі стужкі мінулых гадоў. У асноўным пра рэвалюцыю і вайну. І расчуленыя пажылыя людзі ўспаміналі, што раз ці два за жыццё ўжо перажывалі і голад, і холад, намазвалі н ахлеб вось гэты падобны н агуталін нямецкі маргарын, сядзелі ў хатах у паліто і валёнках. І цяпер, дасць Бог, неяк перажывуць.

Але ў хуткім часе  на гэтыя дабрачыныя вечарыны і ранішнікі ў кінатэатр “Кастрычнік” пачалі прыходзіць і маладыя. Пераважна настаўнікі, урачы, навукоўцы, акцёры, літаратары... Яны прыходзіл ісем’ямі. Спачатку вельмі інтэлігентна елі бутэрброды з ікрой, балыком, вінаград, апельсіны. Пілі — “Ну бакал шампанскага, ці вось, калі можна, лепш шкляначку соку...” Але, зразумеўшы, што тут колькі не кш, колькі ні пі, прынясуць яшчэ, спяшаліся зараз пакаштаваць усяго. І віскі, і джыну, і шчэ вунь таго рубінавага французскага віна. Яны пілі, хмялелі і быццам размарожваліся, рабіліся, як раней, вясёлымі і гаманкімі. Складалі ў пакеты недаедзены вінаград і апельсіны. Цукеркі запіхвалі ў кішэні. Сабе і дзецям. А дзеці вырываліся, беглі ў прыбіральню. Там у кране заўжды была гарачая вада. І можна было гадзінамі стаяць і грэць анямелыя ад холаду рукі.

А сп’янелым бацькам тым часам проста тут, за столікамі паказвалі фільмы. І яны, хто з бакалам шампанскага, хто з бутэрбродам, прагна ўглядаліся у залюстроўе экрана, дзе цёплы ветрык расхінаў блакітныя фіранкі і меладычна пазвоньвала крыштальная люстра... Элегантная маладая настаўніца мякка ступала па пухнатым дыване і брал аз паліцы томік Пушкіна. Сп’янелыя бацькі доўга спрачаліся, хто такі Пушкін, і папракалі адно аднаго, як можна было забыцца, што на вокны трэба вешаць фіранкі, на падлогу — класці дыван, а лямпачку Ільіча варта  закрыць ну калі не люстраю, дык хаця б плафонам, а не старою газетай. Хоць усё роўна. Колькі ні працуй, грошай ледзь хапае на ежу.

У далёкім кутку спінаю да экрана адна за столікам сядзела немаладая ўжо. Падобна, цяжарная жанчына. І безнадзейна, горка глядзела на шклянку вішнёвага соку і недаедзены бутэрброд, густа намазаны маслам і чорнаю ікрою. Хоць было горача. І многія сядзелі нават у тэнісках і саарфаніках, яне н ездымала, а толькі расшпіліла сваё заношанае, аздобенае зрудзелым пясцом паліто. Ніхто не звяртаў увагі, а яна пачула. Убачыла. Толькі што за стойкай бармэна ўключыўся. Запрацаваў тэлевізар, і размаляваная лялька зачытала новую пастанову, якая да асобага распараджэння  забараняла гараджанкам нараджаць дзяцей. Ці тое з-за недаядання, ц ітое з-за стрэсу ў арганізме жанчын адбыліся нейкія непапраўныя змены, і за некалькі апошніх тыдняў не нарадзілася ніводнага нармальнага дзіцяці.

Жанчына, як ні старалася, не стрымала слёз. Не паспела. Значыць, не паспела.

Колькі гадоў яна, пераадольваючы вечную нястачу, збірала, пераводзіла ў валюту грошы — каб было за што купіць ложачак,

калясачку, пялюшкі... Колькі абразлівых слоў і паглядаў сцярпела, калі стала відаць, што адна, бязмужняя, выношвае дзіцёнка. Ад каханага ж, каханага чалавека дзіцёнка. Але хто ўжо у іх горадзе памятаў, што такое каханне? Ад холаду і голаду нават самыя вытанчаныя натуры звярэюць. Што ўжо казаць пра простых смяротных. Яна закрыла вочы рукамі і заплакала наўзрыд. Але і цяпер ніхто не звярнуў на яе ўвагі. Бармэн выставіў новы паднос з віскі і шампанскім.

Можна было б, вядома, не паслухацца, не ісці, як было загадана ў пастанове, ні на які спарон. Можна было рызыкнуць. Паехаць за мяжу, у рэшце рэшт. Але яна з самага маленства, заўжды выконвала ўсе загады і пастановы.

## СОЛА ДЛЯ ПУСТЫХ БУТЭЛЕК
### Амаль што казка канца мінулага тысячагоддзя.

За расстаўленыя на траўцы столікі. Пад святочныя парасонікі садзіліся новыя людзі, — хто з кока-колаю, хто з півам, а хто да таго ж яшчэ і з лешчыкам ці з воблаю. І, вядома ж, не звярталі яны ўвагі на дзве пустыя пляшкі з-пад піва, што нудзіліся ля сметніцы.

— Ох-хо-хо, — уздыхала празрыстая, — і чаму нас не занеслі назад, на прылавак? Стаялі б сабе ў скрыні, разам з усімі, у цянёчку, і, галоўнае, дакладна ведалі б свой лёс. Завязуць на завод, памыюць, нальюць у цябе свежае піва, закаркуюць як след і зноў — у магазін, ці вось на такое свята, да людзей. А то стой тут, бойся, каб не пабілі...

— А ўсё таму, што мы з табою неэканомным людзям трапілі, — падтаквала ёй Зялёненькая; — аддалі б яны нас, дык хоць колькі б тысяч атрымалі назад. Тысяча да тысячы, глядзіш, і яшчэ на бутэлечку піва выйшла б...

— Ой, ну ты скажаш, на бутэлечку... Ды мой, той, што сёння мяне цалаваў, ён жа...—Празрыстая задумліва сціхла і вымавіла з таемным прыдыханнем: — Ён жа... Ведаеш, які круты... ён жа, я сама чула, хваліўся свайму шафёру, ці, можа, целаахоўніку, што жонку сваю ў шампанскім купае... У яго ў катэджы — і аранжарэя, і тэрарыум са змеямі, і джакузі з шампанскім...

— І што, змеі таксама ў шампанскім плаваюць?

— Ды не змеі, а жонка ягоная, другая ці трэцяя, я не зразумела, ну, адным словам, жонка яго маладая ў шампанскім купаецца...

— А змеі, ты ж казала, акварыум са змеямі...

— Не акварыум, а тэрарыум! Цёмная ты і ёсць цёмная...

— Я не цёмная, — не здавалася Зялёненькая. — я смарагдавая, па-руску, “изумрудная”. І піва, калі ў мяне наліваюць, яно таксама робіцца смарагдавым... І ўвогуле, нават модніцы цяпер любяць бутэлечны колер, не празрысты, а зялёненькі...

— Выхваляешся, як усё адно ты долар, а не бутэлька... Ух, я сёння долараў бачыла... Пацалаваў мяне, значыць, гэты мой “круты”, бізнесмен, і дастае з кішэні пачак, не, нават два пачкі “зялёненькіх” ігэтаму свайму шафёру ці целаахоўніку аддае. “На, бяры, пакуль я добры!” а той руку працягвае, а рука дрыжыць, і зачырванеўся ажно ад хвалявання... Казёл...

— Вось гэта праўда, у казлоў ты сёння за сталом была, у сапраўдных казлоў... Змеі ў акварыуме, жонска ў шампанскім, тэлефон з антэнай. А мяне, мяне сёння цалаваў Паэт. Пацалуе і

маўчыць. І нешта такое думае. Вочы ў яго блакітныя, вусікі ледзь прабіваюцца, і нешта такое ён думае. Спачатку чамусьці збялеў, губу закусіў, а потым неяк адразу... паяснеў ягоны твар, нават як бы ўсмешка з'явілася... Нешта шаптаць пачаў. Аловак паламаны з кішэні дастаў, блакноцік і піша, піша нешта, шэпча і піша. Думала, што ён на мяне зусім забыўся. Але не, пашаптаў, запісаў, што яму трэба. Можа радок, можа верш, а можа, і паэму цэлую. І дапіў мяне. Адразу, да донца. Толькі што вось здаваць не панёс, кінуў тут, ля сметніцы.

— Значыць, таксама багаты, як і мой бізнесмен, — задумліва вымавіла Празрыстая.

— Ды што ты! Джынсы падраныя, нават латак няма, і швэдар заношаны. Такая спёка, а ён у швэдары. Але ж паэты, яны з Богам гавораць, іх, нават калі яны бедныя, шанаваць, любіць трэба... Іх крыўдзіць — сябе зневажаць. Твой бізнесмен, колькі ні плаціць за тое, каб яго ахоўвалі ды ў машыне вазілі, а памрэ — і ніхто пра яго не ўспомніць. Змеі распаўзуцца. А жонка з іншым такім самым, як ён, плаваць у шампанскім будзе. А мой Паэт... Можа ён, пацалаваўшы мяне, верш напіша такі, што і праз гады, і рпаз стагоддзі паўтараць яго будуць!

— Ха! Ха-ха! А не дасць мой бізнесмен твайму Паэту зялёненькіх, і ніколі той верш не надрукуюць. Не будзе ў тваго Паэта грошай кніжку сваю выдаць. А мой бзнесмен не дасць, ён такі. Ён лепш сабе яшчэ адну джакузі з шампанскім купіць, чым кніжку нейкага невядомага Паэта выдасць. Ох-хо... Ды што мы спрачаемся? Зараз прыйдзе бомж, які забярэ нас, абліжа, у брудны, смярдзючы свой мех запхне, да такіх жа як мы, беспрытульных гаротніц. І зноў — трасіся ў аўтобусе, стой у чарзе, здавайся. А грошы, грошы тыя, якія за нас той бомж атрымае, хоць бы на што людскае былі патрачаны. А то ж — здасць мех бутэлек, пляшку гарэлкі купіць і — уся ягоная радасць. Несправядліва гэта ўсё-ткі, цэлы мех піўных бутэлек дзеля адной адзінай пляшкі гарэлкі.

— Ды не, - задумліва запярэчыла Зялёненькая. — За мех, пэўна, можна дзве,а то і тры пляшкі гарэлкі купіць...

— Ну, гэта гледзячы які мех...

— Ужо лепш бы не бомж-п'яніца, а бабулька якая падабрала, нават нас абедзвюх ёй бы н ахлеб хапіла. Мяне аднойчы падабрала адна такая... Ля царквы, казала, міласціну просіць. А сама. Сама. Не паверыш, настаўніцаю працавала, у вайну, у эвакуацыі дзяцей вучыла. Потым тут, у горадзе. Гісторыю выкладала. Праўда, замуж не выйшла, дзяцей у яе не было. Ну, але ж за жыццё на ашчаднай

кніжцы яна некалькі тысяч сабрала. А грошы абясцэніліся, цяпер хіба толькі на буханку хлеба хап...

Зялёненькая сціхла на паўслове.

— Глядзі, глядзі, — нахілілася яна да Празрыстай, — У аткія рукі мы яшчэ з табой не трапялі... Таксама ж з выгляду настаўніца, але маладзейшая і акуратненькая, у беленькіх шкарпэтках, туфляхлодачках. І не мяшок у яе ў руках, а сумка гаспадарчая, таксама акуратненькая, у клетачку. І бутэлькі... глядзі, глядзі. Як асцярожна яна нас збірае... Рукі ў яе далікатныя. І вочы разумныя. Як бы гэта трапіць ёй на вочы...

— Гэта ты пра каго? Пра тую, сіненькую, у плашчыку? Ну, гэтая не падобна, каб на хлеб збірала...

— Цяпер усё можа быць... Вунь, сама ж расказвала, бугай здаровы на тваіх вачах пачак долараў за нішто атрымаў, а жанчына, можа ўсё жыццё ў школе адпрацавала, можа, яна таго бугая чытаць вучыла, і бізнесмена твайго, і Паэта, а ёй цяпер, даруй, на старасці дулю пад нос...

А жанчына, тая жанчына заўважыла іх, і празрыстую, і Зялёненькую, падняла, акуратненька паставіла ў сумку і рассмяялася... Яна хадзіла між святочнымі столікамі і смяялася, як вар'ятка, не, не зусім як вар'ятка, яна смяялася па-дзявочы, звонка, але... наўзрыд. Гэта магло давесці да ліхаманкі. І аднаго, у малінавым пінжаку, здаецца, сапраўды пачала біць трасца, бо ён ссунуў локцем. Скінуў са стала тры поўныя пляшкі піва і яны... яны разбіліся аб асфальт.

— Ой, ну што ж вы так... — уздыхнула жанчына з сумкай. — А я думала, дачакаюся, пакуль вы дап'яце, і якраз бы — сумка поўная. — Яна зноў нервова засмяялася — я ж, малады чалавек... Я на энцыклапедыю збіраю. Універсальную, беларускую. Чыцвёрты том купіла, а на пяты ніяк не збяру. А там... Пра мужа майго артыкул. Ён у мяне гісторыкам быў, археолагам. Доктар навук. Хоць вы, пэўна, яго н еведаеце. Ён яшчэ ў вайну, бедны, нагараваўся. Малы быў зусім, а яго ў Германію пагналі. І я ў эвакуацыі галадала, і вярнуліся — таксама голад. Траву елі. А цяпер во на старасці ізноў — ні капеечкі за душою. Я ж сумленна, з кожнае зарплаты адкладвала на ашчадную кніжку, думала, хоць на пенсіі ні ў чым адмаўляць сабе не буду... Працаваць бы пайшла... Але ж муж памёр, а дачка мая... замуж не пайшла, а дачушку таксама нарадзіла. Унучачку... Хай бы ёй на памяць энцыклапедыя, дзе пра дзеда напісана, была... У Эстоніі, я чытала, там, калі выходзіла іх энцыклапедыя, то кожная сям'я на яе падпісвалася... А ў нас, во, нават я, настаўніца, былая, але ўсё ж

настаўніца, не магу купіць. Бутэлькі збіраю. Нават у племені тумбу-юмбу той, хто вучыць, лечыць і песні складае — самыя шаноўныя людзі. А ў нас, я чула па радыё, міліцэйская фуражка каштуе столькі ж, колькі настаўнік за месяц атрымлівае. А можа, калі б больш плацілі настаўнікам, далі б магчымасць ім кніжкі купляць, дзяцей як след вучыць і выхоўваць, глядзіш. І міліцэйскіх фуражак столькі не трэба б было...

Той, у чырвоным пінжаку, як бы працверазеў, ды не, ён зірнуў на яе зусім цвяроза і вымавіў неяк глуха, сам сабе не верачы:

— Гэта Вы, Марыя Пятроўна? Гэта Вы?

Бутэлькі ў сумцы ціха дзынкнулі. Празрыстая і Зялёненькая, як самыя цікаўныя, сцішылі дыханне. А яна, яна яго ці пазнае?

## ВІРУС АЗВЯРЫНУС.
## Містычны эцюд.

Падобны выпадак, як паведамлялася ў тэленавінах, сапраўды меў месца зімою 1992 года ў адным з гарадоў СНД. На Беларусі тады хадзілі грошы з вавёркамі, зайцамі, рысямі, ваўкамі, мядзведзямі...

Усю дарогу да суда Марына Макаранка, цяпер карэспандэнт камерцыйнай газеты "Пра ўсё", не магла пазбыцца дзіўнага адчування: час спыніўся і ніколі, ніколі ўжо не рушыць наперад. А тут яшчэ пара такая... Куды б ні йшоў, і выходзіш, і вяртаешся пад месячным святлом. Сонца быццам і не паказваецца. Адна суцэльная ноч. Мароз ломіць, страляе ў дрэвах. А снегу ўсё няма й няма. І цені ломяцца на гурбах леташняга лісця. Амаль як ва ўчааршнім фільме. Канец мінулага стагоддзя. Ваўкалакі. Звер з чалавечымі вачыма. Чалавек з налітымі крывёю вачыма звера.

Учора на паўторнай судова-псіхіятрычнай экспертызе яна ўспрыняла словы доктара Сянькоўскага як зусім недарэчны жарт. Нават на дыктафон не стала запісваць. А сёння словы гэтыя, быццам падсвечаныя неонам, набылі не тое што рэальны, а нейкі містычны сэнс...

— Ну, калі вам так хочацца выдаць яго за хворага, напішыце, што ў яго вірусная нфекцыя, новы паслячарнобыльскі вірус. Вірус азвярынус. У Закаўказзі — панэпідэмія, пандэмія. У нас — першы выпадак. Чалавек з душою, з вачыма здзічэлага сабакі...

Чалавек з вачыма здзічэлага сабакі... Яна, Марына, яшчэ не сустракалася з ім. Толькі фотаздымкі... Лысенькі бяззубы галышок. Сцяганосец у піянерскім лагеры. Сярод дзяўчат на першай і цяпер, пасля ўсяго, што адбылося, пэўна ж апошняй сваёй студэнцкай бульбе. Не. Ён там зусім не падобны на хворага, здзічэлага вылюдка.

Яна зноў, ужо каторы раз супастаўляла раскіданыя па розных блакнотах факты, спрабавала дакладна аднавіць у памяці дыктафоныыя запісы. Бацькі, настаўнікі, аднакласнікі, сябры... Пайшлі ў рэстаран адзначыць пачатак заняткаў. Выпілі. Шампанскае, гарэлка. Патанцавалі. Ён, Сяргей Б., увесь час з адною і тою ж, нікому не знаёмаю дзяўчынай. Пайшоў правесці. І не дзе-небудзь на зацішнай пустцы, а пад ліхтаром, ля самага ейнага дома, у двары накінуўся на яе і скусаў да крыві, загрыз... як сабака.

Ізноў гэтае слова. Цяпер ужо ў зале суда. Сабака...

— У яго быў любімы сабака...—глытаючы слёзы, вымаўляе Сяргеева маці. — Аўчарка... Крэг... Мы яго падарылі Сяргейку на паўналецце. Сяргейка так яго любіў. Яны з ім жылі, ну проста душа ў душу. А потым... Яго забілі. Летась, у жніўні, ён толькі здаў уступныя экзамены. І вось... Проста на ягоных вачах... Забілі... Як ён перажываў! Некалькі дзён нічога не еў. А потым... Яго быццам падмянілі. Раней жа такі ўсмешлівы, гаваркі быў... Музыку слухаў. А пасля таго... Усё маўчыць і маўчыць. А па вечарах у адзін і той ж ачас знікае... Я аднойчы не вытрывала, пайшла ўслед. Ён па вечарах на тое месца хадзіў. Дзе Крэга забілі. Потым на бульбу паехаў. Захварэў. Нейкі вірус. Дадому адправілі. А ён вярнуўся і зноў тое самае. Штовечар. Даруйце, мне здаецца, што ў яго пасля таго нават колер вачэй змяніўся...

— Даруйце, а дзе, на якім месцы забілі гэтага Крэга? — перабіў яе нехта з суддзяў.

— На тым самым. Ля таго самага дома, — ледзь вымавіла маці.

І ў гэты самы момант Сяргей падняў вочы. Марына зляканулася. Ёй не падалося. Гэта былі налітыя крывёю не чалавечыя, звярыныя вочы...

Няўжо ўсё так проста? Жыў з сабакам душа ў душу... І калі таго забілі, ягоная душа перасялілася ў ... Сяргея? Вось чаму змяніліся ягоныя вочы. Вось чаму...

— Хто можа расказаць пра гэты выпадак больш падрабязна?

Маці было зусім блага, і на яе месца выйшаў нехта з Сяргеевых сяброў.

— Маці тут казала... Сяргей ставіўся да свайго Крэга, ну... як да чалавека, ці што... Ён не любіў вадзіць яго на павадку. А тут... Выйшлі яны пагуляць... А насустрач жанчына з каляскаю... І Крэг не то забрахаў, не то проста кінуўся да таго дзіцяці... Ну і жанчына... У яе была сумка з бутэлькамі... Малако, кефірчык... Дык яна яго сумкаю па галаве... З усяе сілы... Пакуль Сяргей дабег... Крэг ужо...

— Дык вось ты хто?! — ускочыў з задняга рада чалавек у скуранцы. — Ты мне не толькі сястру... Дык гэта ты, ты мне дзіця, майго адзінага сына заікам зрабіў?!

Зала замерла, чакаючы працягу. Але мужчына збялеў і, бяссільна сціснуўшы кулакі, выйшаў у калідор. Марына заўважыла: ён праз нейкі час вярнуўся, пануры і абыякавы, сеў на сваё старое месца, і, здавалася, баронячыся ад балючых для яго словаў, заціснуў вушы рукамі. Каб не чуць. Не чуць...

— Вы ж бачыце, што цяпер робіцца ў свеце! — палка наступаў на сваіх уяўных апанентаў адвакат. — Усюды льецца кроў. Вайна. Жорсткасць. І па тэлевізары толькі секс і рок. А гэта абуджае ў нашай падсвядомасці страшныя, звярыныя інстынкты. Маладыя людзі, нашыя з вамі дзеці, асабліва безабаронныя перад наступам жорсткасці. Вось і Сяргей… Вы ж на свае вушы чулі: маці кажа, ён быў добры, чуллівы, жывёл любіў… І гэты сабака… Ягоны любы Крэг… Ён яго, пэўна, калі той быў шчанючком, паіў з соскі, потым дрэсіраваў, вучыў, можа, нават марыў удзельнічаць у спаборніцтвах… Ды яны зжыліся, як самыя лепшыя сябры… Як браты родныя… Што б вы адчулі, каб забілі вашага роднага брата? Ды і кожны з нас… Хіба кожны з нас не любіў у дзяцінстве да самазабыцця каго-небудзь са звяроў ці птушак? Яны задаваліся такімі безабароннымі… Успомніце, Белы Бім Чорнае Вуха ці…

Адвакат пракаўтнуў паветра і пацягнуўся да шклянкі з вадою. У роце перасохла. А Марына, якая сядзела так, што добра бачыла практычна ўсю залу, раптам заўважыла… Сталася неверагоднае. Ды не, яна шчэ не магла сказаць, што ўсеператварыліся ў звяроў і птушак. Гэта былі яшчэ людзі. Але рухі, міміка, жэсты… Вунь рэзка нахінуліся адна да адной, ледзь не труцца насамі дзве фарбаваныя бабонкі — рудая і попельна-шэрая. Вунь абапёрся на пярэдняе крэсла і, звесіўшы не то валасы, не то зарослыя поўсцю вушы, дрэмле смалісты тэр'ер… Суддзя ўвесь наструніўся, натапырыўся, як… верабей.  Выцягнула сваю лісіную пыску пракурор… А сам адвакат… Грызе аловак, шукае, дзе спыніўся… У яго ж рот, і пярэднія зубы… Як у старога выхвалякі-зайца з нейкае дзіцячае кніжкі…

— Вось я і сам памятаю, — нарэшце загаварыў ён, — калі мой бацька прынёс мне аднойчы з палявання зайчанё…

— Я пратэстую! — усхапілася пракурор- Лісіца. — Гэта не па тэме!

Марына міжволі азірнулася. Той, у скуранцы, усё сядзеў, бяссільна панурыўшы галаву. І было ў ім нешта настолькі жаллівае… Ну проста Белы Бім Чорнае Вуха… Марына перавяла позірк на Сяргея. Той зноў падняў свае застылыя, шкляныя вочы і раптам… завыў. Як сабака. Цяпер Марына пэўна ведала: ён вые, як ягоны любімы Крэг…

* * *

Кожны мае права на апошняе жаданне. Хтосьці прагне спаткання з маці, хтосьці са святаром. Сяргей Б. Папрасіў, каб яму прынеслі магнітафон з любімымі запісамі. І ўвесь дзень выгінаўся,

закочваў вочы і ледзь не да пены ў роце выгукваў нейкія незразумелыя словы. Метал у горле. Сабачы рык. Цяжкі рок... Вось у вясёлкавым ззянні праходзіць па вуліцах супермен, закаваны ў жалезны панцыр усмешлівы робат. Ён ідзе і ломіць усё наўкола. У хмарачосаў падгінаюцца калені.

Нарэшце Сяргея працяла сутарга экстазу...

* * *

Дамоў Марына, як заўжды, вярталася пад вечар. Ліхтароў, пэўна, дзеля эканоміі не палілі. Толькі налітая жоўцю поўня. Ля кулінарыі. Як заўжды, цікавала зграя здзічэлых сабак. Марына зайшла. Давалі мяса. Ялавічыну. Выстаяла чаргу. Узважыла. А паперы загарнуць няма. Браць у рукі? Пакуль вагалася, ззаду пацягнуў свае зарослыя поўсцю кіпцюрастыя лапы воўк. За ёю ў чарзе стаяў самы сапраўдны воўк. Ён кінуў грошы, ухапіў крывавае мяса зубамі — і на вуліцу...

Там у жоўна-блакітным месячным святле скачуць з сумкамі ў зубах ваверкі. Ад магазіна да магазіна...

Каля кааператыўнаг акіёска тоўпіліся зайцы ў рудых скуранках. Між іх з фарбаванымі пазногцямі — рысь. Марына зайшла ў прамтавары — купіць мыла. І ўжо ля самае касы мядзьведзь, што стаяў наперадзе, разявіў пашчу ды як зараве...

## СКЕРЦА ДЛЯ ПЕРАБІТЫХ ПАЛЬЦАЎ.
## Роспач.

Гэты даўні ўспамін спадарожнічаў ёй з самага маленства. Як жаданы сон. Як мроя. Як яе ўласны правобраз зямнога раю. Колькі разоў, калі клалася спаць, Алена Карніцкая заклікала яго, той вечар, тую ноч, тую музыку...

Месяц яшчэ не выплыў і ў цемры жылі толькі гукі... Хрумкае, точыць хату шашаль. Цікаюць за сцяною ля печы ходзікі. А яна ляжыць у ложку пры вакне і слухае. Вось рыпнулі палавіцы, шафа. Гэта дзед. Зараз над фіранкамі трывожным пытальнікам завісне месяц і ён зайграе...

Скрыпка імкліва ўздыхнула і аддалася... І смычок вывеў з ейных прагных, нацятых у чаканні жаданага дотыку струнаў адну-адзіную, самую высокую ноту... І гэтая нота стала сцяжынкаю ў рай, у мелодыю, поўную чакання, тугі, невыказнае пяшчоты і ласкі...

І столь растаал. І яна ўбачыла неба, затканае безліччу зорак, якія падміргвалі, гаманілі, клікалі, узносілі яе да нябёсаў... У той глыбіні, у той вышыні не было болю, тугі, роспачы. Там панавала месячная, сонечная светласць...

— Інтэлігентнага чалавека заўжды выдаюць рукі, — па сваёй настаўніцкай звычцы не раз, і не два, шмат разоў паўтараў ёй дзед, ейны адзіны, любы дзед Ларывон, — Рукі... Рухомыя, імклівыя, лёгкія... Яны — знак вечнае, несыходнае прагі пазнання, вечна епрагі дасканаласці. Кім бы ні быў чалавек, дзе б ні жыў, дзе б ні працаваў, колькі б яму ні было гадоў, ніхто ніколі не зможа спыніць яго на гэтым шляху...

У дзеда Ларывона былі шурпатыя, змазоленыя, але сапраўды вельмі лёгкія, інтэлігентныя рукі... Як хацелася б зараз прыпасці да іх, пацалаваць, вярнуць тую музыку...

Дзед Ларывон настаўнічаў яшчэ да вайны. Вёў літаратуру і спевы, а потым усіх, хто хацеў, вучыў іграць на скрыпачцы. А яшчэ ён марыў. Марыў пра той час, калі ягоную скрыпачку і ягоны смычок возьме ў рукі сын, Сымонка, якому ў 41-ым якраз ішоў пяты гадок. Гэтая ягоная мара, гэтая ягоная светлая мроя трымал аяго, ратавала і калі ў першыя ж дні трапіў у акружэнне, а потым у нямецкі палон, ратавала і ў нямецкім, і ў савецкім лагеры... Ратавала ў гнойную, смярдзючую спёку, і ў слотнае восеньскае разводдзе, і ў скрушны, пякучы мароз... Ён марыў пра тое, як будзе вучыць Сымонку іграць нават тады, калі зразумеў, што адмарозіў сабе пальцы... “Тое, што я

ўжо не сыграю, сыграе мой сын... Мой Сымонка... Як яны там з Маняй? Гаруюць...”, — думаў ён і зноў марыў...

Маня не прадала, схавала ад немцаў, зберагла ягоную скрыпку ў высланым пунсовым аксамітам футарале... А Сымонку... Сымонкавы пальчыкі не зберагла... У яе быў урок... Апошні ўрок апошняй чвэрці першай мірнай вясны. І ўсміхаліся, увабраныя шчодраю квеценню сады... Яна адпусціла Сымонку, і ён збег з суседскімі хлапчукамі да рэчкі. Там у сваёй, толькі ім вядомай хованцы яны раскруцілі знойдзеную недзе ў полі, пакінутую, падораную ім вайною страшную, д’ябальскую цацку...

Бабахнула так, што не пачулі нават як яны крычалі. Суседскіх хлапчукоў — насмерць. А ў Сымонкі не стала пальчыкаў. Трох на левай і аднаго на правай руцэ. Ён так і не навучыўся прыгожа пісаць.

Маня не паражыла. Дачакалася свайго Ларывона і згасла. А Сымон, хоць і выўчыўся на электрыка, і жаніўся, і дачка ў яго нарадзілася, яна, Алена нарадзілася, так і не змог знайсці сабе месца... Усё некуды рваўся, ляцеў. Ці то прыгнятала яго віна перад суседкаю: яе ж сыночкі загінулі, а ён вось жывы... Ці то перад бацькам, які пісаў яму: “Прыеду, навучу іграць на скрыпачцы”... А можа гэта была ўсё тая ж невыказная прага пазнання, прага дасканаласці? Завербаваўся, з’ехаў разам з жонкаю на Сахалін. А малую Аленку кінулі з дзедам.

Алена памятала іх вельмі цьмяна. І маму, і бацьку. І фотакарткі засталіся такія ж пажоўклыя, цьмяныя, з абадранымі (ці гэта мышы іх абгрызлі?) краямі. Вось бацька, у пінжаку і чобатах, сядзіць ля плота, схрысціўшы на грудзях рукі, так, што пальцаў зусім не відаць. А побач мама, яшчэ з касою, у стракатай квяцістай сукенцы і чорненькіх туфліках на абцасах. У яе рукі вольныя, прыгожыя... Яны прыязджалі з Сахаліна. Прывезлі цэлы слоік чырвонай ікры і кляшню краба...

А потым у Аленкі застаўся толькі дзед Ларывон і ягоная музыка. Ён перажываў, пакутаваў з-за таго, што не можа іграць так, як іграў да вайны. Адмарожаныя пальцы не слухаліся, ледзь даганялі мелодыю. І ён браў скрыпку толькі па начах, калі, як яму здавалася, ніхто яго не чуе. І хоць Аленка яго прасіла, так і не навучыў яе іграць...

Калі дзед памёр, яна, ужо студэнтка філфака, хацела пакласці скрыпку разам з ім у магілу, але нешта яе тады стрымала, а можа, проста рабіць гэта на людзях пасаромелася. І карычневы футарал, высланы пунсовым аксамітам, здавалася, назаўжды стаў для

дзедавай скрыпкі труною. Памёр гаспадар і памерла ягоная музыка. Тая самая, з якой пачыналася ейнае, такое жаданае, мройнае бяссонне... Яна везла гэтую маленькую карычневую труну ў Мінск, у інтэрнат, дзе яны жылі з мужам, і плакала ад уласнага бяссілля, ад бяссілля ажывіць дзедаву музыку...

У Аленінага мужа, хоць ён вучыўся на фізіка, таксама былі вельмі лёгкія, музычныя пальцы. І не мог жа ён з такімі пальцамі жыць з ёю ў інтэрнаце... І яна ўспрыняла як наканаванае тое, што аднойчы ён перайшоў жыць да сваёй зусім юнай яшчэ лабаранткі, якая ў свой час скончыла музычную школу і па вечарах іграла яму Шапэна. У яе, Алены, застаўся сын, у гонар дзеда названы Ларыкам, і маленькая, высланая пунсовым аксамітам труна з дзедавай скрыпачкай, з дзедавай музыкай.

Яны з Ларыкам дачакаліся і атрымалі нарэшце сваю ўласную, цэлыя два пакоі, кватэру. Нак самай ускраіне горада. З відам на аутаныя параю трубы і голае поле, але ж сваю, уласную... Алена надта не перажывала ад таго, што ў іх з Ларыкам была ўсяго адна канапа, раскладушка ды стол з зэдлікамі. Кнігі яна расставіла ў радок уздоўж сцен. Для посуду прынесла некалькі каробак з-пад бананаў. Адзежа змясцілася ў шафах, якія былі ў калідоры. Што ж паробіш, калі за тыя грошы, якія бацькі калісьці, прыехаўшы з Сахаліна, паклалі ёй на кніжку, цяпер можна было купіць хіба што “Снікерс”. Яна любіла сваю работу, любіла студэнтаў, якім натхнёна расказвала пра Максіма Гарэцкага і Алеся Гаруна, па творчасці якога і абараніла кандыдацкую дысертацыю. Яна, вядома, пакутавала ад таго, што не можа як след усталяваць свой побыт, купіць сабе і Ларыку патрэбныя кнігі. Але з ёю жыло, яе жывіла тое даўняе мройнае бяссонне. І яна чамусьці верыла, што яно калі-небудзь можа паўтарыцца, што скрыпка, а з ёю і музыка, паўстануць з труны...

Яна верыла ў гэта, хоць у новым доме панавалі зусім іншыя гукі. Спачатку суседзі зверху, усе, паверх за паверхам, клалі паркет, свідравалі сцены, шклілі балконы, потым пачалі выбіваць на кухні дзіркі-нішы пад халадзільнікі... І манатоннае пастукванне ды дрынканне змянілася гучнымі аўтаматнымі чэргамі, ад якіх дрыжэлі сцены і вокны, і ў вентыляцыйны люк ляцелі цэмент і нават бетон... аднойчы яна ледзь паспела адцягнуць, захінуць Ларыка — вялізны кавалак выпаў разам з вырванаю жыўцом сеткаю вентыляцыі і бумкнуў проста ў рукамыйнік... Было ўражанне, што жывеш на нейкай вечнай будоўлі, і людзі ні ўночы, ні ўдзень не прагнуць

цішыні, не прагнуць музыкі, а гэтым дрынчаннем і грукатам, як алкаголем ці грубым рокам прагнуць заглушыць свае душы.

Да яе таксама заходзілі майстры, але яна на іхнія прапановы толькі паціскла плячыма. На кухні ж, калі суседзі сваімі халадзільнікамі перакрыі вентыляцыю, стала не прадыхнуць. Калі нехта смажыў рыбу, ці пёк бліны, увесь дым расцякаўся па іхняй кватэры, вокны пацелі, і нават шпалеры адставалі ад сцен. А ў нішах на халадзільнікі ўжо паставілі відэамагнітафоны, якія зранку да позняй ночы паказвалі адны і тыя ж фільмы. Шпіён прыходзіў да прастытуткі. І яна гнюсавым голасам перакладчыка разоў пяць паўтарала: “Не-ет. Я туда не пойду-у...”

Ларык спаў. А яна мусіла слухаць п’яную лаянку і сабачы брэх знізу, потым пачыналі падаць паліцы ці тумбачкі зверху, і дзіця надрыўна крычала: “Ма-маа!”, а п’яны мужчына патрабаваў:”Но-ож! Прынясі, дзетачка, нож!” Назаўтра ўночы пэўна ж той самы мужчына дрыляваў сцяну і вешаў паліцы на месца. А ўдзень усё глушыў суперметалік. Потым хтосьці купіў дрэваапрацоўчы станок і ўжо, здавалася, нават сцены пачалі курчыцца ў сутаргах...

Але Алена ўжо н езважала на ўсё гэта, бо яе Ларыка, хоць ён яшчэ і хадзіў у дзіцячы садок, прынялі ў музычную школу. І дзедава скрыпачка ўсё ж паўстала з труны, са свайго высцеленага аксамітам ложка. І пад імклівымі Ларыкавымі пальчыкамі мелодыі, адна прыгажэй за другую, быццам самі зляталі са смычка на струны, са струнаў на смычок... І зноў скрыпачка не магла ніяк нацешыцца, наталіцца жаданым рэхам... “У вас незвычайна адораны хлопчык...” — сказаў Алене сівы, задумлівы скрыпач і параіў паступаць у музычны ліцэй.

І вось аднойчы, калі Ларык са сваёй, з дзедавай скрыпачкай вітаў сонца, што выплывала з-за лесу, самай светлай і чыстай мелодыяй, і Алена пазнал аяе, гэтую мелодыю, пазнала тую сваю, самую жаданую сцяжынку ў рай, у дзверы пазванілі.

Гэта быў сусед зверху. Яшчэ даволі малады, але ўжо нейкі азазлы, зарослы шчаціннем, з вачыма, у якіх люстравалася пустэча. Яна пазнала ў ім майстра, які некалькі разоў набіваўся да яе зрабіць нішу пад халадзільнік. Ці гэта ёй толькі падалося? Прынамсі, ён быў у такім самым зялёным спартыўным касцюме з пунсовымі лампасамі. Патыхаючы перагарам, сусед захрыпеў:

— Эта ваш клоп усё врэмя скрыпіт? Еслі не перастанет, рукі паадбіваю! Все саседзі жалуюцца! Я вас прадупраджаю!

Яна зніякавела. Яна не ведала, што казаць. Хоць магла ж нагадаць яму і пра начныя сваркі, і пра дзіцячы крык, і пра тое, штолітаральна ўчора ён ці ягоная жонка ледзь іх не залалі. Цякло нават з выключальнікаў. І кнігі яшчэ зараз сушацца на батарэях. Але яна маўчала. І больш за ўсё на свеце баялася, каб Ларык, які стаяў за яе спіною са скрыпачкай, і ўсё чуў, не расхацеў займацца музыкай. Яна проста зачыніла дзверы і, пракаўтнуўшы крыўду і боль, паклала пад язык валідол. А потым папрасіла Ларыка сыграць ёй яшчэ раз...

Ларык здаў экзамен, і адзін з выкладчыкаў запэўніў яе, што яго абавязкова прымуць у ліцэй. Яны зайшлі ў магазін купіць торт, але была чарга, а Ларык захацеў, даруйце за падрабязнасці, у прыбіральню. І яна, першы раз у жыцці, дала яму ключ і адправіла яго дадому аднаго. Ларык мог бы дабегчы да іхняга чацвёртага паверха і пешкі, але ён пэўна ўжо ледзь цярпеў, і выклікаў ліфт, у які следам за ім заскочыў (гэта ж трэба гэтае ракавое супадзенне!) іхні, той самы, азазлы сусед зверху ў зялёным спартыўным касцюме з пунсовымі лампасамі... І настаўляючы свае мутныя, чырвоныя вочы, атыхаючы прагарам, загырчэў:

— Я жа прадупраждал тваю мамашу. Я жа вас прадупраждал, што еслі будзеш яшчо скрыпець...

Калі яна, вясёлая, з торцікам, падышла да сваіх дзвярэй, Ларык бледны, з заплюшчанымі вачыма, сядзеў, падцягнуўшы свае худзенькія, вострыя каленькі, на бетоннай падлозе. Ягоныя рукі, ягоныя пальчыкі. Усе ў крыві, бездапаможна звісалі долу. Белая сарочка, камізэлька, шорцікі і нават аксамітны “матылёк” — усё было запырскана крывёю. Побач пры дзвярах ляжаў расчынены футарал са скрыпачкай... Таксама ліпкі ад крыві...

Пакуль прыехала “хуткая”, выклікаць якую Алена бегала ў тэлефон-аўтамат, Ларык спачатку сам, потым з ейнаю дапамогай памыўся і пераапрануўся. Бедны, ён так і не паспеў у прыбіральню...

Ларык дрыжэў, трымцеў і маўчаў... Ні слова не казаў пра тое, хто яго так. І толькі доктару, строгаму, іранічнаму барадачу, ужо ў бальніцы. Прызнаўся, што дзядзя-сусед заціснуў яму пальчыкі ў футарал і стукнуў па ім нечым важкім. Алена, пачуўшы, страціла прытомнасць...

— Чаму ж ты не крычаў?! Чаму не крычаў?! — пустым, нікому цяпер непатрэбным рэхам па пустой цёмнай кватэры гуляла, білася аб голыя сцены, аб голую падлогу, аб столь з лямпачкамі без абажураў, камяком перасядала ў горле ейная роспач...

І тады яна ўстала, і не чакаючы, пакуль выплыве месяц, вобмацкам адшукала, уставіла патрэбную касету, уключыла

магнітафон. І на ўсю кватэру, на ўвесь дом, на ўвесь свет загучала тая самая мелодыя, якую яна чула ад дзеда, і якою Ларык вітаў узыход сонца... Яна паспела, запісала яе цішком на магнітафон. Ларык іграў дзедаву мелодыю...

І дах паплыў. І яна зноў апынулася ў сваім уласным доме. У сваім уласным палацы... І зоркі засвяцілі ёй проста ў вочы. І сярод іх была адна-адзіная, та самая, з якой пачыналася ейная сцяжынка ў арй...

Нехта званіў у дзверы, нехта біў па батарэі, а яна не чула. Яна бегла па сваёй, толькі ёй вядомай сцяжынцы. Яна бегла да свайго дзеда Ларывона, яна бегла да свайго Ларыка. І ніхто ніколі не супыніць яе на гэтым шляху...

## “ТАРМАЗНУТАЯ”
## Анатомія аднаго рэферэндуму.

Беларуская мова ў перапоўненым тралейбусе. Які толькі што лдзь сашчапіў за алеснай спіною дзверы, гучала, як нейкі ірэальны, нябесны ўздых Дзевы Марыі.

— Вы на наступным прыпынку сыходзіце?

Дзяўчына пыталася не ў яе, у жанчыны ў жоўтым пухавіку, што стаяла на прыступку вышэй, і тая ажно перасмыкнулася:

— Ты что, не можешь по-человеческі спросіть?! Я по-белорусскі не понімаю!

—Неміга. Следуюўая остановка...

— Я на сваёй зямлі. І гавару так, як мусяць тут гаварыць усе, і ы таксама, — звонка сцебанула дзяўчына і праціснулася, выскачыла з тралейбуса.

Алеся не паспела яе разгледзець. Толькі праляцеў, мякка сплыў ліловы плашч... І салодкі, язмінавы водар парфумы...

— Грубіянка! Хамка! Вы только посмотріте, какая хамка!

Жанчына ў пухавіу, — плямамі, плямамі, налівалася чрванню. Яна пасунулася, даючы Алесі месца і чакаючы яе падтрымкі. Алеся, не падымаючы вачэй, праціснулася, праслізнула да вакна, да кампосцера, прабіла талон, зачапілася за поручань... У сярэдзіне ў яе ўсё зайшлося. Душу сцебанулі плёткай. Балела, пякло нясцерпна. Ды не толькі ад кінутых услед незнаёай дзяўчыне ў ліловым плашчы абразлівых слоў. Ад сваёй уласнай нематы. Ізноў яна, як і ў школьныя гады, не можа рашыцца загаварыць з незнаёмым чалавекам па-беларуску. Ізноў гэтая брыдкая. Слзкая дваістасць. І ў тралейбусе, і ў краме, і ў паліклініцы. Не, яна не такая. як гэтая раз’ятраная ўчырванелая кабета ў пухавіку. Але і не такая. Як дзяўчына ў ліловым плашчы. Яна шэрая нямая нікчэмнасць...

У анёла-ахоўніка
Крылы спякліся. Абгарэлі.
І косткі тырчаць, як шыпы...

З самага ранку гэтыя навязлівыя радкі вярэдзілі яе падсвядомасць. І цяпер, калі за тралейбусным вакном у стомленай восеньскай шэрані паплылі, замільгалі заводы, масты, зноў заводы... І дадому яшчэ ехаць і ехаць... Гэтыя словы біліся, пульсавалі ў скронях... Нудна, страшна, балюча. Быў жа час, два, тры гады таму, калі ў іхнім магазіне з’явіліся беларускія шыльдачкі: “алей”, “малако”... Калі іхняя

маладзенькая паштарка пачала ўкадаць ім у скрынку напісаныя па-беларуску цыдулкі, накшталт: “На Вашае імя атрыманы ліст са ЗША. Калі ласка, зайдзіце ў аддзел дастаўкі”... Тады Алеся для самой сябе нечакана не толькі ў гастраноме ці тралейбусе, нават у зубнога доктара проста і весела гаварыла па-беларуску.

Што ж цяпер? Сорамна за сваё пакусанае моллю паліто і стаптаныя ўшчэнт чобаты? Не хочацца прыцягваць да сябе ўвагу? Ці гэта проста звычайны страх?..

Так, яна баіцца, каб, як тады, па вясне, не расплакацца. Яна тады звыкла, есела падала знаёмай прадаўшчыцы квіток і папрасіла кубачак кавы. І зусім нечакана пачула ззаду незадаволенае мужчынскае шыпенне:

— Ой, прямо піть расхотелось. Тошніт от белорусского. Особенно после вчерашнего фільма.

— Фашісты! — падтакнуў яму другі, з пластырам пад вокам. Ён стаяў перад Алесяю і нешта выглядаў на вітрыне.

— Не падабаецца, едзьце ў Парыж і слухайце там французскую мову! — рашуча вымавіла Алеся, — А я не толькі гавару, а і пішу па-беларуску.

— А... Так вы, может быть, поэт... Ну, поэтам можно, — мармытнуў мужчына з пластырам.

Але да яго ўжо падышлі, яго ўхапілі за рукі двое хлапцоў, якія пэўна ўсё чулі.

— Може, выйдзем?

З-за прылаўка выбегла загадчыца. Алеся не стрымала слёз і, не чакаючы кавы, выбегла з магазіна.

Ізноў гэтае непераадольнае, немае двухмоўе...

Ёй пашанцавала нарадзіцца ў сям’і вядомага мастака. Яна штолета ездзіла да сваёй бабулі ў вёску Заазер’е пад Лепелем, дзе мова, нечапаная, чыстая, як тое дальняе лясно евозера, пра сцежку да якога ведаюць толькі бацька ды дзядзька Коля. Тое возера, пэўна, ад стварэння свету жывіцца гаючаю крынічнай вадой.

Яна вучылася чытаць па беларускім “Буквары”. Ёй тады было гадоў пяць. Нават крыху меней. Яна шмат хварэла і дактары параілі зрабіць аперацыю — выразаць міндаліны. Яна баялася не столькі самой аперацыі, колькі вялізнай змрочнай палаты на чатырох, дзе не было мамы, толькі тры, старэйшыя за яе дзяўчынкі. У чаканні аперацыі яна чытала “Буквар”. Ды не, не ўголас, шэптам. А яны, гэтыя дзяўчынкі-школьніцы, перадражнівалі, нядобра смяяліся з беларускіх словаў і нават літар. Смяяліся з яе, Алесі. А яна ж, каб нават ведала як, была бяссільная што-небудзь ім давесці.

У яе ўжо выразалі індаліны. Яны ўпалі, коўзнуліся ў поўную крыві белую эмаляваную, выгнутую літарай С місачку. Яны былі падобныя на жабры... Усё гэта яна ўгледзела скрозь бінт, якім завязалі ёй вочы. Праз дзень, ужо без замарозкі, ёй выдалялі яшчэ кавалак... З-за гэтага давялося начаваць у бальніцы яшчэ адну ноч. І суседкі-школьніцы пспелі ўкрасці з яе тумбачкі маленькую драўляную ялінку, якую прынесла мама. Рыбы з жабрамі нямеюць. Яна знямела, адасобілася ад усяго свету без жабраў, дакладней, без міндалін, ці як іх яшчэ называюць — гландаў... Яна плавала ў возеры ўласных мрояў, шмат думала і чытала...

Яе першая настаўніца падарыла ёй на дзень нараджэння выдатна ілюстраваныя "Бларускія народныя казкі". А ў новай школе, куды давялося перайсці, калі яны пераехалі на новую кватэру, яе, як выдатніцу, забралі ў самы моцны, 3"А" клас і... паставілі першую ў жыцці тройку. Па беларускай мове.

— Сонейка свеціць. Вясна, — прачытала яна па падручніку.

— Не сонейка, а санейка! — строга папраўіла яе настаўніца.

Яна запярэчыла і была пакараная.

Настаўніцу ў хуткім часе ўзнагародзілі медалём да 100-годдзя з дня нараджэння Леніна і яна штодня прыколвала яго да сваіх сукенак. На яе грудзях свяціла "санейка". На кантрольныя яна арздавала ўсім выдатнікам спецыяльныя дошчачкі, каб яны закрываліся і не давалі спісваць сваім суседзям. Цяпер тая настаўніца жыве ў Чыкага. Ды і алесіны аднакласнікі з таго ўзорнага, спецыяльна адабранага "А"-класа хтоў Амерыцы, хто ў Ізраілі, хто ў Швейцарыі. Тут, у Мінску, засталося ўсяго нкалькі чалавек. Дружны ў іхбыў клас... І як усе дружна аб'явілі ёй ці не ў тым самым трэцім класе байкот. З-за чаго? Ці то металалом яна не збірала, бо трэба было ісці на музыку, ці то не за таго прагаласавала, калі выбіралі старасту. З месяц з ёй нхто не разаўляў. Не размаўлялі, але смяяліся. З яе нязвыклага імені — Алеся. З таго, што яна не ўмее скакаць цераз "казла" і лазіць па канаце. З таго, што яна не бегае, не дурэе разам з усімі на перапынках, з таго, што ніколі не спісвае, з таго, што вучыць, вучыцца і шмат чытае...

Ды не, той байкот не месяц цягнуўся. Ён доўжыцца скрозь усё яе жыццё. Дзіўная рыбіна без жабраў. Кінулі ў акварыум і назіраюць... выжыве — не выжыве?

Бацька ездзіў па Беларусі, замалёўваў народныя строі, збіраў кераміку і маляваныя дываны. Мама спявала са сцэны народныя песні. А яна пачала не толькі гаварыць, але і мысліць па-руску. І першыя вершы ў яе таксама былі рускія. Няўклюдныя, важкія,

падобныя на немаўлят, народжаных з хваробаю Даўна. У мастацкае вучылішча. Куды перайшоў працаваць бацька, яна паступіла чыста механічна, абы збегчы са школы…

Але тут мама са сваіх гатроляў у Амерыку прывезла магнітафон і касету з Данчыкавымі песнямі. І гэты ценкі, высокі, свелы голас, гэтая мяккая, дасюль ніколі не чутая ёю заакеанская беларуская мова так растрывожылі, літаральна перавярнулі ёй душу.

Сонца за хмаркамі ўранні
Скрылася, болей не свеціць.
Што ж ты мне сэрца параніла,
Найдаражэйшая ў свеце?..

Яна ўглядалася ў рытмічнае мігценне рубінавых агеньчыкаў магнітафона. Яна прагна ўбірала кожны гук і ніяк не магла наталіць смагі, бо ўсё, што ўбірала яна ў душу, — вылівалася слязьмі.

А тут яшчэ на іх курс вярнуўся з войска Генік Лозка. Ён быццам абудзіў усіх ад зімовага здранцвння. Дзяўчаты, хлопцы загаварылі па-беларуску, яны гуртаваліся, ладзілі “Каляды”, “Гуканні вясны”, “Купаллі”… Алеся хдзіла на ўсе святы, здаралася, падпявала, станавілася ў арагод, бо гэта была яе родная стыхія… Цяпер да яе ў сне і наяве прыходзілі беларускія вершы… Лёгкія, светлыя, як аблачынкі… Яна рашылася, занесла іх у адзін з часопісаў. Пачала друкавацца. Без прозвішча. Падпісвался проста “Алеся”. Лепшыя радкі прысвячала Г.Л-ку. У рэшце рэшт, яна разняволілася. Вышыла сабе блузку і фартушок. Спляла вяночак. Паехала разам з усімі на цэлую ноч у Вязынку сяткаваць Купалле. Вачыма, душою чакала, шукаал Геніка. Ён быў не адзін.  У цемры яна тую дзяўчыну-“талакоўку” не разгледзела. Ды якое гэта мела значэнне. Яшчэ адна рана. Боль. Слёзы. І рубінавае святло Данчыкавых песень.

Пад восень паехала да бабы ў вёску. Дзядзька коля сядзеў на ганку, смактаў сваю самакрутку, шкадаваў яе:

— Ты, Алеська, таму замуж не выходзіш, што па-беларуску гаворыш. У вас жа там, у горадзе, я ведаю, усе гавораць па-руску. А ты… І не вясковая, і не гарадская…

На вяселле да Геніка яна не пайшла. І паступаць разам з ім у Акадэмію мастацтваў нестала. Рабіла разам з бацькам харугвы, шыла сцягі, хадзіла на мітынгі… Заплюшчыць вочы- рука сама намалюе гэтага свтлага ганарлівага конніка ў рубінавым ззянні. Адраджэнне. Хто ведаў,што будзе янотакім кароткім. Учора ля іхняй сметніцы ляжаў цэлы стосачак дзіцячых кніжак. Зверху “Наш герб і сцяг”. Нехта выкінуў.

Генік скончыў аддзяленне скульптуры. Яна паступіла на кераміку. Як добра, што яна паступіла на кераміку. З гліны можна ляпіць на любой мове. Нават моўчкі...

Выкладчыца філасофіі горача зэўнівала іх, што яна самы што ні ёсць сапраўдны дыялектык, і, карыстаючыся тым, што напярэдадні экзамена наўрад ці хто будзе з ёю спрачацца. Метадычна даводзіла, што ці не ўсё роўна, якія герб і сцяг. І што філасофскія тэрміны немагчыма перакласці на беларускую мову. А Алесі ў адчаі мроілася планета, не планета, дык востраў, горад, вёска, рэзервацыя ў рэшце рэшт, дзе ў краме, і на пошце, і ў паліклініцы можна і трэба гаварыць па-беларуску. І ніхто цябе не абразіць, не збэсціць, не давядзе да слёз. У рэшце рэшт, індзейцы ж захавалі ў гэтых сваіх рэзервацыях сваю культуру. А потым яна ішла ў майстэрню і ляпіла сваю рыбіну, вялізную гліняную рыбіну з бездапаможна разяўленым ротам...

...З тралейбуса яе выпхнулі ў слотны, калючы змрок...

А назаўтра на лесвіцы Акадэміі мастацтваў ёй насустрач — той самы ліловы плашч, салодкі язмін парфумы. І звонкі дзявочы голас, той самы, з тралейбуса...

— Алеся, прывітанне! Ты мяне, пэўна, не пазнаеш! Няўжо я так змянілася?

— Віка?

Гэта сапрвўды была Віка, Віка Кукса, яе аднакласніца. Але ж яна гаворыць па-беларуску. Дзіўна. І што яна робіць у Акадэміі?...

— А я цяпер тут вучуся. На аддзяленні мастацтвазнаўства. Завочна. І ты тут таксама? Вучышся. ці, можа, ужо працуеш?

— Вучуся. На кераміцы.

— Я ведала. Ведала, што ты абавязкова будзеш тут вучыцца! Я цябе так часта ўспамінаю... Мы ж, дурні, з цябе ў школе смяяліся. І. Ведаеш. Як цябе называлі? “Тармазнутаю”! Я ж тады не ведала, хто твой бацька... Уяўляю. Якімі вачыма ты тады на нас усіх глядзела?! Уяўляю. Каб не “Талака”, яб пэўна дасюль засталася сляпым кратом. А цяпер ведаю, што трэба рабіць... Я сёлета цэлыя два класы сваім дзецям у нашым мікраараёне выбіла. У дзвюх школах. На выбар. Цэлы месяц з плакатам каля райана прастаяла, але выбіла! Праўда, у класе тым дзеці ўсё роўна на перапынках па-руску гавораць. І мае. Гляджу, пачынаюць пад іх падрабляцца... А ў цябе дзеці ёсць?

— Я не замужам.

— А ў мяне муж скульптар. Генік Лозка. Можа, чула?

Алеся адчула, што чырванее. Непрыемна.

— Ведаю. Я з ім у вучылішчы разам вучылася.

— Праўда?! Я яму толькі што ў майстэрню званіла. Заказ яму новыдалі: новыя гербы трэба для пасольстваў нашых за мяжою зрабіць. Некалькі тысяч долараў за кожны абяцаюць.Ты запішы наш тэлефон. І заходзь. Абавязкова заходзь.

Алеся запісала. З абсалютнай упэўненасцю, што не пазвоніць і не зойдзе ніколі. У яе наперадзе ізноў метро, перапоўнены тралейбус.

У анёла-ахоўніка
Крылы спякліся...

— Наступны прыпынак — школа.

Усю дарогу прыпынкі абвяшчаюць па-беларуску. Як хацелася падарыць гэтай упартай звонкагалосай дзяўчыне за рулём кветкі! І самой загаварыць па-беларуску. Але — не. Алеся, як заўжды, спыталася нейтральна:

— Вы выходзіце?

— Так.

Знаёмыя светлыя вочы. Вытанчаны. Крыху нервовы твар. Захлынуцца можна. Гэта ж той самы паэт, бард, які спявае такія праніклівыя, пранізлівыя песні. Яна ж пазаўчора была на ягоным вечары.

Тралейбус спыніўся. Яна выйшла. Ён падаў ёй руку. Мяккая, моцная яна ў яго. Як ва ўсіх сапраўдных творцаў. Гэта ён спяваў пра анёла. Нешта светлае і трывожнае.

— А вы, даруйце, не Алеся?

Няма моцы дыхнуць... Яна не можа пераадолець сваю немую роспач.

Спадар Паэт, прашу Вас, пачакайце. Не знікайце з яе жыцця. Не раставайце ў гэтым слотным восеньскім змроку. Яна зараз выплыве. Яна загаворыць. Яна заспявае... Яна ж так хоча жыць...

**“ВОЖЫК”**
**Таямніца нашай душы.**

*— Вожык, ты чаму калючы?*
*Гэтак колешся балюча?*
*— Бо ваўкі, лісы, мядзведзі —*
*не найлепшыя суседзі!*
*(З беларускага “Буквара”)*

Ягоныя скульптуры, здавалася, былі не вылеплены, а высечаны, нават з такіх падатных, мяккіх гліны і пластыліну. Іх лёгка было пазнаць па неўтаймоўным рытме вострых вуглоў і ламаных ліній — насаджаныя вертыкальан косы касінераў, стрэльбы паляўнічых. Ды што там, нават паэт, нават Максім Багдановіч у яго цалкам пазбаўлены мяккасці і разважнасці — ен помнік, а суцэльны камяк жывых нерваў. “Ён больш падобны на цябе самога, чым на Максіма Багдановіча...” — казалі ўсе ў адзін голас. Рэзкі паварот галавы, злом локця,імклівыя музычныя пальцы — усё, усё падначалена рытму “Пагоні” — акурат гэтага і ніякага іншага верша... І яна ж, гэтая “Пагоня”, таксама ляціць, адлятае да зор.. Адсюль, з зямлі зоры здаюцца халоднымі і калючымі.

Ну і хай сабе. Ён, Рыгор Кляшчук, ніколі, нават у далёкім маленстве, ніколі н емарыў быць касманаўтам. Зоркі на тое і зоркі, каб заставацца далёкімі і недасяжнымі...

І раптам, для сябе самога нечакана, ён прывёз з бабулінай, цяпер ужо, пэўна, назаўжды закінутай, дамоўкі яблыневую галіну, без кветак, без лісця, без кары, — адно гладкае, як камень. Маўклівае дрэва. Мама злавалася, казала: “Не бяры, у нас жа радыяцыя! Нам што, мы старыя, нам паміраць, а табе ж яшчэ жыць і жыць. У цябе ждзеткі быць мусяць...” А ён не паслухаўся, і вось выразаў з той яблыневай галіны гэтую аголеную дзяўчынку з распушчанымі, вакол станіка абвітымі густымі косамі... І цяпер сядзіць у майстэрні і шліфуе, шліфуе яе да самазабыцця. Дзяўчынка-ікэбана.Яблынька ў мніяцюры. Ёй яшчэ квітнець і квінець... І чаго б гэта ён раптам з гліны, каменю перайшоў на дрэва... Такое цёплае, мяккае, жывое... І чаго б гэта...

Гэтаю вясною ён перастаў бачыць сэнс у амаль штомесячных “ходках” на мітынгі. І настаўнк, ягоны любімы настаўнік беларускай мовы і літаратуры, з якога ўсё і пачалося, цяпер вядомы паэт, з’ехаў за мяжу. А.В. Наш шаноўны А.В..

А.В. расказваў ім пра мову, як пра жывога чалавека, як пра жанчыну расказваў. І хто паверыць, што яны ў вясковай школцы ведалі не толькі пра “трасянку” і “афіцыёз”, але і пра “тарашкевіцу”. І мяккі знак уяўляўся ім дыяментам у яе кароне. А вечар Максіма Багдановіча... У якім гэта класе было? Сёмым ці восьмым? Яны са свечкамі ўзыходзілі на другі паверх, яны блукалі, як зоркі ў Сусвеце. І там, у аздобленым бялюткімі вышыванымі ручнікамі кабінеце, чыталі вершы і слухалі песні з песнямі Данчыка. Длёкі і недасяжны, зорны голас. Гэта А.В., убачыўшы, як ён, Рыгор, малюе, сам завёз яго ў сталіцу, пазнаёміў са сваім сябрам-мастаком, дапамог паступіць у мастацкую вучэльню, а потым і ў Акадэмію мастацтваў. Не, у акадэмію ён паступаў ужо сам, ён ужо ведаў, што будзе скульптарам...

Настаўнік таксама перабраўся ў сталіцу, выдаў некалькі цудоўных зборнікаў вершаў, а цяпер вось з’ехаў за мяжу. З’ехаў, нават не развітаўшыся.

І цяпер у ягоных, Рыгоравых руках толькі вось гэтая яблыневая дзяўчынка. Васковая свечачка, поўная нязбытнай асалоды сама дасканаласць...

І тут раптам званок, рэзкі званок. І на парозе сястра, яго родная сястра Васіліна. Якая цяпервучыцца ў педвучылішчы і просіць хоць на людзях называць яеЛінай... Зноў стрыжаная, рудыя фарбаваныя валасы тырчаць у розныя бакі. Вочы падведзены рэзка, з выклікам, всны і пазногці яркія, “вырві вока”... а з ёю дзве пажылыя жанчыны. Як і яна, яркія, фарбаваныя, у скуранках — у адной куртка, у другой плашч. У такую гарачыню — у скуранках... Ну проста камісаркі. Яны зайшлі і з аднолькавымі, ненатуральнымі, нацягнутымі ўсмешкамі, ад якіх яго заўжды проста блажыла, сказалі:

— Здравствуйте!

І Васіліна. якая з ім, і з ягонымі сябрамі гаварыла хаця б на “трасянцы”, “зачірікала” таксама ненатуральна, нацягнута, няшчыра. Яна, як гаспадыня, пачала вадзіць жанчын па майстэрні, ад працы да працы, пачала тлумачыць, тлумачыць так, як яна сама разумела. І пра вылеплены з пластыліну вастраверхі гатычын касцёл, і пра выразаныя для гэтага касцёла з дрэва скульптуры святых, і пра Маці Боскую, т пра касінераў, і пра вершніка з мячом, і пра... Ён маўчаў, схаваў пад стол яблыневую дзяўчынку і. Не ведаючы, дзе падзець рукі, у рэшце рэшт склаў, сашчапіў іх ан грудзях і ўжо гатовы быў адключыцца, думаць пра сваё. Але Васіліна падвяла іх да Максіма Багдановіча...

— Это Богдановіч? Совсем не похож...—як яму падалося, скептычна, нават грэбліва сказала тая, што была ў доўгім скураным плашчы.

І ён  не стрымаўся:

— А вы што. Былі з ім знаёмыя?

— Нет. Но я же відела его на фотографіі.

— А можа, гэта былі не ягоныя фатаграфіі...

А далей... Далей пачлося рэзкае і непрыемнае. Ён загаварыў сам. Ён пачаў расказваць ім пра Мінск, пра іхні ж Мінск, пра Нямігу, пра Траецкую гару...

— Як. Вы ўсё жыццё пражылі ў Мінску і не ведаеце, дзе занходзіцца Траецкая гара?! Ды як жа вам не сорамна! Дарэчы, а дзе вы працуеце?

— Мы педагогі...

— Ах, дык вы яшчэ педагогі! Чаму ж вы можаце каго навучыць?

— Нам не было кому рассказать обо всем этом...

— Ды я сам, я прыехаў з вёскі і сам ывучаў гісторыю, і Беларусі, і Мінска... А вы, педагогі, мінчанкі, і... Сорамна, проста сорамна!

Васіліна, апараная ягоным крыкам, знямела. Потым паспрабавала яго спыніць. Але ён ужо не мог супакоіцца і, пырскаючы слінай, размахваючы рукамі, не гаварыў, а крычаў пра тое, што калі нават педагогі не ведаюць і не хочуць ведаць сваёй гісторыі, яны ніколі не выхаваюць патрыётаў, проста нармальных людзей не выхаваюць. Яны здольныя выхаваць толькі манкуртаў!

Жанчыны зачырванеліся, падціснулі вусны і, не развітаўшыся, пайшлі.

Васіліна вярнулася ў майстэрню літаральна праз нклькі хвілін, кінулася на канапу і расплакалася. Яна ўсхліпвала і, глытаючы словы, усё спрабавала ншта яму растлумачыць...

— Што ж ты нарабў! Жорсткі, бессардэчны! Ы гэта ж загадчыца і метадыст з таго садка, уды мяне хацелі ўзяць на працу. Яны ж проста разгубіліся... Ты б чуў, як іх распякала інспектарка з райана за тое, што планы дасюль пішуць па-беларуску! Тыб чуў. Ды ў Мінску гэта можа адзіны садок, дзе сёння вывучаюць беларускую культуру, дзе ёсць “Белврусая хатка”, вышываныя ручнікі і гліняны посуд, дзе гурток беларускай мовы працуе, дзе віктарыны па гісторыі і культуры праводзяць, дзе дзецям нават пра твае творы расказвалі... А ты...

Рыгор стаяў і не ведаў, як, чым яе супакоіць... Ды не, ён ужо нічым не зможа яе супакоіць. І тыя пайшлі пакрыўджаныя. Гэта ён — ад бяссілля, пеэўна ж — ад уласнага бяссілля, сабе самому ён можа прызнацца ў гэтым.

Сабе самому і больш нікому. Але як, што цяпер рабіць?.. А.В.. так, гэта А.А. на нейкай вечарыне казаў, што дзеячы беларускай культуры, адраджэнцы, мусяць адчуваць сябе сёння не індзейцамі, для якіх трэба ствараць рэзервацыі, а атамамі, у якіх закладзена наймагутная сіла...Вось-вось, нервы ў яго сапраўды атамныя, і выбухнуў ён, як Чарнобыль...

Змяркалася. У майстэрню, хваля за хваляю наплывала задумлівае шэра-блакітнае вечаровае святло. Было ў гэтым святле нешта незямное, нешта касмічнае. І ягоныя скульптуры ператвараліся ў здані, строгія, калючыя здані. А Васіліна ўсё не падымалася, хліпала, ледзь чутна, але ўсё яшчэ хліпала. І ён стаяў, абапёршыся на стол: сашчапіўшы на грудзях рукі, не маючы сілы падысці, суцешыць, папрасіць прабачэння... А можа, ён проста баіцца, што Васіліна не захоча яго слухаць, зноў расплачацца, скажа яму нешта рэзкае, крыўднае, чаго ён ёй ужо ніколі не даруе...

Таму ён стаяў і ўспамінаў, як адўным-даўно, у маленстве, як бы нават у нейкім іншым жыцці, яны з Васілінаю, Васілінкаю, — у кароценькай сукенцы, з дзвюм смешнымі, тоненькімі коскамі, — пайшлі разам у лес па грыыб і сустрэлі вожыка. Ён чмыхаў, хаваў свае бліскучыя вочкі, сваю ыску ў іголкі, скручваўся ў клубочак, але яны ўсё роўна ўзялі яго ў шапку і прынеслі дамоў.

І калі вожык праз нейкі час усё ж даверыўся ім, калі ён піў са сподачка малако, яны з Васілінкаю паспрабавалі яго пагладзіць... І вожыка, аказваецца, можна пагладзіць, калі ён не натапырвае іголкі...

— Ты памятаеш, — Рыгор ажно не паверыў, што Васіліна паднялася, яна ўжо сядзела на канапе, — ты памятаеш, як мы з табою хадзілі ў лес і прынеслі дадому вожыка? Я. ведаеш, пра што падумала? Навошта тады мы занеслі яго назад, у лес? Усё роўна той лес потым зсыпала радыяцыяй... І што там цяпер робіць наш вожык? За калючым дротам... Можа, аблез зусім. Аблазяць жа ад радыяцыі сабакі, можа, і вожык аблез... Уяўляеш, лысы вожык, без іголак, зусім не колецца...

— Каб вожыкі не калоліся, яны б даўно вымерлі. Нельга вожыкам не калоцца. Нельга...

— Ты чаму не голішся? Зарос, як бомж...

Васіліна запаліла святло, яна, задвалася, ужо перастала злавацца. Але цяпер яму як ніколі хацелася, ён быў гатовы на каленячх прасіць  у яе прабачэння. І яшчэ... Ён зараз пакажа... Ён зараз ёй першай пакажа тую дзяўчынку.якую ён выразаў з атручанай радыяцыяй яблыневай галіны...

**ВАСІЛЬ І ВАСІЛІНА.**
**Легенда вяртання імёнаў.**

Гэтых яркіх, таленавітых дзяўчат-жывапісцаў у дзевяностыя гады добра ведалі ў нашым мастацкім свеце. Рэдкі выпадак — прырода падарыла кожнай з блізнят моцны, непаўторны талент. Я нават у свой час пісала пра іх у “Маладосці”. Як зараз перад вачыма іх дыпломныя карціны—Ларысін зімовы ранак з крамяністым ружовым небасхілам, казачна заінелымі дрэўцамі і надзьмутымі як шарыкі, снегірамі, і Святланін задумлівы зноў жа зімовы лясны надвячорак з мяккімі ліловымі ценямі ад разлапістых ялінаў, пухнатых, заснежаных… З-пад тых ценяў было не выбрацца…

Ліловым, імглістым снегам засыала і шапку, і паліто. І нават пальчаткі, мае мякенькія шэранькія пальчаткі… Ніводная сняжынка не паўтарала сваю сястрычку. У кожнай была свая, непаўтораня карункавая спаднічка, свая ўласная манера рухацца, свой адметны шэпт… Я стаяла на прыпынку, разглядала гэтыя ліловыя ў вечаровым ятле сняжынкі і ніяк не магла пазбыцца прыкрасці, пакутвала ад таго, што сёння пакрыўдзіла, моцна пакрыўдзіла Ларысіых дзяцей. Я не змагла, у мяне не атрымалася, а яны ж спецыяльна папрасілі мяне перад урокам літаратуры, нават свае першыя ў жыцці новенькія пашпарты паказалі і папярэдзілі, што іх трэба называць па-новаму — Саша і Маша. Я згодна кіўнула, а пачала правяраць па журналу, хто ёсць, і чыста механічна сказала, як і раней: “Акаеў Асламбек — ёсць, Акаева Мар’ям — ёсць…” І адразу, нават не ўбачыла, адчула, што і ў аднаго, і ў другога ў вачах, у іх цёмных, па-ўсходняму прыплюснутых вачах, на іх смуглявых тварыках застыла безнадзейнасць. Скразняк ляпнуў дзвярыма. Душы зачыніліся. А ў класе хтосьці хмыкнуў. Маўляў, перапісвай-не перапісвай імя, бацькоў не перапішаш. Ні Асламбек, ні мар’ям не паправілі мяне. І я не паправілася, не папрасіла ў іх прабачэння. Урок скончыўся. Урокі скончыліся. І вось ужо ранні снежаньскі вечар, і я стаю на прыпынку, мерзну, чакаю аўтобуса, у які яшчэ паспрабуй упіхніся… Саша і Маша… Значыць, Ларыса вырашыла для сябе качаткова, больш не паедзе ў Казахстан, і дзяцей туды не адправіць.

А пачыналася ж усё так рамантычна. Апошняя інстытуцкая летняя практыка праходзіла ў Ларысы і Святланы на возеры Мядзел, у тых мясцінах, дзе душа абрываецца ад хаарства, велічы і гарманічнага сугучча ўсяго наваколля. Працавалі яны, эцюды пісалі ў насалоду, увечары пайшлі на танцы ў вясковы клуб. А там салдацікі. Ці тое ў госці да каго прыехалі, ці з вайсковай часці прыйшлі.

Святлана, яе, здаецца, армянін нейкі запрасіў, танец не датанцавала, збегла дамоў, а Ларыса з Асламбекам і адзін танец, і другі, і трэці пратанцавала... І не гаварыў ён асабліва нічога, толькі глядзеў, неяк захоплена, знямеўшы, і чулліва, мякка так руку пацiскаў, а потым прыгарнуў, павёў па вуліцы, пра зоркі, стэп нешта гаварыў, заварожваў... Акыны та сяваюць... Што бачу, пра тое кажу, шапчу, тым зачароўваю... Вусны ў яго былі мяккія, пругкія, і столькі пяшчоты ў шэпце... Так пад ветрам у бязмежным стэпе сцелюцца срэбныя травы, плача кавыль...

Ларыса ўпомніла пра тое, што іх мама ў студэнцтве ездзіла н ацаліну, у той самы казахскі стэп, бязмежны, як акіян, непадуладны чалавеку. Неўтаймоўны... Там і з бацькам яны пазнаёміліся. Той у іх камандзірам ці брыгадзірам быў.

Я Ларысіну гісторыю ведаю ад сваёй сяброўкі, якая вучылася з Ларысай і Святланай на адным курсе.

Калі Ларыса абараняла сваю дыпломную карціну, яна ўжо з'ездзіла да таго салдаціка, Асламбека, у алма-Ату, пазнаёмілася з яго бацькамі, дарэчы, культурнымі, адукаванымі людзьмі, настаўнўікамі. Для тых вялікім гонарам было, што сын бярэ ў жонкі славянку, рускую ці беларуску, гэта не ўдакланялася, ды яшчэ дзяўчыну з адукацыяй, мастачку. Падвосень сыгралі вяселле. Асламбек нейкі час жыў тут, спрабаваў уладкавацца на працу. А Ларыса ў адным з пакойчыкаў знятай імі кватэры (бацькі яшчэ былі жывыя) пісала свае пейзажы, нацюрморты, экспанавала іх на выстаўках, а калі і прадавала. У самым канцы васьмідзесятых еўрапейцы раптам адкрылі беларускае мастацтва. Калі прыязджалі, то і ў мастацкім салоне, і каля салона куплялі шмат і за добрыя грошы. Ларыса да самых апошніх дзён, пакуль трэба радзіць, стаяла каля салона, прадавала. А Асламбек усё спрабаваў уладкавацца на працу. І перад самым нараджэннем дзяцей, а ў Ларысы, усе пра гэта ведалі, мусіла нарадзіцца двойня, дык вось, перад самым нараджэннем дзяцей, у верасні, Асламбек паехаў да бацькоў. Сказаў, што там, у Алма-аце ягоны сябра абяцаў яму шалёныя грошы за нейкую ростую паслугу. Ён з'ехаў, а літаральна за дзень да родаў памёр Ларысін бацька, вядомы архітэктар. І з роддому Ларысу забіралі мама і Святлана. Яны настоялі, каб яна перабралася да іх. А Ларыса, атрымаўшы чарговы, позны абяцанняў ліст ад Асламбека, запісала дзетак так, каб іхнія імёны спалучаліся з прозвішчам. Асламбек — у гонар казахскага бацькі. Мар'ям — у гонар бабулі... Яе калісьці самую надта ўразіла,

што маці Асламбека завуць Мар’ям, што абазначае “затканы кветкамі дыван”. Дзе ж знойдзеш для дзяўчынкі прыгажэйшае імя?..

Потым перапіска неяк рэзка абарвалася. Трубку на тым канцы провада на казахскім баку ніхто не браў. Змянялі назвы гарады, пераносіліся сталіцы, разам з енспакойным часам вандравалі людзі. Ларыса так і не ведала, ці зарабіў Асламбек абяаны сябрам вялікія грошы, ці яны ў імгненне, як і назапашаныя за жыццё яе бацькамі на ашчаднай кніжцы , ператварыліся ў нішто... Трэба было гадаваць, ставіць на ножкі Мар’ям і Асламбека. Мама, якая трыццаць гадоў адпрацавала ў канструктарскім бюро, пайшла ў прыбіральшчыцы, яны са Святлаанй у чатыры рукі пісалі на кухі карціны. Праўда, зарабляць ім цяпер было няпроста. Каля салона гандляваць забаарнілі, а на новым, спецыяльна адведзеным для гандлю карцінамі месцы трэба было плаціць вялікія працэнты тым, хто лічыў сябе там за гаспадароў.

Урэшце рэшт, Святлана, каб дапамагчы сям’і, на лета з’ехала ў заробкі ў Польшчу. Казала, што збрала клубніцы, трускалкі... А чым ёй на самай справе давялося займацца, хто ж ведае... Прыехала яна страшна зморана, нявеслая і цяжарная...

І Святлана нарадзіла двойню. Хлопчыка і  дзяўчынку. Летась позняй восенню  Ларыса і Святлана страцілі маці. Ведаю пра гэта, бо Мар’ям і Асламбек адпрошваліся ў мяне на пахаванне бабулі. Здаецца, цяпер яны так і жывуць у адно йкватэры — дзве мастацкі і чацвёра дзяцей. Выкладаюць — адна ў мастацкай школе, другая — у вучылішчы, вядуць заняткі ў мастацкай студыі. Калі-нікалі нават выстаўляюцца ў Палацы мастацтва. У Саюз мастакош уступілі. У даведніку яны, праўда, пад рознымі прозвішчамі. Адна — пад дзявочым — Святлана васілёнак. А другая пад мужавым, ці не, яны ж ужо пэўна даўно разыйшліся, значыць, пад былога мужа прозвішчам — Ларыса Акаева. Вось такая гісторыя...

Назаўтра быў выхадны. Празрысты, ружовы ранак, з заінелмі карункавымі дрэвамі і снегірамі, як на дыпломнай карціне Ларысы. Я спяшалася на рынак і зноў з прыкрасцю згадвала свой учарашні антыпедагагічны ўчынак. Выбрала мяса, каўбасу, прыцэньвалася да марынаванага часныку. Глядзела не на твары, на тавар. Е паспела сказаць, колькі ўзважыць, нехта тузануў мянеза рукаў.

— Не купляйце ў іх, я вам так дам яшчэ смачнейшага...

Павярнулася — Ларыса, Акаева. У сціплай зімовай куртачцы і вязанай шапачцы.

— Ларыса... Дзень добры Вам! А я, не паверыце, ужо два дні Вас згадваю. Учора незнарок дзяцей Вашых пакрыўдзіла. Заўтра буду ў іх прабачэння прасіць!

— Ды ладна! Як Вы ўжо можаце іх пакрыўдзіць! Яны Вас так паважаюць, любяць... Дык, праўда, пайшлі да нас. Не купляйце ў гэтых...

Я падняла вочы на прадаўшчыцу. І яна, і яе суседкі побач былі не з нашых. Хутчэй за ўсё аденкуль з Каўказа, ці Сярэдняй Азіі. У хустках, без якіх мусульманкі ніколі не выйдуць на вуліцу.

Па дарозе я павінавацілася за тое, што не выканала просьбуЛарысіных дзяцей, не назвала іх па-новаму, як яны прасілі. Ларыса толькі сумна ўздыхнула:

— Ды я іх папярэджвала, што ніхто іх так адразу не назаве. Прывыкнуць трэба.

У Ларысіных празрыстых шэра-блакітных вачах стынуў боль. Не крыўда, боль.

— А чаго вы арптам вырашылі імёны мяняць? Мне дык падабалася. Асламбек, Мар’ям... — працягнула я гаворку, калі мы ўжо сядзелі на іх утульнай, чысценькай кухні.

— Гэта ўсё Святлана... — ціха сказала Ларыса, разліваючы гарбату ў празрыстыя featured рознакаляровыя кубкі. У мяне сіненькі, уЛарысы—чырвоны. — Пасля мамінай смерці, — дадала яна амаль шэптам і адвярнулася да вакна.

Потым раптам таропка прысела, дастала з шафкі, паставіла на стол закатаны паўлітровы слоік марынаванага часныку. Галовачка ў галовачку, зубчык у зубчык.

— Вось. Мама летам шмат нарабіла, а прадаць не паспела...

Я палезла ў сумку па кашалёк. Але Ларыса зараз жа супыніла мяне:

— Не-не... Маме ельмі падабалася, як Вы пра нас калісьці напісалі ў часопісе. Яна б Вам таксама не прадавала б, так дала... Хочаце я фотаздымкі Вам маміны пакажу?

Быў той момант, кал іне адмаўляюцца. І я, хаця разумела, што затрымаюся ў ларысы надоўга, і мая сям’я застанецца без абеду, не здолела перапыніць яе шчырасць. Тым больш, што была вінаватая перад яе дзецьмі.

Ларыса села побач і пачала гартаць іх сямейны альбом.

— Гэта мамаз маёю бабуляй у эвакуацыі, у Казахстане. Цяжка ім там было, але, галоўнае, не бамбілі. Бацьку малога ўвогуле ў Германію звезлі. Як скаціну, у таварных вагонах. На баўэра нейкага там працавалі. За што ім малым такое?! Хтосьці ваяваў, а яны без

віны вінаватыя, пакутавалі. А гэта мама, уяві сабе, там сама, у казахскім стэпе, на цаліне. Калі ў інстытуце вучылася... Яны там з бацькам і пазнаёміліся. Ён у іх камандзірам атрада быў. Уяўляеце, у адным інстытуце вучыліся, а пазнаёміліся на цаліне...

— Дык вось чаму Вы за казаха замуж пайшлі, пацягнула туды, дзе бацькі пазнаёміліся, — усміхнулася я.

— Можа быць... Хто ведае, — уздыхнула Ларыса і працягвала: — А гэта мама ў сваім бюро. Яна ў канструктарскім бюро трыццаць гадоў адпрацавала, столькі дамоў у Мінску праектавала. А бацька ж наш архітэктарам быў. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі. Вось паклала н апамяць ягоную ашчадную кніжку. Усё жыццё яны з мамаю адкладвалі грошы. Каб нам са Святлааню быў пасаг. Колькі тут... Вунь, зірніце — шасцьдзесят тысяч... Па тым часе шалёныя грошы. І ўсё прапала. А мама пасля бацькавай смерці прыбіральшчыцай працаваць пайшла, каб намдапамагчы, і на дачы шчыравала. Пяць кіламетраў ад электрычкі пешкі. Калі горача было, палівацьтрэба, дык штодня ездзіла. Спачатку пад'езд вымые, двор падмяце, а потым на дачу... Вырошчвала цыбулю, укроп, капусту, часнык. Потым прадавала. Добра было, калі ля магазінаў мжна было стаяць. І не далёка, і хутка прадаваласся. А ў апошнія гады міліцыя ганяць пачала. Ды каго? Сваіх жа... Я нядаўна ўбачыла, як жанчыну з мяшочкам бульбыдва міліцыянеры маладзенькіх ад магазіна гоняць, не стрымалася, кажу: “Што ж вы, хлопцы, азербайджанцаў на рынку не правяраеце, не ганяеце?” А яны вінавата так мне: “Тых паспрабуй паганяй...” Мама і на рынак спрабавала прыладзіцца. Ды там мафія... Прыгледзьцеся, нават летам цяпер цыбулю і бульбу азіяты прадаюць. Нашыя толькі, калі дождж, на адкрытых прылаўках раскласціся могуць... А так, сорам сказаць, пажылая жанчына, якя ў маленстве вайну перажыла, немцы за свет ганялі, потым сумленна працавала, грошы эканоміла, на ашчадную кніжку адкладала, а дзяржава іх у яе ўкрала, дык гэтая жанчына, можа. настаўніца ці інжынер, яна цыбулю са свайго агароду прадаць не можа. А “гасцям сталіцы” усё можна. Мама наша, ведаеце, як памерла? З крытага рынку яе прагналі. Спачатку міліцыя, а потым гэтыя. За прылаўкам, у якіх Вы сёння купляць часнык хацелі, мужыкоў пазвалі.

Ну, яна да магазіна пайшла. І адтульпапрасілі. На прыпынку прыладзілася — а там жа вецер наскрозь прадзімае. Мы са Святланай пра гэта ўсё даведаліся ўжо, калі яна ў бальніцы ляжала. Святлана мне тады сказала: “Калі імёны дзецям не памяняеш, не сястра ты мне!” Чуць не мож анічога, што з азіяй ці Каўказам звязана. Кажа: “Гэта яны нашу маму забілі.” Хаця я думаю, што гэта мы самі сябе

знічтажаем. Нашая ж міліцыя, нашая ўлада. Усім у нас добра жывецца, апроч нас саміх. Госці ж нашыя, глядзіце, і школы ўжо свае паадчынялі, і культурныя цэнтры. А дзяцей... Мы дваіх ледзь накарміць мжам. А яны па пяцёра-шасцёра гадуюць. У Марсэлі вунь ужо арабаў больш за французаў. І ў нас — кітайцы, карэйцы, азербайджанцы, армяне... Перакусіць захочаш, табе замест дранікаў — шашлык, хычыны, пахлава. Святлана сваіх малых у гімназію прэстыжную ўладкавала. Дык і там з імі ў класе і Ашот, і Заза, і Фаціма вучацца...

— Ну, затое ў нас у школе і Вітаўт, і Рагнеда, і Януш-Казімір... — не вытрымала, перапыніла я Ларысу.

— А са Святланеных смяюцца. Яна ж іх насуперак мне Васілём і Васілінаю назвала. Я некалькі разоў забіраць іх прыходзіла, дык у калідоры хто пачуе, як з імі па-беларуску гаворыш, перадражніваць за спіною пачынаюць, хіхікаюць. Я Святлане кажу, каб пераводзіла да вас. У беларускую гімназію. У вас жа таксама дзве замежныя мовы, праграма гімназічная. Налета, пэўна, будзем прасіць Вас дапамагчы. Будуць яшчэ ў вас Васіль з васілінаю. Яны ж у яе выдатнікі, і музыкай займаюцца, малююць. І цяпер вось разам са Святланай у студыю паехалі. І мае з імі.

Ларыса акуратна запакавала слоік з часныком і сумна ўсміхнулася:

— Святлана мяне падбівала, каб я адразу сваіх не Машай і Сашам, а Марысяй і алесем запісала. Але няхай яны самі. Потым. Калі час зменіцца.

... І быў дзень, і была ноч... І было бязмежнае жытняе поле... Не, бязмежным яно здавалася толькі васількам, валошкам, што немаведама дзеля чаго пасяліліся сярод калосся. Сінія кветачкі, некалькім дзесяткам з якіх надт аж пашанцавала. Спачатку яны трапілі ў рукі да прыгожага моцнага хлопца, які склаў з іх букет для сваёй каханай, потым тая пяшчотнымі сваімі пальчыкамі звіла з іх вяночак. І тады, ужо на яе галоўцы васількі ўбачылі, што ў жытняга поля ёсць край — зубчасты бор, а там, у бары гарыць вогнішча, ля якога так цёпла, што высыхае, выпараецца раса. А за борам — рэчка, імклівыя хвалі якой так прыемна закалыхваюць, песцяць і нясуць, нясуць да назнаных мясцін, у бяскрайнюю далеч...

## КАЛЯДНАЯ ПАШТОЎКА.
## Лёгкі ўздых.

Я зняла гэты пакой перад самым Новым годам. Дакладней, перад каталіцкімі Калядамі, тады шчэ не пазначанымі ў афіцыйных календарах. За сцяною жыў гаспадар — ціхмяны лысаваты дзядок з вечна слязлівымі вачыма і чырвоным, пасечаным воспінкамі носам. Атрымаўшы ад мянезадатак, ён за пару дзён да калядаў знік. А ў паштовай скрынцы, ключ ад якой дзядок аддаў мне разам з кватэрным. Назаўтра з’явілася бліскучая калядная паштока. З ялінкаю і пажаданнем па-англійску. Зваротны адрас: Санкт-Пецярбург (на штэмпелі яшчэ Ленінград), далей не разборліва.

Ніколі не чытаю чужых пісьмаў, але тут як усё адно хто наўмысна падштурхнуў, вымусіў мае вочы прабегчы тэкст. Дзіўна. Гэтаму майму “трасянкамоўнаму” дзядку нехта, ды не нехта, а пэўна ж жанчына пісала па-беларуску.

“Дзень добры, мілы Мікола!

З Калядамі цябе! Вось і мінулі мною самою загаданыя, наканаваныя паўстагоддзя да сустрэчы... Ня ведала, што так павернецца. Я некалькі разоў пісала да цябе, але ты не адгукаешся, і мушу ехаць да цябе. 24 сьнежня а 12 гадзіне буду ў Менску. Горада вашага зусім ня ведаю. Так што будзь ласкавы, сустрэнь!”

Далей цягнік, нумар вагона і подпіс “Твая Аліцыя”. І яшчэ водар... Ні з чым не параўнальны строгі, корсткі пах арабскае парфумы...

Я паклала паштоўку на халадзільнік. Але ні ўвечары, ні зранку дзядок не з’явіўся. І я пайшла сустракаць гэтую незнаёмую Аліцыю.

Як заўжды спазнілася. Дый добра, што спазнілася. Гэтым сляпучым зімовым поўднем я б нават добра знаёмую наўрад ці ўгледзела праз натоўп. Толькі мітусілася б ды перажывала. А так пакуль дабегла, народ уджо разышоўся, і яна стаял ана пероне адна. У нейкім строгага фасону даўгім прыталеным паліто не, капялюшыку з вуалеткай. Аглядалася, нервова прытупвала шнураванымі чаравічкамі. І параю ставалася яе лёгкае дыханне. Маладжавая чэхаўская дама. Толькі без сабачкі. Падбегла я. Усё той жа корсткі водар парфумы.

— Даруйце, вы Аліцыя?

— Так. А вы? — востры кары пагляд.

Я паспяшалася растлумачыць, што здымаю пакой у чалавека, якому, калі не памыляюся, адрасавала яна паштоўку. І паколькі гаспадара ўжо некалькі дзён няма дома, палічыла сваім абавязкам сустрэць яе.

— Як гэта міла з вашага боку, — крыху тэатральна павял аяна плячыма, —- Як гэта міла... я, ці ведаеце, ужо амаль пяцьдзесят гадоў не была на Беларусі, а ў Менску, у Менску, ведаеце, зусім першы раз. У Варшаве, Санкт-Пецярбурзе, Парыжы, Боне, Нью-Ёрку, нават на Гаваях была, а вось у Менску не выпадала...

— Даруйце, але ж Вы, як я зразумела, жылі калісьці на Беларусі...

— У Беларусі, так. Пад Наваградкам. Але адтуль бацькі адразу паехалі ў Варшаву, потым Парыж, Вена...

— А рэчы, дзе ж Вашыя рэчы? — апамяталася я, убачыўшы, што цягнік павольна рушыў далей.

— А навошта? Я ж усяго на адзін дзень. Дакладней, нават на ноч. А заўтра — ізноў у Санкт- Пецярург, на самалёт і ў Нью-Ёрк. Толькі вось выканаю тое, што калісь загадала і назад...

Я павяла яе да таксоўкі. А яна, не зважаючы на людзей, на залішне цікаўнага шафёра, не паўшэптам, выразна, уголас спяшалася падзяліцца са мною тым, што, подобна, даўно злежалася на ейнай душы. Думкі ж таксама, як рэчы, могуць крыху патыхаць нафталінам. Старэчыя думкі. Гэта знешне яна выглядала о'кэй!, а думкі, планы ў яе былі старэчыя...

— У мяне там, у Амерыцы, віла н аберазе акіяна. Яхта... Ведаеце, я сабе на смерць заказала цудоўную белую яхту з труною. Яе патопяць разам з маім целам. Так душы будзе прасцей выйсці на волю і лётаць: блукаць там. Дзе ёй хочацца... І вось сюды... Часцей за ўсё яна будзе наведвацца сюды...

Таксіст ліхаманкава схапіў долары, якія ян ахутчэй за мяне дастала са свайго элегантнага саквояжа. І мы няспешна падняліся на наш пяты паверх. Гаспадара не было. Есці аліцыя адмовілася. Увесь вечар пілі гарбату. З клубнічным варэннем, з пячэннем, з амерыканскімі і нашымі цукеркамі, з вішнёвымі трубачкамі, якія госця везла з самога Нью-ёрку. Мы пілі гарбату і гаманілі. Распытваць у мяне не атрымалася...

— Не збівайце мяне, — перапыніла мяне госця, — Зразумейце, я нарэшце, праз столькі гадоў займела асалоду гаварыць па-беларуску. Мяне ж, душу маю, быццам з труны дасталі... Усё, што трэба, я раскажу вам сама...

Яе ясныя, зусім не старэчыя ясныя карыя вочы апяклі іскрынкамі. І я маўчала. Слухала. І хмялела ад вострага вытанчанага паху ейнае парфумы.

Аліцыя ( яна прасіла называць яе толькі па імені) паходзіла са старажытнага роду Ланеўскіх ( потым я праверыла, пра яго ёсць і ў

энцыклапедыі Бракгаўза і Эфрона). Аліцыя Ланеўская. Паненка, панначка, князёўна... Там, пад Наваградкам, у іх была вялікая, цудоўная сядзіба. Парк. З возерам, са стагадовымі ліпавымі прысадамі... Цяпер, пэўна, гэтаг анічога ўжо н езасталося. І тады, шчэ пры іх, наважваліся пасекчы дрэвы н адровы... Таму яна не паедзе, больш ніколі не паедзе туды, дзе нарадзілася, дзе прайшло яе маленства, дзе спазнал аяна каханне... Адзінае на ўсё жыццё.

А пяцьдзесят гадоў таму, роўна пяцьдзесят гадоў таму яны з Міколам, які толькі прыехаў працаваць у суседнюю вёску настаўнікам, яны з Міколам і яшчэ некалькімі хлопцамі ідзяўчатамі калядавалі... і зорка з сонечнае саломкі, і мех для дарункаў. Усё, як мае быць. І яны... Маладыя, натхнёныя, радасныя...

Го-го-го, каза,
Го-го, шэрая!

Упала козачка. Не шавеліцца. Дайце ж, дайце ёй чаго! Гарэлкі ці цукеркі? Яна, аліцыя, заўжды выбірала цукеркі. А хлопцы злавалі, ім хацелася пагрэцца. Зрэшты, усе дарункі яны аддалі тады высковым хлопцам і дзяўчатам. А Мікола, Мікола ўзяўся правесці яе да самага дому...

... Снег пад нагамі рыпіць, імгліцца, і зоркі такія буйныя, ясныя, так і зазіраюць у вочы, быццам пытаюцца: ну, чаго, чаго табе хочацца, дзеўка? Прасі! А Мікола, настаўнік гэты, такі пяшчотны, ласкавы... І што год, што паўстагодддзя, што стагоддзе... Усё адным, адзіным імгненнем, адзіным уздыхам здаюцца... І мроіцца: затрымаеш дыханне, і жыццё ў бясконцы сон ператворыцца. Салодкі, салодкі сон... І загадала, самой сабе вось на згубу, на вечнае блуканне за прывідам тым калядным загадала: “Вось каб і праз пяцьдзесят гадоў мы з Міколам на Каляды разам былі!”...

Раптоўна Аліцыя спахапілася, быццам сапраўды са сну таго калядннага сябе вырвала, апрытомнела:

— А можа камп’ютар памыліўся... І зусім гэта не ягоны, не Міколаў адрас?..

Што ж я магла ёй адказаць... Я ж і імені свайго гаспадара, уявіце сабе, не ведала.

Звечарэла. Аліцыя раптам заспяшалася на вуліцу. Чаго сядзець. Пройдземся.

На цэнтральных вуліцах правяралі святочную ілюмінацыю. І заінелыя ліпы ўздоўж праспекта, і годныя мажныя яліны на плошчах, і вясёленькія ялінкі ў вітрынах міргалі, засыпалі снег фантанамі рознакаляровых ценяў. Кавярня, у якую мы зайшлі пагрэцца,

зачынялася. І мы ледзь дапрасіліся стомленага, няветлага бармэна зварыць нам па кубачку кавы. І тут двое п’яных адціснулі, адштурхнулі нас ад стойкі. Назбіралі, натрэслі дробязі на адну цукерку, брыдка вылаіліся і пасунуліся на вуліцу. Аднаго я пазнала. Не памятаю ўжо, што шапнула тады Аліцыі, каб выйсці за імі следам.

Яны, абцёрханыя, у аднолькавых рудых аблавушках, быццам гнаныя ўсімі дварняжкі, дробным няпэўным подбегам, трушком нырнулі ў арку, у цёмны двор. Там, у паламанай, заснежанай альтанцы яшчэ выпілі, заелі снегам, якога абрусам намяло на столік. Смачна прычмокнулі і раскусілі на дваіх цукерку.

Аліцыя, нічога не разумеючы, здзіўленая, уражаная, дакладней, абражаная, павярнулася да мяне. Па тлумачэнне. А я не рашылася... сказаць гэтай дзівакаватай пані аліцыі, што вунь той... што дзеліць цукерку, і ёсць ... мой сусед... гаспадар... але ж ці яе ... Мікола?..

Зокі, як заўжды такою параю, былі буйныя, ясныя. Яны так і зазіралі ў вочы... І год, і стагоддзе здаваліся адзіным уздыхам.

**ФАТОГРАФ.**
**Фантасмагорыя.**

Ён сустрэў нас у восеньскім парку. Мы з суседскім Лёшкам ішлі катацца на кацеры.

Пакланіўся. Салодкая. Прытарна-салодкая, як усё на паўднёвым усходзе ўсмешка. Міргнула бліскаўка і фатаапарат праглынуў разам з Лёшкавым насцярожаным паглядам ягоную заношаную куртачку, падраныя чаравікі, дубчык, якім той збіраўся вудзіць рыбу. Зноў цягучы, гумовы паклон. Яшчэ адна ўдзячная ўсмешка. А Лёшка, здаецца, і н еўцяміў, што яго сфатаграфавалі. За фотаздымкі, як і за паветра, грошай з замежных турыстаў не бяруць. І я бзабылася на гэтага кітайца ці японца 9 якое гэта мае занчэнне!) у бліскучым пінжаку. Але праз нейкі час мне давялося да драбніц аднаўляць у памяці тую сустрэчу, і салодкую ўсмешку, і гумовы паклон.

Праз дзён дзесяць, я мушу быць дакладнай, Лёшка непазанвальна мяніўся. Страціў апетыт. І ў садку, і дома гадзінамі сядзеў пры вакне, абыякавы і адасоблены. Ягоная маці, якая па вечарах часта пакідала малога на мяне, узяўшы адпачынак, цяпер не адыходзіла ад яго ні на хвіліну. Лёшка ўжо не падымаўся. Дактары разводзіл ірукамі, загавораная бабкамі вада, якую цераз сілу ўлівалі яму ў рот, не дапамагала. Вядома, тады я не суадносіла хваробу з тою нашаю восеьскаю прагулкаю па парку.

І раптам у адной з тэлеперадач мой былы аднакурскік, а цяпер спецыяльны карэспандэнт у Малазіі перадаў надзвычайны рэпартаж:

“У мясцовым друку нядаўна з’явілася сенсацыйная аб’ява: “Усе, хто хоча працягнуць сабе жыццё, памаладзець, вылечыцца ад старэчых хваробаў, звяртайцеся да...” Не будзем называць ягонае імя. Вы ўсё адно наўрад ці выберацеся сюды дзеля сумніцельнага амалажэння. Але, як сведчаць газеты, ужо некалькі дзесяткаў чалавек сапраўды амаладзіліся і вылечыліся. Вось тут, у гэтым шыкоўным доме жыве чалавек, які вынайшаў сродак даўгалецця. Хто ж ён, маг, чарадзей ці шарлатан?..”

Далей я не чула, бо на экране, за спіною карэспандэнта мільгнула і застыла знаёмая прытарна-салодкая ўсходняя ўсмешка. Бліскучы пінжак. Фотаапарат. Ды гэта ж той самы фатограф! Значыць, ён н ез Кітаю, з Малазіі. Далей спрацавала мая падсвядомасць. Гэты фатограф звёз туды, у Малазію Лёшкаў фотаздымак. А што, кал іне проста дзеля цікавасці. Што ён робіць цяпер ля дома гэтаг амага ці чарадзея? Меладычна дзынкнуў шкляны званочак. Фатограф знік за дзвярыма.

Мой аднакурснік, адрас якога я адшукала праз тэлебачанне, зусім нечакана ўспрыняў усе мае прымхі ўсур'ёз.

— Ты не ведаеш гэтае краіны! Я сам ні ў што не верыў, пакуль не трапіў туды, пакуль не сутыкнуўся з такім... Мурашкі па скуры... Але гэта асобная гаворка. Калі ты ўпэўнена, што хлопчыку зрабілася блага пасля таго, як яго сфатаграфаваў гэты чалавек, трэба ўсё праверыць, — даводзіў ён мне па прыездзе ў Мінск. — Самі мы бяссільныя. Ні я, ні ты, на жаль, да яго з'явіцца не можам. Занадта маладыя. Як ні загрыміруйся, ён, чарадзей, адразу спазнае падман. Са мною едзе мама. Можа яна...

Я добра ведала гэтую жанчыну. Высокая, статная, з яснымі, нейкімі проста крыштальнымі вачыма. Настаўніца літаратуры, яна горача, натхнёна цікавілася беларусчынай, не прапускала ніводнае прэм'еры ў Купалаўскім тэатры (там мы з ёю калісьці і пазнаёміліся, і пасля спектакля доўга хадзілі па скверы, курылі і ніяк не маглі нагаварыцца, нацешыцца адна адною).

Я перадала аднакурсніку Лёшкаў фотаздымак і ўжо пад цяжарам нейкае ледзь усвядомленае сваёй віны штовечар хадзіла да суседкі, насіла хлопчыку апельсіны, бананы, нейкія адмысловыя самаходныя машынкі, спрабавала чытаць яму мае самыя любімыя з дзяцінства кніжкі. Усё дарма. Лёшку забралі ў бальніцу.

А праз два тыдні, я гэта добдр азапомніла, роўўна праз два тыдні мяне разбудзіў званок з Малакі.

— Ну, як там Лёшка? — нейкім не сваім, здаўленым, глухім голасам папытаўся аднакурснік.

— Даруй, Я некалькі дзён у яго не была.

— Павінна быць усё нармальна. І... з усімі астатнімі дзецьмі таксама павінна быць усё нармальна. Ты мела рацыю. Гэты фатограф служыў чарадзею. Ён звозіў са ўсяго свету фотаздымкі малых, а чарадзей праз іх перакачваў энергію ад дзяцей старым і нямоглым. І такім чынам лячыў і амалоджваў. І гэты шкляны званочак, ты чула яго у рэпартажы, абвяшчаў канец для адных і пачатак новага жыцця для другіх... але цяпер няма чаго баяцца. Ён больш нікому не нашкодзіць.

— Яго арыштавалі?

— Не. Яго больш няма...

— А фатограф?

— Фатограф, н ажаль, паспеў уцячы...

— Ну, а як твая мама? Гэта ж, эўна, усё яна? І праверыла, і...

— Падпаліла. Яна... цыгарэтаю падпаліла той дом... І яе таксама больш няма...

— Як?!

Але на тым канцы провада раптоўна дзынкнуў шкляны званочак і завісла глухое маўчанне... Потым зноў званочак і гудкі...

Далей усё было, як уцудоўна адзнятым галівудаўскім фільме. Хэпі энд. Забег Лёшка. Зноў вясёлы і бесклапотны. І ягоная мама папрасіла пабыць з ім, пакуль ян азбега еда краўчыхі.

— Вы ўяўляеце, учор апрачнуўся і сам саскочыў з ложка, паеў і пачаў прасіцца дадому. Дактары ў поўным трансе! — свяцілася радасцю мая суседка. — Ды каб жа адзін ён! Уяўляеш, там у суседняй палаце дзяўчынка ляжала, якая раптоўн астраціла зрок, дык тым самым ранкам пачала бачыць. Хлопчык, у якога ногі адняліся, пайшоў, бегае... Цуд! Проста нейкі цуд!..

Я не стала нічога казаць суседцы. Ды й цяпер, праз столькі часу рашылася напісаць усё гэта, бо... а раптам, крый Божа, з кім-небудзь здарыцца тое самае... Бо цяпер сама, гуляючы па парку ўжо са сваімі дзецьмі, заўжды насцярожана абмінаю лагодна-усмешлівых замежных турыстаў, якія спяшаюцца сфатаграфаваць нашых малых, ніколі не пакідаючы фотаздымкаў.

## АКСАМІТНАЯ КРОПЛЯ БАЛЬЗАМУ
### Настрой.

“Ліловае кола—сімвал няўдачы, срэбнае кола — сімвал дажджу...” — гэтая амаль што формула рэхам пульсавала ў кожным ягоным кроку. І гэта для яго, філосафа Алеся Коршака, бфло нязвыклым і рызыкоўным. Як нязвыклым і рызыкоўным быў і гэты лютаўскі дождж. І гэты, асветлены рознакаляровымі лямпачкамі слізкі мост па-над яшчждзе-нідзе сцятаю лёдам сцюдзёнаю безданню.

Дождж быў цёплы, з туманам, якраз такі. Які Алесь любіў. Выскачыўшы з аўтобуса, ён нават не стаў накідвацьна галаву капюшон, толькі рукі зануў глыбей у кішэні курткі. У дождж заўжды лепш думаецца, а яшчэ дождж разнявольвае і як бы адасабляе ад нуднае будзённасці, змывае з твару залішнюю сур’ёзнасць, клопатнасць і, можа. нават зморшчынкі, вяртае ў маленства, калі для яго, Алеся, як і для ўсіх ягоных сяброў, дождж без парасона быў самым жаданым госцем. Ён тады меней ведаў, але, здаецца, больш адчуваў. І былі цэлымі, былі пры ім усе ягоныя цацкі, і белы Мішка з бліскучымі вачыма, і вялізны драўляны грузавік кубікамі, які потым, калі пераязджалі на новую кватэру, бацькі на ягоных вачах спалілі. Нельга. Ніколі нельга выкідаць, тым больш паліць дзіцячыя цацкі. З імі разам беззваротна знікаюць усе дзіцячыя фантазіі, а значыць і прага тварыць, прага жыць, бо што ёсць жыццё без творчасці? Веды робяць людзей больш прагматычнымі і ... жорсткімі. Веды яшчэ не ёсць мудрасць. Той, хто, як яму здаецца, ведае больш за іншых, насуперак запавету старажытных, пасяляе ў чалавечых душах не надзею, а страх. І менавіта страх—найкарацейшы шлях у рабства. Грамадства, якое плодзіць рабоў — нараджае тыранаў. Бо менавіта з прыніжаных, абдзеленых чымсьці, запалоханых атрымліваюцца самыя жахлівыя дыктатары — тыраны.

На афішы каля цырка ашчэрыўся тыгр, н аспіне якога — лёгкая тоненькая дзяўчынка ў срэбным купальніку круціла бліскучае ліловае кола. І для самога сябе нечакана Алесь коршак купіў у першага ж, хто яму прапанаваў, білет і пайшоў у цырк.

Гэты раптоўны цёплы лютаўскі дождж, пэўна, напраўду вызваліў яго ад цяжару гадоў. Маленства, якое незыходна жыве ў нашай душы, мае чароўную сілу зусім нечакана — ад нейкае нязначнае драбніцы, ад нейкае мелодыі, спалучэння фарбаў, рознакаляровага святла, ці нават паху — пашырацца з ледзь заўважнае пулльсуючай кропкі да памераў сферы, надзімацца, як паветраны

шарык, і адасабляць ад сённяшняй безнадзейнасці. вось чаму нельга выкідаць дзіцячыя цацкі. Вось дзеля чаго варта хадзіць у цырк.

Звыклы цыркавы пах — пілавінне, коні — смурод стайні ператвараецца ў чароўны водар, аўру шчасця, і ты ўвесь у чаканні цудаў, у чаканні не будзённага, фантастычнага жыцця.

У бадзёрым цыркавым маршы ёсць незыходная туга, ёсць горыч, але ёсць і ўпартае дзіцячае жаданне пераадолець, перамагчы самога сябе, свае ўласныя страх і недасканаласць, і ёсць неадольнае парыванне здзейсніць самую недасяжную сваю мару... Па-над стракатым парадам-але, і аздобленымі мелодыяй “шолам-алейхем” кульбітамі гімнастаў, па-над “калінкаю-малінкаю” велажанглёраў і таннымі жартамі размаляваных рыжых клоўнаў алесь Коршак напружан ачакаў чагосьці... Па-над дрэсіраванымі пудзелямі і малпаю на поні, па-над паслухмянымі дзікабразамі і белымі мышкамі — па коле, па коле, па-над індыйскаю багіняй, якая ў шматколерным змроку. У шматфарбных пялёстках святла круціць адно, два, дзесяць бліскучых кругоў... І ейнае бездакорнае смуглявае цела, і роўнае мяккае кружэнне зачароўваюць, заварожваюць... Яна выслізгвае, яна нараджаецца з гэтае кветкі, з гэтага кокану бліскучых колаў. Яны злятаюць з ейнага цела, з ейнае шыі, рукі і растаюць у цемры. Нехта ловіць іх...

Чырвонае аранжавае, жоўтае, зялёнае, блакітане, сіняе. Ліловае... кола сарвалася і няўлоўнае, нейкім цудам апынулася ў ягоаній руцэ. Усе апладзіравалі. Думалі, так і трэба. Думалі, што і ён цыркач. А можа, гэта праўда? Вось ён, зусім блізка, нацягнуты надарэнаю пругкі, безнадзейн атанюткі гуж... І ён, Алесь, прыўздымаецца, адзін скачок, адзін лёгкі пералёт — і ён на пляцоўцы, ён на гужы, і замест ліловага кола ў ягоных руках доўгі шэст. Не, цяпер ужо позна. Ён ідзе без страхоўкі. І адчувае вастрыню гужа і кожную, налітую сілай, напружана сцятую мышцу. Крок, яшчэ крок... Насустрач чароўнай смуглявай багіні ў бліскучым ліовым купальніку. Яна сама ступае яму насустрач. І яна ідзе без страхоўкі. І гэта зусім небяспечна, але ён не можа пра гэта думаць, як не можа, не павінен глядзець уніз, саступаць... А яна не пайшла, яна ўзляцела і стала яму на плечы. Ап! Якім лёгкім быў цяжар, гэтыя ліловыя крылы. Вось і пляцоўка. Ён дайшоў. Ён пераадолеў старх вышыні...

Але там, унізе, ужо не арэна — клетка. І вакол яе з брандсбойтамі напагатове стаяць моцныя хлопцы. Яны з багіняй мусяць спусціцца ў клетку, па якой у нямой лютасці ходзяць, пырскаюць слінаю тыгры. Ап! І ліловая багіня кідае яму элегантны бізун... Ап! І ўжо тыгры адзін за адным ідуць, як толькі што ён, па

гужы, па тоненькай дошцы. Аксамітная поўсць і налітыя крывёю вочы... што чакаць ад іх у наступнае імгненне? А гэтая ўпартая смуглявая дзяўчынка прымушае скакаць іх праз вогненнае кола, стаяць на задніх лапах і нават падпяваць... Але класці галаву ў пашчу будзе ён, мужчына. І зноў ён адчувае, як наліваюцца сілаю, напружваюцца ўсе да адзінай ягоныя мышцы, і шалёная думка прыходзіць у галаву: "І чаго ж яны такія паслухмяныя?! Чаму дазваляюць нам, слабейшым, знушчацца з сябе?!" ... Ап! Бо мы, бо я магу пераадолець страх, магу пераадолець сябе самога...

Натэла Вісліцкая... Натэла Вісліцкая... Алесь Коршак ужо апрануты, у куртцы пайшоў шукаць яе са службовага ўвахода. Можна было, вядома, аддаць гэтае бліскучае ліловае кола каму-небудзь з рабочыцх. І ён, пэўна ж, менавіта так і зрабіў бы раней, але сёння нешта адбылося з ім. Ён адчуваў сябе ізноў маладым і дзёрзкім, і ён нёс у сабе гэтае нязвыклае прыемнае пачуццё. Як паветраны шарык. Каб жа толькі н елопнуў, не выслізнуў з рук... Толькі перадаць, толькі падарыць...

Арэна, зняможаная, засынала, а тут ліслівы ўдаў усё яшчэ ласціўся да змакрэлага факіра, акрабаты хадзілі ў трыко з бліскаўкамі. І клоўны не спяшаліся змываць грым, так і шлёпалі ў сваіх смешных даўганосых чаравіках. Натэла Вісліцкая, ужо ў строгай чорнай з белымі адваротамі сукенцы і чорным капялюшыку сядзела перад люстэркам у расчыненай грымёцы. Яна зашпіляла на шыі жамчужнае калье і сстрэла алеся коршака мяккаю ўсмешкай здзіўлення.

— Вашае кола... я прынёс вам вашае кола, — алесь ледзь не выпусціў з рук паветраны шарык удачы. Але не, утрымаўся, толькі павёў плячыма, і адчуў, што шчокі залівае чырвань.

— Дзякуй. А я ўжо з ім развіталася, - яна імкліва ўстала і плаўна, адзіным рухам перакруціла, спусціла яго з ускінутых рук на падлогу, пераступіла, яшчэ раз пакланілася, зрабіла кніксэн і таксама мякка ўсміхнулася.

— Можа быць, я вас правяду?— у нейкай чароўнай эйфарыі выдыхнуў Алесь.

— Гэта было б цудоўна. Але... Але праз... — яна імкліва зірнула на гадзіннік. — Праз паўтары гадзіны мы ад'язджаем. І я не хацела б адступаць ад сваёй завядзёнкі. У кожным горадзе ў мяне свая традыцыя. Тут, у вас, я штовечар хаджу ў кавярню, тую, што цераз дарогу, і выпіваю кубачак кавы і кроплю бальзаму. Кроплю вашага беларускага бальзаму. Хочаце, пойдзем са мною.

І яна ў гэтай сваёй шчыльнай, у абцяжку, з белым каўнерам сукенцы і элегантным капялюшыку. І бліскучых сярэбраных туфліках выбегла з ім у дождж і адмовілася, так, што немагчыма было ўпрошваць, ад ягонае курткі з капюшонам.

У паўзмроку кавярні ён, як і яна, піў гаркавую каву і аксамітны бальзам... Яна была ўзбуджаная, шмат гаварыла, а ён... У яго было такое пачуццё, быццам і сюды ў кавярню ён прыйшоў з тым недарэчным ліловым колам ці паветраным шарыкам, які, калі не ўтрымаеш, можа выслизнуць з рук, можа лопнуць... Не, не толькі гэта... Толькі не гэта...

— Дык, значыць, вы філосаф... — яна цешылася, як дзіця, — Дзіўна, у кожным жа горадзе ёсць свае філосафы, а вось ніколі іх нідзе не сустракала. Вы першы.

— І я ўпершыню сяджу вось так, у кавярні, з цыркавою артысткай, — алесь спрабаваў, прагнуў патрапіць з ёю ў тон, — А як вам наш горад?

— О! Ваш горад — магічны крышталь. Моцны, трывалы. Толькі, калі хочаш, каб ён ажыў, заімгліўся безліччу рознакаляровых агеньчыкаў, каб ён узрушыў цябе, трэба палюбіць яго ўвечары, уночы, вось у такі раптоўны, як сёння, лютаўскі дождж... Ну, гэта я пачынаю гаварыць усякае глупства... Вам. Пэўна, са мною зусім не цікава...

— Не-не, што вы, я таксама вельмі люблю восьтакі раптоўны, нечаканы зімовы дождж... Ведаеце. Ён неяк разнявольвае, прымушае забыцца на ўсе нягоды, ён быццам вяртае ў дзяцінства. Робіць шчаслівым... Сам не заўважыўшы як, Алесь пачаў гаварыць пра самае патаемнае, пра тое. Што не тое што казаць, пісаць не адважваўся.

— Каб адчуваць сябе шчаслівым, трэба заўжды памятаць, што твая няўдача для кагосьці можа стацца адзіным раптоўным шанцам...—сказала яна. — І цешыцца разам з тым, можа. вечным для цябе незнаёмцам.

— Як гэта? Я не зусім вас разумею...

— Ну вось сёння... Гэтае ліловае кола. Тое, што яно сарвалася — для мяне катастрофа... Як кажуць — першы званок. І мяне наўрад ці калі яшчэ запросяць у ваш горад. І ў нашым цырку мне хутчэй за ўсё вось-вось прапануюць вучыць маладых. А для вас з гэтага ліловага кола, як і з гэтага наяве даволі брыдкага, недарэчнага зімою дажджу сёння пачаўся чароўны вечар. Ці не так?

— Так... са мною там, у цырку. Адбылося нешта дзіўнае. Мне здалося, што я рашыўся прайсці па гужу. І нават зайшоў у клетку да

тыграў. Ды што там, я паклаў сваю галаву ў пашчу. У пашчу тыгра ці тыгрыцы...

— Тыгра, тыгра... Дрэсіроўшчыкі звычайна працуюць толькіз аднаполымі драпежнікамі. Хіба ж тыгрыца дазволіла б, каб на яе вачах так прыніжалі. Так знушчаліся з ейнага абаронцы? Пасля арэны звяроў не бяруць нават узвярынец. Яны не ўмеюць размнажацца. Нават сланы практычна страчваюць свой галоўны інстынкт. А яшчэ ўлічыце, іх перад кожным выступленнем і пасля падпойваюць. Каб зняць напружанне і агрэсіўнасць.

— Чым?

— Гарэлкаю. Сланам па бутэльцы. Тыграм крыху меней.

— Што ж, людзей таксама, пэўна, будзе вельмі лёгка дрэсіраваць, калі разбурыць іхнія сем'і ды падпаіць.

— Што і даводзіць уся нашая гісторыя. Толькі ў людзей, у адрозненне ад звяроў, ёсць душа. А яна пераадольвае ўсё. І прастору. І час. І не паддаецца ніякайдрэсуры. Рабы, пэўна, усё ж па-свойму могуць быць шчаслівымі, а тыраны — ніколі. Тыраны не толькі чужыя душы, але і сваю засмечваюць страхам і нянавісцю, пазбаўляюць крылаў. А хіба можа чалавек з бяскрылаю душою быць шчаслівым, тварыць свой лёс, радавацца не толькі сваім. Але і чужым удачам? Немагчыма ўсіх і ўсё падначаліць сабе, прымусіць жыць па адзіных правілах. Вунь, нават кола сёння ў мяне сарвалася. Што ж казаць пра звяроў ці тым больш людзей.

— Але ж сям'я — гэта таксама дрэсура...

— Ды што вы... Што вы... Сям'я — гэта дождж, гэта снег, гэта, калі хочаце, той самы магічны крышталь, ці паветраны шарык... іх немагчыма ўтрымаць, імі можна толькі цешыцца. А тыраны... яны заўжды зашпіленыя на ўсе гузікі. Таму ў іх і не бывае шчаслівых сем'яў.

— Мне так шмат хочацца вам сказаць...

— А я, на жаль, ужо дапіла свой бальзам. Я спяшаюся. Даруйце... і дзякуй вам за тое, што злавілі і прынеслі маё самае любімае, ліловае кола... І не трэба мяне праводзіць. Я ж так. А вам яшчэ апранацца...

Алесь усё ж давёў яе да службовага ўвахода, і нават схіліўся, пацалаваў. Пацiснуў ейную вытанчаную лёгкую руку... І толькі на парозе кавярні адчуў, што змок, змерз, што яго ўсяго працінаюць дрыжыкі... а на століку — пустая празрыстая чарачка і яшчэ адна — ягоная, з аксамітнаю кропляй бальзаму... Трэба было бегчы. Куды? У цырк? На вакзал?.. Трэба было ўзяць у яе адрас, ці хаця б тэлефон...

але дл ягэтага ён мусіў трымаць у руцэ тое бліскучае ліловае кола ці хаця б паветраны шарык…

## ТАНГА ДЛЯ ЮЛЬКІ.
## Свято пераадолення.

Адны па жыцці маршыруюць, другія вальсіруюць, трэція — скачуць полечкай. Кацю, цяпер ужо Кацярыну Аляксееўну, і з гадамі яна адчувала гэта ўсё вастрэй і вастрэй, лёс вёў па жыцці ў рытме танга, танца, які кожным рухам даводзіць, што барацьба можа быць насалодаю і святлом. Усё акрэслена, усё вызанчаан. І рэзкі паварот, і імклівыя крокі, строгія, імклівыя крокі, і нават гэты бляск у вачах, гэты пагляд, гэтая ўсмешка... Усё было вызначана яшчэ тады...

На конкурсе ў раённым Доме культуры яны, яшчэ дзесяцікласнікі разам з першым яе партнёрам — канапатым веселуном і вялікім блытанікам Генікам, атрымалі самыя высокія балы менавіта за танга. І разам з кіраўніцаю гуртка бальнага танца, якую ўсе чамусьці звалі Жужаліцай, паехалі на электрычцы ў Мінск, ан абласны, а праз месяц і на рэспубліканскі конкурс. На рэспубліканскім узнагародзілі адну яе, Кацю і прапанавалі, сам старшыня журы, сам маэстра Швец прапанаваў ёй тры разы на тыдзень прыязджаць да яго на заняткі ў адну са сталічных студый. І нават патнёра ёй паказалі — высокага, чарнявага і, як ёй адразу падалося, ганарыстага Юрку. Швец шапнуў ёй: “Танцуе, як бог!” А яна зачырванелася, збегла. Генік з Жужаліцай самі забіралі яе касцюм і ўсю дарогу потым яе супакойвалі. А яна плакала, залівалася слязьмі ад крыўды за Геніка. З ім бы яна ездзіла, хоць і да Швеца, а адна... Жужаліца спрабавала пераканаць яе, казала. Што з Каціными дадзенымі трэба займацца толькі ў маэстра. Генік толькі ўздыхаў.

Потым Генік пайшоў у армію, Каця паступіла на філфак і паколькі жыць без танцаў ужо не магла, прыйшла ў студыю да маэстра Швеца. І Швец, жвавы, падцягнуты лысаваты дзядок, у якога, пагаворвалі, была зусім юная, дзевятнацацігадовая жоначка, павальсіраваўшы з Кацяй, адразу яе ўспомніў і зноў падвёў да чарнявага Юркі. Гэтым разам Юрка ўсміхаўся. Добразычліва, і нават ласкава. І маэстра ўключыў ім танга. І гэта было першае ў Каціным жыцці сапраўднае танга. Ніхто ніколі так не вёў яе. І яна толькі тады ўпершыню зразумела, чаму танцорам перад конкурсам жадаюць “лёгкага паркету”, яна ўласнымі абцасікамі адчула, што занчыць “лёгкі паркет”, і... закахалася ў Юрку, у ягоныя задумлівыя, блакітныя вочы, густы, зачасаны наверх чуб, у ягоныя моцныя. Умелыя рукі... І ён з тою самаю адкрытаю, крыху паблажлівай усмешкай прыняў яе ўзнёслае, трапяткое “кахаю”...

А калі прывёў яе знаёміцца са сваімі бацькамі, будучая свякроў, жанчына з сапраўды каралеўскаю паставай, адвяла яе ўбок і, уздыхнуўшы, папярэдзіла:

— Мушу цябе перасцерагчы, што і бацька Юркаў гуляў, і Юрка, думаю, таксама будзе гуляць. Так што, глядзі...

— Я кахаю яго...—зачырванелася яна ў адказ і свякроў, махнуўшы рукою, заплакала.

Філфак яна скончыла, але папрацаваць у школе так і не паспела. У іх нарадзілася дачушка, потым сын. Юрка кінуў завод, пайшоў працаваць на фірму. Ім абодвум цяпер было не да танцаў. На сценах, дзецям на памяць, застылі ў рамачках дыпломы, фотаздымкі, на якіх Юрка быў стройным, падцягнутым, з аксамітным гальштукам-матыльком, а яна, Каця, ну проста сняжынка, бязважкая парушынка ў бялюткай празрыстай сукенцы.

Сёння яна сядзела перад адным з гэтых фотаздымкаў і не магла стрымаць слёз. Учора яны з Юркам хадзілі ў госці. І, як заўжды, нехта расказваў анекдоты, нехта спяваў пад гітару. А яна, з нейкім прыхаваным, стоеным пачуццём годнасці, чакала свайго. Іх з Юркам часу. Усе перайшлі ў залу, уключылі музыку... Цяпер Бі-джайв, вальс, і, вядома ж, танга, іх з Юркам, аўтарскае танга. Ён, моцны, упэўнены, то ўладарна набліжаў яе да сябе, то аддаляў, і яна, строга, ганарліва паварочвала, ускідвала галоўку, потым выгіналася, аддавалася яму і музыцы, раставала ў гэтай палкай, жорсткай мелодыі. Ім аплпдзіравалі, крычалі “брава!” і нават падарылі самыя прыгожыя белыя ружы... А потым яны, як у маладосці, да раніцы гулялі па начным, заліхтараным горадзе...

А цяпер вось дзеці ў школе (другая змена), а Юрка, якога яна сёння чакала як ніколі, пазваніў з фірмы, па голасе чуваць — зноў п’яны. І сказаў, што начаваць не прыйдзе — справы. І каму цяпер патрэбныя яе дранікі са шкваркамі...

І прысніўся ёй сон... Быццам старэнькі Швец запрашае яе, Кацю на вальс. І ягоная маалдзенькая козачка-жонка, сядзіць, нага на нагу, п’е каву і глядзіць на іх, не, не з рэўнасцю, з захапленнем. А яна ўжо не танцуе, яна ўзлятае, ляціць у светлую бездань... Кажуць. Нябожчыка сніць да перамены надвор’я, а можа і да перамены лёсу.

Схадзіла на могілкі, паклала Швецу на магілу ружы і вырашыла, што пойдзе ў школу, у тую самую школу, дзе вучацца ейныя дзеці, весці гурток. А можа і студыю бальных танцаў. Дачка з сынам, праўда, сказалі, што спачатку паглядзяць і запішуцца толькі, калі ўбачаць, як танцуюць іншыя. Але дзяцей сабралася шмат, цэлых

тры групы, дзяўчат, вядома ж, больш не ўдвая, але прыходзілі і хлопчыкі...

Такім чынам, яна нарэшце з Каці ператварылася ў Кацярыну Аляксееўну, і цяпер у яе не было часу плакаць і шкадаваць сябе. Яна сама вярнула сабе музыку, вярнула жыццё. Працавала з ісімі — тоненькімі і спраўненькімі, высокімі і зусім каратышкамі, з музычнымі, пластычнымі і тымі, каму, як кажуць, “мядзьведзь на вуха ступіў”... Для ўсіх і кожнага знаходзіла яна добрыя словы, усіх падбадзёрвала і натхняла, і сама разам з дзецьмі зноў і зноў раставала ў музыцы. У іх ужо была свая зала з люстэркамі н аўсю сцяну, ім пашылі цудоўныя касцюмы — хлопчыкам са строгімі чорнымі камізэлькамі і аксамітнымі гальштукамі-матылькамі, дзяўчатам — як, прынцэсам, сукенкі з бліскаўкамі, на ўсе колеры вясёлкі. Яны вывучылі і вальс, і танга, і вясёлую полечку... Раз, два, тры... Раз, два. Тры... І дзе ёй, такой прыгожай, такой узнёслай, у той самай, сваёй любімай белапеннай сукенцы і лёгкіх туфліках, было заўважыць маленькую дзяўчынку, якая дзень пры дні, і вечар пры вечары, усе заняткі, бы зачараваная, прастойвала ля шкляных дзвярэй танцавальнае залы...

Дзяўчынку звалі юлька. Яна не магла запісацца на танцы. Яна была вызвалена тават ад фізкультуры, бо на правай ножцы ў яе быў нзвычайны, артапедычны чаравічак. І ніхто, нават ейная мама не ведала пра тое, куды яна

Знікае па вечарах, панядзелак і чацвер — з пяці да шасці, аўторак-пятніца — з трох да чатырох, субота — з дзвюх да трох... Гэта быў аейная таямніца, ейная мара, светлы сон... А Кацярына аляксееўна ўяўлялася ёй добраю феяй, якая, калі захоча, можа. як у казцы, зняць з яе, Юлькі, страшнае закляцце, можа вызваліць яе з гэтага брыдкага, рыпучага чаравіка і можа нават, можа нават... навучыць танцаваць...

— А чаму ты не заходзіш у залу? — чароўная Фея паклала ёй на плячо сваю лёгкую руку, агарнула яе сваім крылом.

Юлька сумелася, яна не заўважыла, як Кацярына Аляксееўна выйшла праз другія дзверы і вось убачыла, што яна падглядае.

— Ты хочаш танцаваць? — цяпер Фея прысела перад ёю і зазірнула проста ў вочы.

— Хачу, ледзь выціснула з сябе Юлька. І потым, пакуль Кацярына Аляксееўна вяла яе па зале, уся сціналася ад гучнага, брэдкага рэха. Ёй здавалася, што ўсе дзеці. Усе-усе чуюць, як рыпіць ейны чаравік.

І здарыўся цуд. Кацярына Аляксееўна навучыла танцаваць яе і вальс, і полечку, і нават танга. Ды што там, яна нават ставіла яе, Юльку, у прыклад іншым, бо ніхто так, як яна не ўмеў трымаць спінку. Ніхто так. Як яна, з першага разу, не запамінаў самыя складаныя рухі... І ніхто падчас танца не ўмеў тоак хораша, светла ўсміхацца.

Кацярына Аляксееўна навучыла Юльку танцаваць, яна выбрала ёй дл явыступлення самую прыгожую, такую самую, як у яе самой, белапеннцю сукенку, яна дапамагла пафарбаваць Юлькіны чаарвічкі ў белы колер, але... Так і не ўгаварыла нікога з хлопчыкаў стацьз ёй у пару. “З кім хочаце стаўце, толькі не з “калекай”! (гэтую жорсткую мянушку, кацярына аляксееўна была ў гэтым упэўнена, Юльцы далі н едзеці, а іхнія бацькі, і менавіта бацькоў, якія павінны былі прыйсці на канцэрт, больш за ўсё саромеліся хлапчукі).

Навагодняе свята набліжалася, мамы падганялі дзяўчатам сукенкі, Кацярына Аляксееўна ўгаворвала прыйсці на канцэрт нетолькі дачку і сына, але нават Юрку. Але тое свята не было б святам, каб літаральна з анекалькі дзён да яго яна не прыдумала, яна не знайшла партнёра для Юлькі.

— А цяпер выступіць наша самая лепшая, самая цудоўная пара — Юлія Ліпай і Юлій Высоцкі. Яны выканаюць “Жартоўнае танга”.

Юлька была ў белых чаравічках і такой самай, як у Кацярыны Аляксееўны, падобнай на снежную завею, на лёгкі туман, сукенцы. А невядомы нікому Юлій — у клятчастай кепцы і пінжаку з ружай у пятліцы. Ён вёў Юльку па сцэне, і то весела падміргваў ёй, то захоплена ўсміхаўся, то падаў перад ёй на калена. А ў канцы, калі ён крутнуў яе, а яна лёгка выгнулася на ягонай руцэ, на сцэну выйшлі ўсе хлопчыкі і дзяўчаты і пачалі пляскаць у такт з музыкай. А Юлій і Юлька ўжо н абіс паказвалі ўсё новыя і новыя па. Зала ніяк не магла ўтаймавацца. “Брава!” “Біс!”. Урэшце рэшт Юлька зрабіла рэверанс і расплакалася. А Юлій сцягнуў з галавы кепку і даўгія, такія, як у .Юлькі, толькі не бялявыя. А чорныя валасы рассыпаліся па ... дзявочых плячах. Толькі цяпер усе пазналі першую школьную прыгажуню Юлію Высоцкую. Яна весел ападміргнула і абняла Юльку, якая ўпершыню за ўсё сваё жыццё адчула сябе сапраўды шчаслівай. А Кацярына Аляксееўна зноў, як тады, першы раз, прысела перад ёю і, зазірнуўшы ў вочы. Аддала ўсе свае ружы... І Юлька нарэшце ўсміхнулася. Скрозь слёзы ўсміхнулася. Кацярына аляксееўна, якая ўсё яшчэ сядзела перад ёю, убачыла, блізка-блізка ўбачыла гэтую яе,

можа. самую дарагую на гэтым свяце ўсмешку, што апякала, раніла і прасвятляла душу...

Цяпер быў сэнс жыць. Быў сэнс працаваць. Яна ведала, што будуць яшчэ вечары, будуць ночы, калі Юрка пазвоніць і скажа, што не прыйдзе начаваць. І не толькі ён, але і дзеці будуць жорсткімі з ёю, будуць грубіць, можа. нават абражаць. І настаўніцы можа не ўсе зразумеюць, будуць зайздросціць яе поспехам, поспехам яе выхаванцаў. Будзе ўсяго. Але ў самыя горкія, роспачныя хвіліны. І цяпер яна гэта пэўна ведае, яе ўратуе ўспамін пра жартоўнае танга, якое дзяўчаты два раз ыпаўтарылі н абіс, і, галоўнае, восьгэтая балесная, светлая ўсмешка маленькай пакутніцы, маленькай змагаркі, маленькай гераіні Юлькі. Жанчыны шмат могуць у гэтым свеце. Ян ымусяць несці дабрыню і прыгажосць, н езважаючы ні на што. Яны мусяць жыць у рытме танга.

## ТАНЕЦ ДАЖДЖУ.
## Сплін.

Колькі сябе памятаў, ён ва ўсім чуй музыку. І яна, гэатя музыка, нейкім дзіўным чынам перацякала ў яго, пакутліва і соладка сціскаа душу і зноў прасілася на волю...

Вось неадольнаю павоьнаю плынню, ледзь улоўнымі глухімі акордамі апаноўвае, усё наўкола апаноўвае перадднавальнічная задуха. І гром разрывае яе глыбокім, містычным рэхам. І светлыя кроплі спяшаюцца, вышай, вышай, адна за адною, па прыступках...

Часам яму здавалася, што гэтая музыка можа разарваць яго з сярэдзіны, як вулкан... І тады ён падымаў, ускідваў уверх руку, адну, другую, уздымаўся на дыбачкі і пачынаў кружыцца. Ён танцаваў, як быў, басаnож... Па лужынах, па траве... Танцаваў, пакуль сам не зліваўся з дажджом, і ападаў, і зноў узлятаў разам з кроплямі. Сарочка ліпла да цела, але яму не было ні мокра, ні халодна. Хіба можа быць мокра дажджавым кроплям ці пырскам?.. Не, ён не проста зліваўся з дажджом. Ён сам ператвараўся ў дождж. І ягоане цела ўжо не было целам, яно было ўсяго толькі зручнаю, гнуткаю пасудзінай для светлага духу Музыкі...

Андрэй Бахрамееў. Танклявы белагаловы хлопчык з глыбокімі, яснымі вачыма і крылатымі броўкамі... Калі б ён нарадзіўся ў якім-небудзь вялікім горадзе ці яшчэ лепш сярод акцёраў, хто-небудзь бы абавязкова сказаў яму, што ён проста створаны для сцэны. Дзеля таго, каб перанесці на яе змрочнае, глухое вуркатанне вулкана і роўнае, маўклівае ззянне месяца, рыпенне снегу і шчымлівы, трывожны пошум травеньскай лістоты...

Але ж у іхнім маленькім гарадку, ды не гарадку нават, гарадскім пасёлку, у іхнім адзіным Доме культуры, не было не толькі харэаграфічнай студыі, а і танцавлаьнага гуртка. Можа быць, Андрэй пайшоў бы вучыцца хаця б у музычную школу, там жа таксама жыла Музыка, але... за вучобу трэба было плаціць. А ў іх з мамаю ледзь хапала на хлеб, зрэдку на селядца, яшчэ радзей — на мяса. Малако, тварог, масла давала цётка Ніна, маміна родная сястра, адзежу, і яму, і маме, прывозілі ці перадавалі праз знаёмых нейкія далёкія маміны родзічы з Мінска. Тое, што самі не данасілі. Хоць сёння, зараз Андрэю было зусім усё роўна што на ім. Чым меней адзежы, тым лепш. Ён жа быў дождж... Навошта дажджу адзежа?..

Так, танцуючы, ён дайшоў да старога парка, потым, праз мост, на гару, да руінаў старога замка... Гэта былі нават не руіны, а ўсяго толькі заімшэлае каменне — рэшткі сценаў ці фундамента, якія дзе-

нідзе высвечвалі ў высокай траве, гэта была абкружаная старымі ліпамі смарагдавая паляна, на якой заўсёды, асабліва ў дождж, поўна жаб.

Андрэй разам з дажджом бег, скакаў, кружыўся па паляне, і жабы, фыркаючы, ледзь паспявалі адскочыць убок.

Па-за рэштках замка, пад старою ліпай, што ўжо ледзь трымалася на строме, там, пад старою ліпай стаяла блакітная альтанка. Дождж туды не заходзіў, а ён, Андрэй, калі захоча, хоць і мокры, ён можа зайсці ў гэтую яго любімую блакітную альтанку. Дождж ападаў яму на плечы, дождж хацеў зайсці разам з ім...

А ў альтанцы... у альтанцы сядзела незнаёмая дзяўчынка ў напаўпразрыстай, падобнай на пену, на пяшчотную яблыневую квецень, сукенцы. Адкуль яна ўзялася, у гэткі дождж? Босая, басаножкі стаяць побач, на лавачцы...

Андрэй сумеўся, спыніўся, застыў на парозе, калі ёсць у альтанкі парог. Дзяўчынка з акуратна падабранымі шпількамі на макаўцы цёмнымі валсамі і даўгою лебядзінаю шыйкай, дзяўчынка глядзела проста на яго. І яе мяккія, цёмныя вочы шапталі: “Вы так цудоўна танцуеце! І я таксама хачу, і я хачу ператварыцца разам з Вамі ў дождж...”

А потым яны разам танцавалі нешта пяшчотнае і светлае, нешта вельмі трапяткое і трывожнае... І яна ўскідвала свае крылатыя рукі і падымалася на самыя дыбачкі, і яна ішла, і яна ўзлятала, і Андрэй ледзь паспяваў утрымаць яе... І тады яны кружыліся, разам, па адным, ізноў разам, яны кружыліся сярод руінаў, сярод заімшэлых камянёў, над якімі... дождж, дрэвы і дождж нейкім цудам адбудоўвалі над імі, вось ужо і адбудавалі чароўны, таўстасценны, змрочны стары замак... Святло падае толькі аднекуль зверху, толькі на іх дваіх падае мяккае блакітнае святло... І ён, ён таксама, як і яна, ён лёгка прыўзнімаецца на дыбачкі і ўзлятае над... сцэнай. Там, між рассунутых убакі вішнёвых кулісаў, па той бок рампы ўсё было як тады, у яго родным гарадку, у дождж на замкавай гары. Быў стары змрочны замак, і дзяўчынка

З лебядзінаю шыйкай, у наўпаў празрыстай, падобнай на яблыневую квецень сукенцы, і нават дождж, было чуваць, як ён біўся, шаптаў нешта за сценамі замка... Толькі Ён, той, што ўзлятаў разам з ёю над сцэнай быў не ён, не андрэй Бахрамееў, а нейкі чужы, незнаёмы чарнявы юнак у светлым трыко і блакітнай, затканаю срэбрам блузе...

А ён, андрэй Бахрамееў, у мулкай салдацкай гімнасцёрцы і цесных грубых чаравіках сядзеў на апошнім радзе балкона і ўспамінаў...

Успамінаў Настачку, тую дзяўчынку, з якою пазнаёміўся падчас даўняга цёплага летняга дажджу, на руінах замка, сярод замшэлага камення... Настачку, якая тады вучылася ў харэаграфічным вучылішчы, а ў іхні горад, у іхні гарадскі пасёлак прыехала ўсяго на некалькі дзён. Да бабулі. І назаўтра ёй ужо трэба было ад'язджаць..

— Вы выдатна танцуеце! У мяне ніколі не было такога чулага, і ... такога моцнага партнёра... Вы так адчуваеце музыку. Ды не, вы самі, сваімі жэстамі, рухамі, сваім целам, вы самі ствараеце музыку... Вам абавязкова трэба вучыцца! Чуеце, абавязкова! — шапнула яна на развітанне.

Настаччына бабуля жыла на другім канцы пасёлка. І потым ён часта, то на веласіпедзе, то пешкі, як бы ненаўмысля. Як бы выпадкова мінаў тую хату. Але ні Настачкі, ні нават бабулі ні разу так і не ўбачыў. Як жа дакараў ён сябе, што не рашыўся, ен папрасіў у Настачкі ні адраса, ні нават тэлефона!. А па вясне вокны ў хаце забілі дошкамі. Бабуля памерла, хату прадалі, і яна, ансцярожаная, цяпер чакала сваіх новых гаспадароў...

Андрэй нічога не мог з сабою зрабіць, і Настачка, і той іхні адзіны ў жыцці танец, танец дажджу, яны так часта прыходзілі да яго ў сны... Асабліва цяпер, у арміі... і тады ў казарме пахла не скурай, не салдацкаю вопраткай, пахла дажджом. Ён быццам наяве чуў гэты свежы, празрысты водар...

І вось яна, гэтая Настачка, ён не мог памыліцца, яна на сцэне, яна скончыла танцаваць, і ўсе крычаць ёй “брава!”, і нясуць, нясуць, кідаюць ёй кветкі... А ён так далёка, ён на балконе, ён салдат. І ў бліжэйшыя паўтары гады наўрад ці зможа рынесці ёй кветкі... Хоць... Яна ж ужо пэўна забылася і на яго, і н аіхні гарадок... Але ж ён, Андрэй, мае ж ён у рэшце рэшт права дазнацца, як яе прозвішча. Ён паспеў, папрасіў праграмку ў той, што сядзела наперадзе, і запомніў, і потым, у казарме запісаў у свой блакноцік: анастасія Лагунская... Цяпер у яго апроч трывожных светлых сноў з'явілася мара... Колькі разоў ён, як наяве ўяўляў сабе: вось вылузнецца з гэтае мулкай балоцістай формы, надзене белую кашулю, касцюм, можна і той, у якім быў на выпускным, мож анават гальштук завяжа, купіць кветкі, яму чамусьціхацелася купіць стромкія бела-ружовыя гваздзікі, ён купіць кветкіі пойдзе ў той тэатр, ён пойдзе на той самы спектакль, у якім танцуе Настачка, і можа... можа, нават у антракце напіша ёй

запіску... Так, нічога асаблівага... “Настачка, ты цуд! Прывітанне ад старога замка, блакітнай альтанкі і... дажджу...” А можа, яшчэ прасцей: “Напішы мне... Напішыце мне, калі можаце... І адрас...”

І вось нарэшце ён у белай кашулі, у сваім цёмна-шэрым выпускным касцюме, які ўжо крыху цісне... Гаштук ён зняў па дарозе, яшчэ ў парку, паклаў у кішэню. Лепш проста расшпіліць верхні гузік...

У Мінск Андрэй прыехаў з самае раніцы, і яму пашанцавала, дачакаўшыя адкрыцця касы, ён купіў білет на вячэрні спектакль, той самы, у якім танцавала Настачка. Анастасія Лагунская. Білет быў добры, у чацвёртым радзе партэра. І кветкі ён купіў такія, як марыў — не проста белыя, а пяшчотныя бела-ружовыя гваздзікі. Усё было проста цудоўна. Адзінае, запіскі не напісаў, ды не паспеў купіць праграмку. І калі разышліся, строга застылі па баках куліссы, і з пяшчотнай, светлай і трывожнай музыкі, з музыкі дажджу на сцэне паступова вырас, вымаляваўся стары замак, блакітане святло выхапіла, вывела з глыбіні сцэны дзве постаці... Ён быў той самы, чарнявы, у блакітнай блузе... А яна... яна была не Настачка... І хоць сукенка, прычоска, і анват колер валасоў, а можа, і вачэй у яе был падобныя, ён, Андрэй, не мог зблытаць, гэта была не Настачка. Яна латашыла, біла сваімі тоненькімі светлымі ручкамі, і... не ўзлятала...

Андрэй хацеў пайсці адразу, пасля першайжа дзеі, але перадумаў, застаўся. І калі згасла святло, і музыка зноў зашаптала, заспявала голасам дажджу, ён, не чакаючы, пакуль рассунуцца куліссы, заплюснуў вочы, і... ён станцаваў, ён усё ж станцаваў, ён усё станцаваў разам з Настачкай...

Вось яны сталі на дыбачкі, і, гатовыя ўзляцець, узмахнулі крыламі і важкія дзверы зарыпелі, расчыніліся. А там — там блакіт, там святло,там... вясёлка. Яны на імгненне ступілі на зямлю і, балансуючы, пачалі падымацца па вясёлцы. І там, на самай вяршыні. Там яны зноў прыўзняліся на дыбачкі і затанцавалі...

І гэта было вызваленне. Толькі цяпер, толькі зараз, Андрэй адчуў, што сапраўдным вызваленнем для яго было б танцаваць... Танцаваць н агэтай сцэне, танцаваць з Ёю...

Недзе далёка-далёка, быццам і не ў жыцці зусім, а ў нейкім страшнымсне застаўся айчым-п’яніца. Які ў тую суботу ўзяў ягоны веласіпед з’ездзіць у магазін, і кінуў, дзе ён яго кінуў і сам не памятае... Прачнуўся ў парку пад старою ліпаю, ні веласіпеда нігрошай... А мама ўсё хварэе. Плача. Плача і толькі прыгаворвае: “Ты ж толькі, сыночак. Не пі... Ты ж толькі, глядзі, не пі...” А як тут не будзеш піць, калі нідзе, нідзе яго не чакаюць. Ні на заводзе, —

скарацілі. Ні дома, — айчыму ён як костка ў горле, ні… О, як бы ён хацеў,каб тое, нябогае ягонае рэальнае жыццё стла ўсяго толькі страшным сном, а ён… ён мог хоць імгненне пражыць на сцэне…

Выходзячы з тэатра, як прыйшоў, з кветкамі, з пяшчотнымі бела-ружовымі гваздзікамі, андрэй, счырванеўшы, усё ж выціснуў з сябе, усё ж спытаўся ў той, што стаяла пры ўваходзе:

— Даруйце… Анастасія Лагунская… Калі ў гэтым спектаклі будзе танцаваць анастасія Лагунская?

Тая толькі ўздыхнула:

— Лагунская цяпер, малады чалавек, у Польшчы танцуе. Не ў Варшаве, так, у правінцыі, у… забылася ў якім дакладна горадзе… Але ж там кардэбалету, кажуць, плацяць у два разы болей, чым у нас салістам. Кажуць, яна ўжо і машыну купіла, дом будуе…

**КВЕТКА АДЧАЮ.**
**Сцяжынка да храму.**

На вакне ў гэтым інтэрнацкім пакоі дасюль стаіць зроблены з паперы невялічкі храм, з залачоным купалам і маленькім бліскучым, узнесеным да нябёсаў крыжыкам. А над ложкамі тут яшчэ некалькі месяцаў таму віселі абразкі. Пятру Родзькіну яго падарыла мама. Павел Лясны свой сам прывёз з манастыра, што будуецца пад Мінскам, і дзе ён цяпер знайшоў прытулак. Два юных скульптары пяць гадоў жылі, спрачаліся, марылі ў гэтых чатырох сценах, вылучаных ім школай-інтэрнатам для адораныхдзяцей, куды яны прыехалі вучыцца з Гродзеншчыны. Аднаго прывезла мама. Другога — бабуля, сваёй мамы ён усе гэтыя пяць гадоў так ні разу і не бачыў.

А на гэтай старой шафе віселі іхнія дыпломы пераможцаў Рэспубліканскага мастацкага конкурсу і стаялі захінутыя анучамі. Каб ніхто раней часу не бачыў, новыя работы. Пятроў "Пацалунак" і Паўлаў "Нявольнік". Аднойчы тут гасцявала белая ружа і, як з яечка, з пяшчотных, спрактыкаваых рук выпраўляліся ў свет трыста шасцьдзесят пяць папяровых жураўлікаў. Тут блукала, можа, і зараз блукае Каханне...

Пачалося ж усё з таго, як да іх у майстэрню прывялі пазіраваць на занятках па малюнку дзіўнаватага, даўгакосага юнака, Славу. Толькі ім дваім, з асаблівага, як ён сказаў, даверу, Слава адкрыў і сваё другое, царкоўнае імя — Сілуян. У яго быў вельмі выразны, рэзка ачэрчаны, крыху выцягнуты твар, бледны і даўно не голены. А з-пад строганасупленых цёмных броваў — нечакана безабаронныя светлаблакітныя вочы. Колькі ён пазіраваў, столькі чытаў малітвы, то шэптам, то ўголас, па малітоўніку. І была ў гэтым строгім загадкавым чалавеку нейкая невыказаня сіла, нейкая таямніца, якую немагчыма было разгадаць ці спасцігнуць, але яна, гэтая таямніца неадольна прыцягвала, вабіла, заварожвала. Гэта потым Пеця і Паша зразумелі, што гэтаю таямніцай была вера, быў Бог, да якога так прагнуў яшчэ пры жыцці наблізіцца Слава. А спачатку яны проста малявалі яго. І праз рэзкія, смелыя лініі аднаго, і лёгкія музычныя другога выяўляўся вобраз чалавека, які анстойліва, упарта змагаўся, пераадольваў усе свае чалавечыя парыванні, сваю зямную сутнасць, сваю плоць і кроў, каб не турбавала тое, як ён выглядае, як апранаецца, тое, што пра яго скажуць людзі, бо ён ведаў, не перад імі, не перад людзьмі, перад Богам трымаць яму адказ.

А Пеця і Павел былі звычайнымі падлеткамі. Адзін больш спакойны, сарамлівы, лагодны, паслухмяны. І валасы ў яго былі

светлыя, гладка зачасаныя, паслухмяныя. А ў задумлівых блакітных вачах блукаў лёгкі сум, рамантычная смуга, тое, што так падабаецца дзяўчатам. Другога ж, Паўла, цёмнавокага, з дзёрзкім, адкрытым паглядам, анстаўнікі да апошняга часу ніколі не ставілі ў прыклад, ён мог і сарвацца, ізагрудкі схапіць. Хоць на галаву быў ніжэйшы за Пецю, які ўжо з год змушаны быў схіляцца, каб пагаварыць не тое што з аднакласнікамі, але і з настаўнікамі, якія патрабавалі, каб абавязкова глядзелі ім у вочы. Як усё адно так, калі захочаш, не схлусіш. Павел Родзькін гадаваўся без бацькі, але яны жылі з дзядулям, былы настаўнік, так што мужчынскай увагі Пецю ставала. На канікулах дык і занадта. А вось пра Паўлаву радаслоўную настаўніцы і выхавацельніцы чаго толькі адна адной не нагаворвалі. Кожная яго няўдача тулмачылася проста: “Што ж вы хочаце, гены...” Верыў у яго, хоць і не паказваў гэтага асабліва, толькі Мікалай Рыгоравіч, скульптар. Гэта ён прывёў да іх пазіраваць гэтага дзіўнаватага, часам здавалася нават, як кажуць украінцы, бажавільнага Славу.

Калі партрэты былі скончаны, Мікалай Рыгоравіч падыйшоў, і, ацаніўшы, што атрымалася, нават паляпаў Пашу па плячы, а потым, ніколі ж не хваліў, дадаў: “Дастойна.”.

Тады Павел, акрылены, і прапанаваў Пецю папрасіць Славу папазіраваць дадаткова, пасля ўрокаў, каб зрабіць яшчэ па малюнку, а можа й паляпіц. Уяўляеце, у восьмым класе выставіць на праглядзе скульптурны партрэт?! Пеця згадзіўся, і Слава таксама. Але па вечарах яны не столькі малявалі, не столькі ляпілі, колькі гаварылі. Слава пачаў прыносіць ім кнігі, дзе тлумачылася святое пісанне, расказвалася пра жыццё хрысціянскіх святых, пра цуды, цудадзейную сілу малітвы, пра ціхае, ціхамірнае жыццё манахаў у далёкай Грэцыі, на Афоне.

Пеця нават завёў сшытак, куды яны пачалі выпісваць самыя важныя і даклвдныя цытаты з царкоўных кніг...

“Чалавек сам сабе нішто, грэшная зямля, “ — сцвярджаў старац Сілуян. “Манах — малітоўнік за ўвесь свет; ён плача за ўвесь свет, і ў гэтым яго галоўная справа.” “дзякуючы манахам на зямлі ніколі не перапыняецца малітва; і ў гэтым — карысць усяму свету, бо свет стаіць малітваю; а калі аслабне малітва, тады свет загіне”.

Цяпер па вечарах, пасля таго, як былі зроблены ўрокі (каб не выхавацелі, каб не  станіслава Паўлаўна, што пільна сачылаза тым, каб усе дзве гадзіны адседзелі на самападрыхтоўцы, Пеця з Пашам, вядома ж, адразу б ішлі ў майстэрню), а так, пасля самападрыхтоўкі,

часам. І без вячэры, толькі гарбата, - пачыналася іх вечаровае тварэне. Яны слухалі Славу, малявалі ці ляпілі і...

— Ты ведаеш, Паша, — сказаў аднойчы Пеця ўжо ў пакоі, засынаючы, — мне часам здаецца, што мы з табою не столькі Славу малюем і лепім, колькі саміх сябе.

І гэта было праўдай. Яны вельмі змяніліся. І  не толькі таму, што адмаўляліся ў сталовай есці мяса, пасціліся, і вырашылі н ехадзіць у цырульню, не стрыгліся. Пеця аддаў свой магнітафон і касеты з яшчэ нядаўна любімымі запсамі, пад якія заынаў і прачынаўся, старэйшаму брату, што вучыўся ва ўніверсітэце. А Павел проста так аддаў аднаму са старшакласнікаў сваю гітару, на якую летась дзяўчаты збіралі ўсім класам... Па вясне адарвацца ад яе не мог,  іграў усё, што чуў, а цяпер раптам захацелася цішыні...

Яны не паспелі даляпіць Славу. І малюнкі ў іх тыя, што рабілі самастойна, не атрымаліся. Але на канікулах, калі Павел прыехаў да бабулі, адзінага роднага чалавека, які хоць трохі ціавіўся ягоным лёсам, і да яе ўвечаы заваліўся як заўжды п’яны дзядзька, яе меншы сын, Павел пайшоў не на дыскатэку, ён пайшоў у храм. Там, сярод абразоў, са строгімі суровымі лікамі святых. У сцішаным святле мігатлівых свечак, у саладкаватым дымным водары блукала адно-адзінае імя — Сілуян... І ледзь улоўным рэхам чуўся ягоны мяккі голас: “А вам пры хрышчэнні, пэўна, далі вашыя ж імёны... Пётра і павел былі святымі. Гэта вельмі вядомыя, шаанваныя ў праваслаўным свеце святыя...”

— Слухай, бабуля, а ты не ведаеш, дзе мяне хрысцілі? — спытаў Павел у апошні вечар перад ад’ездам.

— Ды ты няхрышчаны... — уздыхнула бабуля, — неда таго было. Спачатку маці твая правадніцай працавала, а ў мяне ж, апроч цябе яшчэ двое сваіх малых на руках. А потым яна цябе ў Мінск звезла... Паўна, ужо і не памятаеш пра тое...

— Памятаю... Я тварог есці не хацеў. Дык яна мне замкі з тварагу будавала... А потым, памятаю, як на мора мяне вазілі... Я памятаю мора. Сонца садзілася, і хвалі так імкліва перадавалі адна адной, захлыналіся гэтым святлом... А я іх баяўся. Я, малы, так баяўся марскіх хваляў.

Бабуля ўздыхнула:

— Гэта шчасце, што ў цябе нешта добрае ў пакмяці засталося. А як узяў вось гэтую сваю цацачную шабельку і збег з доу, і мы цябе ўсю ноч шукалі па горадзе, памятаеш?

Павел толькі горка ўсміхнуўся. Хіба ж можа ён тое забыць? Тых чужых п’яных. Крыклівых дзядзькоў. Якія падлівалі і падлівалі маме

гарэлку. А яна спачатку смяялася, потым раптам упала на счэпленыя на стале рукі. Заплакала і паглядзела на яго, свайго сына, пустымі, халоднымі вачыма. І ён схапіў падораную калісьці бацькам шабельку, каб прагнаць тых брыдкіх, прапахлых потам і перагарам дзядзькоў, але адзін з іх падняўся і, хістаючыся, пайшоў проста на яго. Ён, той дзядзька, быў такі вялізны, і так шчэрыўся бяззубым ротам, рукі цягнуў.. І ён, Паўлік, проста цудам тады выскачыў з кухні ў калідор, збег… І ўсю ноч блукаў па парку, ссякаючы вострай шабелькай траву.

Але цяпер не хацелася таго ўспамінаць. Гэта было балюча, невыносна… І ён сказаў бабулі на развітанне:

— Я не магу ганарыцца маімі бацькамі. Але я хачу, каб яны мною, і ты, бабуля, каб вы ўсе мной ганарыліся, — сказаў і пайшоў спаць. Каб назаўтра вярнуцца ў школу-інтэрнат для адораных дзяцей, у сваю майстэрню.

Але ж, вядома, “свая майстэрня” — гэта было моцна сказана. У Пашы, па-сутнасці, ніколі нічога не было свайго. Ні пакоя, ні ложка (нават бабуля толькі раскладушку яму магла паставіць), ні, тым больш, пісьмовага стала, ці майстэрні. Адзенне ён. Як правіла, даношваў за дзядзькам, які быў усяго на гадоў пяць за яго старэйшы. Нават прозвішча і тое, маці яму выдумала, ці, дакладней, дала чужое, бо хацела забыцца на ягонага бацьку, у памяць пра якога застаался ўсяго тая цацачная шабелька…

Толькі пасля абраду хрышчэння, які аргнізаваў Слава, у яго, Паўла, з’явіўся свой уласны нацельны крыжык. А потым і абразок, які ён павесіў над казённым інтэрнатаўскім ложкам. Цяпер у нядзелю, з дазволу выхавацельніцы ён спачатку са Славам, а потым і см пачаў хадзіць да споведзі… І ён мусіў сам сабе прызнацца, што святар, айцец Міхаіл, быў першым у ягоным жыцці мужчынам, які выслухаў яго, і здавалася, заўжды разумеў… Не павучаў, анват не даваў парадаў, ён вучыў цярпець і врыць. Вучыў маліцца.

Пеця разумеў Паўла, але сам да споведзі хадзіў усяго адзін раз. У Пеці была мама, быў дзед, бацька, які хоць і не жыў з імі, але калі-нікалі прыязджаў да Пеці, цікавіўся ягоынм жыццём. А Паша, калі трэба было пагаварыць, падзяліцца патаемным, цяпер хадзіў у храм, да споведзі. Там, каля храма ён аднойчы сустрэў Славу, які сказаў, што больш не прыйдзе пазіраваць, бо яго запрасілі ў манастыр, у іканапсную майстэрню, але ён абавязкова пагаворыць, а раптам і Паўлу там знойдзецца справа.

І Пвел, і Пеця за некалькі месяцаў адрасцілі сабе даволі даўнгія валасы. Як у Славы. І цяпер, не зважаючы на кпіны. Хадзілі са

сцягнутымі гумкамі хвосцікамі. Па-ранейшаму шмат працавалі ў майстэрні і не цікавіліся дыскатэкамі. Па вечарах ім было што чытаць і пра што гаварыць. Не, не толькі пра Бога, але і (жывыя ж людзі, ен старцы!), але і пра дзяўчат. Ды і ў Сілуяна сказана: “Юнак шукае сабе нявесту, а дзяўчына жаніха. Гэта і ёсць зямное жыццё, Богам блаславёнае.”

Можа, збоку і не вельмі было відаць, але ж, жывучы ў адным пакоі, хочаш-не-хочаш, здагадаешся. І Павел ведаў, што Пецю дыханне перарымае, як толькі наблізіцц ада аліны, цемнавокай, воч-вішні, дзёрзкай, а з кім і рэзкай. Калі яна надзявала сваю чырвоненькую сукенку ды абцасікі. Распускала густыя чорныя валасы, не ў аднаго Пеці галаў вяло і ў вачах цямнела. Але хтосьці і ўшчыкнуць яе мог, і кампліментсказаць. А Пеця, той адводзіў пагляд і ішоў куды падалей. Аліна займалася жывапісам у адной майстэрні са Святланай, за якою ці не з першага дня іх вучобы тут, у школе-інтэрнаце, стаіўшыся, назіраў  Павел. У яе, Святланы, былі чароўныя, ад прыроды дробна кучаравыя светлыя валасы, што вадаспадам ападалі на плечы, на спіну. І вочы, ясныя. Блакітныя, з прыхаванаю хітрынкай. Але Паўлу здавалася, што ў іх, у гэтых вачах проста бездань невыказаанй пяшчоты. І нават, калі аднакласнікі, настаўнікі, здараался, кпілі з яго няўважлівасці, ці недарэчнага адказу. Яе вочы шкадавалі яго, хацелі суцішыць. А можа, яму гэта толькі здавалася?... Самае ж раптоўнае адкрыццё Павел зрабіў для сябе зусім нядаўна. Святлана прыйшла ў блузцы з глыбокім выразам. І ён убачыў на яе шыі далікатны ланцужок з крыжыкам, маленькае сярэбранае ўкрыжаванне. І ў яго раптам, нічога не мог з сабою зрабіць, з’явілася неадольнае жаданне прыпасці да гэтага крыжыка, да гэтага зацягнутага пацінваю часу ўкрыжавання. Вуснамі прыпасці да гэтага, як яна хвалілася сяброўкам, яшчэ бабулінага крыжыка. Які час ад часу ўздрыгваў, трымцеў, выпадкова трапляючы на самую таемную ямінку, дзе пульсавала жывая жылка, дзе сцішылася ейная душа.

Пра гэт нікому нельга было сказаць. Хіба што на споведзі. Бо на споведзі ён гаварыў усё, і сам баяўся сваёй шчырасці. Айцец жа Міхаіл цярпліва слухаў і раіў не блытаць, аддзяляць сараўдныя высокія, Богам дадзеныя пачуцці ад плоцкіх, нізкіх жаданняў...

Восень скончылася раптоўна. Выпаў снег. Ударыў мароз. А бабуля так і не паспела выслаць яму грошы на чаравікі. Кеды, у якіх Павел хадзіў увесь гэты час, на холадзе ламаліся. Цяпер не тое што ў храм, на пошту не дайсці. Добра, што ў інтэрнаце спальны корпус быў злучаны з вучэбным. І Павел суткамі не выходзіў на вуліцу. І ў адзін з

гэтых змрочных (змяркалася ж зусім рана) халодных дзён у Святланы быў Дзень нараджэння. І яна. Як заўжды, запрасіла да сябе ў пакой на гарбату ўсіх, хт о вучыўся з ёю ў жывапіснай майстэрні. Пра гэта Павел даведаўся ад Пеці, які таксама атрымаў запрашэнне. Па ўсім відаць, Святлана яму сімпатызавала. Пеця пайшоў купляць кветкі, а павел, пракаўтнуўшы крыўду і боль, пацалаваў свой уласны нацельны крыжык, які падарыў яму ў дзень хрышчэння слава, накінуў на плечы куртку і вырашыў, не чакаючы Пеці, вярнуцца ў майстэрню. Вядома, каб былі грошы, ён і без запрашэння б зайшоў, павіншаваў Святлану, падарыў ёй белую ружу. Не. Гэта мроі. Трэба хутчэй ісці малявацъ, ці ляпіць.

Але ж ёсць Бог на свеце. Насустрач яму з паўзмроку калідору выйшла іх новая настаўніца французскай мовы. Якую яны між сабою ніколі па-бацьку не называлі. Толькі Марынка. Дык вось, Марынка несла ў руках букет... белых ружаў... У яго перахапіла дыханне. І ён ужо хацеў рашыцца і папрасіць яе, але марынка сама спынілася і, выбраўшы з букета адну кветку, працягнула яму:

— Павел, калі ласка, вазьміце, пастаўце дзе-небудзь у сябе. А то запрасілі на юбілей, я купіла сем ружаў, а  адна апала. Шэсць жа дарыць не будзеш.

І яна ўсміхнулася, хораша так, лёгка.

— Вы чараўніца... Проста чараўніца...—сказаў ён першы свой у жыцці камплімент і таксама ўсміхнуўся ў адказ.

Трэба было, вядома, пераапрануцца. У спартыўным касцюме ісці на дзень нараджэння да дзяўчыны нядобра. Але ж. Ён, Павел нязваны. І сядзець за сталом не будзе, ён увогуле проста пакліча яе ў майстэрню і падорыць

Гэтцю ружу. А цяпре можна паставіць яе ў бутэльку з вадою. І пачакаць, пакуль сцямнее...

З вакна пачало павольна нацякаць спачатку ліловае. Потым цёмна-сіняе густое святло. І чым цямней рабілася, тым больш выразна выяўляла сваё снежна-белае пяшчотнае аблічча ружа. Павел не адрываў ад яе вачэй. І яму здавалася, што ён бачыць, як яна распроствае свае пялёсткі, пацягваецца, усміхаецца. І ў нейкае імгненне яна пераўтварылася ў дзяўчыну, у тую, якую ён бы мог высекчы з мармуру. Парзрысты, халаднаваты, гладкі на дотык мармур і бясконцыя дробныя хвалі яе валасоў... Рэзкае святло вырвала паўла з гэтае мроі, з гэтага сну...

— Ты чаго ў цемры сядзіш? — здзівіўся Пеця. — Можа, пайшлі са мною да Святланы?

— Яна мяне не зарашала... — ціха сказаў Павел.

— Але ж гэтая ружа для яе? Дзе ты яе, дарэчы, узяў? Я ажно на праспект з'ездзіў, і нідзе ружаў не знайшоў.

— Ты ідзі, Пеця, ідзі…

— Ну, як хочаш…

Пеця забраў прыгожа запакаваны падарунак. Які, аказваецца, хаваў тут, пад сталом і выйшаў…

А праз некалькі хвілін услед за ім пайшоў Павел. Ён так і не рашыўся ўзяць з сабою ружу.

Ад хвалявання яго хапіла толькі на тое, каб пастукацца ў дзверы, і папрасіць Святлану выйсці. Яна ледзь стрымала смяшок, які зараз жа завіс у ейным кпіне-паглядзе, пацiснула плячыма і, узяўшы за руку аліну, выцягнула яе з-за стала разам з сабою. Як толькі яны выйшлі ў калідор, за дзвярыма ў пакоі рассыпаўся зняважлівы смех. Гэты смех арэхавым рэхам гучаў у Паўла ў вушах, пакуль яны ішлі ў мастацкі корпус, да майстэрні — ён у кедах і спартыўным касцюме наперадзе,  Святлана з алінай, заручкі ззаду. Ключ, як заўжды, доўга пракручваўся ў замку, не адмыкаў. Нарэшце дзверы паддаліся. Павел зайшоў першым, хацеў усё зрабіць у змроку, але чамусьці запаліў святло. Узяў ружу, рэзка выхапіўшы яе з бутэлькі, працягнуў Святлане і … збіраўся ж нешта сказаць, нешта вельмі важнае, але падняў вочы і ўбачыў, што Святлана заружавелася. Яна цяпер не была падобная на белую ружу і пaглядала кплiва, зусім не так яму марылася, зусім не пяшчотна.

І яму адразу зрабілася ніякавата. Ён адчуў недарэчнасць свайго зношанага, запэцканага глінай спартыўнага касцюма, падраных кедаў, сабраных у хвосцік валасоў, і белая ружа чамусьці зніякавела, сцялася, і яму нават падалося, падвяла ў яе тонкіх пальцах… Павел не пачуў, ці сказала Святлана дзякуй, ен заўважыў, як выслізнула з майстэрні аліна. Ведаў толькі, што Святлана незапрасіла яго да сябе. Ён застаўся. Але па тым, што праз некалькі хвілін у майстэрню вярнуўся Пеця, па ягоным спачувальынм паглядзе ён нават не зразумеў, адчуў, як яго і ягоную ружу там, у Святланы абгаворвалі. Ды што там, яны здзекваліся, абсмейвалі так, што Пецю зрабілася ніякавата, і ён вымушаны быў пайсці…

Адзіны чалавек, хто тады, за сталом паводзіў сябе чалавечна, была Аліна. Яна спыніла смех сваім ціхім:

— А я б была шчаслівая, каб мне хто-небудзь падарыў на дзень нараджэння белую ружу.

І выйшла. А ўжо потым выйшаў Пеця.

Але тады ён так і не адважыўся да яе падыйсці.

А Павел цяпер штодня, ад сняданку, і да вечара быў пад прыцэлам некалькіх пар кплівых вачэй. Аданкласніцы, ды і аднакласнікі, з тых, што былі на дні нараджэння, і тыя, каму расказалі, стралялі ў Паўла, ён гэта адчуваў скурай, яны стралялі ў яго і іранічнымі позіркамі, і смяшкамі, і жэстамі. А то і словамі... “І на якой памыйцы ён табе, Светка, тую кветку занйшоў?!” Душа ўжо была як рэшата. А яны ўсё бачылі, адчувалі. Як яму балюча, і не сунімаліся.

Самым непрыемным было тое, што Паўлу не было з кім падзяліцца. Да споведзі ў кедах у мароз не дойдзеш. А Слава зусім перастаў прыязджаць. Нават кнігу пра Афон незабраў. Сонца ўзыходзіла позна. Урокі. Абед. І зноў цёмна. Павел па-ранейшаму суткамі не выходзіў з інтэрната. Бабуля напісала, што ўсе грошы. Якія ёй як апякунцы выплацілі на яго, аддала дзядзьку, які паехаў кудысьці на Поўнач у заробкі.  “Вось прыедзе, машыну сабе купіць. І мы адразу да цябе, Паўлічак, прыедзем...”

Цемра. Мароз. Завея. І ў майстэрню без курткі не зайсці. Вось тады ён і пачаў ляпіць з белага шамоту свайго “Нявольніка”. Чалавек са звяшанымі за спіною і паднятымі ўгору рукамі, укленчыў і прыпаў галавою да ўласных каленяў. Чалавек гэты быў так зроблены, што здаля бачыліся з’яднаныя ў адзіную сістэму шар і ўзнесеная вяршыняй да нябёсаў піраміда. Гэта быў таемны знак, і гэта быў спакутаваны чалавек, што ўзносіў малітву да Бога...

А на праглядзе камісія хацела ставіць яму тройку. І тады іх выкладчык, Мікалай Рыгоравіч, узяў Паўлаву работу ў рукі. Як немаўля, узяў у рукі і горача спытаў:

— А хто з Саюза мастакоў сёння зробіць такі твор?! Вы ведаеце, што тут яднаюцца абсалютная дынаміка шара і абсалютная статыка піраміды. Ці вы не бачыце гэтага? Гэта ж геніяльны, нават не творчы, а матэматычны ход.

Што ў Ляснога, дарэчы, па матэматыцы? — спытаўся ён у выхавацельніцы, Станіславы Паўлаўны, якая стаяла побач.

А тая ўсміхнулася:

— Два. І калі цяпер па мастацкіх дысцыплінах будуць тройкі, будзем ставіць на педсавеце пытанне пра адлічэнне...

— Гэтага не можа быць! Я сам скончыў матэматычную школу. Ён ж агеній. Можа ён мысліць цэласнымі вобразамі, і яго трэба навучыць дэталізаваць тое, што ён успрымае, як непарушнае цэлае. Гэта ж ваш абавязак навучыць яго рашаць задачы!

Яго апошняя фраза завісла ў мёртвай цішыні. Толькі “Нявольнік”, укленчыўшы, маліў… Але ж ці чуў хто тое маленне…

Побач стаялі работы Пятра родзькіна. Ён і Яна, у нейкай беспаветранай прасторы, у бязважкасці, прыпаўшы адно да аднаго вуснамі, узляталі, адрываліся ад зямлі, утваралі дзіўнае нябеснае кола. “Пацалунак”. Так называлася яго кампазіцыя. Мікалай Рыгоравіч зноў быў гатовы бараніць свайго вучня. Але, тут, на дзіва, усё прайшло гладка.

На наваголнюю дыскатэку ні Павел, ні Пеця не засталіся. Адразу пасля прагляду паехалі дамоў.

Паўла ўратавала Пецева мама, якая купіла Пецю новыя чалавікі, а старыя яны аддалі Паўлу. На дарогу пазычыла станіслава Паўлаўна. Не магла ж яна яго аднаго пакінуць н аканікулы ў школе.

У бабулі зноў быў п’яны дзядзька, які, здаецца, ні ў якія заробкі не ездзіў. Ён сядзеў на кухні з нейкаю сваёй сяброўкай, яны пілі і гучна нешта абмяркоўвалі.

Павел пайшоў у залу. Па тэлевізары пвыступала ласкавая, усмешлівая, элегантна апранутая кабета:

— Да Новага года, да Ражкства Хрыстова яшчэ ёсць час. Скажыце, напішыце сваім каханым, што яны для вас значаць. І яны будуць ведаць, што не дарма з’явіліся на гэты свет, што ёсць хтосьці, для каго яны святло ў вакне. Я не абяцаю, што вам адкажуць узаемнасцю, але, мож атак стацца, ваш званок, ці ваш ліст калісьці ўратуе вашай кахаанй ці каханаму жыццё. Пакрыўдзіць яго хтосьці, жыць яму ці ёй не захочацца, а перачытаюць ваш ліст і…

У той вечар Павел напісаў Святлане. Павіншаваў з Новым годам. І паслаў свае вершы, якіх сабраўся цэлы сшытак…

Я блукаў па тваіх слядах
І глытаў горкі дым расстання,
   Птушка шчасця села на дах,
   Толькі нашай яна ці стане? ..

Адправіў, вярнуўся з пошты, пазваніў Пеця, павіншаваў з надыходзячым Новым годам і сказаў:

— А я Аліне ўсё напісаў. Яшчэ калі ад’язджалі, аддаў. І яна мне адказала. Напісала, што ўсю ноч перачытвала і плакала. Ад шчасця. Яна, аказваецца, памятае, што роўна год назад, яна так мне і напісала: “Год, трыста шасцьдзесят пяць дзён таму назад, ты напісаў

маё імя на снезе пад нашым акном. Я тады ўсё зразумела. Але н еведала, як табе адказаць” Ты не паверыш, Пашка, не паверыш, я зараз еду да яе сустракаць Новы год.

Павел таксама сустракаў Новы год у светлым мроіве надзеі. Ён выйшаў на вуліцу. І ў нейкае імгненне стала ціха-ціха. Падаў снег, а яму здавалася, што гэта ападаюць пялёсткі, белыя, цёплыя. Жывыя. Яны кружацца і ператвараюцца ў мяккія хвалістыя валасы, якія, працягні руку, можна пагладзіць. І ён загадаў жаданне. Такое, што нікому не скажаш. Нават святару. Толькі ж, каб збылося, каб спраўдзілася...

Канікулы скончыліся. Павел вяртаўся ўМінск на дзень пазней, не было білетаў.

А па дарозе ў школу заўважыў сінічку, якая ўвесь час, быццам дражнячы, скакала перад ім. І яму так захацелася злавіць гэты жвавы жаўтлявы камячок, пакласці ў каробачку і падарыць Святлане. Ён нават паставіў сумку, нахіліўся, працягнуў рукі. Але сінічка пырхнула і...

У школе на вахце яго чакалі два канверты. У адным была маленькая паштоўка са смешнай сінічкай, якая сядзела на засыпанай снегам яловай галінцы: “Віншую з Новым годам! Я не такая геніяльная, як ты, і вершаў не пішу. Таму кажу проста: ты мне таксама калісьці падабаўся, але цяпер між намі нічога быць н еможа.” Гэты почырк ён пазнаў бы з тысячы.

У другім канверце быў строгі белы ліст з акуратна выведзенымі каліграфічнымі літарамі: “Прыеду адразу пасля Нараджэння Хрыстова. У манастыры ёсць для цябе праца. Рыхтуйся. Сілуян.”

А ў пакоі на вакне стаяў папяровы храм, і нід ім, да самай столі, віселі зробленыя з паперы жураўлікі. Павел пералічыў іх. Трыста шэсцьдзесят пяць. Трыста шасцьдзесят пяць дзён з таго часу. Як Пеця напісаў на снезе пад вокнамі дзявочага інтэрнатаімя сваёй каханай.

Дзверы расчыніліся. На парозе, узяўшыся за рукі, стаялі шчаслівыя і ўзнёслыя Пеця і Аліна. У яе руках была белая ружа.

## ТОРТ “П’ЯНАЯ ВІШНЯ”
## Святочны рэцэпт.

Пакуль нацяганыя з мамінага варэння ягады набіраліся каньяку, Ліда выспалася, нават сон сасніла, — як заўжды пад вясну, важкі, непрыемны ( “Куды ноч, туды сон!”), пакарміла і выправіла ў школу дачку. Паснедала ( яешня, чай з лімонам, булка, якую не даела Віка), падвяла вочы і вусны, пудра, духі — і ў тралейбус. Гузік вырвалі — бог з ім. Толькі паспела пераапрануцца і — у радзільную залу.

Дома вішні набіраліся каньяку, а яна тым часам прыняла трое родаў ( дв ахлопчыкі і дзяўчынка, адной давялося ставіць шчыпцы, чатыры швы пад наркозам). Папіла чаю, прайшлася па палатах, дапамагла жанчыне сцадзіцца.

— Ой, вы ж уся малаком маім запырскаліся! І на твары... Выбачайце, калі ласка, выбачайце!

— Ды нічога, не хвалюйцеся так. Гэта, кажуць, выдатны касметычны сродак. Праз тры гадзіны другую самі сцэдзіце. Так, як я вам гэтую. Пакуль фантанам не перастане біць.

Яшчэ пяць родаў. Двойня, хлопцы, хлопец і дзве дзяўчынкі.

— Каралькова. Ліда, цябе ў прыёмны пакой!

Зіма, а такія ружы! Ніколі б не падумала, што ў гэтай смяшлівай кірпаносай парадзіхі (Лена, здаецца) такі прыгожы, самавіты муж. У дублёнцы, пыжыкавай шапцы...

— Дзякуй вам, дзякуй! Не-не, больш нічога не трэба. Цукеркі я акушэркам аддам.

Станіслаў Юзэфавіч прыйшоў раней, адпусціў.

— Ідзі ўжо, рыхтуйся, імянінніца.

— У мяне сёння будзе торт “П’яная вішня”!

— О! Хоць кавалачак заўтра рынясі, добра? Пакаштаваць.

— Калі Валін муж пакіне. Дарэчы, каб не забылася. Тая са 114-й так і не корміць свайго. Юрыста патрабуе. Будзе адмаўляцца. А такі хлопчык! Тры пяцьсот...

— Н-ну, смаркачка!

І развітацца не паспела, Станіслаў Юзэфавіч, зашпільваючы халат, ужо выйшаў з кабінета. Па калідоры — рэхам ягоныя рашучыя крокі. А ёй трэба хутчэй дахаты...

Нарэшце ружы ў крышталёвай вазе, бісквіты ў духоўцы. Цяпер крэм з міксера — на холад. І можна заняцца вішнямі. Палушчыла, падсмажыла арэшкаў. Асцярожна, па адной выняла вішні з каньяку. Як сокам наноў наліліся! У кожную вішаньку — па арэшку...

Віка прыйшла з цюльпанамі. Пэўна, зноў у мамы, для яе — бабулі, грошы брала. Ладна.

— Дзякуй. Садзіся есці.

Увайшла на хвіліну ў ванну: падрэзаць, паставіць кветкі ў ваду, вярнулася — у духоўцы шчыліна.

— Віка! Ты адчыняла?

— Не-а. А што?

Божа мой, зноў хлусіць! І, галоўнае, хлусіць — і вокам не міргне. Як татачка! Уся, уся ў татачку! Як стрымацца, як не сказаць ёй гэтага?! Змоўчаць, змоўчаць, змоўчаць...

Тады таксама быў яе дзень нараджэння. Госці сабраліся, а яго няма і няма. У гадзін адзінаццаць з'явіўся. З двума паламанымі гваздзікамі. "У нас нарада была". А сам ледзь на нагах трымаецца. Перагарам тхне — ванітаваць хочацца. І ў вачах холадна і глуха.

Трэба было адразу тады і выставіць. Але ж няёмка. Чалавек павіншаваць прыйшоў. Мама з татам вучылі яе давяраць людзям. Можа, і праўда была нарада. Пасватаўся. Маглі ж, маглі ў агульных знаёмых распытаць, з якой ён сям'і, як і чым жывуць, чым захапляюцца. І мама ж, і бацька шэсць гадоў у медінстытуце праседзелі, потым у аспірантуры, генетыку вывучалі. А дазнацца, якія ў Гены гены... "Ну што ты, Лідачка, гэта няёмка..."

Віка падрасла, забралі яе, паехалі адпачываць. Каб ім з Генам сам-на-сам пабыць, разабрацца. А яна вярнулася з дзяжурства — у хаце ад цыгарэт не прадыхнуць! Карціна ў калідоры з цвіка сарваная, пасярод залы—на газеце сала, селядзец і крыштальныя фужэры з самагонкай. На канапе, не здымаючы чаравікаў, сантэхнік спіць. А Гена з электрыкам побач у карты рэжуцца.

Вось і ўсё. Фініта ля камедыя. Цяпер, кажуць. узяў сабе маладзенькую прадаўшчыцу з ювелірнага магазіна. У кааператыў нейкі ўладкаваўся. А Віка падрастае і ўсё больш і больш на яго падобная. І вочы, і выраз твару. Гены... Хлусіць пачала. Як ён. Стукнуць яе ці што?!

— Віка, родненькая... Я цябе прашу, я цябе заклінаю! Не хлусі мне больш ніколі, добра? Даражэнькая мая, дачушка, я цябе прашу... Я ж твая мама! Я ж цябе заўсёды зразумею, я табе дарую... Толькі не хлусі!

— Ладна... — Віка цепнула плячыма.—Табе памагчы?

Бісквіт пераклалі на блюда, перасыпалі арэхамі, залілі крэмам. І цяпер Зужо ўдзвюх пачалі асцярожненька хаваць у кожную вішаньку па арэшку. Хутчэй, хутчэй! Увесь торт павінен быць

аздоблены ягадамі... Каб усе рассмакавалі. А яшчэ ж салаты, курыца, мяса, бульба...

— Табе памагчы? — гэта мама, за ёю тата. Можна ісці апранацца.

На яе стале яшчэ адзін букет цюльпанаў і бурштынавыя пацеркі. Якраз да яе любімых завушніц. І да новай чорнай аксамітнай сукенкі. Дзякуй, мамачка! Дзякй, татачка! Любыя мае, родныя, дарагія!..

— Якая ты сёння! — Валін Сяргей цалуе ёй руку.

А што ж яны думалі! Сама пашыла. Але няхай думаюць — замежаная.

— Не, не я буду, калі не сасватаю цябе за якога дыпламата! У такіх шыкоўных сукенках толькі н апрыёмы хадзіць. Вучыся, Валюха! — Сяргей глядзіць на Валю, Валя на Сяргея.

Праз месяц яны адлятаюць у Парыж. Валіна гінекалагічная кар’ера канчаецца. Пачынаецца дыпламатычная.

Але час садзіцца за стол. Ліна Сямёнаўна з мужам, Вольга, чамусьці адна.

— Валерка мой зноў на зборы паехаў...

Прыемна пасядзець сярод добра знаёмых, блізкіх табе людзей. Ведаюць, ра што памаўчаць, чыё імя не называць, калі тост сказаць. Усё надзіва смачна, усё чароўна. І ні слова пра раддом і ўвогуле пра медыцыну. Першы глыток за здароўе бацькоў. А яны адразу расчуліліся і пачалі ўспамінаць, як мама паехала працаваць у глухую палескую вёсачку фельчаркаю, а бацька яе правяраў. Правяраў, правяраў ды звёз з сабою. Потым зноў гаварылі пра Парыж. Пра французскую мову, якую Ліда вучыла на курсах, можа, хоць колькі надарыцца папрацаваць за мяжою. Не ў Парыжы, дык у Афрыцы. Дача ж падрастае. Ліна сямёнаўна раз-пораз званіла сваім дзесяцігадовым блізнятам, якія нарадзіліся, калі ў мужа ўжо галава была сівая. І, скажы ты, сама столькі родаў прыняла, і да апошняга не ведала, што блізняты. Вольга ўвесь час гаварыла пра свайго мужа-футбаліста. Потым вывела Ліду на кухню.

— А ў твайго былога мужа хутка, здаецца, малы будзе.

Што ж, хто-хто, а суседка ведае.

— Я табе на тым тыдні пазваню. Глянеш мяне. А то нешта ў мяне не тое...

І пайшлі падрабязнасці. Не за святочным сталом кажучы. Ліда слухала і не слухала. Хоць бы аборт не давялося вользе рабіць! Для яе ж кожны аборт, як забойства. Можа, бог і карае яе, што столькі крыві на руках. Хоць бы не аборт...

Прыйшла Валя. Быццам пакурыць.

— Ты сёння проста цуд! У цябе, пэўна, нехта з’явіўся. Ну, прызанайся! Па табе ж відаць. А чаму ён не прыйшоў?

“Таму што яго няма”, — ледзь не вымавіла Ліда. Але толькі ўсміхнулася. Хай сабе думае, што хоча.

— Я пры Вользе не хацела... Тут мне муж за долары спіраль купіў. Не ведаю, ці цябе, ці Ліну Сямёнаўну папрасіць...

— Як хочаш...

А за сталом ужо чапляліся да Вікі.

— Ну,  і як вучышся?

— Нармальна.

— Маме дапамагаеш?

— Дапамагае, дапамагае! — паспяшалася ўставіць Ліда. Дачка і так здранцвела ад залішняе ўвагі.

— Не сутулься! — ляпнула Віку па спіне бабуля.

Тая надзьмулася і яшчэ ніжэй схілілася да стала. Ліда была ў роспачы. Прасіла ж, прасіла маму казаць малой, ды яшчэ пры людзях, толькі кампліменты! Ліда паспрабавала пагладзіць Віку па галаве. Дачка адкаснулася. Ну вось... Усё паўтараецца. І чаго толькі сама яна не выслухала за свае трыццаць пяць гадоў ад бацькоў, потым ад мужа!.. “Ну і тлустая ты ў мянею Проста каровіна!” А ёй здавалася, такое можна гаварыць і кахаючы. Бацькі ж таксама ёй розане казалі.. Можа не так груба, але розане... Жартавалі...

Зноў на кухню.

— Нарэшце, нарэшце твая “п’яная вішня”!

— І хапае ж у яе цярпення такія прысмакі рабіць! — мама лічыць, што гэта марная трата часу.

Валя смакуе першаю. Сяргей таксама прыцмоквае і, абсмактаўшы, акуратна выплёўвае арэшкі. Ліда гэтага спачатку не заўважыла. А, наліўшы ўсім чаю, жахнулася:

— Ды ты што?! Я цэлы вечар закладвала арэшкі ў вішні, а ты іх выплёўваеш?

— А я думаў, гэта костачкі... Ты глядзі, праўда, арэшкі! Амерыканцы такія да віскі з соадвай падаюць...

Віка ўскочыла і ляпнула дзвярыма.

— Вось яны, сучасныя мужчыны! Самы смак, сутнасць, можна сказаць, пасмокчуць і выплюнуць... Дзе ж ім ацаніць сапаўдную жанчыну! Не, у нас табе, Лідка, замуж не выйсці! — ці то жартам, ці то ўсур’ёз сказаў муж Ліны Сямёнаўны.

— Ідзі ты ўжо, ідзі. Нап’ецца, тады балбоча абы-што... — Ліна Сямёнаўна падштурхнула яго да дзвярэй. — а яшчэ кажа: хірургі самыя маўклівыя людзі!

Сргей з Валяю і вольга таксама пачалі збірацца. Сподачак з абсмактанымі арэшкамі атк і застаўся на стале. Давялося высыпаць у сметніцу.

А калі ўсе заснуллі. Ліда пайшла на кухню, узяла эмаліраваную міску, што яшчэ стаяла на падваконні, і нагбом выпіла каньяк. У якім амаль суткі ляжалі вішні. І, скажы ты, не засталося ніякага нават прысмаку.

**СМЕРЦЬ НАСТАЎНІЦЫ.**
**У пошуках страчанай годнасці.**

Сланечнік, абцяжараны безліччу ім самім узгадаваных чарнапузых семак, ужо не меў сілы паварочвацца ўслед за сонцам, пільнаваць гэтую дзіўную, забытую ў сусвеце, самую годную з усіх зорку любові. Бязвольна панурыўшы галаву, ён чакаў канца. А, можа, пачатку! Пачатку свайго новага існавання там... Там, дзе ты нікому нічога не вінны, дзе лёгка дыхаецца і марыцца, дзе можна стаць бязважкім сонечным святлом ці імклівым ветрам, дзе здзяйсняюцца ўсе твае парыванні і мары, бо ты сам, і дух твой і душа ёсць ужо не што іншае, як адзінае парыванне і мара...

Пануры сланечнік утаропіўся ў зямлю. Цвыркатанне конікаў закладае вушы. Цішыня. За веснічкамі, за гэтымі да драбніц знаёмымі сланечніку, ягонымі блакітнымі веснічкамі сёння цішыня. Маўчыць, не прадыхнуць, камячыць насоўкі гора.

Дзверы ў хаце — напята. Пры іх, уздоўж сцен, дзе прыйдзецца, панурыя, стаяць, сядзяць настаўнікі ў акуратных старамодных касцюмах, суседкі ў чысценькіх светлых хусцінках. Сярод захінутых жалобай люстэрак, чорных сарочак, сукенак і стужак гэтыя хусцінкі быццам урачысты, свежы подых Радаўніцы. Людзі сталага веку на пахаванне прыбіраюцца, як на свята. Можа, таму што смерць для іх не ёсць канец? Смерць для іх — пачатак. Пачатак новага, яшчэ неспазнанага існавання. Існавання ў бязважкасці святла, імклівым подыху ветру, у лятуценнасці мараў...

Захінуўшы (каб бяда не прычапілася) чыстымі хусцінкамі свае акуратна падабраныя сівыя валасы. Кабеты праводзяць у апошні шлях сваю суседку. Рыжэвічыха, цяпер ужо назаўжды сцяўшы знямелыя вусны, ляжыць у труне, ахінутая белапенным цюлем і слёзным маленнем сваіх здранцвелых ад журбы дочак і ўнукаў. Сёння ёй выпраўляцца ў дарогу, якую, нідзе н епадзенешся, давядзецца рана ці позна прайсці кожнаму з нас. Невядомы шлях да вечнасці. Таемны калідор, у якім мігціць запаленая ля партрэта свечка і глуха зачыненае вакно, за якім ужо па-суседску падаюць руку, сустракаюць Рыжэвічыху суседкі — Пятроўна, што адышла ўсяго некалькі тыдняў таму, Каваліха, з якою развіталіся летась...

Пятроўна вырошчвала клубніцы, гуркі ікветкі... Півоні, гладыёлусы, нават ружы. Вырошчвала і прадавала (і ў Мінск на Камароўку вазіла). Збірала на бязбедную старасць і на смерць. Ейны муж памёр рана, дзяцей Бог не паслаў. Усё жыццё спадзявалася толькі на сябе. Ці тое пяць, ці тое дзесяць тысяч сабралася ў яе на

кніжцы, калі прыскочыла і праглынула іх усе ненажэрная інфляцыя (глядзі ты, і не папярхнулася!). Праглынула, вальяжна пазяхнула, пацягнулася ды з'едліва пасміхнулася з услаўленых, шанаваных па ўсім свеце працавітасці і ашчаднасці. Па ўсім свеце ды не ў нас... Пятроўне б адпачыць, а яна, ужо хворая, перамагаючы боль у сэрцы, ціск, разам з пляменнікам і пляменніцаю ізноў капала, палола, палівала грады. Палола, пакуль не спаралізаваў яе інсульт. Пляменніца не кінула яе, дагледзела, пляменнік пахаваў. Цяпер яны ўдваіх, таксама немаладыя ўжо людзі, збіралі ў ейным садзе яблыкі. Белы наліў і мэльбу.

Каваліха таксама даглядала сад і гарод, а яшчэ, лічылася, лепш за ўсіх у іхнім гарадку замаўляла ваду і варажыла... Цяпер пасля йнае смерці прыязджаюць па ваду да ейнага сына. Нават са сталіцы.

Пятроўна вырошчвала кветкі, Каваліха лячыла, Рыжэвічыха вучыла. Яна была першай настаўніцай і ў пляменніка Пятроўны, і ў сына Каваліхі.

Я з яе вучняў ведала толькі дваіх. Тоню і Антона. Мае равеснікі. І мусіла ж быць у іх нешта агульнае... Раз вучыліся ў адной настаўніцы. Першая ж настаўніца яна як маці...

Тоня, звычайна вельмі мяккая, чуллівая кучаравенькая бландзінка, усмешлівая і шчодрая, скончыла ў сталіцы медінстытут, і вось павандраваўшы са сваім падцягнутым і надта ж паслухмяным перад вышэйшымі чынамі вайскоўцам-мужам і такімі ж, як яна, кучаравенькімі і яснавокімі дачушкамі па Расіі і Прыбалтыцы, нядаўна вярнулася назад да маці, у гэты, да болю знаёмы ёй, родны гарадок. Цяпер яна працавала ўчастковым тэрапеўтам у раённай паліклініцы, вырошчвала мядовыя настуркі і сама не верыла, што рашылася на развод... А ўся справа ў тым, што пасля таго, як муж звольніўся ў запас і замест строгага кіцеля і пагонаў апрануў вульгарныя шорты з пальмамі і майку "адзідас". Пачаў вазіць з Польшчы, Румыніі, Турцыі джынсы, красоўкі. Яшчэ ўсялякую дробязь, як пачаў гандляваць, то як усё адно кайданы з яго знялі. Напіваўся, грубіяніў, зневажаў яе. Больш за ўсё яму падабалася пасміхацца з ейна езарплаты. За месяц урач атрымлівае, колькі ён за дзень! Вось табе і залаты медаль, і чырвоны дыплом, высушаныя мазгі... Не стрывала, забрала дзяўчат і дамоў, да мамы. Муж прыязджаў, пасіў прабачэння, але яна пэўна ведала, што варта будзе яму напіцца, і ўсё паўторыцца наноў. А тут, дома, яна быццам выпрасталася і годна ўскінула сваю кучаравенькую галоўку. Яна радавалася, што дзяўчаты вучацца ў той самай школе, што і яна, і вучацца на выдатна, брат паступіў на юрфак, а мама пайшла на пенсію, і цяпер яны разам

даглядалі гарод і нават купілі казу. У родным гарадку яе называлі не йначай, як "наш доктар"...

Гэта да яе, першай, кінулася тым страшным вечарам дачка Рыжэвічыхі. Якая, ну быццам адчувала!, прыехала на выхадныя з горада. Але яна, Тоня. Як і "хуткая дапамога", якую выклікалі суседзі, ужо нічога не магла зрабіць.

— Валявая была жанчына... — зусім недарэчы сказаў шафёр "хуткай"...

— Надта ж не хацела, баялася быць нам абузай, - у роспачы прашаптала дачка.—Зіму ж у нас, у Мінску жыла. А як пацяплела, сюды папрасілася... Мыз сястрой як ні ўпрошвалі, не згадзілася, паехала. А як тут ёй адной... Яна ж і забывацца пачала: ці паела, ці не... І хадзіла ледзь-ледзь... Без кавенькі ні кроку...

Тоня абняла яе і заплакала... Задзень да таго была моцная навальніца. Яблыкі пазбівала... тоня прыйшла да калонкі і бачыць: Рыжэвічыха, абапіраючыся на кавеньку, наўколенцах поўзае па сваім садзе, збірае яблыкі-ападкі... Заўважыа яе, ледзь пераводзячы дыханне, зморана гукнула:

— Тонечка! Можа вазьмі сваім дачушкам яблычкаў... Вунь іх сколькі нападала...

— Дзякуй, - сумелася. Не ведаючы, як адказаць.—У нас жа сваіх, не прыдумаеш, дзе падзець. І сушым іх, і варым. І ўсё адно гніюць...

— Гэта ж надта добрыя, белы наліў, — па-паляшуцку круглячы анчатак, умольна, але з гонарам, сказала Рыжэвічыхаі , не пачуўшы адказу, уздыхнула: — Ну во, каму ні прапаную, усе адмаўляюцца. І суседка кажа: "Свае е..." і ты... Па каму, навошта?..

Тоня ў роспачы хацела ўжо забраць у яе тыя яблыкі. Але ж... І ейная мама гэтаксама поўзала, уздыхала над іхнімі ападкаі. Стрымалася. Панесла два поўныя вядры вады дадому.

А цяпер вось нічога ўжо не вернеш...

Тоня, стоячы пры веснічках, плакала. А антон, з якім калісьці яшчэ ў першым касе Рыжэвічыха пасадзіла за адну парту, толькі панура курыў...

Ён не плакаў. Думаў. Дзўная рэч жыццё. Сёння ёсць, а заўтра, як пясок скроь пальцы, - ні дзянёчка, ні хвліначкі, ніводнага ўздыху.

І ніколі больш не трэба будзе адпрошвацца ў хітраватага выпівохі прараба, які каб выслужыцца перад начальствам у эткую спёку пагнаў усіх грузіць цэглу. І не трэба будзе чакаць тыднямі да смешнага малую зарплату.

Не трэба будзе тлумачыць Наташцы, жонцы і матцы, з кім і дзе выпіў... Але ж ужо і Наташка не прыгорне, і дачушка не прылашчыцца і сынок, як і ён, антосік, не папросіць падкінуць да неба... Застануцца ягоныя кніга і часопісы, і курганы, там, за рэчкай, у якіх ён адкапаў старую ржавую сякеру і чарапкі, з якіх склеіў шэранькі шурпаты гаршчочак. А хто ягады, грыбы пазбірае на ягоных мясцінах? Наташка без яго так далёка не паедзе, не асмеліцца. І веласіпед ягоны. І лыжы, і стрэльба... Заржавее стрэльба... І не згатуе ў печы Наташка, так, як толькі яна ўмее, свежаўпаляванага зайца. Не, памерці страшна... А можа і не страшна зусім... Вось Рыжэвічыха ўжо ведае, што там, за рысаю... а яшчэ ж дні два таму сядзела яна з цёткаю Дусяй на лавачцы ля калонкі, і ён, набраў вадыд, прыстояў з імі... Разгаварыліся. Пра таго, каго для саміх сябе незаўважна ўсе ў іхнім гарадку пачалі называць Ён.

— От скажы, улез людзям у душу, — шчыра абуралася цётка Дуся,— а сам...

— Пусты чалавек, — як адрэзала Рыжэвічыха, і гэтыя ейныя словы рэхам стаялі ў Антонавай памяці ўсе гэтыя дні. Як гэта страшна, калі пра цябе пажылая жанчына, настаўніца, кажа ўсяго дв асловы: “пусты чалавек!”. Гэта ж, як сланечнік без семак, ці колас без зярнят... не, не хацеў бы ён, каб пра яго ці пра дзяцей ягоных, унукаў хто-небудзь так сказаў...

На памінках антон сеў побач з жонкай, Наташкай. І калі налілі яму першую чарку, адчуў, як тая адразу наструнілася, захвалявалася. Ён скурай адчуваў гэтую ейную заўсёдную пільнасць... Каб жа толькі не напіўся, каб жа не напіўся... Але сёння яна не раздражняла, не ятрыла яго... Ён сам пасля трэцяй, як гэта прынята, сам закрыў сваю чарку далонню. І ніхто яго не ўгаворваў, не вымушаў. Бо тут, у гэтай хаце гэта было не прынята.Тут шанавалі цвярозы розум і годнасць.

А можа, гэта і ёсць тое галоўнае, што пакінула Рыжэвічыха ў сваіх вучнях? І Тоня, і Антон ведаюць сабе цану. І ніхто ніколі не змусіць іх пакланяцца недарэчным ідалам.

Ля вакна, таго самага, за якое, здаецца, адплыла з цяпер застаўленага талеркамі жалобнага стала труна, вісела цудоўная пяшчотная акварэль. Іхняя рэчка. Царква. У ранішнім знобкім тумане... Гэта ўнучка намалявала. Надзея. Блакітныя вочы, даўгія льняныя валасы. Калі летам яна прыязджала да бабулі, шторанак бегла н арэчку, рабіла нейкую адмысловую гімнастыку, купалася... А па вечарах малявала, ці, прыхінуўшыся да старой пахілай вярбы. Чытала... І было ў ёй нешта нетутэйшае, такое далікатнае, вытанчанае, панскае...

Побач з ёю за жалобным сталом сядзеў ейны брат Сярожа, Сяржук, як ён сам сябе называў, увесь у канапушках, з нязвыклым тут на раёне дзявочым хвосцікам на патыліцы.

— Увесь у дзеда, — бывала, уздыхала Рыжэвічыха, — Драчун. Мой жа, вы памятаеце, калі што не па ім — адразу біцца. Каб не мая цярплівасць, і мне б перападала... А гэты, малы, у рыцары запісаўся. Замкі з пластыліну лепіць, коннікаў, сам сабе латы, кальчугу зрабіў... Уяўляеце, колькі гэта цярпення трэба мець, каб з дроту сабе выплесці кальчугу... Сама не ведаю, што з яго будзе...

Побач з Надзеяй і Сержуком сядзеў Антонаў бацька. Ён раптам расплакаўся і, сам сабе наліўшы чарку, падняўся. І Антон ажно перасмыкнуўся ад ягонага глухога, з трэшчынай, голасу:

— Даруйце, я таксама хачу сказаць... Я любіў, я кахаў Соню... І многія з вас тут, і жонка мая, а можа, і дзеці, ведаюць пра тое. Калі яна прыехала сюды, з мужам, з дзвюма сваімі дачушкамі, і ў мяне ўжо і жонка  была, і сыны падрасталі... але калі зранку яна ў сваёй лёгкай, як аблачынка, сукенцы, у гэтых акуратненькіх туфліках праходзіла паўз наш двор у школу... Я шторанак, як заварожаны стаяў пры вакне ці ля веснічак... было ў ёй нешта такое... Гонар, годнасць у ёй была... Незвычайная. І так яна ішла. Ступала... Імклівa, лёгка. Так несла сваю, як каронаю, аплеценую залатымі косамі галаву... У мяне ўсярэдзіне ўсё замірала. Адно слова—настаўніца... І што дзеці нашыя людзьмі сталі, гэта ж ёй, Соні. Дзякуй... а мне, мне за шчасце было, хоць прывітацца, хоць словам з ёю перамовіцца. Я потым увесь дзень як на крылах лётаў. Я ейную ўсмешку во тут, — ён пастукаў па грудзях, — во тут дасюль нашу... а сёння, як усё адно вырваў хто яе ў мяне. Пуста, як жа пуста цяпер стала...

І ён, глытнуўшы, упаў на рукі і заплакаў наўзрыд. І Антонава маці заплакала разам з ім...

Атулены ляснымі, грыбнымі ўзгоркамі, ды жыццядайнымі крыніцамі гарадок развітаўся са сваёй Настаўніцай. Ля блакітных веснічак сланечнік чакаў свайго канца. А ў сталіцы, у Мінску, ля Камароўкі ўсё наўкола ўжо было запляванае семкамі. Людзі з сумкамі беглі. Ішлі, спяшаліся кожны па сваіх справах і лузгалі, лузгалі семкі... Лузгалі і плявалі. Можа, так пераўтвараюцца ў вярблюдаў?

І па гэтым расплаўленым. Мяккім, запляваным семкамі асфальце крочыў рыцар у латах. Ніхто не пазнаваў яго. Жалезная маска хавала ягоны ўпарты, засыпаны канапацінкамі кірпаносы твар і сабраныя ззаду ў хвосцік валасы. Ён крочыў годна, прыгожа. І, здавалася, адзін нікуды н еспяшаўся. Ён ужо развітаўся са сваім маленствам. Але добра памятаў і атулены ўзгоркамі гарадок, куды

прыязджаў да бабулі на лета, і тое. Як шчодра. Па суседску, частавала яго Пятроўна клубніцамі, я , як, калі ён спужаўся сабакі, Каваліха загаворвала яму крынічную ваду... адтуль, з маленства, з мамінай радзімы ў яго і цярплівасць, і працалюбства, і, так хочацца верыць, моц. Бо, нікому нябачная, ляціць над ім, бласлаўляе яго ягоная баба Соня. Сафія. Мудрасць. І ў яго стае годнасці і волі вось так, імкліва, лёгка крочыць нават па запляваным вярблюдамі асфальце.

## ВІШНЁВЫ САД.
## Горкі напамін.

Гэтую хату на ўскрайку гарадка, дзе мы звычайна летуем. Я неяк адразу вылучыла сярод астатніх. Ад яе да рэчкі напрасткі ўсяго пару дзесяткаў крокаў. Зручнае месца. І хатка такая акуратненькая, блакітная, з белымі аканіцамі, крхмальнымі хусцінкамі фіранак, з усмешлівымі кветкамі-агеньчыкамі. Вы заўважалі, што, калі на падваконнях гдуюцца кветкі, нават просты альяс, здецца, хата шторазь усміхаецца атбе, праводзіць уважным сваім паглядам, махае хусцінкай, Мінаеш такую аквечаную хацінку і лягчэ, харашэе на душы. Вяртаешся, і заўважаеш, што за плотам красуюць сабарныя ў гатычныя верыткалі ружовыя мальвы і разбэрсаныя, усх колераў — ад сляпучага лімоннага да мяккага малінавага — вяргіні. Яны сустаркаюць цябе, як старога знаёмага, віаюцца, пaглядаюць гаспадынямі. Гародчык дагледжаны. Бульба, цыбуля, буракі. Гуркі. Памідоры, чыснык, над усім — жоўта-зялёнае марыва кропу… ал галоўнае, што прыцягвае ўвагу — вішнёвы сад. Столькі вішань, буйных, налiўных, адна ў адну, я ніколі не бачыла. Там жыла Лісіха. На жаль, не ппытала ні ў яе самой, ні ў людзей ейнага прозвішча, хаця б імені…Усе Лісіха ды Лісіха… Яна не крыўдавала, быццам нават ганарылася, што звуць, як калісьці звалі свякруху. Мужавы бацькі былі тут надта паважанымі гаспадарамі.

Праз пару дзён Лісіха ўжо частавала маіх малых вішнямі. Свежая белая хусцінка, выцвілая блакітная кофта, кавенька… Яна пасадзіла хлопцаў побач з сабою на лаўку пры веснічках і, падставіўшы ім нягнуткую ўжо сваю далонь, падсыпала і падсыпала туды з вядра вішань…

— Толькі на дарогу не плюйце. Дарога павнна быць чыстаю, — папярэдзіла цвёрда і, дзіўна, мае малыя адразу яе паслухаліся. Костачкі ляцелі ў прыдарожную траву.

А вось імёны маіх сыноў яе моцна здзівілі.

— Алесь? — перапытала Лісіха.—Неяк надта па-простаму. А Янка — гэта ж па-польску… Ды ладна. Гадуйцеся. Расціце вялікія-вялікія, і мамку сваю не забывайце. Мае во ўжо і дзеці, і ўнукі павырасталі. Унукі тут, на суседняй вуліцы жывуць. Квацеры са ўсімі удобствамі… Цяперака да мяне й вачэй не кажуць. Толькі што во па вішні. У Мінску на Камароўцы за вядро, кажуць, цэлу пенсію маю даюць. Няхай возяць, прадаюць. Мо й на машыны назбіраюць. А што ім са мною сядзець, прастарэкваць… Праўда?..

Слова за слова. Я пабедавала, што меншы мой шчэ слаба гаворыць. Лісіха праверыла, абнадзеіла: калі сказаў “камень”, то ўжо загаворыць. Паспачувала мне, што “пужаныя” яны, мае малыя, можа, сабака калі кінуўся, абяцала загаварыць вады. Да яе, запэўніла, і з Мінска ездзяць паваражыць, ваду замаўляюць. А потым Лісіха вучыла хлопцаў гуляць “у каменьчыкі”, перакідала цвёрдыя шэрыя драбочкі з тыльнаг абоку на далонь, назад. І расказвала, расказвала... Ці то гісторыю, ці то жальбу свайго жыцця...

У вайну, як і ўсе яе суседкі, засталася ўдавою. Вось такая заклятая вуліца... Дваіх дзяцей сама падняла на ногі. Сына і дачку. Сын, як паехаў на Поўанч служыць у арміі, так там і застаўся. Прыжаніўся. Дзяцей, праўда, нямашака. Але неяк жывуць. Піша. Прыязджае. Гэта ён і хату пафарбаваў, і плот падправіў, і вішні рассадзіў. Абяцаў і сёлета падвосень прыехаць. А дачка, дык тая пры ёй засталася. Хлопец з суседскае хаты пасватаўся. Абодва ж, здаецца, і не дурныя былі, і да працы здатныя, жыць бы й жыць. Двое сыноў адзін за адным у іх нарадзіліся. Лісіха дасюль сябе дакарае: каб пры ёй, у гэтай во хаце жылі, можа б, і добр аўсё было. Ды надта ж горды, не схацеў у прымы, пайшлі да яго. А ў суседкі, ягонае маткі, заўжды на вячэру — пляшачка. Уцягнуўся. І ён, і дачка. А дзе пляшка, там сварка. Унукаў яна, Лісіха, і карміла, і абмывала. І дачку назад у хату, было, перацягнула. Ды ад долі сваёй хіба схаваешся? Прыбег мужык, вокны пабіў, дзяцей забраць хацеў. Дачка, як была ў начной сарочцы — на двор, ды на бяду ў сенцах керагаз падхапіла, поўненькі. Плёснула на таго газаю... “Падпалю!” — крычыць. А ён п’яны, яму мора па калена... Ну і чыркнула запалкаю. А потым тушыць кінулася. Так абодва і згарэлі. Лісіха, калі з хаты выбегла, малых жа трымала, каб услед за маткаю не выскачылі, позна ўжо было. Позна...

— І ўнукаў, як дзяцей... Адна падымала. Сын, праўда, памагаў. Калі грошы, калі адзежы якой прышле... адгаравала сваё... Цяперака хай яны сваё гаруюць. .. Ажаніліся ж адзін і другі. Кватэры са ўсімі ўдобствамі. А я... Што ім я... Вока во адно зусім не бачыць. Глухну... І твар... На малпу падобная... Праўда?

Я сачыла за малымі, каб меншы не праглынуў костачкі, каб большы не выбег на дарогу. І не прыглядалася, не ўглядалася ў яе твар... А калі на развітанне зірнула... Як апякло мяне... Ды не, нетвар. Вочы. Адкрасавалі, выцвілі ейныя вочы. Ад тугі, ад слёз. Такія вочы былі ў маёй нябожчыцы бабулі перад смерцю...

Калі абабралі вішні, я бачыла, як раненька, да спёкі, абапіраючыся ні нізенькі, спецыяльна прыстасаваны для таго зэдлік,

поўзала Лісіха між градаў—палола. У нядзелю зранку аўтобус раптам спыніўся ля нашае вуліцы...

— Лісіху чакае. Да царквы пдвозіць. Самой ёй ужо не дайсці, — растлумачыў сусед.

А потым некалькі разоў уздымалі пыл, ляцелі паўз нашую хату шалёныя “Мерсэдэсы”.

— Да Лісіхі. Па ваду, - шапнула на вуха суседка.

Прайшоў год. Сёлета ізноў да вішань і яблыкаў прыехалі мы ў той маленькі, атулены ляснымі ўзгоркамі гарадок. З дарогі, ды ў гэткую спёку... На рэчку! Вядома ж, на рэчку... І як там пачувае сябе нашая Лісіха? Мы ёй прывезлі абрус і каробку цукерак. Вада ж, загавораная ёю, крынічная вада, здаецца, дапамагла...

Сон. Не, не сон. На месцы яснавокай, усмешлівай хацінкі стаяў суровы мураваны палац.

Вішні, бліскучыя, гладзенькія, цэлымі гронкамі хінуліся да дарогі. Але нават суседскія хлопцы іх не шчыпалі. Сабака праводзіў усіх злосным, надрыўным брэхам.

Наша суседка ўсё растлумачыла. Лісіха шчэ ўвосень памерла. (“Цяжка канала... Ой, цяжка... Яна ж чараўніца. А ў іх, пакуль душа д анеба дабярэцца. Ой нацерпіцца. Напакутуе...”) а ўнукі, бо сын і на пахаванне не прыехаў, адразу прадалі хату армянам. За долары. Купілі сабе па “Мерсэдэсу”. Адзін — белы, другі — “колеру электрык” (гэта сын суседцы так казаў, ён з імі ў леспрамгасе разам працуе).

Да гэтага лета Арменія ў мяне асацыявалася з выдатнаю паэткаю Сільвай Капуцікян, па суседству з якой мы гадоў пятнаццаць таму адпачывалі ў Кактэбелі. Годная, падцягнутая, і ў свае шэсцьдзесят яна ў доўгай, строгага крою сукенцы не ішла, мякка ступала, няўмольна нагадваючы мне старажытную царыцу горнага, з небам абвенчанага сар’янаўскага краю... І прыветнасць у яе была царская. І жэсты. І гаворка, і вершы, якія чытала на адным з вечароў... А ўслед пасяпшалі ейныя дзеці. Беглі. Раіліся, як пчолкі, унукі. Культ сям’і. Клуьт маці ў Арменіі дасюль святы. Хоць прывучаныя найперша не да сямейнага, а дзяржаваю заведзенага парадку славяне пасмейваліся, дзівіліся, як гэта яны ўсе (чалавек восем ці дзесяць) жывуць у на траіх разлічаным пакоі, ды яшчэ й харчуюцца ў сталоўцы дома творчасці...

Потым, ужо ў Мінску, я чытала ейныя поўныя болю за родны край артыкулы ў “Літаратурнай газеце”... Потым Карабах, землятрус... Ізноў немы боь застыў у, як сцвярджаюць знаўцы красы, найпрыгажэйшых свеце, правільна акрэсленых, глыбокіх вачах старажытных армянскіх фрэсак. Ахвяры, скрозь усё жыццё ахвяры...

Божа, як жа не стасаваліся з маімі юнацкімі ўяўленнямі, з вызанчэннем “ахвяры”, ды і з нашым, бядотным для ўсіх, хто шчыра працуе, жыццём, — раз’етыя, расхрыстаныя (сарочкі не сыходзяцца) гаспадары овай камяніцы ў нашым маленькім прырэчным гаардку! Яны з насалодаю падстаўлялі свае валасатыя, ды не, поўсцю зарослыя грудзі сёлета нечакана для ўсіх не засмужанаму, не заплаканаму. Пасар’янаўску пякучаму сонцу. І адзінае, што аддалена нагадвала мне паэтычную царыцу Сільву, гэта хоць і не такі імклівы і мяккі, ды ўсё ж царскі поступ таго, які заўжды крочыў наперадзе, ды яшчэ, бадай, цэлы рой смуглявых дзетак, што ляцелі ўслед за дарослымі, бліжэй, бліжэй да сваёй сям’і, да сваёй радзіны. І хняя незразумелая, далёкая горная гаворка зліваласся ў адзінае пчалінае джырканне. Потым я бачыла, як чарнявыя хлапчукі, стоячы ў чарзе па малако, нядобра хіхікалі, чытаючы, каверкаючы, нявечачы беларускія словы над прылаўкам. Больш за ўсё іх чамусьці весяліла слова “яйкі”.

Нехта ў чарзе расказаў, што гэтя “нярускія” (у гарадку армян вельмі ж па-нашаму называюць “нярускімі”) падбілі суседскіх хлапчукоў украсці барана. Асвежавалі, з’елі. Падлеткаў засудзілі на чатыры гады, а ім нічога... Яго тут жа перабілі: “А во ўчора дзяўчынка танула... Яе ж таксама нехта з іх, нярускіх, выцягнуў...”

Як я зразумела, жыло ў той камяніцы чалавек дваццаць. Сям’я дык сям’я... І да нас завітаў адзін, юнак, хлопец яшчэ. Павітаўся. Спытаў, ці можна яблыкаў-ападкаў назбіраць... Нам што...

— Бярыце. Абы дрэвы не ламалі...

— Зачем же деревья ломать... Деревья ломать нехорошо ...

“Можа й някепскія будуць гаспадары...” — згадаўшы абламаныя ўчора суседскімі падшыванцамі нашыя вішні, паспрабавала я суняць сваю, зрэшты, натуральную патрыятычную пыху. Можа й, праўда, зямлі, нават нашае, на ўсіх хопіць. Яна шчодрая. Хто яе дагледзіць, уробіць, таму і дасць...

У іх не было яблыкаў. Затое было шмат-шмат вішань... Што збіраліся рабіць яны з імі, не абіраючы, выгадваючы пару, у гарадку так і не дазналіся. У адн уноч у іх абабралі амаль усе вішні. Сабака брахаў, але хто яго пачуе ў навальнічную ноч, калі маланкі сякуць неба і вецер з дажджом? Не рпадыхнуць. Ці мала што прымроіцца прыкутаму ланцугом сабаку. Усяго два ці тры дрэвы засталіся неабабранымі. Пры самых вокнах. Тут ужо і суседкі паспачувалі няўдалым новым гаспадарам. Такога ж у іхнім гарадку не было адвеку...

На другую ноч сабаку спусцілі з ланцуга. І калі зайшоўся ён у брэху, незважаючы на навальніцу, нехта з мужчын выйшаў н аганак...

Ля дрэў шчыравала жанчына ў белай хусцінцы. Яна, ніяк н ераэгуюч ына вецер і залеву, абірала вішні. Яна то ўладарна загадвала ім нахінуца, то сама лёгка ўздымалася, узлятала да самых верхавін... Гром глушыў надрыўны сабачы брэх і гартанныя адчайныя ўскрыкі гаспадара. Маланка асвятляла ёй шлях і зоркамі пырхалі сярод змакрэлага лісця ягады. Вецер сарваў з сабачні бляху і... паслужліва нахінуў вішнёвыя голькі проста жанчыне ў рукі... Яна ізноў стаяла на зямлі. Ахрыплы сабака шалёна кінуўся, ужо, пэўна, не першы раз адчайна заглытваючы, раздзіраючы не фартух, не ейную спадніцу. Не ейныя ногі—начное паветра і дождж... Другі мужчына выбег з самастрэламі. І ўжо на дв агаласы яны, не сыходзячы з ганку, нешта крычалі, стралялі ў паветра і па ёй... але дождж не сціхаў, гром глушыў усё наўкола, і маланка мёртвым бляскам адбівалася ў шыбах. А жанчына ў белай хусцінцы ўсё абірала і абірала свае вішні...

Калі неба адгаласіла і хмары выпусцілі са смяртэльных абдымкаўваспаваты месяц, яна скончыла сваю працу, падхапіла бязважкія вёдры, і на ейным твары, у пустых вачніцах тужліва і ясна засвяцілі зоркі...

Гэта была другая запар авальнічная ноч. На дрэвах не засталося ніводнае вішні...

Той смуглявы юнак, што прыходзіў да нас па яблыкі- ападкі, ажно перасмыкнуўся, расказваючы пра ўсё гэта... Перасмыкнуўся і пералжагнуўся...

А ўвесь гарадок ужо працяла новая ліхаманка слыхаў. Унукі Лісіхі, тыя, што жылі ў “квацерах са ўсімі ўдобствамі”, зранку зайшлі кожны ў свой гараж, — мураваныя, на дв азамкі зачыненыя, — убачылі, што іхнія “мерседэсы” — белы і “колеру электрык” — як макам абсыпаны... вішнямі. На даху, на капоце, на багажніку — паўсюль зырчэлі налíўныя салодкія ягады. Такія былі толькі ў іхняе бабулі. А ў машынах, на заднім сядзенні — кожнаму па вядры... Ейны дзёрзкі, горкі напамін аб прададзенай чужыкам прадзедавай сядзібе...

## БУЛЬБА З ХРЭНАМ.
## Філасофія зямнога множання.

Паліна Эдуардаўна пасля смерці бацькоў сама старанна ўрабляла шэсць сотак іхняга радавога лецішча з даўно нефарбаваным, аблупленым невялічкім, амаль цацачным дамком, за пяць кіламетраў ад электрычкі. Урабляла, можна было б сказаць, па інерціі. Але ёй, настаўніцы гісторыі і сусветнай мастацкай культуры, прадмета, які, зрэшты, год таму скасавалі, чалавеку творчаму і ў добрым сэнсе, апантанаму, рабіць што-небудзь па інерцыі, неяк, дзякуй Богу, ніколі не выпадала.

Градаў у яе было няшмат. Але і сёлета ўрадзілі самыя буйныя сярод суседзяў клубніцы, годна квітнеў адмысловы боб, узышлі бурачкі, морква, радыс, кабачкі, рэдзька, рэпка, траўкі розныя... І нават, капусты, гуркоў і памідораў па некалькі каліў прыжылося. Пасадзіла яна па вясне і бульбу. Толькі так сталася, што з-за хваробы не паспела ў час яе прапалоць. І толькі цяпер, калі ў гарадскім парку голаў вяло ад ліпкае ліпнёвае слодычы, Паліна Эдуардаўна нарэшце змагла выбрацца на свае соткі, на сваю дарагую, і ў прамым і ў пераносным сэнсе гэтага слова, фазэнду. Справа была не толькі ў кошце білетаў туды і назад, бо начаваць адной удалечыні ад цывілізацыі пасля хваробы яна яшчэ асцерагалася, і не толькі ў кошце насення, угнаенняў, прыладаў працы... Самымі дарагімі былі час і чыста фізічныя сілы, якіх заставалася ўсё менeй. А хацелася і нешта прачытаць, і напісаць, і навесці, урэшце рэшт парадак у рэчах і запісах. Але раз насенне кінулі ў зямлю, яно мусіла прарасці, і цяпер высакародныя парасткі, само сабою, прагнуць яе ўвагі. І яна, хоча таго ці не хоча, у гэтыя першыя ліпеньскія вольныя дні, мусіць правесці аперацыю “вызваленне бульбы з палону”. А яна хоча, яна вельмі хоча гэта зрабіць.

Бацька і муж чамусьці заўжды паўсюль найперш бачылі пустазелле. Ім бы абрэзаць, скасіць, вынішчыць. Вось і сын, хаця такія прыгожыя валасы мае, стрыжэцца, бадай што, голіцца пад нуль. Хаця, вядома, так яму будзе прасцей размаўляць у ваенкамаце. Чамусьці тыя мужчыны, што прэтэндуюць называцца моцнымі, усе стрыгуцца пад “бобрык” ці голяцца пад нуль. Праўда, нядаўна адзін так голены спявак даволі проста і арыгінальна тое патлумачыў: “Мая жонка лічыць мяне лысага больш сэксуальным. У яе адразу з’яўляюцца пэўныя асацыяцыі.”

Бацька і муж чамусьці заўжды бачылі на іх сотках найперш пустазелле. А яны з мамаю — высакародныя парасткі. І нават раз на

тыдзень прыязджаючы, старанна выполвалі ўсе градкі, вызвалялі з палону свой будучы, хай і не надта багаты, але сваімі рукамі на сваёй зямлі ўзрошчаны ўраджай. Ад кітайскага часныку, як і ад кітайскіх цацак не ў яе адной алергія.

Вось і цяпер, першаю электрычкай прыехаўшы, праз свежы пасля спорнага начнога дажджу, птушынамі спевамі ажыўлены лес прайшоўшы на лецішча, Паліна Эдуардаўна ўгледзела-такі сярод латкі пустазелля сваімі рукамі пад лапату па вясне пасаджаную бульбачку. Чэрвень быў дажджлівы, і пустазелле ўрадзіла на славу. Чаго тут толькі не было — і дзьмухаўцы, і дзяды, і крапіва, і малачай, і макрыца, і палын горкі, і ўюнок задушлівы, маці-ды- мачыха, хрэн... Але і бульбачка выцягнулася, расправіла плечыкі, і дзе-нідзе нават крэмавыя ды ліловыя кветачкі на капялюшык свой паўднёваамерыканісты начапіла.

Паліна Эдуардаўна хацела зайсці ў хату, паставіць пакет, можа, гарбаты сабе заварыць, але, толькі засунуўшы руку ў кішэнь курткі, успомніла, што на тыя выхадныя давала ключы сыну, які выбіраўся сюды, на лецішча, з сябрамі на шашлыкі. Ды так іх, тыя ключы і не забрала. Добра шчэ, што гумовікі на нагах. А новую кітайскую цяпку сабе пад бульбачку яна ўчора якраз з адпускных купіла. Адно крыўдна, вілы, каб пустазелле потым у адно месца знесці, у сараі зачынены. Але што ж, гэта і рукамі зрабіць можна.

Колькі яна жыла, ніколі не працавала на зямлі ў пальчатках. Рукі ў яе былі невялічкія, скура далікатная, і ад крапівы адразу з'яўляўся пякучы россып бубачак, якія потым ператвараліся ў вадзянікі і лопаліся. А дзьмухаўцы пакідалі на ейных бялюткіх пальчыках ліпкія карычневыя пісягі і плямкі. Але праз дзень-два далоні зноў рабіліся мяккімі і пяшчотнымі. І яна, хоць была ў гадах, прагнула аддаваць тую пяшчоту. Ды толькі браць яе не жадалі. Ні бацька, які пад канец жыцця сышоўся з маладзейшаю за маці жанчынай. Ні муж, што больш за ўсё на свеце любіў напіцца ды забыцца. Ні сын, шчымлівая і трывожная струначка ейнага жыцця. І яна сцякала тою пяшчотаю, крывавіла, нібы рана, выпраменьвала святло, якое нікога не грэла і ад якога нікому не рабілася святлей.

Пустазелле неахвотна развітвалася з зямлёю, урадліваю, зацалаванаю сёлета дажджамі глебаю. І з бульбачкай, на якую надта прыемна было яму, таму пустазеллю абаперціся, якую і абвіць можна.

Цяжка ломкі, горкі нават на водар палын. Чаму гэтую зямлю, што адвеку звалі Белаю, значыць, чыстаю, так аблюбаваў гаркавы, срэбны, чарнявы палын? Ворагі з захаду, ворагі з усходу. І самі між

сабою браты ніяк не разбяруцца. Палын пахне ворагамі і вайною. Хоць памры, а яго трэба вырваць. Не будзь яна жанчынаю, калі не вырве палын варожасці.

Макрыца лепіцца да зямлі, маленькая, кволенькая, кажуць, нават карысная пры нейкіх хваробах. Дзед аднойчы расказаў ёй дзіўную гісторыю. Як пайшоў ён у Купальскую ноч са сваім сабакам Шарыкам у лес.

Ідзе і прыглядаецца. Які ж беларус не хоча сваю папараць-кветку знайсці?! І раптам дзед сам для сябе нечакана пачаў разумець, пра што сава вухнула, пра што сабака ягоны забрахаў. І нават дрэвы шаптацца сталі чалавечаю моваю. Здзівіўся дзед. Бо такія здольнасці, казалі, толькі папараць-кветка даць можа. А яе ж нідзе не відаць. Вярнуўся дамоў ён, стаў разбувацца, лапці здымаць, і ўсё. Зноў ні Шарыка свайго, ні птушак не разумее. А потым уцяміў—гэта ж ён незаўважна папараць-кветку, што ў лапаць яму недзе ў лесе патрапіла, вытрусіў. Бо яна ж, тая цуд-кветка, маленькая, адразу не ўгледзіш, кволенькая, як макрыца. Як і шчасце нашае беларускае. Ціхае ды някідкае. Мала каму вакол зразумелае. Але ж жывучае. Макрыцу рві, не рві, ізноў праб'ецца.

Дзьмухаўцы. Дзіўныя сонечныя кветкі, якія ператвараюцца ў лёгкія воблачкі і сплываюць парашуцікамі насення. Але для бульбы яны ці не першыя ворагі. Як для тутэйшых людзей жаданне блукаць па свеце, раскідаць сваё насенне, свае таленты і працалюбства.Вунь надрыўнае Паўлюкова, Багрымава “Зайграй, зайграй, хлопча малы!” пачуў Якуба Коласа Сымон-музыка, што вандраваў па беларускіх вёсках і Алесь Рыбак, што давандраваў са сваімі бацькамі-музыкамі да Нарвегіі і да перамогі на Маскоўскім “Еўрабачанні”. Вырывай не вырывай тыя дзьмухаўцы, усё адно разлятуцца і прарастуць сонечным ветрам, светлаю згадкай.

Але пачынаць вызваленне бульбы варта было б з калючых дзядоў. У ейнага дзеда падканец жыцця, яна добра тое памятала на дотык сваіх далікатных ручак і не меньш далікатных шчочак, і ў дзеда на твары было гэткае ж колкае, сівое шчацінне. І калі ён памёр, ёй заўжды здавалася, і цяпер, бач ты, здаецца, што ён ператварыўся ў расліну. Калючую, чэпкую, да дзявочых спадніц ліпучую. Але дзяды мусяць саступіць месца маладым высакародным парасткам. Калі ўвесь час думаць толькі пра мінулае, будучыня завяне. Яна сама ўжо чалавек пажылы, але ёй чамусьці ўтульней не сярод сваіх аднагодкаў, а сярод моладзі, сярод тых, хто ўмее марыць, хто смелы і дзёрзкі, хто

не баіцца лётаць і чапляецца не толькі за свае хваробы і дзявочыя спадніцы.

Крапіва — самая карысная расліна сярод пустазелля. З яе і суп са шчаўем зварыш, ёю галаву памыеш, і для градак угнаенне цудоўнае. Адно слова — крапіва. Усюдыісная, балбатлівая, вострая на язык пякучка. Як жа гэта навучыцца не абгаворваць, не выносіць раней часу сваю радасць, ды й бяду на людзі?

А гэты ўюнок, што так дарэчы абвівае плот, засланяючы ад суседзяў сядзібу, можа зусім задушыць бульбу. Яе з абдымкаў гэтай недарэчнай, кволай з выгляду міні-ліяны не выбавіць. Спляліся, ліčы, зрасліся, як сіямскія блізняты. Усё, што ўецца, звязана з хмелем, з вінаградам, а значыць, з півам, віном... Затое з бульбы робяць фірменную гарэлку “Бульбаш”.

Бульба, аплеценая ўюнком, не ўродзіць. Яе хіба што на гарэлку пусціць потым можна. Дзе ў хаце завялося п’янства, яно шашалем абразы сточыць, і не заўважыш, як ад кахання, сям’і труха застанецца.

А вось з хрэнам, што гэтак самавіта паўстаў сярод бульбачкі, можна было б і пазмагацца.

З даўніх часоў салярны акруглы знак быў і жаночым знакам. А мужчына, будаўнік ды ваяр, асацыіраваўся з чымсьці крышталічна ўстойлівым. Круглае яно ж коціцца і коціцца. А крышталік стаіць, урастае, узрастае, спыняе тое, што коціцца. Ужо ў дваццаць першым стагоддзі сярод першаэлементаў, якія на мікраўзроўні вызначаюць жаночы і мужчынскі пачаткі, навукоўцы нечакана, а для мастакоў з часоў першабытнасці і “Пацалунку” Густава Клімта, зусім нават натуральна, адкрылі, што жаночы першаэлемент нагадвае вяночак, а мужчынскі — крышталічны ромбік, лісточак. Хрэну.

Паліна Эдуардаўна хацела падчапіць цяпкаю хрэн. А падчапіла разам з ім і бульбачку. Ужо з ліловаю квеценню, ужо з кругленькім, у жменьку велічынёю маладзенькім наедкам. Корань хрэна, моцны і пругкі, ухапіў бульбачку і не выпускаў. Проста помнік нейкі жывы шчаслівай сям’і. Яна іх атрэсла і паклала на ганак з падгнілымі ад часу трыма прыступкамі.

Бульбу выпалала. Зямлю цяпкаю ажывіла. Вільготным летам каларадскіх жукоў шмат не бывае. Але некалькіх давялося раздушыць. Брыдка, ды што паробіш. Не хочацца аддаваць сваё ні мясцовым чарвячкам, ні заакіянскім каларадскім жучкам.

Неба тужылася, тужылася і зноў заплакала цёплым летнім даждждом.

Паліна Эдуардаўна, нацягнуўшы на галаву капюшон, агледзела астатнія грады, кветкі, памыла рукі , нашчыпала цыбулі, укропу, наабірала клубніцаў, суніцаў і, нарваўшы букет белых, ахутаных мройным салодкім водарам кахання півоняў, рушыла на электрычку. Сёлета, пэўна ж, у іх будзе зноў і вішань, і яблыкаў, і пэўна ж, яны зноў не будуць ведаць, дзе іх падзець. І бульба з хрэнам будуць. Каб, як любіў прыгаворваць бацька, не казалі, што няма на стале ні храна, ні хрэна. Шкада, што выдраныя з зямлі маладзенькі клубень бульбачкі з пругкім ужо коранем хрэна яна пакінула на ганку, мокнуць пад дажджом. Можна было б сваім паказаць гэткае дзіва.

... — *Дайце мне вабны акруглы камячок мармуру ды рэзкі, жылісты з бронзы корань. Я з'ядная іх і перавярну свет, — сказаў Скульптар.*

У электрычцы, удыхаючы водар самлелых ад шчасця півоняў, яна задрамала. І ў сне пачала весці цяпер ужо неіснуючы ўрок сусветнай мастацкай культуры. На ўвесь экран ажыла адна з самых славутых сцэн "Сіксцінскай капэлы" Мікеланджэла. Стварэнне Адама. Адам яшчэ вялы. Але Бог, а можа Ева, што вызірае з-пад ягонае рукі, вымушаюць яго на нашых вачах наліваццa сілаю. Дух ажыўляе цела, а цела гатовае да стварэння новага духу. Зямля прагна ловіць пяшчотныя нябесныя дотыкі цёплага дажджу. Каб урадзіла. Тут і зараз.

## СМЕТНІК
## Сплін па васільках.

Яна ніколі не думала, што апынецца на сметніку. Але ёсць мяжа болю, якую, калі пераадолець, ужо не баліць. Болевы шок называецца. Яе душа перажыла гэткі шок. Цяпер ні людзі, ні звяры былі ёй нямілы. Толькі рэчы…Тыя рэчы, што як і яна, апынуліся на сметніку. І яна, тут, на сметніку, раптам пачала адчуваць іхні лёс, як свой.

Вось разарваная нітка, жменя сапраўдных, натуральных пярлінаў. Яна ссыпала гэтыя пярліны ў іржавую бляшанку і вырашыла наноў нанізаць іх на леску, якую адарвала ад зламанае вуды. Яна сядзела на перавернутай пластмасавай скрыні з-пад бутэлек і моўчкі нанізвала пярліны. Адну, другую, трэцюю і яшчэ сорак пяць. Усяго сорак восем. Як ёй гадоў. Як гадоў той жанчыне, што калісьці ў маладосці пазіравала ў гэтых каралях мастаку. Мастак папрасіў, каб яна нічым не засціла свае дасканалае, жывое цела. Нічым, апроч гэтых пацерак. І яна іх надзела і, скінуўшы халацік, легла на канапу. Мастак, дзёрзкі, крыху іранічны, з вусамі, з-пад якіх раз-пораз з’яўлялася не ўсмешка, лёгкі посмех, і ў капелюшы. Чамусьці ён нават у майстэрні не здымаў капялюш, з тых, што ўславілі мушкецёраў. А вочы ў яго былі лёгкія. Як гэтыя пярліны, каралі. Толькі не з малочна-белым, а блакітным святлом.

Ён пісаў апантана і горача. Ён, здавалася, раставаў у яе целе. У яе вачах. І ў гэтых жывых, пульсуючых пярлінах.

На выставе твор меў шалёны поспех. Потым хтосьці хацеў набыць тое палатно. Але мастак зрабіў на продаж аўтарскую копію. А арыгінал пакінуў у майстэрні, у сваёй белай,— столь, падлога, сцены — усё белае, у сваёй белай, як боскае святло майстэрні. А побач з карцінай, на цвік, што чакаў новага шэдэўра, ён павесіў пацеркі, тыя самыя, у якіх яна яму пазіравала. Белае на белым. Пярліны на сцяне. Як у ракавіне-перлавіцы. Толькі не па адной, а разам. Потым нехта зачапіў, нітка парвалася. Пярліны рассыпаліся, пакаціліся па белай падлозе. Гэта быў знак смерці. І, ведаючы гэта, жонка мастака сабрала ўсе пярліны і разам з тымі, што заставаліся на парванай нітцы, выкінула на сметнік. І тым самым уратавала яму жыццё. Можна не верыць у прыкметы. Але так хочацца жыць. Асабліва, калі ведаеш, што і як казаць людзям, чаго прагне тваё ўспрымальнае да тваіх пачуццяў і думак, да фарбаў свежае, бялюткае, як божы свет, палатно…

І яшчэ яна адшукала на сметніку рукапісы. У выдавецтве выкідалі, набраныя не на камп’ютары, а яшчэ на машынцы, кнігі.

Выкінулі і гэтую. Зборнік маладой, цяпер ужо сталай паэткі, якая адна гадавала сына. Калі нарадзіўся сын, яна забылася на здадзены ў друк, яшчэ за тым часам, калі камп'ютары былі не ва ўсіх, свой зборнік. На выданне якога ў яе ўсё адно не было грошай.

Зборнік называўся "Пярліны". Вершы і праўда нанізваліся ў ім, як пярліны на адну-адзіную, нацятую, як струна, леску яе няспраўджанага, дакладней, спраўджанага толькі ў сыну кахання. У сыну лепш, чым толькі ў сне.

... Іглінкамі боль
Прыхавала галінка.
Так стала калючаю
Наша ялінка...

...Мой боль
З'ядае душу,
Як моль.
Моўчкі гляджу
У столь.
А па падлозе ценем сцелецца
Боль.
Дымам душыць,
Горла сушыць.
Я разаб'ю
Столь.
Выпушчу ў неба
Боль.
А сама палячу па шчасце.
Толькі б цяпер не ўпасці.

Цяпер гэтыя вершы, пачуцці, ўкладзеныя ў дакладна знойдзеныя словы, маглі б суняць чыйсці боль. Каб не апынуліся на сметніку.

А гэты звялы, ссохлы, выцвілы букет васількоў яна добра ведала. Яна пазнала яго па трох адарваных кветачках. Яна ведала, дзе тыя кветкі. Яна засушыла іх між старонкамі ў сваім нататнічку, адзінае, што ўзяла з сабою з таго жыцця, якога, здавалася, і не было зусім.

Сын падарыў ёй гэты букет. І запіску:"Мамуля! Я цябе люблю!" Яна трымала яго доўга-доўга. Тры кветкі засушыла. А запіска, яна, як і тры васількі, ляжала зараз складзенаю ў яе нататніку.

Сын яе любіў. І яна яго любіла. Таму не хацела замінаць яму жыць.

Яна магла памерці. І нават напісала ліст, пра тое, што яе пасля смерці мусяць спаліць і падхаваць да бабулі. Каб не траціцца на новы помнік. Але раптам ёй неяк востра, да душэўнага ўсхліпу, за якім пачынаецца палёт натхнення, захацелася жыць. Хоць на сметніку. Не сярод людзей. Не сярод жывёл. А сярод рэчаў, што хаваюць іхнія лёсы.

Вось такі сплін па васільках, што калісьці красавалі ў жыце. У жыце, у жыцці, у чыімсьці жыцці яны красавалі. Але тое, што замінае каласіцца жыту і жыццю, мусіць быць на сметніку. Сметнік расце, шырыцца. Непатрэбных рэчаў, як і людзей, робіцца ўсё болей і болей. Яны блукаюць, як цені, люляюць сваё мінулае, не знаходзячы прытулку, ні ў тым, што ёсць, ні ў тым, што будзе. З васількоў не спячэш хлеб, і не зварыш кампот. Хіба што вяночак сплесці на Купалле. І пусціць яго па вадзе. Як калісьці ў юнацтве. Калі верылася ў шчасце.

** З сучаснага гумарыстычнага слоўніка:*
*БІЧ — былы інтэлігентны чалавек, што жыве на сметніку.*

# 3.Залюстроўе.

## СЛЯЗНІЦА ДУХУ.
## Паганскія экспрэсіі.

Сплыў, выпарыўся са старога парку, з па-над рэчкі густы мядвяны водар. Ліпы стаміліся. Знемагліся ад уласнае квецені. Лета саспела. Для крамяных баравіковых ранкаў і белага наліву, для пераднавальнічнае задухі і трывожнага ціньканння цвыркуноў. На досвітку жаўтаротыя гарлачыкі прагна ловяць знобкі ранішні туман. Потым увесь дзень смокчуць, самі сябе ратуючы ад бязлітаснае, важкае спёкі. Маленькія жывыя сонейкі халоднага бязмежнага сусвету.

Сёлета нашыя суседзі Рыжкевічы пасеялі недзе каля лесу палоску жыта і палоску пшаніцы. Зжалі. А сёння везлі на возе паўз наш двор і зачапілі, зламілі сліву. Цэлая голька неданошаных. Зялёных бубак безнадзейна апала ў пыл. На дарогу. Слівы адразу сцяліся, сшарэлі. Ператварыліся ў нікому непатрэбныя прыдарожныя каменьчыкі.

А Рыжкевічы ўжо ўсёй свм'ёю дружна расстаўляюць, парадкуюць ля свайго штыкетніка снапы. Душна. Сівы Рыжкевіч папраўляе ўслед за сынам і жонкаю прыткнутую да плота збажыну і строга, сурова бліскаюць ягоныя настаўніцкія акуляры. Ён пазірае на неба. Лепш было адразу складаць пад навес. Жонка, і ў свае сівыя гады падцягнутая, рупная, паспяшае. А сын, самы ж меньшы, Сымон, бы наўмысна, марудзіць. Возьме сноп і нясе яго павольна, разважна — думае. Прыткне да плота ізноў стаіць—думае... Яму б як бацьку пайсці ў настаўнікі. А ён пасля арміі застаўся на будоўлі. Па вечарах зачыняецца ад усіх і чытае. Кніжкі, часопісы. Што ў бібліятэцы бярэ, што купляе, што выпісвае. І ўсё больш па гісторыі. Чытае і думае. Толькі што пагаварыць яму тут зімою дык і зусім няма з кім. А летам прыходзіць да нас. І ўчора ўзгадаў раптам, як яшчэ школьнікам корпаўся (гэта ягонае слова) ў курганах на тым беразе рэчкі і адкапаў, прынёс дахаты спачатку падобную на гаршчок гліняную пасудзіну (кажа, па чарапках склейваў), потым іржавую сякеру без дзяржальна і пару бурштынавых пацерак...

— Той гаршчок, я потым у часопісе вычытаў, — няспешна дзяліўся з намі Сымон, — слязніцаю назваецца... Яно ўсё недзе ў мяне ў гаражы ляжыць. У хату несці асцерагаюся. Я тады малы. Дурны быў. Нядобра гэта ў чужых магілах корпацца. — нечакана дадаў ён і

шчэ нешта хацеў сказаць ці папрасіць пра што, але жонка пазвала яго вячэраць і ён затушыў цыгарэту, развітаўся.

Жонка ў яго, Таццянка, не перадаць якая спрытная, увішная. Летась і цяжарная была, а ўсё адно ўвечары ці ў выхадныя і зраніцы яны з Сымонам на веласіпеды — і ў лес. Толькі хусцінка бялюткім пялёсткам трапеча на галоўцы. Вёдрамі чарніцы, маліны, дурніцы і, вядома ж, грыбы, лісічкі, вазілі. І яшчэ кветкі, зёлкі нейкія. Ахапкамі. Не, такой, як у Таццянкі духмянай гарбаты я болей нідзе не піла.

Цяпер у іх двое дзетак — Юлька, ёй, пэўна, годзікаў шэсць, і Міхаська. Усе спяшаюцца, каб хутчэй вызваліць каня. А Юлька круціцца пад нагамі, хаваецца ў збажыну, сама сабе смяецца, сама сабе прыпявае:

На вуліцы мокра,
А на ганку суха,
Выйдзі, выйдзі да мяне ты,
Мая харашуха!

Ой, выйдзі, выйдзі!
Ой, выйдзі, выйдзі!

Ой, выйдзі, выйдзі,
Мая харашуха...

Падпечаная на сонцы, як булачка, вяртлявая яснавочка, выслізвае з пшанічнага снопу і ейныя валасы сплятаюцца з пшанічнымі каласкамі... Ой, выйдзі, выйдзі... Зманліва, гарэзна мірганюць незабудачкамі ў саламяным павуцінні Юльчыны вочкі...

А я сяджу на сваім ганку, нанізваю на нітачку саломінкі, майструю саламянага павука. Павешу ў хаце і буду лавіць сонца... сонечныя промні. Сонца зазірне ў вакно і заблытаецца ў ягонай вытанчанай пругкай павуціне. На шчасце.

Сымон прыткнуў да плоту апошні сноп і, забраўшы ў Таццянкі каляску з Міхаськам, рашуча крочыць да нас.

Залатая саламяная канструкцыя кружыцца, плыве ў маіх руках... Адмысловая карункавая клетка для сонца. Але ж хіба можна злавіць, утрымаць святло? І я гляджу скрозь павука на Сымона з сынам. Жывая, рухомая ідылія ў імглістай сонечнай раме. Павешу яе пакуль што вось тут, на цвік, пры дзвярах, дзе звычайна сушыцца кмен. Сымон заязджае з Міхаськам у двор.

— Дык, я, можа, прынясу вам тыя мае чарапкі? Можа, вы там у Мінску ў музей іх здасцё? — Сымон глядзіць на мяне так. Што я не

магу пярэчыць. Вочы ў яго блакітныя, але пагляд нейкі важкі, з-пад ілба. І сам ён лаўганосы, мажны, нагадвае старога драўлянага ідала. Такому не адмовіш.

Сымонавы рэліквіі каменем аселі н амаёй душы. Я не разумела яшчэ чаму, але мне хацелася вынесці іх з хаты. І. Пэўна, я так бы і зрабіла. Але… Вецер рэзка шоргнуў шыбінаю, ледзь утрымала. Неба імкліва цямнела. Важкая парнасць налілася дажджом. Рыжкевічы хапком пераносілі збажыну пад навес. У трывожным перадавальнічынм святле жытняя салома злівалася з сівымі валасамі Рыжкевічыхі, Сымонавай маткі. Яна несла цэлае бярэма, не зважаючы, што хусцінка саслізнула, упала ў пыл… Мудрасць сівізны — мудрасць жыта, мудрасць чорнага хлеба. Сымон разам з бацькам парадкаваў снапы. Убачыў мяне ў вакне і неяк нядобра ўсміхнуўся, уздыхнуў. Я зачыніла вакно і саламяны павук варухнуўся, застыў пад столлю перад атуленым вышываным ручніком абразом. Маці Божая трохручніца, што ўжо амаль стагоддзе бароніць гэтую хату ад агню, ад навальніцы. Цяпер пад ёю на белым абрусе — Сымонавы знаходкі. Я кранаю шурпатую, цёплую, сшарэлую ад часу слязніцу… Сякера хоць іржавая, але ж ёю можна й параніцца… а бурштынавыя пацеркі… Дзіўна, яны мяккія, ліпкія… І пахнуць жывіцай… З вакна наплывае ірэальна рэзкае, важкае эльгрэкаўскае святло. Нарэшце бліскавіца рассекла няпэўнасць.

О, я ведаю, чаму Сымон так хацеў пазбыцца гэтых сваіх знаходак…

Яны зводзілі душу ў іншы час, у іншы свет. І не ставала сілы супроцьстаяць іхняй волі…

### 1. Слязніца духу.

Яна нават з выгляду цёплая, шурпатая і лёгкая. Поўная зерня яна стаіць у нагах ля свежай. Толькі засыпанай магілы. Так пажадаў нябожчык. Так пажадаў Ганчар. Каб у яго ў галавах укапалі драўляны крыж, а ў нагах паставілі вось гэты, поўны зерня, вылеплены ім шмат гадоў таму гаршчочак. Слязніцу духу…

Я падняла вочы і зніякавела. Па той бок магілы насупроць мяне стаяў юнак да болю, да нейкае падсвядомае сутаргі падобны на мяне. Нейкая няўлоўная лінія, рысы. Жэст… Так пазнаеш, спазнаеш свой адбітак у вадзе… Я, дзяўчына, чарнавокая, чарнабровая, з даўгімі, цёмнымі, аж да сіняга адліву, як вароніна крыло косамі, пазнавала сябе ў гэтым бялявым унурыстым даўганосым юнаку, які моўчкі стаяў па той бок Ганчаровай магілы. Па той бок маёй

падсвядомасці. Колькі мы так прастоялі?.. Я і не заўважыла, як ля крыжа нехта паставіў два гарлачыкі. Адзін чорны, задымлены — з валошкамі. Другі — густа-гарычневы, рудзенькі — з рамонкамі. Гэтыя гарлачыкі, як і слязніцу, пэўна ж, таксама зляпіў нябожчык Ганчар. Слязніца яшчэ не сшарэла ад часу. На ёй няма адколаў і трэшчын. Мяккае вечаровае святло робіць яе ружоваю, як яблык... Ружавее, убіраючы ў сябе апошні дотык нябесных промняў і насыпанае ў яе з верхам зеленаватае, з сівізною жыта. Самая цярплівая і самая мудрая, і самая шчодрая з усіх расліна...

Калі я зноў перавяла позірк, падняла вочы, па той бок магілы ўжо нікога не было. І толькі цяпер я ўрэшце рэшт ясна ўсвядоміла, што гэта быў Ганчароў сын. І ён, ён падобны на мяне... Ці гэта мне толькі падалося? Раней мы ніколі не стаялі з ім вось так: вочы ў вочы... І зноў я глядзела на слязніцу. І нехта няўмольна браў над амною ўладу. Мне прымроілася, ці, можа, прыснілася...

Мая мама, маладая, я ніколі не бачыла. Я зусім не памятаю яе такою... На твары ніводна езморшчынкі і нейкая ледзь улоўная, юрлівая ўсмешка... Яна крутнула галавою і перакінула чорную змейку касы са спіны на грудзі і пачала даплятаць і зноў расплятаць, і зноў даплятаць... І ласкава, умольна заблішчэлі ейныя цёмныя вільготныя вочы, нервова запульсавала жылачка на шыі. Яна закусіла губу і развязала матузок сарочкі, пацалавала крыжык... Навошта?!

А Ганчар заўважыў яе. Ён яшчэ зусім не сівы, не такі, якім я ведала яго ўсё сваё жыццё чарнявы, без барады, толькі з вусамі. Ён у скураным фартуху і валасы перахоплены скураным раменьчыкам. Набірае, плюхае на ганчарнае кола чырвонае, не, хутчэй. Усё ж рудое гліны і ласкава, уладарна абхапіўшы яе рукамі, заводзіць нагою кола. Калі ён крыху прымружыў вочы. На ягоным твары з'явілася нейкая ледзь улоўная, таямнічая ўсмешка. Якія моцныя і далікатныя ў яго пальцы. Яны імкліва варожаць і, здаецца. Не кранаючы гліны, выцягваюць з яе пакуль што толькі яму вядомую, толькі яму бачную пасудзіну. Скрозь мутнае, пыльнае вакенца праступла сонца. Роўная плынь цьмянага, густога святла... На паліцах пыдсыхаюць, чакаючы абпалу стромкія, падобныя на дзяўчат гарлачыкі, збаны годна выстаўляюць адзін перад адным свае вухі, намёртва зляпіліся адно з адным спарышы і трайнічкі ( як жа лоўка насіць у іх у поле падабедак!), надзімаюць шчокі самавітыя гаршчочкі і бунькі (адны ўсё жыццё будуць каштаваць усё, што згатуе гаспадыня — сёння боршч, заўтра — кашу, другім з-за іхняга вузенькага горла, нічога, апроч вады, не перападзе!)... Пакуль што ўсе яны жывуць колерам гліны. А вось, як вылезуць з печы, адно аднаго не пазнаюць! Хто так і

застанецца рудзенькім ці зеленавата-шэранькім, а каго дым ды вуголле ператвораць у сабе падобных, давядуць да попельнага, сіня-чорнага бляску. Каму які лёс? Пра гэта ведае толькі Ганчар.

Я, як і мая мама пры парозе не зводжу з яго зачараваных вачэй. Чырвоная з рудым, сонечным водсветам гліна ператвараецца ў ягоных руках у... слязніцу... Тую самую, з магілы...

Мама, напружана стрымліваючы дыханне, прыхінулася спінаю да дзвярнога вушака ія. Як бусел, падціснула адну нагу. Пэўна. Адстаяла. Другая ледзь не па калена ызірае з-пад сарочкі, густа затканай не толькі па каўнеру, рукавах, але і па падолу пунсовымі і чорнымі крыжыкамі і ромбамі. Каб жа нячыстая да цела, да душы дапяла, не зблытала... я заўжды зайздросціла маме, якія ў яе маленькія, далікатныя рукі і ногі. Хоць жа і працуе, як усе. І басанож да самае зімы ходзіць, а далоні, і пяткі ў яе не такія, як ва ўсіх, мяккія... а я не ў яе. І косткі ў мян ешырэй, і нага вялікая, а галоўнае нос, нос у мяне зусім не дзявочы... Даўгі. Пануры, з горбінкай. Як у... толькі цяпер заўважыла... Нос у мяне як у Ганчара... І бровы зрастаюцца на пераноссі. А ў мамы маёй бровы крылатыя, лёгкія. Яны ўзлятаюць, і гавораць толькі вочы. Вільготныя, ласкавыя. Мама развязвае пояс і гукае:

— Гэй, Ганчар! Можна да цябе? — і голас у яе мляўкі, вільготны, як вочы... Яна выдыхае...

І мяне адуляе водар мяты, аеру, водар нашага возера...

— Ты?! — Ганчар задыхнуўся, задыхнуўся адным-адзіным словам...

Гэта не возера... Гэта сонечная бездань. А над ёю плыве, калыхаецца тая самая, лёгкая, бязважкая, поўная залатых пырскаў слязніца. У ёй — мая мама і Ганчар. Мама дурэе, пырскаецца вадою. Ён адплёўваецца і спрабуе схапіць яе. І зноў задыхаецца, захлынаецца, млее... І рэхам разлятаецца ва ўсе бакі мамін звонкі, вільготны смех. Аер схіляецца да лілеяў і шэпча, шэпча ім нешта няўцямнае... Мокрая маміна каса вужакаю аплятае неспатольныя целы...

Вады ў слязніцы меншае, меншае... І вось яны ўжо сядзяць у пустой, шурпатай і халоднай пасудзіне. Сорам адводзіць вочы. Яны вылазяць у ваду. Сцюдзёна. Сонечнае возера заліла волавам поўня. Пугач не тое плача, не тое рагоча. Хутчэй, хутчэй апрануцца і дахаты. Ганчар першым, яна, крыху счакаўшы, услед...

Ён мусіць вяртацца да свайго хваравітага сына, які нават не крычыць, а толькі енчыць, агукае ўсю ноч. Ня спіць і старая жончына матка, выгадвае, як бы гэта сыйсці з дому. Ёй здаецца, што яна малая і яе ўкралі чужыя людзі, і трэба хутчэй ад іх збегчы, бо яе

шукаюць, яе чакаюць ейныя бацькі... Вось чаму яна ніколі не заплюшчвае сваіх выцвілых, з крывавымі прожылкамі слязлівых вачэй... Збяжыць, а потым ходзіць па лесе ці па вёсцы і ўсё кагосьці гукае...

І ў Ганчаровае жонкі вочы таксама пачынаюць блякнуць і выцвітаць. Ад слёз па дзецях, якія адно за адным нарадзіліся і памерлі, не паспеўшы назваць яе мамай... Ад бяссонных начэй над гэтым чацвёртым іхнім сынам, зусім слабенькім... Нешта ж яму баліць, што гэтак енчыць. Ноч пры ноч... І есць зусім мала. Няма сілы смактаць. Усуне яму ў рот, ціскае, ціскае грудзі, а ён глыне раз-два і задыхаецца, кашляе... І лобік засыпае потам...

А тут яшчэ матка... Можа, гэта кара ёй за тое, што не малілася, і яе сваю дачку маліцца не навучыла. Усё варажыла, людзей зёлкамі ды замовамі лячыла. А цяпер во на старасці дзіцёнкам сама сабе ўяўляецца. Ды, пэўна ж, так і ёсць, яна і дзеці ейныя расплочваюцца за матчыны грахі... Бо сама ж яна калі ж магла паспець награшыць? Як пасватаўся Ганчар, так і пайшла за яго.

Любіць, шкадуе, як умее. І матку шкадуе, і хворага сына шкадуе... Рыпнулі дзверы. Ён.

Ганчар зайшоў у хату і міжволі зацінуў нос. Ізноў той самы брыдкі задушлівы смурод. Зноў жонка лячыла сваёй матцы ногі. Гнілюць яны ў яе зажыва ці што?!..

— Татачка, татачка вярнуўся! — прарэзліва завішчала з печы старая і запляскала ў ладкі.

— Цішэй ты, дзіця разбудзіш! — усміхнулася, здаўлена цыкнула на яе жонка.

Задушлівая пара расцякалася ад начовак, дзе жонка замачыла анучы. А малы ўжо крактаў, хліпаў... Раней Ганчар сам спрабаваў яго сунімаць. Закалыхваць. Але жонка кідалася, забірала малога. І цяпер ён, перасільваючы сябе, памыў рукі, сеў за стол, з'еў халодане бульбы з сыраквашаю і лёг... а жока ўсё хадзіла і хадзіла па хаце. І сына, і матку, і мужа суцішвала, прысынала, калыхала:

— Люлі-люлі, спіць лясок,
Спіць у полі каласок.
Траўка спіць і спіць лянок,
Засынай і ты, сынок...

Якая лёгкая, светлая пяшчота разліваецца ад яе голасу па хаце і далей, па двары, па вёсцы, па лесе...

Яна прасіла зрабіць для гэтага іх сыночка новую калыску, не класці яго ў тую, дзе памерла трое іхніх дзетак.

Поўня пазяхнула і сплыла з іхняга вакна...

А вось і мая мама. Яна з ляснога возеры вярнулася да свайго хворага бацькі, які зусім не падымаўся з ложку і да злоснай, зайздрослівай мачахі. Яна была не нашмат старэйшая за сваю падчарку, ды ўжо бяззубая.  Адтаго яе ніхто і не браў замуж. Як толькі рыпнулі дзверы, заварушылася, забурчэла. А мама глынула вады, ускінула на плечы хустку і, не маючы сілы суняць сябе, не чакаючы досвітку, цемначы пабегла, паляцела за лес, да бабулі.

У ейнай пахілай хатцы пры самым балоце несыходна стаяў водар лета. Гэта ад зёлак, якія бабуля збірала, сушыла — і ў цяньку на вуліцы, і на печы, потым развешвала пад столлю, н асценах, таўкла ў ступцы, перасыпала ў гаршчочкі, каб потым, калі трэба, усё было пад рукою. Цяпер усё перабіваў гаркавы водар распаранага палыну. Бабуля не спала, сядзела за сталом і нешта таўкла ў ступцы. Мама, задыханая, села на лаўку. Старая імкліва падняла да яе свой зморшчаны, як сушаная ігруша-дзічка твар. Які востры, гарачы, мамін, мой у яе пагляд!.. Усміхнулася — усе зубкі ў радок, як у маладой. І з-пад хусцінкі ніводнай сівой пасмачкі!.. Такою, казалі, і памерла...

Мама моўчкі паклала на стол ахапак нарванага па дарозе жаўтлявага святаянніку, зірнула на бабулю. Тая толькі адмоўна пакруціла галавою:

— Яж вучыла цябе, траву трэба рваць на Купалле... Не гэтаю, наступнаю ноччу. Толькі на Купалле яна ў самай сіле. А ты ўсё спяшаешся. Спяшаешся, унучка, спяшаешся...

Яна глядзіць на маму і нават я адчуваю, як пякуцца ейныя вочы. Вугельчыкі, а не вочы... Можа, гэта таму што ў іх адбілася, бліснула святло з печы. Там дровы рассыпаліся на чорныя драбочкі і раставалі, як ранішнія зоркі... Сусвет на далоні.

Бабуля ўстала і пачала ўстаўляць у печ гаршчочкі, у адны з якіх падсыпала тоўчаных карэньчыкаў,  у другія падлівала вады. А мама, не зводзячы з яе вачэй, рукою міжволі пацягнулася, пачала лашчыць гаршчочак, шчто заставаўся на стале. Ён быў маленькі, чорненькі, са знаёмым, ганчаровым знакам — два пасачкі, а між імі хваля. Пальцы беглі насустрач адно аднаму ўздоўж гэтае хвалі і сустракаліся, і не было куды саступіць з гэтага д'ябальскага кола. Два берагі і рэчка, якая ўпадае саа ў сябе.

— Паваражы мне, бабулечка! Паваражы... Ніколі цябе не прасіла, а сёння заклінаю, паваражы...

— І так скажу, што спяшаешся ты. Унучка, спяшаешся, — стааря незадаволена выбавіла з-пад мамінае рукі, заставіла ў печ

апошні гаршчочак. Строга, злосна прыстукнула заслонка. Старая стомлена прысела на лаўку:

— Кроў на падоле тваім свежая. Не адмыла, як ні старалася...

— Гэта я, мусць, пятку пракалола, як...

— Не з пяткі кроў, унучка, не з пяткі... маўчы, і мяне слухай... — бабуля пацягнулася да мамінай рукі і зноў апякла позіркам...—Не ў час ты. Не ў пару. І не з тым. У ягонае жонкі матка... Усе думаюць, яна вар'ята. Але ж пакуль яна жывая, не пойдзе ён да цябе,не кіне сваёй жонкі. А ты ўжо грубая. Цяжолая ты...

Мама злякнулася, паспрабавала выбавіца ад бабуліанга поціску. Але пальцы ейныя задрыжэлі ізнямелі. Чырвань плямамі расцяклася па твары, шыі, рукам... Ёй бы зараз усхапіцца, ды бегчы, ляцець да каханага: я ж, я мушу нарадзіцца... А яна сядзіць, бязвольна панурыўшы галаву, не падымаючы вачэй. Яна ведае, што бабуля не памыляецца і ледзь чутна мармыча:

— А можа быць, яшчэ можна што-небудзь зрабіць? Можа быць...

— Нават не прасі! Яшчэ аднаго граху на сваю душу не вазьму. Твая маці памерла, бо твой бацька, мой сын не хацеў болей дзяцей... Прыйшлі да мяне. Ты ж зусім малая была, не хадзіла яшчэ. Ну вось, узялася я ім памагчы, а атрымалася, на той свет і дзіця ненароджанае і матку тваю адправіла. І не прасі. Будзеш радзіць...

Мама ў адчаі руціла галавою. А бабуля толькі мацней сціскала ейныя рукі:

— Ты народзіш гэтае дзіця. Але так, каб ніхто, апроч мяне і цябе не ведаў, чё гэта будзе дзіця, чыя гэта будзе дачушка...

— А Ганчар?!

— І Ганчар... Ты пойдзеш замуж за добрага чалавека і ён будзе гадаваць гэтае дзіця, дачушку, як сваю родную... Цяпер слухай мяне. Ужо віднее. Сонца, зямля, тарва, усё жывое ўбіраецца ў самую сілу. Увечары, уночы будзе Купалле. На Купалле, так было і так будзе, маладыя любяцца як і дзе каму хочацца. Ты пойдзеш на свята, ты будзеш скакаць, спяваць разам з усімі і ты спакусіш, ты зачаруеш, ты змусіш жаніцца з табою таго, каго выбераш у гэтую ноч. І тваё дзіця, твая дачка будзе і ягонаю дачкою.

Старая гаварыла бы заварожвала, горача, з прыдыханнем, і ейныя зморшчаныя пальцы ўжо не сціскалі, гладзілі мяккія маміны рукі, што бязвольна ляжалі на стале. За засланкаю ў печы дыхалі. Сіпелі гаршчочкі і па хаце расцякалася гаркавая палыновая пара...

— Не буду цябе ні да кога падводзіць. Сама выберы каго хочаш, растрывож яго, заваражы, стань з ім блізкаю. Каб не

здагадаўся. А потым можаш да мяне прыйсці, напару яму заманіхі. Каб не марудзіў з вяселлем.

Мама перасмыкнулася і вырвала, ускінула рукі:

— Але ж я кахаю… Я кахаю іншага. Я кахаю Ганчара…

Ледзь улоўная едкая, нядобрая ўсмешка на імгненне звяла, разглаждзіла ссохлыя, старэчыя вусны…

— Ну ё кахай сабе, на здароўе. А дзіцёнак твой, дачушка твая чым вінаватая? Ганчарова цешча, як дазанецца, са свету яе звядзе, і цябе разам з ёю. А то й нарадзіцца не дасць. А як мачаха, як людзі глядзець на цябе будуць, калі прынясеш у падоле байстручку?! А калі сама, на зло, на зайздрасць усім выбераш сабе каго, ну, каб не брыдкі быў, ды працавіты, ды багаты, дык хоць пажывеш у насалоду і дачушцы жыццё зробіш… Ты ж у мяне прыгажуня. А апраткі людскай няма каму табе справіць. Бацька твой, сыночак мой, гаротнік. Пры смерці. Не ўратую я яго. А мачаха ж выжыве, выганіць цябе з хаты… Ды яшчэ з малою на руках. І я ж не вечная. Следам за бацькам тваім, маім сыночкам адыйду…

— Не змагу я… — шэпча мама.

— Зможаш. Так трэба. Дзеля дачушкі…

Я глухну ад сухога старэчага шэпту. Ён рэхам закладае мне вушы…

… І зноў поўня купаецца ў вадзе, высцілае рэчку срэбнымі хаднікамі. Хлопцы кідаюцца на іх, разбіваюць, юрлівымі, гарэзнымі пырскамі засыпаюць дзяўат. Тыя ўцякаюць, адскокваюць, вішчаць. Енк. Смех… І я разам з мамаю чую пад вадою мцны, прагны поціск мужчынскае рукі. Каваль. Дык вось як ён стаў маім бацькам.

Пацалунак быў халодным і вільготным. Тупы боль раз'ядае сярэдзіну. І не адагрэцца нам нават ля вогнішча. Каса, мокрая і халодная, не спаўзае, падае на спіну. Мама цепае плячыма і, сунімаючы дрыжыкі. Ідзе апранацца. Яна да крыві кусае вусны, зрываецца, бяжыць. Скрозь ельнік, у гушчар, далей, далей, не разбіраючы дарогі. Абы ўцячы. Ад самой сябе ўцячы. А малады аваль, яж ужо ніколі не адвыкну зваць яго татам, даганяе, груба штурхае на зямлю, на колкуюігліцу і зноў дамагаецца свайго… Якія ж мутныя, вар'яцкія ў яго вочы… поўня. Сыйдзі, сплыві з неба… Мы не можам глядзець табе ў вочы… Нам балюча… Чуеш, поўня?! Сплыві…

Ніхто ніколі не казаў мне, што Каваль мне не родны бацька, а я не Кавалёва дачка. З самага маленства я, зачараваная, гадзінамі прастойвала пры парозе кузні, заварожаная вагнём і бацькавай (няхай ён усё ж застанецца мне бацькам!) сілай…

Асабліва я любіла назіраць, як ён адліваў, рабіў што-небудзь маленькае: пярсцёнак ці бранзалеты... Тады ён, магутны, няўклюдны барадач, з густою рудою грываю, раптам рабіўся такім далікатным, такім кранальным. Ён нагадваў малое дзіця, якое нарэшце атрымала сваю самую жаданую, любімую цацку, але яно ўжо ўсё разумее і так баіцца незнарок зламіць яе... Дзіця... У ім сапраўды ёсць нешта дзіцячае, і я адчувала сябе з ім заўсёды на роўных. Як з братам...

І што гэта са мною адбылося? Не, я не рашуся расказаць усё гэта маме... Чаму я раптам убачыла ў Ганчаровым сыне свайго бялявага двайніка, свой непераадольна дакладны адбітак... Мой адбітак па той бок Ганчаровай магілы. Па той бок поўнае зерня слязніцы... Слязніцы духу... Цікава, а Ганчароў сын ці заўважыў, ці ўгледзеў нашае з ім падабенства?

А далей гэтае мроіва... Наплыло, спаралізавала мяне. Мама маладая. Ганчарова майстэрня, у якой я ніколі не была. Маміна бабуля, якой ніколі не бачыла. Купальская ноч, якой столькі ж гадоў, колькі й мне...

Як хутка змяркаецца. А я ўсё на могілках. Ля Ганчаровай магілы. Хутчэй, хутчэй дадому...

Калі я апамяталася — ранішні туман судзіў, працінаў мяне наскрозь. І ногі, і аблепленае сарочкаю цела нямелі, заходзіліся ад расы. Я сядзела пры дзвярах Ганчаровай майстэрні. Дзверы рыпнулі, расчыніліся. І ў ружовым, свежым ранішнім святле я ўбачыла тое, што ўжо бачыла аднойчы вачым сваёй мамы.

На ніжняй паліцы яшчэ неабпаленыя рудыя, а вышэй—ужо гатовыя чарнявыя, шэрыя, арычневыя гладышы, гаршчочкі, бунькі, спарышы, трайнікі... Місы, і місачкі, кубкі і кубачкі, рыначка, на якой так зручна смажыць яешню... А вось і ганчарнае кола, на якім яны нарадзіліся, з якога выйшлі ў свет... Іх стварылі гліна і агонь... А яшчэ Ганчаровы рукі... Ён быў і застанецца для іх Стваральнікам. Ён застанецца для іх Богам... А ён, ён сам ці адчуваў хоць калі ён сябе Богам?

Яго няма. І кола маўчыць. Пустое. Поўная жытняга зерня слязніца стаіць на ягонай магіле.

Я не памятаю, каб Ганчар калі-небудзь гаварыў ці гуляўся са мною малою... Я ўвогуле кепска памятаю гэтага ўнурыстага, непрыветнага чалавека. Я яго заўжды крыху пабойвалася...

Празрыстая сонечная плынь дацягнулася, ласкава абхапіла стромкі чарнявы гарлач... Я не стрымалася, узяла яго ў рукі. Ён быў цёплым, жывым. Мне нават падалося, што пад маёю рукою пульсуе

кроў. Цяпер гэта адзіны даступны мне дотык Ганчаровай, бацькавай? Рукі, дотык ягонага духу... Каб не было гэтае майстэрні, каб не вылепіў, не выкруціў ён на сваім коле гэтых збанкоў, спарышоў, місак, гэтага чарнявага годнага гарлачыка з сіняватым, сівым адлівам, я б ніколі не зведала, не спазнала свайго праўдзівага, праўдзівага па крыві, па духу, свайго праўдзівага бацькі?.. Не, я не хачу, каб гэты пульсуючы, цёплы гарлач ізноў вярнуў мяне ў тую пахілую хату, дзе капрызіць малы, і Ганчарова жонка схілілася над смуроднымі начоўкамі, мые не тое пялюшкі, не тое анучы, якімі спавівала хворыя ногі сваёй стврой вар'яткі-маці...

Я хачу спазнаць глыбіню і слодыч... Не, не іхняга з маёю мамаю кахання ( калі я іхняя дачка, хіба ж можна спазнаць глыбіню і слодыч самой сябе?!) ... Я хачу спазнаць глыбіню і слодыч натхнення, таго, што тут, у гэтай майстэрні адрывала яго і ад сям'і, і ад людзей, і нават ад самога сябе... Зараз

Я сяду за ягонае кола, вазьму камяк вільготнае гліны і вылеплю, выкручу такую ж самую лёгкую, бязважкую слязніцу... Слязніцу духу, якая і пасля маёй смерці будзе зберагаць, выпраменьваць маё натхненне...

Гэты чарнявы, задымлены жывы гарлач, як і ўсе гэтыя збанкі, бунькі, міскі, што хутка разбрыдуцца па хатах, і будуць убіраць у сябе. Аберагаць і шчодра наліваць, каму малака, каму вады, ці наталяць смагу, пастаўўленых у іх кветак, яны ўсе, мож атак стацца, будуць жыць не толькі пасля ягонае, але і пасля маёй смерці...

Дах рассунуўся, растаў... Высокае, бясхмарнае неба ўзнеслася нада мною. Я ляжала, я была прыкутая да зямлі там, дзе быў пахаваны Ганчар, дзе быў пахаваны мой бацька... Толькі далікатныя шапатлівыя верхаліны бяроз ды лёгкія аблачынкі ў крынічнай нябеснай бездані... Паміраючы, чалавек прарастае травою, коласам, кветкаю, і з усіх ягоных пачуццяў застаецца толькі зрок... Нават сляпыя робяцца відушчымі, і скрозь гады, стагоддзі назіраюць, як схіляюцца над імі, узносяцца ў неба дрэвы, якія прарастаюць скрозь, аплятаюць іхнія знямелыя целы... Цела стыне, дух узносіцца да нябёсаў. І сцінаецца, калі кроіць важкія хмары аланка. І цешыцца, калі выплывае на адзіную бачную яму ў срэбным трымценні бярозавых верхалін нябесную пратлінку ласкавае сонца...

Таму, хто памёр, наўрад ці дадзеная магчымасць бачыць, чуць нас, жывых... Адзінае, што ён сузірае — гэта неба, гэта вечнасць... але ж неяк яны, памерлыя, падтрымліваюць нас, жывых... Але ж праз гэтую вечнасць, якую наталяюць душы памерлых, праз гэтае неба і гэтыя шапатлівыя верхаліны бяроз, тыя, што адыйшлі, спагадаюць, а

калі і дапамагаюць нам, тым, хто застаўся. Я веру ў непадзельнасць усяго існага. У тое, што моцны дух і чулая душа здольныя пераадольваць прастору і час, здольныя тварыць цуды і пасля смерці...

Колькі ж я праседзела вось так, наўколенцах, абхапіўшы знямелымі рукамі поўнуую жытняга зерня слязніцу, на бацькавай магіле?.. Жыта прарасло. Пругкія зялёныя свечачкі ўпарта цягнулмя да святла, да сонца, у вечнасць...

## 2. Сякера. Незагойная рана хлусні.

Смерць вядзе за сабою смерць... Хто наклікаў бяду? Мама тым, што пры жывым мужу хадзіла, як удава, у чорным? Ці я тым, што знямела, заснула тады на Ганчаровай магіле і паверылі. Паверыла ж таму свайму мроіву? І цяпер я гэтаксама наўколенцах стаю ля свежай магілы таго, хто быў жа, усё жыццё быў мне за бацьку і не зводжу вачэй, не рашаюся ўзяць у рукі сякеру, якую нехта паклаў яму пад крыж. Я не рашаюся ўзяць яе ў рукі, бо на самым вастрыі вузкага ляза скрозь наросты іржы смалою, жывіцаю праступае, сочыцца, спякаецца ў кроплі кроў...

Я не хачу, я не магу паверыць, што ён сапраўды кінуўся на маму, што хацеў засекчы, і да крыві параніў яе...

Пасля таго неадольнага мроіва, якое адкрыла мне таямніцу майго нараджэння, мяне пачала вабіць гліна. Я чула ейны пах, ейны вільготны водар. І рукі мае, здаецца, нават у сне ляпілі, выцягвалі з яе то гладышы, то гаршчочкі, то бунькі. Але я глушыла ў сабе гэтую цягу, гэтае рэха магільнага мроіва. І на людзях, і сам-на-сам гарнулася, лашчылася да свайго названага бацькі Каваля. І ён адказваў мне тым жа... Па некалькі разоў на дзень бегала я да яго ў кузню. То несла трайнічок з падабедкам, то збанок халоднаг аквасу ці малака. Бегала, каб убачыць яго, вогненнага, у кучарах агню... А па вечарах мы заручкі вярталіся дамоў, шапталіся, дурэлі... Ну проста, як закаханыя. А може, гэта я і праўда закахалася ў яго, майго сапраўднага ж, толькі названага бацьку?.. людзі, хто зайздросціў, а хто і цешыўся, гледзячы на нас. Толькі мама... Яе раздражняў, злаваў наш настрой, нашая весялосць, нашая гарэзнасць... Пасля Ганчаровае смерці, і гэта на вёсця ўсе бачылі, усе заўважылі. Яна не здымала чорнай жалобанй хусцінкі. А мой названы бацька, мой Каваль рабіў выгляд, што нічога не адбываецца, усё ў нас па-старому. Толькі аднойчы, сёрбаючы ўвечары сыраквашу з крышанымі гуркамі і кропам, ён раптам з

нейкаю глыбокаю сумнаю ўсмешкай. Як бы нават не ўсмешкаю — уздыхам, сказаў:

— Што ж, жонка, ты пэўна ўсё... зусім састарэла... Як калісьці твая балотная бабулька, чорнай хусткі зусім не здымаеш... Мож, ужо й варожыш цішком, га?

А мама, мама выхапіла з ягонае рукі лыжку і стукнула ёю па місцы:

— Маўчы!

І яго, і яе заліло тлустымі кіслымі пырскамі...

— У-у... Як я цябе ненавіжу...—засіпела мама і, не выціраючы твару, выбегла на двор...

А бацька збялеў... Так-ак, ён, нават узімку, без сонца падпечаны ля свайго горана, раптам збялеў... я не ведала, што рабіць, ускочыла, падала яму ўціральнік, і ён, не даядаючы, моўчкі ўстаў з-за стала. І пайшоў. У сенцы, дзе з вясны спаў адзін на саломе...

А потым, за некалькі дзён да таго, як яго забілі, ён падарыў мне вось гэта... Маленькую манетку на далікатным, толькі ён умеў рабіць іх такімі, ланцужку... Ён сказаў, што яна будзе ахоўваць мяне лепш за крыжык... Але я нашу і тое, і тое. На ўсялякі выпадак. На гэтай манетцы з аднаго боку, бачыце, змяіны цар у кароне. Галава ў яго чалавечая, а замест цела выгнутым па ходу сонца крыжам чатыры змяіныя хвасты. Змяінае кубло нашых неадольных пачуццяў. Хто не ведае, як раптам вось тут, у грудзях пачыае пульсаваць, сціскаць цябе. Туманіць вочы невыказная ласкавасць і прага спазнання. Яе немагчыма зацугляць, супыніць, стрымаць, яна выліваецца цераз край, віруе і джаліць, як змяя..

Але тут, з другога боку на змеявіку, тварам да людзей — Святая Маці Марыя. Яна мусіць дапамагчы кіравацьнават самымі патаемнымі, самымі цёмнымі маімі пачуццямі.

— Ад яе зыходзіць нябесная чысціня, — я чую, як рэхам ажывае ўва мне бацькаў голас, - пакуль яна з табою, ніхто ніколі не пакрыўдзіць цябе, мя дачушка... Мая дачушка...

Варта толькі перавярнуць гэтую манетку змяіным кублом да людзей і пачцц вырвуцца з-пад маёй улады. Будзе шмат слодычы, але слодыч тая станецца атрутаю, скалечыць, апаганіць і душу, і ўсё жыццё... Не, Маці Марыя, святая абаронца нашая, захіні, захіні ад усяго благога, ад зайздрасці, хваробаў, ад хлусні...

Я кранаю манетку, і зноў нейкая невядомая сла вырывае мяне з майго жыцця і кідае ў іншае, маміна... Ізноў я бачу і чую тое, што, можа, ніколі не хацела б бачыць і чуць...

Гэта той самы дзень, калі бацька падарыў мне гэты змеявічок... Той самы дзень... Мама здымае з галавы непрыветную чорную хусцінку і садзіцца побач з Кавалём. Ён адкладае ўбок новую, толькі завостраную сякеру, якую з замілаваненм пагладжваў, нават як бы лашчыў, і прыгарнуў, прытуліў маму, і яна прыпала да ягоных грудзей. Чорненькая насцярожаная птушачка пад моцным крылом кучаравага, вогненна-рудога казачнага звера з такімі задумлівымі, мяккімі блакітнымі вачыма.

— Я зрабіў для нашае дачушкі манетку-змеявічок, — ціха вымавіў бацька, — Кажуць, што яны здымаюць, сунімаюць ганебную жарсць... І засцерагаюць ад бяды. Лепш за крыж. Мне так хочацца, каб яна была шчалівейшаю за нас... Каб ёй шанцавала. Мая дачушка... Наша з табою дачушка...

Ён слізгануў рукою па маміным калене, прыўзняў край ейнае сарочкі, і нахінуўся, прыпаў да ейных грудзей. Водар мяты і хмелю... і вочы ў яго затуманіліся, наліліся слязьмі...

А мама вывернулася, ускочыла, абцягнула падол, завязала матузкі... У яе вачах мігранула нешта вострае, нядобрае. Бровы ўзмахнулі крыламі...

— Дзівак ты, Каваль, —  яна горка пасміхнулася, — Можа, яна зусім і не твая дачка.

— Маўчы! — зароў, глуха, бездапаможна зароў і затрос барадою бацька.

Але маці  не хацела, яна ўжо не магла маўчаць...

— Не твая, не твая яна дачка. Ганчарова. Я пайшла за цябе ўжо цяжолая. І не любіла цябе ніколі. Не любіла, і дзяцей не хацела, баялася мець ад цябе дзяцей... Брыдкі ты мне, брыдкі... Я, каб не зацяжарыць, траўку піла... Траўку... Як бабулечка мая мяне навучыла... Чужы, чужы, брыдкі ты мне чалавек...

Яна стаяла і з пагардаю пазірала яму проста ў вочы. А Каваль, ягоная шыя, твар, вочы наліваліся крывёю...

— Маўчы! — ён прыўстаў, запырскаў слінаю.

— Маўчы! — і ягоная рука ўжо намацала сякеру.

Усхапіў, замахнуўся на маму вострым, да бляску адточаным лязом.

А мама з нейкім вар’яцкім адчаем схапіла са стала нож, што ляжаў на ручніку побач з толькі распачатым боханам хлеба і цыбулінай, і рэзанула ім самой сабе па далоні...

Ускінутая сякера быццам прырасла да бацькавай рукі...

А мама ўжо выскачыла на двор.

— Людцы! Людцы! Ратуйце! Ён засячэ мяне! Засячэ! — крычала яна і пырскала ва ўсе бакі крывёю...

Людзі, хто даіў карову, хто вячэраў, ці збіраўся вячэраць, кінуліся да Кавалёва двара. Першымі падбеглі Кавалёвы памочнікі — два браты, што жывуць праз вуліцу...

— Дык вось навошта ён сёння вастрыў сваю сякеру, — заківаў галавою адзін з бацькавых памочнікаў, Мечаны, той, у каторага на шчацэ вялізная родзімка.

— Казаў, што ўвечары мусіць зрабіць важную справу, - падтакнуў яму ягоны брат, такі ж бялявы і таўстагубы, якога ўсе звалі Тугадумам.

— Гэта ён забіць, забіць яе хацеў, — шапталі адна адной жанчыны, якія колам абступілі маму.

Нехта з дзецюкоў выламіў з плота кол... Усіх іх літаральна захлынула нянавісць. Я ведала, ведала, што на вёсцы шмат хто зайздросціў майму названаму бацьку. За тое, што рукі ў яго залатыя, што нават каня так, як ён ніхто не падкуе, за тое, што ўмее і любіцьрабіць, і багацце, здаецца, само ідзе ў ягоную, у нашую хату... Нават таму, што дзеці ў іх з мамаю не родзяцца, зайздросцілі — усё меней едакоў. Болей за ўсіх жа раз’ядала зайздрасць ягоных памочнікаў — Мечанага з Тугадумам. І бацька ўжо дзвюма рукамі ўзяў, ускінуў сякеру:

— Засяку! Усіх засяку! — цяпер ужо ўголас, страшным рэхам зароў ён.

І я пабегла, з усяе сілы гародамі пабегла на ягоны голас... Уздоўж паркану... уздоўж бясконцай глухой клеткі з мёртвых сухіх дрэваў. Каб я тады збочыла, пераскочыла і праз чый двор выбегла на вуліцу, каб бегла не гародамі, вуліцай, каб не цягнула, высыпала тыя суніцы, выкінула кошык... Яб магла паспець. Я б, можа, яшчэ ўратавала яго...

Ён ляжаў акрываўлены на парозе нашае хаты і хрыпеў, пырскаў крывёю. А парадзелае, няроўнае паўкола вінавата расцякалася па вёсцы. І калы падалі ў пыл, на траву, абы-дзе, выпадалі, як з’едзеныя старэчыя зубы...

Я ледзь расшчапіла ягоныя знямелыя пальцы, ледзь вырвала і адкінула ўбок сякеру. Навошта ж, навошта я пайшла сёння ў тыя суніцы. Я не ведаю, што рабіць, даю яму ягаду, а ён плюецца, плюецца крывёю. І я не магу знайсці вядра, каб схадзіць па ваду...

Мама прайшла, прайшла ля нас, бы паўз нас, калі ўжо змерклася, і проста над нашаю хатай завісла крывавая поўня... я так і заснула на ягоных, яшчэ цёплых грудзях. Ён дыхаў, і я баялася

згубіць, назаўжды страціць ягонае дыханне. А мама ўсю ноч блукала, ахінуўшыся сваімі даўгімі, расплеценымі. Зблытанымі валасамі. Гэта была першая ноч ейнага блукання.

На досвітку яна вярнулася зусім голая, і я пайшла ў хату, вынесці ёй сарочку. Сорамна ж перад людзьмі. І згубіла, страціла бацькава дыханне. Ён ляжаў нерухома. А яна стаяла перад ім наўколенцах, аблізвала сякеру, якую я ўчора ледзь вырвала з ягоных рук, і рагатала, рагатала...

Яго закапалі побач з Ганчаром. І цяпер я прыходжу адразу на дзве магілы. На адной стаіць, урастае ў жвір слязніца, на другой з’явілася раптам гэтая раптоўна заіржавелая  з кроплямі крыві сякера. Мама, як толькі спее, наліваецца на небе крамяная поўня, незаўважна выслізвае з хаты, уцякае ў ноч і блукае, блукае... Я баюся ісці за ёю ўслед, бо, хто ведае, што можа яна са мною зрабіць, бо яна ж не пазанае, у гэтыя ночы яна не пазнае нікога, нават, здаецца, самую сябе...

Сякера, як і нож, зніклі, быццам сыйшлі з хаты ўслед за бацькам. А , можа, гэта мама прынесла сюды гэтую сякеру? Але ж, што яна з ёю рабіла, што трэба было з ёю рабіць, каб яе літаральна з’ядала іржа?! А вось тут н іржа, тут кроў... Ліпкая, жывая. Чыя гэта кроў? Вы не ведаеце?

З-за лесу выплывае поўня. І я ведаю. Я адчуваю, што з хвіліны на хвіліну тут можа з’явіцца мама. Чуеце? Гэта ейны надрыўны шалёны рогат. Цяпер нам ніхто не зайздросціць. Усе шкадуюць, спачуваюць. Прыносяць, хто малако, хто сала... А бацькаў памочнік, той самы, з родзімкай, Мечаны, анват пасватаўся да мяне. Яны з братам цяпер гаспадараць у бацькавай кузні. А людзі, калі ёсць час, нават падкаваць каня едуць у суседнюю вёску...

— Ганарліўка! — кінуў Мечаны мне ўслед. Калі я адмовіўшы яму, пайшла ў хату, — Ды хто цябе возьме, даўганосую, ды яшчэ без бацькі! Будзеш разам з маткаю сваёю поўзаць па могілках ды выць на поўню...

Пасля таго, як забілі майго названага бацьку, я не хаджу ў кузню. Мне балюча бачыць, што ягоны малаток трымаюць чужыя няўклюдныя рукі, што ягоны скураны фартух бароніць ад вогненных іскраў чужое цела... Няхай працуюць, няхай... а ў мяне засталася вось гэтая бацькава манетка-змеевічок. Не хачу, не жадаю паварочваць яе да людзей дабром і спагадай. Няхай змяіны цар валадарыць, няхай ён ахоўвае і аберагае мяне.

Я не баюся цябе. Крывавая поўня. Я не баюся цябе, мама. Прыходзь, і мы  разам. Удвох будзем стагнаць, выць ля гэтых дзвюх магілаў.

## 3. Дзве кроплі сонечнай жывіцы.

Пацерак было ўсяго дзве. Бурштын колеру густога ліпавага мёду з жывымі, бы крывіначкі, прожылкамі, ліпнуў да пальцаў і пахнуў хвояй. Але ж не, гэта каменьчыкі, цвёрдыя, шурпатыя. І варта пацерці іх адзін аб адзін, як... маланкаю пырхнула іскра...

... І я, здзіўленая, спынілася. Падхапіла з травы свой ужо поўны малінаў кош і яшчэ раз прыгледзелася да залітага сонцам бліскучага чорнага каменя. Стоячы на ім. Высокім, гарачым, было б вельмі лоўка абіраць вунь той густы маліннік, даставаць з калючае павуціны, з утворанага гнуткімі пруткамі густога нерату спелыя, налітыя сокам ягады... Маліны ўжо пераспелі, каторыя ўжо і счарвівелі, каторыя ўсохлі. Але ж шмат і такіх, што ледзь крані, самі ападаюць у руку, сакавітыя, духмяныя, апошнія сёлетнія маліны. Пасля таго, як памерлі два маіх бацькі — Ганчар і Каваль, пасля таго, як мама звар'яцела, маю душу вось ужо другое лета ўзапар цісне нейкае зусім асаблівае шчымлівае пачуццё. Я таропка лаўлю, цешуся кожным імгненнем шчодрага летняга піру. У лесе яшчэ поўна чарніц, суніц, даспяваюць дурніцы, а мяне вось вабіць, цягне сюды, у гэткі гнуткі, колкі малінавы нерат. Сёння мне хочацца малінаў...

Мне не падалося. Мой камень ужо заняты. Сонечная  маланка, бліскучы імклівы выгін слізкага цела... Ніякая гэта была не галінка. Змяя, вужака... Ці, можа, сам Змяіны цар? Я мусіла бегчы, бо з маленства страшэнна, да сутаргаў баялася змеяў і нават вужакаў. Але ж вось заварожаная, зачараваная, стаяла, не маючы сілы нават варухнуцца. Язычок ыслізнуў і схаваўся ў разяўленым атрутным роце і пад сонцам залатою маланкаю мірганула на чорнай аксамітнай галоўцы дыядэма, карона з мядовага сонечнага бурштыну. Два самых вялікіх каменьчыкі, з цёмнымі крывавымі прожылкамі віселі ў Змяінага цара на шыі. Я пазнала яго, гэта сапраўды быў Змяіны цар. Казалі. Што той, хто дагодзіць яму, хто здолее прыручыць, век будзе шчаслівы. Шчаслівы... Я ўжо не верыла, што калі-небудзь здолею вырвацца з зачараванага кола нягодаў. Смерць, адна за адною, маміна хвароба. Кола сціскалася, і я ўжо н емагла варухнуцца, нямела ад роспачы. Можа, хоць гэты Змей, хоць ён здолее нешта парушыць, здолее вырваць мяне з гэтага кола? У ім была адначасова пагарда і ўсё ж нейкая  цікавасць да мяне. Ён не мог не заўважыць, што,

абіраючы маліны, я ніколі не падымала тыя, што выслізнулі з маіх рук, упалі на зямлю. Гэта быў мой дар, дар яму, Змяінаму цару. Ён прыўзняўся, зашыпеў і зноў міргануў сваім, вілкаю, язычком, засвяціў каронаю. Ягоныя вузенькія вільготныя вочкі пазіралі на мяне задумліва і ўмольна. І я без слоў зразумела. Падуладная нейкай неўтаймоўнай сіле, паставіла кош малінаў на чорны камень. І шчэ не адпусціла рукі, як адчула моцны поціск вільготнай, змазоленай, але ўсё адно, такой мяккай мужчынскай рукі. З таго боку каменя стаяў і пазіраў на мяне Ганчароў сын...

У мужчынскім варыянце мой твар робіцца высакародным, нават прыгожым. І густыя, зведзеныя да пераносся бровы. Інос з горбінкай і рэзка акрэсленыя вусны... Усё дарэчы. Усё на месцы...

Нават гэтая, такая знаёмая, мая панылая сутуласць, завялікія для жанчыны, а для мужчыны якраз тое, што трэба, рукі і ступні... Толькі што валасы ў яго не такія, як у мяне. Мяккія, бялявыя. Не мае валасы. І вочы. Не як у мяне. Ці ў Ганчара, а як у ягонае маткі. Шэрыя, блакітныя... вочы? Ці гэта неба прасвечвае ў пустых вачніцах. Паветра імклівымі хвалямі сцёрла майго двайніка. І рогат. Ціхі смех рэхам зашамацеў у малінніку. Чорны гуж імкліва бліснуў, выслізнуў з майго каша і схаваўся пад ахутанай мохам струхнелай хвояй. Ізноў ціха. Толькі цвыркочуць конікі. І малінавы водар перабіваецца навязлівым салодкім пахам высокіх, упоравень з маліннікам, фіялетавых сукведцяў, якія ў нас чамусьці завуць змяінаю радасцю.

Кош быў пусты, толькі на донцы ляжала нітачка з двума мядовымі каменьчыкамі, тымі самымі, што высякалі маланку на грудзях з таго самага мсца, дзе мусіла быць сэрца Змяінага цара. Я асцярожна ўзяла іх у рукі. Павесіла сабе на шыю і ў тое самае імгненне падораная маім названым бацькам Кавалём манетка-змеевічок перавярнулася. Божая маці прыпала да маёй душы, а Змяіны цар выпаўз на волю. І я ўздыхнула на поўныя грудзі. І гэты мой уздых быў уздыхам Змяінага цара, які ізноў выпаўз, расцягнуўся на камені і, прымружыўшы свае бліскаўкі-вочы, зашаптаў:

— Гэта былі н емаліны... Я хач-чу-чу ессці з дзявоччых, з тваіх рук... Не пужайся. Не сёння. Потым. Калі-небудзь ты пакорміш мяне са сваіх рук... Ты набярэшшш мне малінаў. Набярэшшш мне... Набярэшшш. Ты цяпер не Ганчарова, не Кавалёва, ты цяпер мая дачка, мая сястра, мая нявеста, мая маці... І як падоіш карову, не забудзься наліць мне ў сподачак малака...

Маці мусіць даваць сваім дзецям малака...

Паветра ізноў варухнулася і ў ім, як у вадзе, я зноў убачыў свой уласны твар, самую сябе з чужымі, белымі валасамі і нябеснымі вачыма. Ганчароў сын усміхаўся. Неяк дзіўна, балюча ўсміхаўся...

Жах ахапіў мяне. Я не ведала, куды ступіўь. І пакуль бегла праз маліннік, задавалася, увесь час наступала, слізгала па змяіных хвастах, спінах, галовах, але яны чамусьці не кусалі мяне. Нават тады, калі я трушчыла іхнія яйкі і з іх з сіпеннем распаўзаліся ў розныя бакі малыя змеяняты...

Я прахапілася сярод ночы. У вакне малочным сподачкам застыла поўня, і я ўспомніла, што не падаіла карову. І не наліла Змяінаму цару малака... І ён зараз сам прыпадзе, усё высмакча ў каровы ці назаўжды адвернецца ад мяне... Поўня налівалася бурштынавым святлом, на ёй пульсавалі жывыя крывавыя прожылкі... Я затрымцела, здранцвела ў нейкім непадуладным маёй волі соладкашчымлівым парыванні... Усю ноч Змяіны цар лашчыў, смактаў мае грудзі. Мае цвёрдыя, малаком налітыя грудзі. Ён згінаўся ў салодкай стоме і не адным, усімі чатырма, мноствам сваіх целаў абдымаў, аплятаў маю шыю, мае рукі і ногі... Мне не хапала дыхання... І пругкі хвост выслізгваў з маіх пальцаў. Я ўся была ў ягонай уладзе.

Бурштынавая поўня зноў стала малочнай. Я прахапілася. І яшчэ не развіднела, пайшла даіць карову. Але ў яе пад выменем ужо стаяла поўная малака даёнка. Заставалася працадзіць і пераліць у збан, гладыш і... сподачак. Для Змяінага цара. Ён зараз жа выслізнуў з цемры і прыпаў да сподачка. Карова незадаволена рыкнула. У мяне за спіною пачуўся вар'яцкі жаночы рогат... У дзвярах, як заўсёды, у адной сарочцы, з распушчанымі, ужо зусім сівымі валасамі стаяла і ўзахлёб рагатала мая няшчасная мама. У яе за спіною на ранішнім небе, як ільдзінка, раставала малочная поўня. Сподачак быў пусты. Я падліла яшчэ трохі, перахрысцілася і выйшла. Пастух трубіў. Трэба было выганяць. А карова ўпарцілася, не ішла, бо ля хлява не сунімалася, рагатала мама...

Я бегла, сама не ведаю, колькі. Куды я бегла ад гэтага ейнага глухога, халоднага рогату...

Дзверы ў Ганчарову майстэрню былі прыадчыненыя. Я зазірнула — на Ганчаровым месцы, за Ганчаровым колам сядзеў ягоны сын і, асветлены першым мутным святлом, выкручваў з рудое, мяккае гліны... здаецца, гарлачык... Ніколі я не бачыла яго такім... прыгожым. У ягоным позірку. У ягоных вачах сапраўды было нешта нябеснае. І як жа пяшчотна craналі, лашчылі гліну ягоныя вялікія змазоленыя рукі, і пальцы дакладна выцягвалі, выводзілі край...

Я рукою захінула запаветныя пацеркі, Змяінага цара... А ён ажыў, выслзнуў, папоўз па майстэрні. І сонечная карона заззяла безліччу дробных бурштынавых пацерак. І я зрабіла рок, я пайшла за ім. Бо гэта было маім самым запаветным, маім самым пякучым жаданнем. Ганчароў сын злякнуўся. Спыніў кола. І, здаецца. Толькі цяпер, толькі зараз нарэшце заўважыў, як мы падобныя. А я звязала ззаду. Каб не заміналі, свае чорныя бліскучыя косы і папрасілаб

— Навучы мяне ганчарыць...

Я яшчэ саромелася, чырванела, але ведала, што ён мне не адмовіць, бо ля маіх ног ласціўся сам Змяіны цар. І праз колькі хвілін я ўжо ў скураным, у Ганчаровым скураным фартуху сядзела за колам. І мой брат, мой каханы, мякка сціскаў, прывучаў да вільготнай, падатнай гліны мае рукі, мае пальцы, маю душу... Ён казаў, ён шаптаў мне на самае вуха і ягоныя сцягнутыя скураным паскам валасы казыталі маю шыю. І гэты гарлач ужо быў не тоькі ягоным, ён быў нашым з ім гарлачом. Я ўстала, і ён сам зрэзаў ніткаю яго з кола і паставіў яго на паліцу, дзе ўжо падсыхала шмат посуду. Гладышы, гаршчочкі, місачкі, спарышы трымцелі ў чаканні прагных, гарачых вогненных пацалункаў, якія там, у печы, падчас абпалу надаюць ім моцы і хараства...

Усе мае рукі былі ў гліне. І я не хацела іх мыць ці нават выціраць.... Гліна ператваралася ў частку мяне, у маё другое я... І я сама ператваралася ў гліну. Ганчароў сын ні пра што ў мяне не пытаўся і я ўжо мала пра што пыталася ў яго. Ён паставіў побач са сваім яшчэ адно кола. І цяпер мы працавалі разам. Два разы на дзень ён хадзіў дамоў карміць сваю хворую маці, якая пасля Ганчаровай смерці страціла ўсякую цікавасць да жыцця, пачала забывацца, слабець, а апошнім часам увогуле перастала падымацца з ложка. Увечары мы разам спяшаліся падаіць кожны сваю карову.

За сценамі ганчарні нас з ім чакала звыклае, сумнае, нуднае жыццё. А тут мы закасвалі рукавы, перацягвалі валасы скуранымі раменьчыкамі, я завязвала і закідвала назад косы. Мы садзіліся ў сваіх выпацканых глінаю фартухах кожны за сваё кола, бралі па важкаму кавалку мяккай, падатнай гліны і забываліся на ўсё на свеце... Мы былі шчаслівыя, мы маглі тварыць тое, чаго прасіла душа. Я сама выкруціла для змяінага цара вялікі прыгожы сподачак, замест таго, першага, які маці разбіла ў прыступе шаленства...

Змяіны цар часта прыпаўзаў дя мяне ў майстэрню і ласціўся, цалаваў мае босыя ногі...

Ганчароў сын, апантаны працаю, не звяртаў на яго ўвагі. Ён аздабляў свой посуд ланцужкамі ромбікаў ці кропачак. Я ўплятала ў свае ланцужкі карону. Бурштынавую карону Змяінага цара.

Недзе ў глыбіні душы я адчувала, я разумела, што ніколі, ні з кім не спазнаю я большага шчасця. Тая мая, нашая са Змяіным царом ноч не давала мне спакою.

— Я ніколі табе пра гэта не казаў. Але, мне здаецца, мы з табою вельмі падобныя... Ну проста, як брат і сястра... Толькі валасы ў цябе чорныя...

— Гэта мая жалоба па былых і будучых маіх грахах...

— Ты шмат грашыла?

Няхай гэтае ягонае кволае. Ледзь чутнае пытанне застанецца без адказу... Куды і навошта пайшла я сёння з Ганчаровым сынам? Хутка восень, і хмарны паўзмрок ужо ахутаў усё наўкола... Мне цяжка дыхаць, у грудзях пячэ нясцерпна... Я забылася, і ён сам развязаў мае косы і адшукаў, не, гэта я адшукала ягоныя ўпартыя, жывыя, мае вусны... У роснай халоднай траве, у гурбе ліпкай апалай лістоты, мы, няўмелыя, спрабавалі адагрэць, запаліць адно аднаго і зямлю... Бурштынам налівалася трывожная поўня... Каровы засталіся нядоенымі. Змяіны цар без малака... аўзрыд рагаталі, смяяліся. Ціха плакалі нашыя маткі... І я памірала ў ягоных моцных, прагных абдымках, абдымках Змяінага цара...

Той ноччу ў высокай траве, у гурбе лісця за майстэрняй я згубіла сваю ахоўную маентку-змеявічок, якую зрабіў перад самаю сваёю пагібеллю мой названы бацька, Каваль... І бурштынавыя пацеркі чамусьці перастаі пахнуць жывіцай. І маланкі яны не выкрэсваюць...

Да самай сваёй смерці я штовечар, падаіўшы карову, налівала ў сподачак сырадою, налівала і ставіла яго ў толькі мне вядомым запаветным куце нашага хлява. Але Змяіны цар болей ніколі не з’яўляўся мне на вочы. Ночы мае сталі пустымі і трывожнымі. Несыходная горыч з’ядала душу...

І толькі калі я прыходзіла ў майстэрню і брала ў рукі мяккую, жывую гліну...

... Навальніца скончылася. Мой саламяны павук прагна ловць крыштальныя сонечныя промні. Пад яблыняй ізноў оўна ападкаў. Белы наліў. А ля веснічак стаіць, чакае мяне Сымон. Ён кліча мяне і кладзе мне на далонь манетку. І я ўжо ведаю, што з аднаго боку на ёй выява Божай Маці, а з другога—сонечным крыжам, сонечным колам выгінаюцца вакол каранаванае галавы змяіныя хвасты... Змяіны цар выходзіць на паляванне...

— У дзяцей забраў, гуляліся, — усміхаецца Сымон, — І дзе яны яго адкапалі? Гэта ж змеявік. Самы што ні ні ёсць сапраўдны змеявік. Я чытаў, што ён ахоўвае лепш за крыжык. Можеш таксама здаць у музей. Ці сабе пакінь...

Змяіны цар заваражыў мяне сваім дыханнем...

## ГОД НА ВОСТРАВЕ СНОЎ
**Аповесць-мроя.**

Хтосьці марыць пра катэдж ці новую машыну. Хтосьці пра тое, каб знайсці на дарозе дыпламат з доларамі. Алена Глінская мроіла падарожжамі. І лёс наталяў гэтую яе непераадольную, неспатольную не тое што прагу, — смагу. Вандравала яна шмат. І кожны горад, кожаня краіна набывалі ў яе памяці непаўторнае чалавечае аблічча. Масква бачылася ёй кучараваю, кідканафарбаванай паўнагрудаю новарускаю дамай у чаранбурцы. У Санкт- Пецярбурга, строгага, падцягнутага, было нешта ад дзекабрыстаў, так-так, не столькі ад цароў, імператараў, колькі ад тых, хто выйшаў супраць іх на Сенацкую плошчу. Элегантная пані Варшава. Вытанчаная, захінутая ў вэлюм карункаў Прага. Суровы, балесны Белград. А яшчэ вясёлыя, як дзіця, бестурботныя Злучаныя Штаты, халаданватая англія, разняволеная Францыя. У Парыжы яна была гэтым летам, у чэрвені. Прывезла адтуль бутэльку корсткага чырвонага віна і салодкую, мяккую парфуму. Цяпер лета канчалася. Наперадзе заставаліся апошіня летнія выхадныя. І Алена купіла аўтобусны білет у свой родны, атулены ляснымі пагоркамі гарадок. Гарадок свайго маленства. Хто ж ведаў, што гэта будзе самая доўгая і самая незвычайная з усіх вандровак...

За вакном мільгалі белыя, чорна-белыя клавішы бяроз і сонечныя, залатыя струны соснаў. Не, гэтыя стромкія, гонкія хвоі хутчэй нагадвалі не струны, а велічныя арганныя трубы... І музыка, музыка гучала глыбокая, моцная... алена глядзела ў вакно і думала пра тое, што, пэўна ж, невыпадкова Мара — самае светлае чалавечае парыванне, раней лічылася дэманам смерці ў жаночым абліччы. У індусаў “мара” ўвогуле абазначае смерць. Ёсць, ёсць ва ўсм гэтым вельмі глыбокі сэнс. Ідэал наяве выглядае зусім не так прывабна, як у нашым уяўленні... І яшчэ Алене хацелася менавіта сёння, гэтаю дарогай дадумаць новую сваю тэорыю, паводле якой чалавечае жыццё — гэта ўсяго толькі каляндарны год. Дакладней, кожны год можа ўвабраць у сябе цалкам усё чалавечае жыццё. Яе. Аленіны, студзеньскія ўражанні за ўсе пражытыя гады выдатна кладуцца на музыку яе маленства. Яна нарадзілася ў студзені.

І першыя пяць гадоў — гэта, калі задумацца, імглістая, мігатлівая снежная беласць. Тая самая непераадольная, амаль стэрыльная беласць ахутвала яе марознымі ранкамі, калі яна спяшалася ў школу ці в аўніверсітэт, і блакітнымі вечарамі, калі мерзла ў тэлефонах-аўтаматах, званіла і ніяк не магла дазваніцца да

каханага... Потым яшчэ пяць гадоў дзяцінства... Лютаўская сцюжа, хваробы, шмат розных кніг і глыбокае, глыбіннае задуменне... Нарэшце — прадвесне. Гэта гадоў дзесяць-пятнадцаць. Першая закаханасць, ці не самае вострае, балючае пачуццё. Восьмае сакавіка, якое заўды ўспрымалася, як нейкі знак, ды не, не знак — бясконцы танэль, які хацелася прайсці разам з... Але ж быў і трывожны, хвалюючы красавік. І да дваццаці гадоў, і пасля колькі цудоўных, нязбытных светлых сноў дарыў і дасюль яшчэ дорыць ёй гэты месяц. Травень, чэрвень, ліпень... Цяпер яна, здаецца, ужо пераступіла жнівеньскую мяжу. Цяпер лік мусіць пайсці на дзесяцігоддзі, хоць, калі лёс будзе не надта шчодры да яе, то і на гады. Як складзецца...

Але пакуль што жнівень... Шчодры, паўнагучназялёны... Восеньскую сівізну можна яшчэ не заўважаць. А ранішні знобкі туман. Як і раптоўныя навальніцы не раздражняюць. Яна навучылася ўспрымаць іх як розныя па гучанню акорды непаўторнай жыццёвай сімфоніі... І ўсё адно, як жа хочацца хоць на імгненне вярнуцца назад, у трапяткі, свежы чэрвень... язмінавае мроіва чысціні, лёгкі дотык вечнасці...

Алена не заўважыла, як у аўтобусе нікога не засталося. Толькі яна і шафёр. Аўтобус стаяў. І вадзіцель чакаў, пакуль яна, Алена, выйдзе. І Алена, нават не зірнуўшы ў вакно, забрала сумку і выйшла. Саскочыла з прыступак. Ляснулі дзверы, аўтобус развярнуўся іад'ехаў. А яна толькі цяпер зразумела, што ён завёз яе зусім не ў яе родны гарадок. Вакол ні душы. Незнаёмае, голае поле. Шуміць, гамоніць пра нешта бярэзнік, хвоі напружана ловяць апошнія сонечныя промні... За полем, да самага далягляду — луг, потым, здаецца, ізноў поле... І ніводнага слупа. Аўтобус жа, здаецца, ехаў па шашы, па асфальце, але цяпер ураз, як усё адно нехта злізаў яго, ці згарнуў, як дывановую дарожку. А можа, гэта аўтобус звёз з сабою шашу?.. Алена зірнула на гадзіннік. Была ўжо поўнач. Але сонца яшчэ не села, ды яно, падобна, і не збіралася садзіцца. І поле, толькі што залатое, шэра-жоўтае поле, зноў стла азялёным, зарунела... І ў бярэзніку не засталося ніводнага жоўтага лісточка. Нехта нябачны сцёр з дрэваў усю жаўцізну. Усё навокал памаладзела, пасвяжэла... Дзе ж гэта яна? І колькі ўрэшце рэшт часу? Ні душы...

### 1. Багіня Глея.

Але што гэта аблісквае там, за ўзгоркам? Рэчка? Сонца не садзілася, а ізноў узыходзіць. І робіцца не проста цёпла, горача...

Распрануцца, скінуць з сябе гэтую важкую джынсавую сукенку, басаножкі... Усё, усё скінуць з сябе. І ў ваду. Рэчка вузкая і зусім неглыбокая. Па калена. Не вада, глей па калена. І яна, Алена, стаіць з распушчанымі валасамі, уся залітая сонцам, і сцюдзёная, крынічная вада лашчыць ейныя стомленыя ногі. .. Варта толькі ўзняць рукі і цень, рухомы, увесь затканы імклівымі хваліснымі сонечныміблікамі цень плаўна ляжа на ваду, да самага таго берага... І ейная яшчэ зусім юная, гнуткая постаць набудзе закончанасць грэчаскай амфары... Хто сказаў, што хадзіць аголеным сорамна? Сорамна хлусіць, браць тое, што не зарабіў, сорамна чапляцца да чужога мужа... А вось так, даверліва, мякка аддавацца вадзе і сонцу, і гэтым вясёлкавым пырскам, плюшчыць вочы і раставаць у роснай смарагдавай свеласці лета... Гэта проста прыгожа. Гэта гармонія, якой не выказаць словамі. Хіба што праспяваць. Песня без славаў. Светлы, пяшчотны птушыны пошчык. А ўнізе рыбы, плотачкі, гуляючы, ныркаюць ля ног, якія ўсё глыбей і глыбей патанаюць у глеі. І не хочацца іх выцягваць, каб не замуціць ваду. Празрыстую, імклівую крынічную ваду, якая жывіць гэтую гнуткую, лагодную рэчку...

Алена не выйшла, ступіла на бераг. Крок за крокам, па мяккай траве, па лёгкіх, засыпаных росным брыльянтавым пылам павуцінках, што як аблычынкі завіслі па ўсім лузе... Павуцінкі не рвуцца, яны толькі ўгінаюцца ад ейных нячутных крокаў.

Яна ўсё ішла і ішла... Можа, дзень, можа, два, можа, цэлую вечнасць. Ад голаду, ад смагі яна стала такою лёгкаю, што, здавалася, магла ўзляцець, сама магла ўзляцець у неба, як сапраўдная аблачынка... Аблокі плылі ўслед за ёю, ценем клаліся пад ногі. А жытняе поле, да якога яна ішла і ішла, аддалялася, аддалялася, аддалялася...

Алена зразумела, што да жыта ёй не дайсці. Кладзіся і памірай. Раптам з-за кустоў выйшла белая карова, абсалютна белая, добра ўкормленая белая карова з чорнымі, абведзенымі ружовым вачыма і крутымі шэрымі рогамі... яна прыўзняла галаву, выцягнула шыю і рыкнула нешта ёй, Алене, проста ў твар. І Алена зразумела, што тая просіць, каб яе падаілі. Вымя зусім тугое, але ж, у што, у што ж падаіць?

Алене заставалася адно — укленчыць, і, як цяляці, прыпасці да смчка... Сырадой быў густым і цёплым, адным глытком можна было наталіць і голад, і смагу... А Алена ўсё смактала і смактала, і белая карова, усцешаная тым, што яе зразумелі, старанна адганяла хвастом аваднёў і рыкала, рыкала пра нешт асваё...

“Карова мусіць прывесці мяне да людзей, “ — падумала Алена і, абцёршы далонню вусны, паспрабавала ўзлезці, і, як не дзіўна, узлезла на белую карову, якая зноў ускінула галаву, рыкнула, і ... “Мууух!” — густым рэхам азвалася ўсё наваколле і яны паскакалі, яны паляцелі, па траве, па росных павуцінках, скрозь кусты, дрэвы, скрозь бярозавы, хваёвы водар, скрозь калючыя, засыпаныя шышкамі шаты, скрозь асляпляльную, росную пену аблокаў. Усё вышай і вышай. І ўжо не раса, снежны, зорны дождж засыпаў колкімі, імглістымі бліскаўкамі ўжо не белую, блакітную аксамітную спіну чароўнай каровы. І Алена, уся ўзмакрэлая ад напружання, ад хвалявання, думала толькі пра адно, як бы ўтрымацца, не ўпасці, не сарвацца ў чорную бездань.

## 2. Воблака, возера, храм..

У беспрытульнага вандроўніка Уладзіміра Набокава ёсць цудоўнае апавяданне “Воблака. Возера. Вежа...” Змучаны калектыўнаю вандроўкай, “адпачынкам” на чале з важаком, спевамі хорам і прымітыўнымі гульнямі, герой гатовы кінуць усё дзеля таго, каб назаўжды пасяліцца на пастаялым двары, у пакоі, з вакна якога відаць воблака, возера, вежу — прывід абсалютнай гармоніі, прывід шчасця...

Алена паднялася па скручаных у спіраль рыпучых дубовых прыступках і ў расчыненым напята вакне ўбачыла воблака, возера, у якім патанаў ягоны адбітак, і храм, касцёл, які люстраваўся не толькі ў возеры, але і ў разгорнутай, як кніга, шыбіне. Мястэчка засталося далёка ўнізе. Мястэчка?

А можа, гэта і быў ейны родны гарадок, той самы гарадок, у які яна ніяк не магла даехаць? Толькі адсюль, зверху ёй цяжка пазнаць яго... Цяжка пазнаць гэтае возера, воблака і нават храм...

“Такіх, вядома. Краявідаў у сярэдняй Еўропе колькі заўгодна, але менавіта, менавіта гэты, па невыказнай і непаўторнай дапасаванасці ягоных трох частак, па ўсмешцы ягонай, па нейкай таемнай цнатлівасці, - каханне маё! Паслухмяная мая! — было чмсьці такім адзіным, ід родным, і даўно абяцаным, так разумеў таго, хто глядзеў...” — набокаўскія словы рэхам запаўнялі пустую майстэрню... На карціне, што стаяла ля сцяны, было тое самае расчыненае вакно з адбіткам касцёла ў шыбіне, было возера, воблака, храм... Алена прыўзняла сваю важкую аксамітную сукенку (вішнёвы аксаміт у колер яе прагных да пацалункаў вуснаў), — асцярожна падыйшла да мальберта. Там стаяла пакуль што яшчэ зусім белае, як снег, як

першы снег, як неруш, белае палатно. Рыжабароды Фаўн паставіў яго і пайшоў мыць пэндзлі. Які ён быў дзіўны гэты Фаўн. Як стары валун мохам, з ног да галавы парос рудым валоссем. Ды яна ўжо ведала, яно, гэтае валоссе зусім не шорсткае, і, калі яны разам, так прыемна, мякка казыча цела... Хто яна тут, у гэтай сядзібе, у гэтым недабудаваным замку? Гаспадыня ці, можа, палонніца? Фаўн купляе ёй жамчужныя, смарагдавыя, рубінавыя калье і дыядэмы, апранае ў аксаміт, шэра-блакітнае, чорна-бурае футра, ён лашчыць яе, нават паглядам так лашчыць яе, што ўсё ў сярэдзіне замірае, і рубіны на ейных пальцах ператвараюцца ў вішнёвае жэле...

Але пайшоў дождж. І Алена ў тым самым сваім вішнёвым аксаміце і залатых сафьянавых туфліках выбегла на двор, на вуліцу, а потым зноў, каторы ўжо раз зайшла ў выкладзеную з камянёў, са звычайных markdownзнакаляровых валуноў браму... У дождж чорныя, шэрыя, ружовыя, жаўтлявыя камяні пачыналі гучаць кожны сваім колерам... Гэта былі ўжо не прыдарожныя валуны, а самцветы... А калі прыгледзецца — у кожнага быў нават свой твар, сваё непаўторнае аблічча... Хто ведае, можа, сярод гэтых камянёў ёсць старыя паганскія ідалы...

А пасярод двара, на смарагдавай бліскучай траве сядзеў элегантны чорны сабака. І ён таксама быў высечаны з каменю. Раптам алена адчула, што ёй хочацца піць, нясцерпна хочацца піць. Але ж студня, акуратна абкладзеная камянямі, з моцнаю дубоваю аканіцаю студня, зачынена на замок. І, каб адчыніць яе, трэба вяртацца ў замак, падымацца па лесвіцы і выпрошваць у рыжабародага Фаўна ключ.

Алена разявла рот, паспрабавала лавіць дажджавыя кроплі, але яны высыхалі на вуснах, у роце, яны выпараліся, знікалі, быццам і іх загаварыў, зачараваў рыжабароды Фаўн.

І тут сабака, каменны  чорны сабака міргнуў сваім бліскучым вокам, пацягнуўся, завурчэў і кінуўся, прыпаў да ейных ног...

— Караль, Караль, я прашу цябе, прынясі мне ключ ад студні, я вельмі, вельмі прашу цябе, — шапнула яна сабаку на вуха і той, здаецца. Зразумеў. Гаўкнуў і вялікімі прыгожымі скачкамі пабег да замка... Яна засталася чакаць у двары, пад дажджом, які не наталяў смагі... Кроплі ападалі на траву. Але зямля, дзіўна, зямля заставалася сухою, і кветкі, засыпаныя брыльянтамі дажджынак мядовыя настуркі і аксамiткі вялі на вачах...

— Караль, Караль, дзе ты? — паклікала яна, але словы перасядалі ў перасохлым ад смагі горле... І раптам, як усё адно нехта штурхануў яе... А як жа дзеці, іх з Фаўнам дзеці... А што, калі раптам і

яны паміраюць ад смагі. І, прыўзняўшы сукенку, яна пабегла да другога ўваходу, яна нават не ўзбегла, узляцела па скручаных у спіраль дубовых прыступках і расчыніла дзверы ў дзіцячую спальню...

Дзеткі ціхамірна спалі ў сваіх чысценькіх пасцельках. Дзве дзяўчынкі і два хлопчыкі. Шэсць гадоў іх з Фаўнам шчаслівага жыцця. Яна памятала пра кожнага з іх, яна памятала ўсё да драбніц... Памятала, як Вінцэсь любіў гуляцца з яе грудзьмі, называючы адну куркай, а другую пеўнікам. Памятала, як Хрысціна, калі яшчэ ляжала ў калысцы, пачуўшы, як яна, Алена, іграе на раялі "Месячную санату" Бетховена, арптам пачала падпяваць ёй. Яна перастала іграць. А дзяўчынка ўсё спявала і спявала. Ціхенька, ледзь чутна, але зусім дакладна... Цяпер Вінцэсь ужо чытае тоўстыя кніжкі, а Хрысціна сама іграе на раялі... А Казімір, не, гэты ніколі не гуляе з яе грудзьмі, саромеецца і ўцякае, калі застане яе анват у наўпразрыстай начной сарочцы. А Каміла, самая меньшая, яна так любіць маляваць... Крэйдаю, алоўкамі, фарбамі... Фаўн дазваляе ёй маляваць нават на сценах. І любіць, спраўды, Камілу ён любіць болей за ўсіх...

І раптам Алена зразумела, нават не зразумела, адчула, адкуль у яе гэтая смага, — і чаму баіцца яна ісці да Фаўна па ключ. Яна зноў цяжарная. А тут, у дзіцячым пакоі няма больш дзе паставіць ложкі... Значыць, яна ўсё ж зацяжарыла ў той светлы, пяшчотны, сонечны дзень, у тую мяккую, аксамітную месячную ноч, калі яны з Фаўнам разам, у адно-адзінае імгненне адчулі бяздонную слодыч вечнасці... Значыць, цяпер яна носіць у сабе і той пяшчотны дзень, і тую месячную ноч, і самую вечнасць, і ў іхняй сям'і назаўжды ўсталююцца лад і гармонія. І, хто ведае, можа, паступова гэтыя лад і гармонія расцякуцца, нябачнымі промнямі, хвалямі разыйдуцца па ўсім свеце...

Але не, Алена ведала гэта, адчувала, Фаўн не захоча болей дзяцей. І гэтых вось адсяліў у самае дальняе крыло замка... Каб не заміналі яму працаваць і адпачываць... Хіба што Каміла пакуль што яшчэ можа бегаць да яго, калі захоча, лашчыцца, цягаць за вусы, баарду і нават ездзіць на шыі... ён так любіць яе, бо даўно вырашыў, што яна будзе апошняй... Апошняй...

Сабака, Караль, лашчыўся ля ейых ног, заглядаў у вочы, працягваў заціснуты ў зубах залаты ключык ад студні... Але ёй ужо расхацелася піць. Ёй зусім расхацелася піць, бо там, усярэдзіне, сцялася ў прадчуванні немінучай смерці яшчэ ненароджанае дзіця, якое мусіла прынесці ў гэты свет столькі радасці, пяшчоты, гармонію, лад, вечнасць...

А за вакном, з якога ў ясныя дні таксама відаць і воблака. І возера, і храм, ішоў дождж, а зямля ніяк не магла наталіць сваёй смагі, і вялі, сцякаючы мядовым водарам, кветкі. Сонечныя настуркі і аксаміткі…

— Алена, — Фаўн, без сарочкі і майкі, у адных кароткіх шортах, стаяў у глыбіні калідору. Яна прычыніла дзверы, узяла з зубоў у сабакі залаты ключык і, прыўзняўшы сукенку, пайшла яму насустрач. Залатыя сафьянавыя туфлікі так намоклі ад дажджу, што расклеіліся і разваліліся проста на нагах…

— Алена, ты, здаецца, хацела піць, — ціха сказаў Фаўн, і яна толькі цяпер, калі падыйшла, разгледзела ў паўзмроку, што ён трымае ў руках празрысты шкляны збан з вадою і шклянку…

— Не трэба, пайшлі да цябе, — зусім для сябе нечакана, лёгка вымавіла алена, — Сёння я буду кахаць цябе, усю ноч, да раніцы… Ты мусіш надаць мне сілы, каб забіць нашае дзіця…

## 3. Шэрыя здані.

Нейкім цудам, Алена ўсё ж дабралася да свайго гарадка… А можа, проста спусцілася з той вежы, з той вежы, адкуль былі відаць воблака, возера. Храм. Яна ішла па знаёмай, з маленства да драбніц знаёмай вуліцы і не пазнавала яе. Гэтаю парою звычайна за кожным плотам ганарліва прыхарошваліся, пацягваліся, засыпаныя бліскучымі, сакавітымі ягадамі, кучаравыя вішні. Цешыліся, нагледзецца не маглі на свае адшліфаваныя гранатавыя, рубінавыя каралі, дыядэмы, завушніцы, пярсцёнкі, у якія так любіла зазіраць сонца… Ды не, не каменне, жывыя салодкія кроў і плоць ягад утваралі гэтыя цудоўныя  гірлянды. У кожнай вішаньцы — костачка. Колькі костачак—столькі мож авырасьці новых дрэўцаў, маладзенькіх вішаняк. Якія па вясне забелапеняцца квеценню, а потым, высмоктваючы з зямлі нябесную вільгаць, прагна ўбіраючы ў сябе сонечнае святло, выгадуюць новыя, сакавітыя, бліскучыя, сапраўды. Падобныя на каштоўныя камяні, жывыя ягады. Так было амаль штогод. А тут, раптам, алена не верыла сваім вачам… У садах замест вішань стаялі голыя шэрыя здані. Шкілеты, без лісця і ягад. І людзі за платамі, суседзі, якіх яна таксама не пазнавала, былі шэрыя і непрыветныя. Ды і яна, Алена, сама ішла па вуліцы ў нейкім брудным льняным халаце і стаптаных хатніх пантэфлях. Галава, цела часаліся. І зноў нясцерпна хацелася есці і піць…

Але што яна, што яе голад і смага, калі побач, следам за ёю ішлі ейныя дзеці, усе чацвёра, у заношаным, дзіравым адзенні, босыя і

галодныя. Якім чынам яны ўсе, але ж без Фаўна, апынуліся ў гэтым гарадку? І дзе цяпер быў Фаўн? І хто такі быў Фаўн?

Яна адчыніла знаёмыя блакітныя веснічкі і насустрач ім кінуўся самбака, але не іхні, не бацькоў яе сабака, не Жук... Жук быў чорны. А гэты руды і брэша. Кідаецца на яе і на дзяцей... Выганяе? Дзверы хаты расчыніліся і адтуль выйшаў, ледзь ступаючы, хісткай, п'янаю хадою непрыгожы азызлы мужчына з вузенькімі чырвонымі вочкамі і шызым носам.

— Што нада?! — крыкнуў ён на яе... І Алена зразумела, што цяпер ён тут гаспадар. І ёй з дзецьмі болей няма куды пайсці, няма дзе падзецца...

І яна павяла дзяцей да рэчкі. Увесь бераг быў засыпаны белым гусіным пухам. Гусі важна хадзілі ўздоўж вады, плавалі, і не звярталі на іх ніякае ўвагі. І людзі, што падыходзілі да вады — кабета, якая паласкала ў рэчцы бялізну, хлопчык, што вудзіць рыбу, і гэты сівы мужчына на лодцы, — яны іх быццам зусім не заўважалі. Можа, яна, Алена, і дзеці сталі проста нябачнымі? Трэба было гукнуць кагосьці, папрасіць хоць якога прытулку, а яна, Алена, не ведала, як пачаць, ці тое даць ім "дзень добры!", ці тое сказаць:"Здравствуйте!"... І да каго першага звярнуцца, да кабеты, што, папаласкаўшы, ужо збіралася несці кош з бялізнаю дамоў, ці да сівога мужчыны, які вылазіў з лодкі на бераг?

Вінцэсь, старэйшы яе сын, з'арыентаваўся раней за яе. Разам з Казімірам яны падбеглі да кабеты, і ўзяліся паднесці ёй кош. Тая, здзіўленая, моўчкі кіўнула.

Алена бачыла, як прасілі, малілі яны кабету даць ім хоць што-небудзь. Але тая не пусціла іх нават на двор. Яны, панурыя, усё адно засталіся чакаць. Кабета сапраўды вярнулася і перакінула ім праз плот дзве пустыя палатняныя торбачкі — жабраваць...

І ўжо з гэтымі торбачкамі цераз плячо. З працягнутымі выцягнутымі ручкамі, хлопчыкі падыйшлі да сівога мужчны, які прывязваў лодку. Той, непрыветна, сурова агледзеўшы іх, дастаў з пакета і паклаў кожнаму на далонь па кавалачку хлеба, потым, падумаўшы, яшчэ, проста з вядзерца, па жывому карасіку. Рыбкі біліся, не ўтрымаць, і Казімір такі выпусціў сваю. Яна з усяе сілы бухнула хвастом па гусіным пуху і саслізнула з берага...

Схаваўшыся ад людзей, яны елі, падзяліўшы на ўсіх. Сырую рыбіну з хлебам і запівалі ўсё, проста са жменек, рачною вадой...

Так было. І ніхто не мог дапамагчы ім, бо ў яе родным гарадку яе ніхто не ведаў і не пазнаваў. І яна нікога не ведала і не пазнавала. І замест такіх шчодрых на ягады вішань за платамі стаялі шэрыя здані.

Жабруючы, яны нейкім цудам дазналіся, што Фаўна арыштавалі. Іх замак разбураны, як разбураны храм, што стаяў на тым беразе возера. І ў той дзень, калі па загаду новага гарадскога начальніка бурылі храмы — касцёл і царкву, была страшная навальніца. І возера паднялося, заліло ўсё наўкола, а потым — літаральна за тыдзень, перасохла. І рыбу можна было лавіць рукамі. Людзі прыходзілі з кашамі, вёдрамі, бочкамі, цягалі, вазілі, хто колькі можа. І потым цэлы месяц, а хто і два, елі адну толькі рыбу.

Тут былі возера, воблака, храм... Але з таго ледзь улоўнага, светлага вобраза гармоніі цяпер засталося толькі воблака. І яно сплыло, растала, не, хутчэй за ўсё, вылілася дажджом...

І ад вішань засталіся толькі шэрыя здані. Адны казалі, што вінаватыя замаразкі, другія—сухмень, трэція — радыяцыя. Некаторыя паспяшаліся ссекчы бясплодныя дрэвы. Але раптам падканец лета не на ўсіх, толькі на некаторых галінках, на самых кончыках. Але ўсё ж пачалі, як пальчыкі на далоньках, пачалі разгортвацца, распускацца пругкія зялёныя лісточкі.

А ў садзе аленіных бацькоў, дакладней, цяпер ужо былым іхнім садзе, дзве вішанькі нават заквітнелі. І якраз у той дзень на ўскраіне гарадка памерла бабулька і людзі самі прапанавалі Алене з дзецьмі пасяліцца ў ейнай хаце. Усё ж такі печ. Грубка, двайныя вокны, шафа, стол з лавамі і нават ложкі, два шырокія ложкі...

У шафе было поўн аадзежы. І Алена нават узяла, хацела прымерыць прыгожы мяккі махеравы шалік... Расцягнула яго, а ён... Ён увесь быў з'едзены моллю. Там. У шафе, белыя з чорнымі сінкамі чарвякі на вачах даядалі дзіцячыя шкарпэткі, штонікі, шапачкі. Але самым брыдкім у новай хаце было павуцінне. Якім былі затканыя ўсе куты, і пацукі ці мышы, якія па анчах бессаромна бегалі па хаце, прагрызалі нават цэлафанавыя пакеты, абкусвалі хлеб, выпівалі малако, рассыпалі крупы. І яшчэ ні Алена, ні дзеці ніяк не маглі прызвычаіцца да таго, што ў сценах, у столі, у падлозе, і нават у рамках абразоў, што віселі на покуці і ўдзень і ўночы хрумстаў неўгамонны ненажэрны шашаль. Жывы гадзіннік. Цікаў і цікаў, адмерваў хвіліны, гадзіны, дні, тыдні... месяцы іх бядотнага існавання.

За вокнамі вые вецер, у хаце хрумкае шашаль, па падлозе туды-сюды бессаромна тупаюць мышы. Восень, зіма наперадзе...

## 4. Таямніца вінаграднае гронкі.

Але выбліснула сонца. І суседзі далі ім кожны па вядру бульбы. І яблыкаў, антонавак у старым садзе было не перанасіць... Нешта нават прадалі. Алена ўладкавалася ў школу выкладаць музыку. Дзеці вучыліся. І ў адзін з ясных, сонечных восеньскіх дзён яна ў белай сукенцы, лакавых туфліках толькі што вярнулася са школы, да веснічак падыйшоў сівабароды стары ў заношаным касцюме з парэпаным карычневым чамаданчыкам, чамаданчыкам, поўным самых розных зярнятак. Дзеці кінуліся разглядаць намаляваныя на пакеціках заморскія кветкі, гародніну, тузалі яе, прасілі купіць і таго. І таго... А стары як усё адно ўсё ведаючы, працягнуў ёй адзін-адзіны пакецік. У якім было ўсяго некалькі зярнятак.

— Гэта вінаград...

— Ён у нас не вырасце. Халодна... — адмоўна закруціла галавою Алена.

А стары заўсміхаўся. На ўвесь свой напалову бяззубы рот.

— Гэты вінаград вырасце. Толькі тут, у вас вырасце...

І не ўзяў з іх ні рубля. Толькі папрасіў папіць. І Вінцэсь прынёс яму кружку вады...

Як навучыў іх дзядок, яны ўвосень пасадзілі зярняткі ў зямлю. І калі за вокнамі лютаваў мароз, усчыналася завея, Алена чамусьці думала пра тыя зярняткі. Не верыла, што выжывуць, што нешта з гэтага атрымаецца. А дзеці, смешныя, адно аднаго і яе пераконвалі, што наступным летам будуць есці свой вінаград.

Дачнікі  па вясне не з'явіліся. Яны з дзецьмі самі капалі, садзілі гарод... І як жа здзівілася яна, калі заўважыла, што на той градзе, куды закапала вінаградныя косткі, з'явіліся парасткі.а потым распусцілася буйное вінаграднае лісце. Цяпер яна. Верачы ў нейкі цуд, не адыходзіла ад гэтай грады, цяпала, вырывала пустазелле, палівала і разам з дзецьмі чакала...

Вінаграду патрэбныя былі вада і сонца. І яшчэ шмат увагі і любові. З нейкага іншага, не свайго жыцця Алена памятала, як цяжка пад бязлітасным гарачым сонцам рыхліць непадатную, цвёрдуюглебу. Гэта было каля Ялты, ці, можа, каля Сараева. А ў яе ў гародзе зямля была мяккаю, лёгкаю. Ішлі дажджы, але яна паспявала вызваліць парасткі ад пустазелля. І што вінаградніку іхняя макрыца ды лебяда, калі там, у гарах яго душылі оныя, вострыя, як леска, пякучыя травы, якія, яна гэта добра памятала, было не вырваць. І рукі потым было не адмыць, іх пякла, раз'ядала атрута...

Вінаграднік рос, як у казцы. Толькі паспявай падвязваць. І да восені, дзеці мелі рацыю, да восені на ўсіх кустах пачалі наліваецца прыгожыя, сонечныя гронкі.

Гэта была самая шчаслівая восень. Самая шчаслівая за ўсё яе жыццё. Яна пайшла працаваць у школу. І купіла сабе белую сукенку і чорныя лакавыя туфлікі, такія самыя, пра якія марыла, здавалася. Усё жыццё. Пайшлі ў школу і ўсе яе дзеці. І Каміла дагадавалася, дарасла да першага класа.

А суседзі, яны таксама папрыгажэлі, пахарашэлі. Яны прыходзілі да яе хто з бульбаю, хто з салам, хто з гуркамі. А яна частавала ўсіх водарным, сонечным вінаградам.

Па вечарах, калі дзеці засыналі і яна садзілася правяраць сшыткі, а потым сядзела і смактала, смакавала той самы сонечны вінаград... І кожная ягада была вострым, непераадольным успамінам з іх з Фаўнам сумеснага жыцця...

... Вось яна ў сваёй юбімай вішнёвай аксамітнай сукенцы ўзбягае па лесвіцы і, расчыніўшы напята дзверы, залятае ў ягоную майстэрню. А ён адрываецца ад сваіх карцін, падхоплівае яе а рукі і кружыць, кружыць... І сонца раптам прабіваецца скрозь хмары і залівае іх сваім пяшчотным святлом. У нас будзе дзіця, у нас будзе дзіця... У нас будзе сын... Так як ты хацеў. У нас будзе сын. У нас будзе два сыны і дзве дачушкі... Так, як мы хацелі. Але ж за што, за што арыштавалі яго цяпер?

За тое, што не дагадзіў гарадскому Галаве... Але ж яны, здаецца, ніколі не бачыліся. Гарадскі Галава ўвесь час ездзі у чорным мэрсэдэсе з цёмнымі вокнамі. А, калі выходзіў з машыны, то яго нельга было разгледзець з-за натоўпу цікаўных і суровых ахоўнікаў, якія дубінкамі прабівалі яму дарогу сярд расчуленых ягоых паклоннікаў. Паклоннікаў, якія складвалі на грудзях рукі і ўсё кланяліся, кланяліся... яны не бачыліся. Але ж Галава не мог не бачыць іхняга замка, іхняе вежы з выскародным сцяжком. Іхні замак і іхняя вежа ўзвышаліся над усім горадам, і над катэджам Галавы таксама. Можа, якраз гэтага і не мог дараваць ім Галава? Можа, зараз ён жыве ў іхні замку, спіць у іхняй пасцелі, есць за іхнім сталом?..

Калі той шэры, беспрытульны п'яніца так лёгка заняў хату ейных бацькоў, яе. Аленіну хату, то чаму Галава не можа заняць замак Фаўна, іх з Фаўнам сядзібу... І што цяпер там робіць бедны Караль... Пэўна, скамянеў назаўжды.

Спачатку ягады былі проста салодкімі, потым корсткімі, потым ад іх пачало патыхаць віном. І гэты дзіўны,, даўно забыты хмель падказваў усё новыя і новы падрабязнасці іх з Фаўнам жыцця. І было

балюча, было нясцерпна, а потым... Потым стала хораша. І яна заснула.

Налета, хоць паўсюль зноў было поўн авішань, ніхто іх не абіраў. Усе даглядалі свае вінаграднікі. Хтосьці купіў страшнага сабаку-людаеда (каб суседскія дзеці не абабралі раней часу чароўныя ягады), хтосьці працягнуў над плотам калючы дрот, хтосьці ават праёў па дроце электрычны ток. Нават той беспрытульны п’яніца, што жыў у бацькоўскай хаце, і той даглядаў, ахоўваў свой вінаград...

А калі ягады саспелі, усе дзеці кінуліся да сваёй анстаўўніцы, да алены. Каб хоць пакаштаваць таго вінаграду. Бацькі не давалі ім ніводнае гронкі — увесь вінаград, да ягадкі, мусіў пайсці на віно.

Калісьці па восені тутэйшыя гаспадыні шукалі слоікі і крышкі — ставіць кампоты і гуркі, цяпер попытам карысталіся толькі добрыя выінныя бочкі. Мясцовы бондар за адзін месяц стаў самым багатым (вядома, пасля Галавы), але ўсё роўна, самым багатым у гарадку чалавекам.

Вінаградны водар незаўважна ператварыўся ў вінны перагар. Віно навучыліся рабіць усе, ды так, быццам займаліся гэтым ад самага свайго нараджэння.

Хтосьці нават павёз прадаваць сваё віно ў сталіцу. Потым і за мяжу. Адкрылі вінны завод.

Дзецям не давалі есці вінаград, але віно піць дазвалялі. Пі, коькі хочаш... Маладое, сонечнае віно, смак якга год назад, а можа і не год, можа гэта ўчора было, смак якога яшчэ нядаўна ведала адна Алена. Цяпер яна адна не рабіла з сонечных гад віна, хоць яе вінограднік быў самым шчодрым, самым багатым у горадзе.

І зноў усё навокал стала шарэць... Шарэлі дамы, вуліцы, співаліся, шарэлі людзі... Сваркі, крык, кроў і брыдкі вінны перагар панавалі паўсюль, анват у школе... І яе. Аленіны дзеці разам са сваімі аднакласнікамі пачалі піць маладое віно, нават самая меньшая, Каміла... Алена трымалася да апошняга. Але зноў павуціна пачала зацягваць куты, сшарэлі на вокнах фіранкі, сшарэлі сукенкі, моль накінулася на самыя лепшыя ейныя і дзяўчат сукенкі.

Вінаград, які яшчэ нядаўна так любілі есці дзеці, псаваўся і сам па сабе набываў гаркавы, хмельны прысмак віна. А наперадзе ізноў восень, зіма. Фаўн у турме. Дзеці не слухаюцца. Вакол усе співаюцца і звярэюць. Трэба шукаць паратунку. Але не тут, не ў гэтым горадзе. Не ў гэтай краіне.

## 5. Пражская рапсодыя.

Дзіркі на адзежы можна зацыраваць карункамі. І шэрае павуцінне пад месячным святлом наліваецца срэбрам. Алена ехала ў Еўропу. Ехала ў дзіўнай, падобнай на сярэдневечныя іспанскія строі, затканай срэбрам карункавай сукенцы з высокім гатычным каўняром. І туфлікі таксама свяціліся срэбрам. Яна ехала ў карункавую загадкавасць Прагі. Каб адразу з цягніка ступіць на подыум Дом амадэляў. На подыўм, дзе яна мусіць дэманстраваць гэтыя дзіўўныя шыкоўныя строі. У якіх павуцінне вечнасці пераўтвараецца на вачах у адмысловыя сярэбраныя карункі.

Яна крочыла, яна ступала так, як яе вучылі, асцярожна, на кожны крок прыўздымаючы сярэбраны вэлюм і шэры, белы аксаміт. Але ніхто не глядзеў на яе. Хіба што задумлівы, самотны маладзік. Па вуліцах, вечаровых, анчных пражскіх вуліцах рэхам блукала цішыня. І залатое, барвовае карункавае лісце клёнаў пад святлом месяца набывала сярэбраны, металічны бляск, яно, здавался, вось-вось зазвініць. Як рыцарскія латы. Як мусяць звінець латы вунь тых рыцараў, што асцярожна ступаюць па залітай месячнай плынню брукаванцы. Але ж іх зусім не чуваць. Яны крочаць, як прывіды... А можа, яны і ёсць прывіды?

Адзін з рыцараў наблізіўся да подыўма і, стаўшы на адно калена, працягнуў ёй, алене, белую ружу, якая пад месячным святлом таксама стала сярэбранай.

Алена не бачыла, хто хаваецца ў рыцарскім убранні. Не бачыла ні твару, ні нават рукі. Усё хаваў халодны метал. Хто ведае, можа, пад пальчаткамі, пад жалезнаю маскай не было ні рукі, ні твару. Але яна ўзяла гэтую белую, засыпаную сярэбраным пылам ружу і прыняла ягонае маўклівае запрашэнне сыйсці з подыўму і прагуляцца па восеньскай вечаровай Празе...

Яна абаперлася на ягоную руку. Ці, можа. усяго толькі пальчатку і па-ранейшаму не чуючы ягоных крокаў, пайшла з ім. Па пустых вуліцах разлілося мілагучнае рэха ейных абцасікаў.

Маўчаць было страшна, маўчаць было немагчыма, нясцерпна. І яна пачала гаварыць, расказваць, спавядацца.

Яна расказала свайму маўкліваму Рыцару пра тое, як паехала ў свой родны гарадок і заблудзіла. Заблудзіла ў прасторы і часе. Пра тое, як, каб наталіць голад і смагу, проста з вымені смактала малако, а потым лётала на той самай белай карове. Расказала пра Фаўна, пра ягоную сядзібу, пра вежу. З вакна якой было відаць возера, воблака і

храм, пра іхніх з фаўнам дзяцей, пра новага гарадскога Галаву і пра трагедыю з вішнямі, якія за ноч раптам преатварыліся ў шэрыя здані, у бясплодныя шкілеты. І пра падобныя на мяккія жывыя кроплі бурштыну вінаградныя гронкі, што выраслі на іхнім гародзе і неслі ў сабе столькі сонечнага святла, столькі энергіі... І каб усе людзі наталялі смагу толькі іхнім сокам... Толькі сокам, а не віном... Тут яна ўздыхнула. Глыбока, да безвыходнасці. Цяпер Фаўн у турме. А дзеці. Іхнія цудоўныя дзеці співаюцца, іх спойваюць віном, выціснутым з узгадаваных ёю чароўных бурштынавых гронак. І яна не можа. яна бяссільная хоць чым-небудзь ім дапамагчы.

Рыцар, здавалася, уважліва слухаў і анват кіаў сваёю жалезнаю маскай, не тое ў рытм з іхнімі крокамі, не тое са словамі...

А потым яны зайшлі ў нейкія дзверы, ля якіх на ланцужку вісела жалезная рука ці пальчатка, такая самая, падобная да той, на якую яна абапіралася...

У паўзмрок рыцар ступіў першым. І яна ўслед за ім пачала вобмацкам падымацца па слізкіх каменных прыступках. Крутая, вузкая спіраль вяла іх на вежу...

Прымацаваныя да сцяны блакітныя ліхтары, што ўздымаліся ўсё вышай і вышай, нагадвалі халодныя зоркі, і іх узыходжанне было ўзыходжаннем у нікуды. І калі ўжо не хапала дыхання, і словы перасядалі ў горле, над галавою нарэшце з'явіўся конус даха з зоркаю-ліхтаром на самым версе. Рыцар спыніўся і моўчкі паказаў ёй на вузкае, перавітае тонкімі металічнымі кратамі-кветкамі вакно...

За вакном блізка-блізка, руку працягні і кратай, пануры, вісеў месяц. А ўнізе ляжала вялікае месячнае возера. Яно, здавалася. Было заліта ен вадою, а волавам. У возеры люстравалася калматае чорнае воблака і затканы павуціннем каменных карункаў востраверхі сярэбраны храм.

Алена перасмыкнулася. Хіба ў Празе ёсць возера?

Але Рыцара побач з ёю ўжо не было. Месяц схаваўся за чорную хмару. Пайшоў дождж. Кроплі спяшаючы загаманіла, кожная пра сваё... Трэба было спусціцца ўніз. Адной спускацца з гэтай пануpай дзіўнай вежы, як зоркамі, асветленай цьмянымі блакітнымі ліхтарамі.

І тут алена адчула, што ружа ў яе руках стыне, робіцца цвёрдай, ужо нават не халоднай, сцюдзёнай... яна сапраўды зроблена са сарэбра... ці нейкага іншага металу... Яна нежывая. І не карункі. Шэрае мяккае павуціннне вэлюмам ахутвае ўсё ейнае адзенне...

Павукі яшчэ не скончылі сваю працу, яны аплятаюць ёй рукі, яны аплятаюць ружу і, як кайданамі. Спрабуюць прыкаваць яе да

сцяны. Каб яна не магла сыйсці з месца і бачыла толькі гэты месяц, гэтае возера, чорную хмару і карункавы храм.

## 6. Вецер вяртання.

Ён быў у чорным капелюшы і даўгім, зашпіленым ан ўсе гузікі скураным плашчы. Ён быў да безаблічнасці строгім, нават суровым. Але Алена адразу пазнала яго, бо гэта быў ейны аднакласнік, з якім яны нават год ці два сядзелі за адной партай і ў якога яна была адзін час нават закаханая. Яна была закахааня ў яго. І ў шостым ці сёмым класе нават падыйшла да натаўніцы. Іхняй класнай кіраўніцы, і папрасіла, каб яе пасадзілі даяго, паабяцаўшы, што будзе яму пдапамагаць. Тады ён сапраўды выправіў усе свае двойкі, потым яна яшчэ бараніла яго на нейкім камсамольскім сходзе (яны недзе напіліся і п’яныя прыйшлі ў школу на вечар). Казалі, што Ўладзік, яго сапраўды звалі Ўладзік, скончыў фізкультурны інстытут, а пасля войска нават вучыўся на факультэце журналістыкі, потым нейкі час ізноў хадзіў пры пагонах, адны казалі ў арміі, другія — у органах.

Цяпер Уладзік. Строгі і нават суровы, запрашаў яе ў пражскую кавярню. А яна баялася заходзіць з ім у пад’езд, над якім вісела рыцарская пальчатка і згадзілася пасядзець толькі на вуліцы, за столікам пад паласатым парасонам. Хоць быў вецер. Яна расшпіліла паліто і зняла свой ліловы капялюш. Размова мусіла быць нез лёгкіх. Ім прынесклі бутэльку вінаграднага віна і два бакалы. Яна папрсіла канапкі з сырам, ён — з каўбасой і дзве кавы.

Пачынала вечарэць і з мокрых вуліц змяталі апалае лісце.

Алена першаю заўважыла на бутэльцы віна знаёмую, іх з Фаўнам вежу, але нічога не сказала...

Уладзік разліў віно, і прапанаваў выпіць за сустрэчу. Яна толькі прыгубіла, смак узгадаванага ёю вінаграда яна б пазнала з тысячы. А Ўладзік доўга смакаваў, цешыўся прыемным бурштынавым колерам, думаў пра нешта сваё. Потым узяў бутэльку, прачытаў і вельмі здзівіўся.

— У нас у гарадку робяць віно? Вінаграднае віно?

Алена моўчкі кіўнула.

— Гэта вежа нашага былога дома, нашае з Фаўнам сядзібы, - дадала яна і ўздыхнула, — Цяпер Фаўн у турме, а ў нашым доме жыве Галва.

— Якраз пра гэта я хацеў з табою пагаварыць. Толькі не ведаў з чаго пачаць. Я ведаю, што ты тут працуеш мадэлькай, добра

зарабляеш. Але ж у цябе там, калі не памыляюся, засталося чацвёра дзяцей?

— І Фаўн...

— Так. І Фаўн у турме. Таму ты павінна нам дапамагчы. Нам і сабе самой. З нас ніхто не можа туды трапіць. Галава не дапусціць, каб хто-небудзь старонні наблізіўся да яго. А ты, ты паедзеш туды разам з іншымі мадэлькамі і павязеш новую калекцыю суперсучасных мадэляў. Самыя эфектныя, самыя прыгожыя, самыя сэксапільныя будуць твае. Галава не можа не заўважыць цябе, ён мусіць паласці на цябе вока. Тое, што ты жонка Фаўна, і былая гаспадыня сённяшняй ягоанй сядзібы, ягонага замка, надасць вашай інтрызе вастрыні, асаблівай пікантнасці.

— Даруй, я пакуль што не разумею, дзеля чаго гэта ўсё трэба рабіць...

— Пакуль што я не скажу табе. Ты зможаш убачыць сваіх дзяцей, а можа, калі асабліва дагодзіш Галаве, ён дазволіць табе наведаць Фаўна. Зрэшты, ён нават можа выпусціць яго...

— Я не разумею.

— Тут жыве былая каханка Галавы. Яна падзеліцца з табою сваімі таямніцамі.

— Але... Навошта вам гэта, навошта вам, каб я служыла Галаве?

Чалавек у чорным капелюшы стаў зусім суровым і нават, здаецца, перастаў быць падобным на Ўладзіка. Так-так, перад Аленай сядзеў нейкі зусім іншы, чужы чалавек. Але для самой сябе незаўважна яна заключыла з ім нейкую здзелку.

— Ні я, ніхто іншы з нашых людзей не скажа вам болей за тое, што вам можна ведаць.

І ён, гэты чалавек у капелюшы ўсё ж зацягнуў Алену ў той пад'езд пад рыцарскаю пальчаткай. І зноў была бясконцая лесвіца, і нейкі чырвоны пакой, у якім стаяў шырокі рассцелены ложак. І жанчына ў чорных ажурных панчохах, падпільваючы пазногці, расказала ёй пра Галаву. Пра тое, што ён любіць, каб яго перад тым... білі плёткай. Чалавек у чорным капелюшы, не, гэта ўжо быў не Ўладзік, прынёс ёй гэтую плётку, замахнуўся, але не, не сцёбнуў.

Яны зноў падымаліся наверх, туды, дзе ў адным з пакояў віселі новыя мадэді, і яна, ужо распранутая, ніяк ен магла выбраць сабе тую, у якой паедзе дамоў. Урэшце рэшт, чалавек у капелюшы прынёс ёй шэрае мутонавае футра, і так і павёў яе ўніз у чорных панчохаха і мутонавым футры.

Ужо ў машыне алена раптам скаланулася: “А дзеці?! Як дзеці ўспрымуць тое, што яна мадэлька і будзе прыслужваць Галаве?!”

Халоднае лязо ўжо было прыстаўлена да ейнага горла...

## 7. Забіць тырана.

Усё было, як у далёкім, ніколі ўжо недасяжным яе маленстве. Снег падаў і галіны дрэваў на вачах ператвараліся ў палачкі ад марожанага. Дзіўны карункавы ранішні сон... Яна ў мяккім шэрым футры едзе скрозь снег на сваім белым “Мэрсэдэсе”, а вакол сады. Хаты, платы — усё, ус1 з марожанага. І дзеці стаяць і ліжуць усё, што трапляе на вочы — дрэвы, веснічкі, свае рукавічкі і адарвацца не могуць ад гэтага незвычайнага ласунку. Выбліснула сонца і толькі тут алена заўважыла, што снег засыпаў зялёныя, зусім зялёныя вінаграднікі, вінаграднікі, поўныя спелых бурштынавых гронак. Але гронкі не сцінаюцца, не чарнеюць. Можа, сапраўды яны не налітыя сокам, а зроблены з бурштыну?.. Трэба было б спыніцца, выйсці, праведаць дзяцей. Але ёй загадана адразу ехаць да гарадскога Галавы. Яна яшчэ так і не ведае дзеля чаго, але яна мусіць зблізіцца з ім, так зблізіцца з ім, каб ён давяраў ёй, як нікому, каб не баяўся...

Пасля паказу мадэляў, і гэтай, самай апошняй, аксамітнай вішнёвай сукенкі, якая лёгка, адным дотыкам рукі ператваралася ў міні, Галава, праз сваіх людзей, вядома. Запрасіў яе ў свой, іх з Фаўнам замак. І яна паспела, надзела свае любімыя залатыя карункавыя завушніцы і пярсцёнак з рубінамі — апошняе, што ў яе засталося ад Фаўна. Пад святлом камні рабаліся жывымі, рухомымі і нагадвалі ёй вішнёвае жэле, якое па нядзельным дням гатавала яна сваім дзецям і Фаўну.

Спачатку яны сядзелі ў вялікім пакоі, ля каміну... Галава, усё яшчэ ў касцюме і пры гальштуку, піў каньяк, яна — французскае шампанскае...

Цяпер яна ўжо сама сабе не належала і не магла, не мела права адмаўляцца ні ад чога, што прапануе ёй Фаўн. Але ж, чаму б не завязаць з ім гаворку?

— А чаму вы не прапануеце мне мясцовае вінаграднае віно? Мяне частавалі ім нават у Празе...

— О... Гэтае віно — уцеха для плебееў. А мы з табою, мы з табою можам дазволіць сабе піць найлепшыя ў свеце каньякі і віны...

І тут алена зразумела, што Галава ўжо даўно ўсё пра яе ведае і цяпер з асабліваю насалодаю цешыцца, што не Фаўн, а ён, Галава, сядзіць з ёю ля каміна... Колькі часу прайшло з таго першага вечара?

Яна быццам застыла, быццам ператварылася ў бяздушную гумовую ляльку, якую, сколькі не прыціскай, колькі не цалуй, не прымусіш выдыхнуць жывое слова...

Цяпер алена ўжо ведала, нехта неяк перадаў ёй, што яна, і толькі яна мусіць забіць тырана. У яе руках лёс Фаўна, лёс уласных дзяцей, лёс усяго ейнага роднага гарадка, заснежанага марожаным гарадка... Дзіўна, яна не баялася быць пакаранаю за замах на жыццё Уладара, яна нічога ўжо не баялася... Але...

Справа ў тым,  што зблізку гарадскі Галава, у меру вусаты, у меру лысаваты, у меру з жывоцікам, непераадольна нагадваў алене яе старэйшага брата. Калі ён выпіваў і, настаўляючы свае светлыя. Бясколерныя вочы, моршчыў успацелы лоб і пачынаў нешта даказваць... У такія хвіліны для алены забіць яго было тое ж, што забіць свайго брата, самую сябе забіць... Бязглузды, мож. нават пачварны, але ж свой, пазнавальны,  да абрыдласці пазнавальны... А што, калі і дзеці. Яе дзеці таксама будуць на яго падобныя... На каго? На яе брата ці на гарадскога Галаву, партрэты якога носяць прышпіленымі ля сэрца ўсе школьнікі?..

Галава ятрыўся. А яна змаўкала на паўслове, пераставала гаварыць пры тых, хто ў турме, пра тых, хто галадае і памірае ад холаду ў нятопленых дамах і кватэрах, пра тых, хто співаецца і спойвае іншых... Яна, гумовая лялька, ішла ў спальню, сцёбала яго шаўковаю плёткай  і цярпела, цярпела ягоныя няўмелыя, прэсныя ласкі. Часам ёй здавалася, што і ў ложку ён не здымае свайго шэрага касцюму і чорнага гальштука... Ён не любіў, калі з ім гаварылі пра жыццё ягоных сучаснікаў. І Алена расказвала яму на сон тое. Што ведала, ці сама дадумвала ў старажытнарымскую гісторыю...

— У той вечар на стол рымскаму мператару Калігулу паставілі цэлы збан чырвонага віна і засмажанае парася... Але ён  не пачынаў сваёй трапезы, пакуль не прывялі прыгавораных да смерці... Іх каралі на ягоных вачах, а ён піў чырвонае віно, яны енчылі, сціналіся ў агоніі, а ён піў чырвонае віно і заядаў яго парасяцінай. Усім, хто сядзеў з ім побач, здавалася, што ён п’е не віно, а чалавечую кроў і заядае яе чалавечым мясам. Смажаным чалавечым мясам...

— Няхай заўтра нам на вячэру заспажаць двух парасят, з грэчкаю і хрэнам... Калісьці, адзін раз усяго, але я гэта добра памятаю, мая жонка  такое рабіла на Новы год.  Я тады загадваў свінафермаю і час ад часу мог сабе дазволіць... А да парасяціны, ну, скажы, што гэта ты сама прыдумала. Але здорава, у смак, да парасяціны сапраўды, трэба, каб падалі добрае чырвонае віно... Чырвонае віно і...

Ён захроп, брыдка, з прысвістам. Але алена баялася варухнуцца. Ёй здавалася, што зараз расчыняцца дзверы і прывядуць закаванага ў кайданы Фаўна, прывядуць ейных дзяцей... На трапезу ўсемагутнаму Галаве...

Але яна пераадолела страх, яна нячутна выслізнула са спальні і пабегла, паляцела ўніз, да свайго белага "Мерседэса". Сёння можна, сёння яна мае поўнае права хоць у акенца паглядзець, як спяць ейныя дзеці, а, можа. нават нейкім цудам здолее трапіць у турму, да Фаўна.

У іхняй хаце яшчэ гарэла святло. Яна, босая, у адной начной сарочцы, па снезе, падбегла да заснежанага вакна. Дзеці сапраўды ўжо спалі, як і пы ёй, на састаўленых адно да аднаго ложках. А за сталом, тварам да вакна, сядзеў... Фаўн у накінутым на голае цела ружым кажуху. Ён схінаўся над аркушам паперы, ён маляваў. Першае, што адчула алена... Не. Гэта была не радасць, а балючы, нясцерпна балючы сорам... І страх.

Яна не ведала, яна не памятала, ці забіла, як ёй загадалі. Ці атруціла яна гарадскога Галаву. Але цяпер яна мусіла ўцякаць. Калі Галава заўтра не ўстане, яе зловяць і пакараюць ягоныя служкі. Калі ж ён застанецца жывы — чакай бяды ад таго ў скуранцы і чорным капелюшы. Ён таксама не даруе ёй таго, што яна не выканала ягоны загад. Ёсць яшчэ час і можна было б хоць на хвіліну зайсці да дзяцей да Фаўна... Але ж яны ведаюць, яны не могуць не ведаць, хто яна цяпер, што яна жыла з Галавою ў іхнім замку. Яны, ні дзеці, ні Фаўн ніколі не даруюць ёй гэтага, ніколі...

І алена пабегла, босая, у адной начной сарочцы, пабегла, куды вочы глядзяць...

## 8.Начныя катэджы.

Вочы глядзелі на Прагу, на Варшаву, у крайнім выпадку, на Мінск. З якога, яна гэта добра памятала. Выехала сёння зранку. Але да Мінску алена не дайшла. Яна не мела сілы болей ісці. Снег быў не халодным — гарачым. І Алене ўвесь час здавалася, што яна ідзе па разагрэтай патэльні. Заставалася ўпасці і чакаць. Пакуль цябе засмажаць. Але там, за дрэвамі, раптам мільгануў агеньчык, адзін, другі... У недабудаваных катэджах, без вокнаў, без дзвярэй. Нехта паліў свечкі, ці, можа. нават вогнішча? І Алена пайшла да тых катэджаў. І зайшла ў той, што быў падобны на замак.

Хто калі паспеў даць ёй гэтую шэрую вязаную шапачку, швэдар, гэтыя галіфэ і гумовікі... У такі мароз гумовікі горш, чым

босай... У пустым катэджы сапраўды было раскладзена вогнішча, проста на падлозе, ля каміну. І ля яго на дзіўным, падобным на трон крэсле сядзеў чалавек да пачварнасці падобны на гарадскога Галаву, таго самага, якога яна мусіла, але ж, пэўна, так і не змагла забіць... Адно што, гэты чалавек быў зусім лысы і бяззубы. Пэўна, гэта ён аддаў сваю адзежу, бо сядзеў на троне ў майцы і падраным спартыўным трыко. Над вогнішчам на дзіўнай жалезнай канструкцыі быў замацаваны кацялок. З якога густа падымалася пара... Чалавек зачэрпнуў і працягнуў ёй поўную кружку. Алена падумала — чаю, гарбаты, але гэта быў сапраўды корсткі, горкі чыфір.

— Тут болей нічога няма, — падахвочваючы яе бяззуба ўсміхнуўся брыдкі двайнік Галавы, — толькі пацукі. Але ж вы, пэўна, не захочаце есці суп з пацукоў. А то магу пачаставаць. Вельмі пікантны, скажу я вам, смак.

Я глытала гарачы чыір, а ён усё гаварыў і гаварыў...

— Я буду зваць вас мая каралева. А вы. Вы можаце зваць мяне Жорык, ці Жоржык, так больш па-французску.

І тут стала адбывацца нешта дзіўнае. Вакол вогнішча з’явілася яшчэ некалькі падобных на Жоржыкаў крэсел-тронаў і на іх, на іх цэлая калонія Жоржыкаў, Калянаў, Сашкаў, Арцікаў, цэлая калонія лысых, вусатых, бяззубых мужчын у майках і падраных трыко, мужчын з сабачымі імёнамі. Яны множыліся з хуткасцю бурых водарасцяў. Яны ўсе хацелі глынуць. А кружка была ўсяго адна, у яе, у Алены была адзіная іхняя задымленая бляшаная кружка. І ўсе яны, дзесятак, сотня, а можа ўжо і тысяча гэтых жоржыкаў, усе яны цягнуліся да гэтае кружкі з гарачым горкім напоем. І Алена з вялікім намаганнем, але ўсё ж расшчапіла прыклееныя да кружкі пальцы. Яна кінула гэтую бляшаную кружку, як кідаюць костку здзічэлым сабакам ці, можа, ваўкам, а сама пабегла, хутчэй, хутчэй, ад іхніх бяззубых усмешак, бясколерных вачэй, успацелых зморшчаных лысін, ад іхніх крыкаў і мацюкоў.

— Куды ж ты, мая, каралева?! — гэта было апошняе, што яна пачула, але не азірнулася, выскачыла ў ноч, на мароз і кінулася да суседняга, не такога з выгляду вычурнага, але ўжо зашклёнага катэджа.

І як толькі адчыніла адмыслова аздобленыя разнымі кветкамі дубовыя дзверы, адразу пачула дзіўную светлую, свежую веснавую мелодыю. Гэта быў Моцарт, і ён гучаў, гаварыў з ёю, Аленаю, увесь астатні час, пакуль яна блукала па пустым маўклівым доме. Дом быў абжыты. І Алена злавіла сябе на тым. што, каб сама яна жыла тут, мела такі катэдж, абжыла б яго гэтаксама, як ягоны гаспадар.

Святло падала аднекуль са столі і было роўным і мяккім. І па шырокай, засланай бежавым дыванам мармуровай лесвіцы можна падняца наверх.

Першы пакой быў веснавым. Уся падлога, дакладней, дыван былі засыпаныя вішнёвымі пялёсткамі, шпалеры нагадвалі квітнеючы сад, і нават блакітная, нябесная столь была дзе-нідзе ўквечана яблыневымі і вішнёвымі галінкамі. І люстэрка, і кніжныя паліцы, і ложкі, і бра над імі, усё нагадвала веснавыя, квітнеючыя дрэвы. І здавалася вос-вось пачуеш іх тонкі, мяккі, салодкі водар.

У другім пакоі дыван быў стракатым квітнеючым лугам, фіранкі — лясным птушыным раем, шпалеры... іх нельга было разгледзець з-за клетак з птушкамі, якія, варта было Алене пераступіць парог, заспявалі кожаня сваю непаўторную мелодыю. У нейкі момант яны нават заглушылі Моцарта, які ўсё іграў на сваім старым клавесіне...

Трэці пакой, як вы ўжо здагадаліся, і як чакала Алена, нагадваў стары восеньскі парк. І жоўтае, барвовае, аранжавае лісце на дыване шуршэла, як сапраўднае. А на шторах гэтае лісце ападала, так-так, яно рухалася. Яно ападала... Тут было шмат кніг, пісьмовы стол, мяккае крэсла... Алена нават хацела сесці і пачытаць. Але ж... Але ж была недзе яшчэ зіма...

Гэта была шыкоўная люстраная. Шклянаязала. І белыя свечы гарэлі на сценах, і люстры пазвоньвалі ільдзінкамі крышталю. Уся мэбля, і фіранкі. І нават камін, здавалася, былі сатканыя са снежных карункаў. А пасярод залы стаяла і свяціла рознакаляровымі агеньчыкамі вялізная жывая елка. І Алена толькі зараз успомніла, што сёння, сёння Каляды, і гэта першыя Каляды, якія яна сустракае не дома, не ў сваім родным гарадку. Яна нахінулася, каб лепш разгледзець Дзеда Мароза са Снягуркай. Бо яны, як ёй зусім правільна падалося, былі такімі самымі, як у іх... І заўважыла вялізны пакет, ан якім выразна было напісана: “Для Алены”. Але разгарнуць яго яна не паспела... моцарт сціх і пагасла святло...

І Алена раптам зразумела, што гэта была не проста прыгожая музыка, гэта была сігналізацыя. І зараз мусіць з’явіцца гаспадар.

Ён ужо стаяў там, у дзвярах, у канцы залы, але ў паўзмроку ёй не разгледзець, не пазнаць яго. Скураны плашч, чорны капюшон. Няўжо зноў Уладзя? Але ж яны развіталіся ў Празе. Хоць нехта ж мусіў сачыць за ёю, сачыць за тым, як яна выконвае заданне.

Дык забіла ці не забіла яна гарадскога Галаву?

Прыціскаючы да грудзей вялізны мяккі і на дзіва лёгкі пакет, яна асцярожна, каб не паслізнуцца, пайшла насустарч. Але чалавек у

капелюшы ўсё аддаляўся і аддаляўся. Яна ўжо бегла, бегла з усяе сілы, слізгалася, падала. І зноў бегла, а ён, нічога не кажучы, усё аддаляўся і аддаляўся.

Пакуль не апынуліся яны ўдвух у нейкай адмысловай шкляной аранжэрэі.

Гэта былі сапраўдныя джунглі. І было так парна. Душна, што нават Уладзік зняў свой капялюш і расшпіліўся. А яна, Алена, увогуле засталася ў адным купальніку. Цяпер яны нікуды не спяшаліся, можна было сесці пад пальмаю і пагаварыць.

— Усё, што ў пакеце, тваё, Алена, ты зарабіла... — выціраючы насоўкаю пот з ілба, задумліва сказаў уладзік.

— Значыць, я яго ўсё ж забіла, я атруціла яго? — сама не ведаючы радавацца ёй ці не, паўшэптам спыталася Алена.

— Хто ведае. Хто ведае, — пацiснуў плячыма Уладзік, — цяпер гэта ўжо не мае значэння. Цяпер ні для кога гэта не мае значэння. Проста мяне паслалі, каб сказаць табе, што ты мжаш цяпер нічога не баяцца, што ты можаш жыць, дзе захочаш, нават тут, у мяне можаш жыць...

— З табою? — алена адхіснулася.

— Ды не, у мяне. Я заўтра адлятаю, і сам не ведаю, калі вярнуся.

— Не-не, я пайду да дзяцей. Я не бачыла іх цэлую вечнасць. Фаўна выпусцілі з турмы.

— Гэта быў не Фаўн, той, што сядзеў у кажуху за сталом у тваёй хаце, гэта быў не Фаўн. Гэта быў я...

— А Фаўн, дзе цяпер Фаўн?

— Хіба табе гэта сапраўды цікава? Ты ж не любіш, і ніколі не любіла яго. Я ведаю, што ты кахала, з самага шостага класа, скрозь усё жыццё ты кахала аднаго мяне. І каб я мог, каб я ўмеў кахаць так, як ты, каб я ўвогуле ўмеў кахаць... Я б забраў цябе з сабою. А так, я толькі магу прапанаваць табе свой дом, свой катэдж, дзе нават сігналізацыя гучыць. Як твой любімы Моцарт.

— Не, я пайду да ддзяцей.

— Вось так, у купальніку, па снезе?! Ну-ну, паспрабуй...

Алена адчула, што ёй зусім не хапае паветра, яна задыхаецца, і выскачыла, прыціскаючы да грудзей калядны пакет, выскачыла з аранжэрэі.

Ужо віднела, і па ўсім падобна, бралася на адлігу...

## 9. Воўчае мяса.

У пакеце былі паветраныя шарыкі і стужкі, шаўковыя стужкі ўсіх колераў вясёлкі. І Алена штодня ўплятала сваім дачушкам у косы, завязвала новыя банты. А хлопцы самі сабе надзімалі, адзін за адным надзімалі ўсё новыя і новыя шарыкі і гулялі імі замест мячоў. Шарыкі час ад часу натыкаліся на ўбітыя ў сцены цвікі, ці гарачую распаленую печ або грубку і лопаліся. А Вінцэсь з Казікам дастаюць з пакета і надзімаюць усё новыя і новыя... А Хрысцінка з Камілаю падаставалі ўсе стужкі і кружацца, кружацца з імі па хаце...

Тады алена садзіцца за белы раяль... І адкуль у гэтай паточанай шашалем старой хаце з'явіўся белы раяль?.. Але яна садзіцца за белы раяль і іграе дзецям мазуркі. І разнакаляровыя стужкі хвалямі расплываюцца па пакоі, і шарыкі ўзлятаюць да самае столі.

А раяль, яна толькі зараз гэта заўважыла, раяль пачала тачыць моль. І клавішы былі ўжо босыя, і па малаточках распаўзаліся белыя чарвякі.

Вясёлыя мазуркі хоць на час адганялі лютаўскую грыпозную млявасць, бяссілле, што звычайна апаноўвае перад вясною. Але яны не маглі, не мелі сілы адагнаць голад...

Вінаграднікі з агэтую зіму павымярзалі. А апроч вінаграду ніхто нічога ўжо даўно не садзіў і не гадаваў.

Дзеці, стомленыя, знямоганыя, падалі на падлогу, а яна ўсё іграла і іграла. І шарыкі падскоквалі і лопаліся ў паветры.

— Я хачу мяса...

— Мама, дай мен хлебца...

— Хоць корачку...

— Хоць вінагардзінку...

Мазркі не заглушалі, яны былі бяссільныя заглушыць дзіцячыя слёзы.

І тады Алена рашылася. Аднойчы, позна ўвечары, калі дзеці, папіўшы голага вару, у які яна ўкінула жменьку сухога вінаграду, нарэшце заснулі, яна накінула на плечы руды кажух і пайшла.

Ля десу, на хутары, казалі, жыў чалавек, гаспадар, які, адзіны, не стаў вырошчваць вінаград. Ён, як і раней, сеяў жыта, садзіў бульбу і буракі, гадаваў свіней, трымаў і карову... І цяпер, зусім нядаўна, гэта перадавалі з вуснаў у вусны, як легенду, нядаўна ён закалоў кабанчыка і падсвінка. Нехта нават. Здаецца, хадзіў да яго, спрабаваў купіць хлеба ці мяса. Але ён толькі жорстка пасмяяўся з пакупніка.

— Самім трэба было гадаваць, п’яніцы! — крыкнуў хутаранін на развітанне і болей ужо нікому не расчыняў вароты.

Усчалася завея, Алена спяшалася, бо баялася, можа збіцца з дарогі... Калісьці ейны прадзед казаў: “Не руш чудога, і не бойся нікога!” I вучыў: “Ідзеш праз чужы двор, чужая саломінка прычэпіцца, здымі і выкінь...” яго ў гарадку дасюль памятаюць, сапраўдны гаспадар быў і ваду загаворваў, травамі лячыў. Пражыў ледзь не да ста гадоў. Алена змагалася з завеяй і думала... Хоць сёння ёй няма чаго было думаць. Яна ішла не прасіць, яна ішла красці тое мяса. Ведала, што гэта грэх, што Бог жорстка разлічыцца за яго з ёю... I маліла пра адно: толькі б з ёю. Ёю адною, а не з дзецьмі ён разлічыўся. Дзеці без гэтага мяса могуць памерці з голаду. Дзеці могуць памерці...

А так яна ўхопіць, столькі, колькі зможа данесці. Частку пасоліць. А частку... Зварыць булён, суп. Потым насмажыць, натушыць...

У снежным непраглядным колкім змроку яна чула. Яна наяве чула пах, водар смажанага мяса. I ішла, як сабака ішла на гэты пах, пакуль не ўпёрлася ў высокі штыкетнік. Пералезці праз яго было цяжка. Немагчыма. Наверсе — калючы дрот. Хіба што выламаць дошку. I яна, разрываючы ў кроў пальцы, нейкім цудам адарвала, адсунула адну дошку, і пралезла на двор. Сабакі забрахалі і сціхлі. Святла ў хаце ўжо не было. Толькі водар, пах смажанага мяса, пах свежыын, шкварак усё яшчэ блытаўся з завеяй.

Алена пабегла да хлява, яна чамусьці была ўпэўнена, што недзе там, побач з жывымі свіннямі гаспадар хавае мяса. I не памылілася, адсунула, не расчыніла, а менавіта адсунула дзверы і ўбачыла цэлую гару марожанага і свежага мяса. Гэта быў не адзін кабан, гэта было не меней як дзесяць кабаноў, ды яшчэ цяляты, можа. і карова... Пад самую столь хлеў быў закладзены мясам. I яна ўжо працягнула руку, каб узяць, ухапіць хоць адзін кавалак. Але... Раптам... Воўк... Так-так. Гэта быў не сабака, сапраўдны воўк кінуўся да яе, іяна ледзь паспела адхапіць сваю руку. Воўк ашчэрыў сваю пашчу. Ён не кінуўся на яе, ён завыў.

Праз якое імгненне ліхтар абвясціў прыход гаспадара. Алена заплюшчыла вочы. Яна ляжала на гурбе мяса, учапіўшыся пальцамі ў змерзлыя крывавыя кавалкі і чакала. Воўчага ўкусу ці гаспадаровага стрэлу. Яна цяпер чакала сваёй уласнай крыві.

Дзеці ізноў застануцца галоднымі. I ўжо наўрад ці дацягнуць да вясны. Але на душы, як не дзіўна, на душы яна адчувала палёгку. Недзе ў глыбіні яна была ўдзячная гэтаму ваўку, і сквапнаму

гаспадару за тое. Што н едалі ўкрасці ёй чужое мяса. Нават дзеля ўратаванян дзяцей не далі ёй украсці.

Гаспадар, не адганяючы ваўка, нахінуўся да яе з ліхтаром. Алена расплюшчыла вочы і ўбачыла, што ён, гэты гаспадар, як дзве кроплі падобны на вусатага, лысага гарадскога Галаву. Ці гэта і быў гарадскі Галава?

Але ж колькі поўсці на ягоных руках, нагах, на ягонай шыі ітвары... Ён на вачах зарастае шэрай, рудою поўсцю, ён на вачах ператвараецца ў ваўка. Ліхтар выпаў з ягонае лапы і пакаціўся, пакаціўся... Згас. Цяпер дзве пары насцярожаных звярыных вачэй, дзве ашчэраныя пашчы сачылі за кожным ейным рухам. А яна і не магла паварушыцца. Ейныя рукі прымерзлі да крывавага мяса. Цяпер і яе саму можн абыло пасекчы на кавалкі і замарозіць. Пераджыць гэта ёй будзе лягчэй, чым назіраць, як адно з аадным будуць паміраць ейныя дзеці... Вінцэсь, Казік, Хрысціна, Каміла... І тут мяне асяніла. Я ж магу ўратаваць сваіх дзяцей уласнаю крывёю! Калісьці, даўным-даўно, у нейкім іншым жыцці я чытала, што падчас землятрусу маці карміла немаўля ўласнаю крывёю. Хай, хай гэтыя ваўкі адкусяць маю руку! Я панясу яе дамоў і пакармлю дзяцей сваім мясам. І разалью па шклянках сваю свежую кроў. У ёй яшчэ шмат чаго засталося карыснага. Я ўратую сваіх дзяцей, я ўзгадую іх. Яны павінны, яны мусяць спазнаць шчасце, яны мусяць спазнаць болей. Чым спазнала я...

Завея сціхла. Выбліснула і ўсё наўкола заліла халодным люстраным святлом поўня... Ваўкі. Як заварожаныя. Не зводзілі з яе вачэй. А алена толькі цяпер заўважыла, што проста перад ёю, на сцяне вісіць гадзіннік. Ён быў падобны на вялізную сасульку і не вісеў, а як бы сцякаў са сцяны хлява. Дзіўна, яна ўжо, здаецца. Цэлую вечнасць не бачыла гадзінніка. Ні ў іх з Фаўнам замку, ні ў начным катэджы, ні ў іхняй хаце, нават у Празе, нідзе не было гадзіннікаў.

Гэты, у хляве, паказваў поўнач.

Трэба было ісці, трэба было адрываць ад гэтага воўчага мяса свае акрываўленыя пальцы і ісці карміць дзяцей.

### 10. Пралескавая цішыня.

Цёмна-шэрая вільготная шаша імкліва сцякала пад калёсы. У арсчыненае вакно наплывала п’янкое веснавое паветра. Снег раставаў, здавалася, на вачах. І дрэвы дыхалі, ужо дыхалі н апоўныя грудзі. Алена разумела, што ўсё гэта адбываецца не з ёю, што не яна сядзіць за рулём белага “Мэрсэдэса”, не яна ўдыхае водар вызваленай

з-пад снегу глебы. І ніякім чынам яна не зможа паўплываць н аход далейшых падзей. За рулём сядзеў Казімір, малодшы з яе сыноў. Ён спяшаўся кудысьці, у нейкі іншы горад, ці можа вёску. На белай сарочцы — строгі чорны гарнітур, уі, можа, гэта нават фрак, і аксамітны гальштук-“матылёк”. Ён, пэўна ж, едзе кудысьці выступаць. Ён едзе іграць на раялі.

І раптам шаша спынілася, і дрэвы спыніліся. І выбліснула сонца.

На ўзбочыне стаяла, прыўзняўшы руку, дзяўчына ў бардовым паліто і капялюшыку з букетам пралесак. У яе былі даўгія белыя валасы і вельмі прыемная мяккая ўсмешка.

Яна села да Казіміра і яны паехалі далей. І толькі праз нейкі час загаварылі. Нічога не кажучы адно аднаму. Быццам так і трэба.

— Я паехала са сваёй сяброўкай у лес па пралескі і заблудзіла... — праз нейкі час пачала апраўдвацца Незнаёмка, — Вось ледзь дабралася да шашы. Ногі мокрыя, стамілася, і зусім не ведаю ў які бок трэба ехаць, ці ісці...

— У мяне праз поўгадзіны канцэрт, а потым я вас адвязу, куды скажаце, — Казімір не адрываўся ад дарогі, але Алена адчувала, які ён усхваляваны, напружаны, не, хутчэй, разгублены.

— Вы толькі нічога не падумайце, але я, здаецца, я бачыла нашую сустрэчу сёння ў сне, — не сказала, прашаптала Незанёмка.

— Я таксама сніў Вас... Так бывае. Раз у жыцці, але бывае...

І вось нарэшце паварот, вясковая вуліца і шэры драўляны барак пад шыльдаю “Дом культуры”. Але ўсярэдзіне ёсць выдраеная да залатога бляску сцэна і белы раяль і роўныя рады лавак. У зале нікога. Толькі гэтая Незнаёмка ў бардовым капялюшыку. Не выпускае з рук свае пралескі іслухае... Казімір іграе, здаецца. Бетховена. І ягоыня рукі, ягоныя пальцы, здаеццца, не высякаюць. А лепяць гэтую светлую магутную музыку. Ягоныя рудыя валасы лёгкімі хвалямі сплываюць з ілба, а рукі ўсё лашчаць і лашчаць падатныя мяккія клавішы, і ўсё наўкола поўніцца водарам вясны. А Незнаёмка, гэтае яснавокае пралескавае дзяўчо, падобна, здранцвела, яна, здаецца, сама ператварылася ў гэтую музыку і плача, ен мае сілы стрымаць сваіх слёз. Толькі тут Алена заўважыла, што ў гэтага драўлянага будынку зусім няма даху. І сонца выплыла і завісла проста над іхнімі галовамі, і па раялю, па ўсіх клавішах разбягаліся, рассыпаліся сонечныя хвосцікі. Незнаёмка рассыпала, сабрала з каленяў пралескі і. Хліпаючы носам. Пайшла на сцэну.

Казімір іграў ужо нешта іншае, здаецца, Шапэна, а дзяўчынка зняла капялюш, высыпала ў яго пралескі і паставіла каля раяля.

Потым села проста на сцэну, прыхінулася спіною да белай бліскучай ножкі і застыла. Ізноў ператварылася ў музыку. Вочы ейныя поўніліся небам, валасы — сонцам, а сама яна, сама яна ўжо не магла адарвацца, аддзяліць сябе ад голасу гэтага белага раяля...

Казімір заўважыў гэта ўсё толькі, калі скончыў іграць. Ён сеў побач з ёю і асцярожна, так, як можа зрабіць гэта толькі музыкант, прыўзняў з падлогі поўны пралесак бардовы капялюш.

— Вам спадабалася?

— Не трэба гэтых пустых пытанняў. Я разумею, чаму сніла вас...

— А як вас зваць?

— Наташа.

— а мяне Казімір...

— Вы, пэўна ж, не бачылі, не чулі, колькі тут было народу! Публіка была проста ў шоку. Усе крычалі “брава!”, “біс!”, вам апладзіравалі, вам апладзіравалі стоячы!

— Праўда? А мне здавалася, што тут былі толькі вы...

— Ды не, не. Проста вы вельмі доўга не маглі адыйсці ад музыкі і я, я папрасіла, каб усе разыходзіліся, каб пачакалі вас на вуліцы.

Гэта была размова, дзе за кожным словам, і нават з акожнай паўзай бездань цішыні, а паўзы дыхаюць вечнасцю. Так могуць гаварыць толькі юныя. Закаханыя сэрцы. Алена разумела, што ўсё гэта адбываецца не з ёю, але яна была з імі, яна хвалявалася, не магла стрымаць дыхання, і сэрца з кожным ударам падымалася ўсё вышай і вышай, яно злівалася, яно перацякала ў душу, ці што там яшчэ пульсуе вось у гэтай ямінцы, вось у гэтай...

Яны цалаваліся, стоячы на каленях на гэтай залітай сонцам сцэне і белы раяль пахіснуўся і ад’ехаў, адплыў кудысьці далёка-далёка... І атм, на вуліцы сапраўды цэлы натоўп апладзіраваў гэтаму дзіўнаму фокусу. Белы раяль праходзіць праз сцены...

На месцы першага свайго пацалунку яны пакінулі бардовы аксамітны капялюш з пралескамі. Пралескі крыху падвялі, але пайшоў дождж і капялюш ператварыўся ў поўную вады вазу, пралескі плавалі ў ёй і шапталіся, шчаслівыя: “Яшчэ пажывем. Яшчэ пажывем...”

А Казімір з Наташаю ехалі па мокрай шашы. І вечар ахутваў іх дажджом і туманам.

Пры самым ўездзе ў горад іх спыніў нейкі мужчына, зазірнуў у расчыненае вакно і зараз жа адчыніў дзверы.

— Божа, Наташа, ты жывая! А мы з Кацькай ужо гадзіну стаім тут і спыняем усе машыны. Выходзь, паехалі хутчэй!.

— Куды? — голас Наташкін патух і спёкся.

— Як куды? Нас жа ў рэстаране чаяюць.

— Я сам заязу яе, — суха сказаў казімір, — мне таксама ўвечары трэба быць у рэстаране. Я сёння там іграю. Я сёння там буду іграць для вас. Цэлы вечар буду іграць дял вас на белым раялі... — гэта ўжо былі не словы, гэта былі слёзы, здушаны крык-прадчуванне.

Наташа захлопнула дзверы. Яны паехалі і спыніліся ў першым жа цёмным павароце...

— я нешта зрабіў не так? — добра, што цемра хавала ягоную пакуту.

— Не ведаю, — прашаптала Наташа, - Я ведаю, што ні табе, ні мне яны гэтага не даруюць...

— Але ж яны сёння запрасілі мяне іграць ім, і я мушу ехаць.

— Я таксама мушу ехаць туды. Яны мне таксама заплацілі ...

— Але мы можам падарыць сабе поўгадзіны, ці нават гадзіну...

— Мы можам падарыць сабе цэлы вечар...

— Ці нават жыццё.

— Давай тады нікуды не паедзем. А грошы перашлем назад. Ты можаш папрасіць каго-небудзь занесці ім зараз грошы?

— Паспрабую папрасійць брата...

— І зніклем, з’едзем адсюль назаўжды.

— Я хачу, я прагну гэтага як ніколі... Знікнуць, разам з табою знікнуць і больш ніколі не з’яўляцца ў гэтым глухім, жорсткім горадзе...

І яны развярнуліся і паехалі назад, у тую далёкую незнаёмую вёску, дзе Дом культуры не мае даху, дзе на чыста вымытай дажджом драўлянай сцэне застаўся стаяць аксамітны капялюш з жывымі, сонечнымі пралескамі...

## 11. Корсткі нарцысавы водар.

Казіміра Алена пазнала адразу. Але Вінцэсь, дарослага Вінцэся ў ягоныя дваццаць з нечым гадоў Алена пазнала з цяжкасцю... Рудая, як у Фаўна барада, вусы, светлы, у клетку касцюм, цёмныя штаны, трасцінка ў руках... Вінцэсь аддаў грошы, якія прасілі яго аддаць Казімір з Наташай і сам застаўся ў рэстаране, сярод дзіўных экзатычных пальмаў, фантанаў, сярод поўнага віна крышталю і палкай музыкі... Музыка сапраўды была палкай, гарачай, нешта іспанскае ці лацінаамерыканскае, і на сцэне ў паўзмроку раптам

з’явілася жанчына ў чорным. Чорная шаўковая сукенка абцягвала ейную вытанчаную фігурку, на галаве капялюшык з вуаллю. Яна ўскінула рукі, выгнулася, павярнулася і сукенка разыйшлася дзіўнымі вогненнымі хвалямі. Сярод чорнага заіграў пунсовы шоўк. І вусны, ейныя пульхныя, вільготныя вусны былі таксама яркімі, пунсовымі. Яна выстуквала рытм абцасікамі, потым ізноў кружылася, у яе руках з’яўлялася то пунсовая ружа, то пунсовая газавая шаль. Яна то ўсміхалася, то ганарліва ўскідвала галаву, і тады цень ад капялюшыка клаўся на твар і вуаль хавала ейныя пунсовыя вусны... У ажыўленым рухомымі вогненнымі блікамі паўзмроку яна здавалася настолькі тоненькай, што хацелася працягнуць руку і паставіць яе сабе на далонь, як статуэтку, як жывую, рухомую статуэтку...

— Падабаецца? — спытаўся ў Вінцэся той, у скуранцы, якому ён аддаваў Казіміравы грошы.

— Нічога, — хаваючы сваё захапленне, усміхнуўся Вінцэсь, - За яе і вып’ем, — і сам запрасіў таго ў скуранцы да свайго стала.

Але толькі наліў у крышталь віна, адразу паўсюль пагасла святло. Музыка перарвалася, нехта завішчэў. З кухні рынеслі свечы. Танцорка, з цяжкасцю пераводзячы дыханне, села на край сцэны. Той, у скуранцы, панёс ёй бакал з віном. Яна адмовілася.

А той, у скуранцы, як быццам нешта ўспомніў, махнуў рукою, пазваў да сцэны Вінцэся.

— Слухай, а можа, і ты, як твой брат, умееш іграць? Тут жа стаіць нейкае піяніна. Можа, пакуль падключаць святло, ты сыграў бы для Кэт? Яна б яшчэ патанцавала...

— Я сыграю. Толькі пры ўмове. Яна заўтра папазіруе мне. Я хачу яе памаляваць. А мжа, нават вылепіць...

— Па руках. Яна твая. На тыдзень, хочаш, на месяц, яна твая... — абыякава махнуў той у скуранцы.

Кэт насцярожана маўчала. А Вінцэсь, адкінуўшы сваю бліскучую трасцінку, ужо ўскочыў на сцэну. На піяніназараз жа паставілі свечку. Кэт прынесла чырвоны парасонік. У поўпаварота, у поўвока Вінцэсь сачыў за ёю і іграў, іграў сваё любімае танга. Цяпер яно будзе называцца “Танга з парасонікам”. Кэт у чырвоных пальчатках ганарлівым жэстам нешта абяцала і зноў у нечым пярэчыла, мучыла, о, як яна мучыла свайго кавалера.

Вінцэсь не стаў чакаць заўтрашняга дня, ён забраў Кэт з сабою проста з рэстарану, проста са сцэны...

У майстэрні, сярод гліняных галоў і пластылінавых фігурак, сярод вусатых дзядзькоў і коннікаў мусіла нарэшце з’явіцца сапраўдная жанчына.

Кэт на хвілінку выйшла, пайшла памыцьрукі і... змянілася да непазнавальнасці. Пад строгім чорным капялюшыкам, пад вуалеткай былі даўгія, ніжэй поясу чорныя валасы. І вочы, кькі пакуты, колькі аксамітнае ласкі было ў гэтых цёмных вачах... Толькі пунсовыя, вільготныя пунсовыя вусны нагадвалі пра тую, са сцэны... І толькі валасы прыкрывалі ейнае ўвесь вечар сцягнутае чорным шоўкам чароўнае смуглае цела... Яны не палілі святла  і не падымаліся наверх, дзе стаяла канапа... Яны, зняможаныя, так і заснулі на захінутым прасцінай мяккім дыване ў прыхожай, сярод гліняных вусаных дзядзькоў і пластылінавых коннікаў...

А назаўтра Вінцэсь цэлы дзень маляваў яе. Без адзежы і ў шаўковай сукенцы. З распушчанымі валасамі і з адмысловаю японскай прычоскай. А яна, яна баялася паварушыцца, каб не спужаць, каб не адагнаць неасцярожным жэстам свайго шчасця. Гэта, як ёй здавалася, быў першы за апошнія дзесяць ці пятнаццаць гадоў дзень, які яна не пачала звыклым для танцоркі экзерсісам.

— Я пачну ляпіць без цябе, — сказаў увечары Вінцэсь, - а потым, калі будзе трэба, зноў пазаву папазіраваць...

Ён зноў быў у сваім клятчастым інжаку і белых пальчатках. Ён чакаў яе. Ён хацеў ізноў завесці яе ў рэстаран. І Кэт н евытрымала, яна расплакалася, яна папрасіла яго пакінуць яе ў сябе.

— А як жа той, у скуранцы? Ён жа, — усміхнуўся, жорстка ўсміхнуўся Вінцэсь, — А як жа той, у скуранцы? Ён знойдзе цябе тут і ўсё роўна забярэ...

— Гэта будзе не сёння... Я прашу цябе... Толькі не сёння... Бо я... Я... Кахаю цябе... Вінцэсь...

— Тады пачакай мяне...

І калі ўжо стала зусім цёмна, ён вярнуўся з вялізным букетам нарцысаў...

Яна, так і не запальваючы святла, прыціснула кветкі да твару і прашаптала:

— Цяпер назаўжды нарцысавы водар мне будзе нагадваць цябе, мой Вінцэсь...

І аднекуль зноў загучала музыка. Светлы тужлівы вальс. І Кэт у белай начной сарочцы з гэтымі ганарлівымі нарцысамі ў руках, усё кружылася і кружылася сярод гліняных вусатых дзядзькоў і пластылінавых коннікаў... і зноў усю ноч ён іграў ейнымі пругкімі смуглымі  грудзьмі... Пеўнік і курачка... Пеўнік і курачка...

А зраніцы, пакуль яна яшчэ спала, паспрабаваў ляпіць. І ўсё ў яго, здавалася, атрымлівалася. Але, гэта было з ім упершыню, ён раптам адчуў, што яму не хапае. Не стае колераў... Ён кранаў пругкія,

толькі вылепленыя вусны, і пад пальцамі пульсаваў агонь. Які можна было выказаць толькі пунсовым колерам. А што будзе, калі дойдзе да вачэй... Да ейных мяккіх аксамітных вачэй... Давялося занавесіць вакно, прагнаць з майстэрні сонца, каб стварыць ілюзію, каб паўтарыць той вечар, калі раптам пагасла святло, і ў рэстаранную залу прынеслі свечы, і ён сеў за піяніна... У паўзмроку колеры былі цьмянымі, але ж яны пульсавалі. Яны жылі нават у пазмроку... І ў гліне, шэрай гліне, і ў белым мармуры, і ў чорным метале, яны мусяць жыць, гэтыя колеры...

Колькі яны жылі так, яны не памяталі, не ведалі, не заўважалі... Хоць выходзілі ж і ў магазін, і нават пару разоў у тэатр. Глядзелі дзіўны спектакль пра мастака, што сам сабе прыдумаў, намаляваў жанчыну, якую потым шукаў усё жыццё, але ці знайшоў?

— А ты вось знайшоў мяне, — шаптала яму Кэт, а ён быццам і не чуў, бо спрабаваў, ужо каторы раз спрабаваў паўтарыць цяпер ужо ў мармуры аксаміт ейных цёмных вачэй...

Потым вылепіў, адліў з металу яе ў чорным шоўку і капялюшыку з вуалеткай. Выгін, паварот і вось-вось зараз ейныя ногі ахопіць полымя пунсовага шоўку, яна прытупне і паплыве над сцэнай...

— Колькі ты хочаш за гэтую статую? — убачыўшы яе на выстаўцы, адразу запытаўся ў яго той. У скуранцы...

— Пакуль што я пакіну яе ў сябе... — упэўнена сказаў Вінцэсь, — І Кэт таксама пакіну ў сябе.

— Ты зарываешся. Кэт мая, — выразна вымавіў той, у скуранцы.

— Ужо не твая... ужо не... — чамусьці зусім шэптам, сам не верачы сваёй рашучасці, скончыў размову Вінцэсь...

і не паспеў той, у скуранцы, апамятацца, як яны разам з Кэт селі ў таксі і...

— Куды мы? — нічога н еразумеючы, дапытвалася Кэт.

— У Прагу. Ты ж сама прасіла, каб мы з'ехалі куды-небудзь за мяжу... А ў Празе ў маёй мамы ёсць знаёмыя. І я вырашыў, што нам лепш за ўсё будзе пакуль што з'ехаць у Прагу, — шапнуў ёй Вінцэсь.

— А рэчы? А твае творы?

— Усё будзе... У нас усё шчэ будзе. Я вылеплю, адалью яшчэ сотні тваіх партрэтаў. А можа, і не толькі тваіх... Але цяпер, зараз мы мусім з'ехаць адсюль. Ты сам аразумееш, што тут небяспечна. Тут загінуў мой бацька. Тут знік мой брат і мая мама. Калі мы хочам выжыць, трэба з'язджаць адсюль. Трэба з'язджаць...

## 12.Месяц канвалій.

Яна збірала канваліі. Яе любая, дарагая Хрысцінка іла па лесе і збірала канваліі. Яна на вачах ператваралася з дзяўчынкі ў дзяўчыну. І раптам... Выпаў снег. І яе Хрысцінка ў адной лёгкай празрыстай кашулі ішла па лесе, босая ішла па заснежаным лесе і рвала канваліі. Гэтыя дробныя бяскроўныя майскія, травеньскія цюльпанчыкі. Быў травень, Алена пэўна ведала, што мусіў быць травень, але сонца пякло, як у жніўні, і паўсюль ляжаў снег, а дрэвы чамусьці не скінулі з сябе не, не летняга, восеньскага ўбору. Павеў ветру і заснежанася трава ператвараецца ў дзівосную мазаіку з сонечнага бярозавага, бурага тапалёвага, барвовага, аранжавага кляновага лісця. І хрысцінка ўсё ідзе і ідзе, усё збірае і збірае ў букет бяскроўныя канваліі. І шэпча нешта, ды не. Гэта яна ўголас гаворыць з ёю, Аленай...

— Ты бачыш, мама. Як у хлопцаў усё проста. Яны забралі, адбілі, калі хочаш, укралі сваіх жанчын у іншых. А мяне вось няма ў каго забіраць. І гэты травеньскі дзень для мяне — цэлая вечнасць. І вясна. І лета. І восень, і зіма... Цэлая вечнасць, нямая бездань чакання... Я збіраю гэтыя бяскроўныя кветкі і ўспамінаю іншыя. Поўныя крыві, поўныя агню цюльпаны...

Лес скончыўся і Хрысціна так як была, босая, у начной сарочцы апынулася на гарадской вуліцы, ля ўваходу ў метро. Вакол яе стаяла шмат людзей. Бяззубыя бабулькі ў клячастых. Квяцістых і чорных хусцінках, дзядкі-інваліды на мыліцах, зусім маленькія хлапчукі і дзяўчынкі. І ўсе яны прадавалі канваліі... Людзі выходзілі з аўтобусаў і тралейбусаў, спяшаліся да метро. Ім не было часу, яны не зважалі ні на тое, як пячэ сонца, ні на тое, што ў гэткую спёку выпаў і ляжыць снег. І што снег гэты засыпаны жоўтым восеньскім лісцем... Не звярталі яны ўвагі і на канваліі... І на Хрысціну, што стаяла босая, у адной начной сарочцы, якая, зрэшты, нагадвала лёгкую модную сукенку, таксама ніхто не звяртаў увагі...

І арптам... Пэўна ж, гэты высокі чарнявы юнак прыйшоў на спатканне зусім не да Хрысціны, і камусьці іншаму купіў ён букет пунсовых цюльпанаў. Але тая, якой купіў ён гэтыя кветкі,не прыйшла. І ён чакаў, чакаў, назіраў, як пакутуе ад спёкі і холаду, стоячы босая на снезе, хрысціна, і ніхто не падыходзіць да яе, ніхто не купляе гэтыя канваліі...

— Я не ведаю чаму, але мне задецца, што Вы болей люіце не канваліі. А цюльпаны, — сказаў ён Хрысціне напаўголаса.

— Чаму... Кожнай кветцы — свой час. Цяпер месяц канвалій... — сумелася яна.

— І паўсюль, на кожным рагу прадаюць канваліі...

— А вы хацелі б, каб замест канвалій прадавалі параную кукурузу?

— Хацеў бы... і вунь, паглядзіце, там, здаецца, яе сапраўды прадаюць. Ведаеце што. Я купляю ў вас усе Вашыя канваліі. Дару вам гэтыя, цяпер ужо нікому непатрэбныя цюльпаны, і пайшлі, я пачастую Вас паранай кукурузай.

Яны абмяняліся кветкамі, спусціліся ў пераход, потым выйшлі на тым баку праспекта, дзе сапраўды стаяў дзядзька і прадаваў проста з захутанага цэлафанам і цёплаю курткай вядра прадаваў параную кукурузу.

І тут Хрысціна паднесла напаўраскрытыя цюльпаны і як схамянулася...

— Даруйце. Я не магу ўзяць гэтыя кветкі. Вы купілі іх не для мяне...

— Але ж тая, якой я купіў іх, сказала, што не жадае больш мяне бачыць...

— А раптам яна перадумае?

— Калі Вы не хочаце прыняць гэтыя  цюльпаны, мы прададзім іх. А я Вам падару канваліі. Я падару вам вашыя канваліі. Я ж купіў іх у Вас. Я купіў іх для Вас...

— Так будзе лепш, — Хрысціна ўздыхнула з палёгкай, — Цюльпаны ўжо аднойчы былі ў маім жыцці. Такія раптоўныя. Нечаканыя. Я тады не была гатовая прыняць іх. А цяпер ужо позна. А канвалій, канвалій ніколі не было ў маім жыцці.

Букет цюльпанаў яны абмянялі на два пачаткі паранай кукурузы з соллю. А канваліі, усе дзесяць, ці можа, нават дваццаць букецікаў канвалій зноў тарпілі да Хрысціны ў рукі...

— Вам не халодна босай ісці па снезе? Можа. зойдзем і купім туфлі? — хлопец палядаў, пагладаў і ўсё ж рашыўся загаварыць пра тое. Што рэзала вочы...

— Ды не, цяпер ужо не халодна, цяпер я шмат што здолею сцярпець... — Хрысціна ўсміхалася, Хрысціна ўсміхалася, як у маленстве, — Ведаеце. Гэта нават прыемна босай ісці па снезе.

— Тады дазвольце і я зраблю тое ж самае...

І юнак скінуў чаравікі, шкарпэткі і пайшоў побач з ёю босы.

І дзіўна, зноў на іх ніхто не звяртаў ніякае ўвагі. Людзі спяшаліся па сваіх справах, а гэтыя двое ішлі босыя па заснежаным. Засыпаным восеньскім лісцем  праспекце, грызлі гарачую кукурузу і па чарзе ўдыхалі мяккі  водар канвалій. Паўз іх імчалі машыны, праходзілі людзі, сам час раставаў, ператвараўся ў нішто.

— Я заўсёды верыла, што калі раптам сярод зімы пачынаецца адліга — значыць, недзе нехта перажывае незвычайнае пачуццё, значыць, нехта недзе кахае…

— А Вы заўважылі, які дзіўны сёння дзень? Лета-не лета, зіма — не зіма… І самае цікаве, што ніхто, здаецца, не звяртае на гэта ніякае ўвагі.

— Заўважыць усё гэта можа толькі закаханы чалавек.

— А колькі разоў на жыццё можна быць закаханым?

— Мне здаецца, не, я ў гэтым упэўнена, што каханне — гэта талент, а талент ён і ёсць талент. Пісьменнікі часам кажуць, што ўсё жыццё пішуць адзін-адзіны свой твор… Можа, і каханне тасама адзін-адзіны твор, адна-адзіная мелодыя. Адны здольныя ствараць і слухаць яе, іншыя — не… Я не ведаю, што б адбылося, каб сустрэліся двое, мужчына і жанчына, юнак і дзяўчына, двое, адораных талентам кахаць… Звычайна, адзін кахае, а другі спрабуе ці не спрабуе. Ці робіць выгляд, што спрабуе яго зразумець… Але гэта немагчыма зразумець, гэта трэба адчуваць…

Яны ішлі і быццам сонечныя промні. Сціралі снег… Ён раставаў і па асфальце беглі ручаінкі. І трава зноў цешылася веснавым цяплом і свабодай… І птушкі весела спявалі на свежых, памаладзелых, зялёных ліпах і каштанах…

Алена разумела, што гэта яшчэ нічога не значыць. Яны яшчэ нічога адно аднаму не сказалі… Але яе сэрца разрывалася ад гэтага незвычайнага жывога трапятання, калі слёзы засцілаюць вочы. А табе радасна і хмельна. І наперадзе салодкае бяссонне, і птушыны ранак, чаканне тэлефоннага званка. Ягоных крокаў, ягонага пагляду, дотыку, чаканне вечнасці… Яна думала, што ўжо ніколі не адчуе ўсяго гэтага, яна думала, што ўсё адыйшло, і. Хто ведае, можа, нават прыйдзе час, калі яна будзе нядобра зайздросціць усім юным закаханым сэрцам. Але ж не, Хрысціна кажа праўду, кахаць можна бясконца, і калі нават сам ужо выпадаеш з гульні, застаюцца твае дзеці… І праз іх ты ізноў перажываеш, нанова перажываеш сваю вясну… Значыць, колькі дзяцей, столькі  і будзе ў яе вёснаў, столькі і будзе ў яе бяссонных,хмельных вёснаў, птушыных ранкаў… Сэрца замірае, яно вось-вось разарвецца… Хрысціна, яе Хрысціна спынілася ля пад’езда і гэты незнаёмы юнак працягвае ёй сваю руку, яна аддае сваю, яна аддаецца ў чаканні першага дотыку ягоных вуснаў. А ён не цалуе, толькі сціскае ейную халодную ад хвалявання руку. І ёй самой, Хрысціне, трэба нешта зрабіць, стаць на дыбачкі, дацягнуцца да ягонай шчакі, ягоных вуснаў, абхапіць яго за шыю. А яна стаіць і ўсё мацней і мацней прыціскае да грудзей бяскроўныя канваліі…

## Эпілог

І зноў Алена скідае адзежу, распускае валасы і заходзіць у сцюдзёную плыткую рэчку, ручай, і ейныя ногі патанаюць у глеі, яна ўскідвае рукі і ейны цень кладзецца, ламаецца на другім беразе. Але ж гэта зусім не яна, не Алена, гэта яе Каміла, ужо зусім дарослая, ражакосая, як Фаўн, з такімі ж, як у яе, Алены, глыбокімі, блакітнымі вачыма... Зараз яна акунецца ў халодную, сцюдзёную ваду. І там на беразе, яе ўжо чакае чароўная белая карова. І дзесьці паблізу стаіць замак, у якім яе чакае Мужчына, а, можа, ужо і дзеці...

Як шкада, што гэта апошняя яе, аленіна вясна... У іх з Фаўнам болей няма дзяцей. Значыць, усё. Цяпер трэба чакаць унукаў ці адлятаць, ад’язджаць, сыходзіць упрочкі... Без вясны, без кахання не жыць...

... Рэзкі аўтобусны гудок вырваў яе з небыцця. Шафёр саскочыў з прыступак, удыхнуў на поўныя грудзі паветра і вінавата ўсміхнуўся:

— Даруйце. Я завёз вас у іншы бок. Мяне тут чакалі. І я не мог, не меў часу везці Вас па маршруту... Але Вы, я бачу, не сумавалі.

Алена агледзелася. Тыя самыя залатыя хвоі, сонца садзіцца. І нават джынсоўка на ёй тая самая.

— Дзе Вашая сумка? Паехалі. Вас. Пэўна, ужо зачакаліся...

— Даруйце, а колькі Вас не было? Колькі часу Вы ездзілі па сваіх справах?

— Я не глядзеў ан гадзіннік. Можа, пару гадзін, можа, дзень ці месяц...

— Мне здаецца, Вас не было цэлы год... А можа. нават цэлую вечнасць...—Алена ў адчаі не магла скрануцца з месца.

— Ну, гэта ўжо занадта... Хіба ж, Вы маглі мяне цэлы год, цэлую вечнасць чакаць на адным месцы?

Колькі скепсісу ў ягоных словах!

— Магла б... каб кахала Вас, то магла б...—прашаптала алена і заплакала.

А можа, гэта проста пайшоў дождж... Дождж, які ўсё сцякае і сцякае па запацелым аўтобусным вакне... Куды завязе ён яе гэтым разам?

**ПОЎНЯ**
**Святло апошняга кахання.**

Мы не спраўдзімся ў дзецях.
Мы не спраўдзімся ў песнях.
Мы спраўдзімся толькі
ў каханні без слоў.

Ужо з гадзіну яна нерухома сядзела за пісьмовым сталом, уся залітая бледнай, падобнай да люстэркавага ззяння месячнай плынню. Яна сама цяпер нагадвала люстэрка. Люстэрка ягоных думак. Пачуццяў, усяго ягонага жыцця, якое перарвалася і ўжо ніколі не паўторыцца на гэтай зямлі. Цяпер толькі месяцу бачыць ейныя. Увесьдзень схаваныя пад акулярамі безнадзейна блакітныя вочы, бачыць, якія ў яе даўгія, хвалістыя валасы, якая яна яшчэ маладая, прагная да жыцця і ласкі... а тут яшчэ гэтае недарэчнае віншаванне, гэтая паштоўка з жоўтымі вяргінямі, што прыйшла праз месяц пасля ягонае смерці...

“Мілая Нінка! Толькі нядаўна дазналася, што ты выйшла замуж. Ды за каго! За Міколву Рыгоравіча! Ён можа і забыўся, а я ж памятаю, як ён выводзіў мяне ў вялікую навуку! Цяпер ужо ніколі не зблытаю кансолі. Валюты, сухарыкі... Ён для мяне на ўсё жыццё ідэал сапраўднага вучонага! Віншую, віншую вас, мае дарагія! Няхай вашае сямейнае жыццё будзе шчодрым на каханне, дабрыню і спагаду!

P.S. Атрымала часопіс з рэпрадукцямі арцін Міколы Рыгоравіча. Ніколі б не падумала, што ён такі дакладны, нават, хай не крыўдуе, занудны, можа ***так*** маляваць! Гэтыя ссівелыя рэшткі замкаў і палацаў, гэтыя, сатканыя са святла і паветра храмы, здаецца, не збудаваныя. А, якдрэвы, вырастаюць з зямлі, нашае. І толькі наўае зямлі. Яны жывыя, яны дыхаюць. Так пісаць можа толькі закаханы чалавек.

З маскоўскім паклонам заўжды вашая
Алена Рудовіч.”

Як іммклiва ўсё сталася... Вунь людзі толькі дазанліся пра тое. Што яны пажаніліся. А ўжо нічога няма... Толькі гэтая, напалову з’едзеная поўня за вакном. Схадок. І яна — самотнае люстэрка ягоынх думак, пачуццяў, жыцця...

Навошта ж, дзеля чаго тады сталася іхняя сустрэча? Толькі каб не прапала, не трапіла ў абыякавыя рукі ягоная бібліятэка, ягоныя

рукапісы, ягоны сапраўды унікальны архіў — фотаздымкі, слайды, негатывы архітэктурных помнікаў са ўсёй Беларусі? Каб не ён, не Мікола. Ніхто б ніколі не ўбачыў дывановага роспісу, букетаў, гірляндаў кветак, якія ўсцілалі сцены, столь сціплай драўлянай царквы ў Цімкавічаз... Царква згарэла, а разам з ёю і гэтая жывапісная аранжэрэя, палісаднік Францішака Бруздовіча... Палісаднік... Не. Рай у народным уяўленні. Рай, дзе сустрэліся і саграшылі ён і Яна. І цяпер кожны мужчына і кожная жанчына мкнуць адно да аднаго, каб у імгненне граху, у імгненне свайго падзення спазнаць рай...

Не, быў у іхняй сустрэчы яшчэ нейкі іншы, глыбінны сэнс, тое. Чаго не выкажаш словамі, не схопіш рукамі, нешта падобнае да вось гэтага няўмольнага месячнага святла...

Хоць ніколі ж не казаў ён ёй. Што кахае. Усё адбывалася неяк само сабою, без слоў. А потым было нясцерпна. Ёй задвалася, увесь час здавалася, што ён вяртаецца, што думкамі, пачуццямі ён прыкуты да іншай... Да іншых... Да сваёй жонкі. Дачкі. Як цёмна, глуха рабілася тады на душы...

Дык, можа, і непатрэбная была гэтая іхняя сустрэча?

Няхай бы ён заставаўся ў сваім застаўленым кнігамі і энцыклапедыямі акадэмічным кабінеце. У зашпіленым пад самае горла шэрай, рабенькай кашулі, змрочным карычневым касцюме і падраных чаравіках. Лысеў бы, спраўнеў. А ягоная здагадлівая сакратарка з прыхаванаю грэблівай усмешкай прыносіла б яму рэзкі французскі адэкалон, каб хоць дзеля замежных гасцей і начальства перабіць непрыстойны пах гарэлачнага перагару. У акадэмічным інстытуце ж усе ўсё разумелі. Калі інтэлігент, такі, як ён, інтэлектуал, п’е, яму толькі спачуваюць, лічацьза чалавека вялікага. Невыказнага душэўнага болю. Хадзіў бы штодзень на працу, вяртаўся дамоў... А калі б спаць праз сценку са сваёю былою жонкай і ейным новым мужам рабілася б зусім нясцерпна, ішоў бы на вакзал, ізноў піў, глушыў душу. І з глухою душою розум працаваў у яго выключна. Дпісаў бы доктарскую, выдаў бы гэтыя кнігі, да якіх цяпер яна, Ніна, не ведае з якога боку падступіцца. Сам давёў бы да ладу архіў. І ўжо ж не ездзіў бы з рання да ночы на эцюды, не дыхаў бы шкоднымі для ягоных хворых лёгкіх фарбамі, не пісаў бы па начах у нейкім вар’яцкім утрапенні касцёлы і цэрквы, якіх даўно ўжо няма...

А яна б наладзіла яшчэ адну выставу маляваных дываноў. Правяла б у Глыбокім, ці тут, у Віцебску, свята. Конкурс на самы квяцісты дыван. Побач з маляванымі красавалі б і жывыя кветкі...

Півоні, вяргіні, мальвы... Лёталі б жывыя галубы. Плавалі б жывыя лебедзі...

У яе ж нарэшце, праз столькі гадоў інтэрнацкай бяздомнасці з'явілася свая ўласная кватэра. І пляменнік Саша, якога пасля смерці сястры забрала ад алкаголіка-зяця да сябе, пайшоў у войска. Цяпер не трэба пасля працы бегчы ў вучылішча, правяраць, ці быў ён на занятках, а, едучы ў камандзіроўку, хвалявацца, ці не прывязе ён зноў на ноч у хату ўсю сваю групу, ці не нап'юцца, ці, яшчэ горш, як аднойчы застала, ці не прынясуць шпрыцы з наркотыкамі. Колькі яна нерваў патраціла на гэтага Сашу. Адправіла ў войска, магла б падумаць пра сябе...

Яна ж хацела навучыцца іграць на гітары. Хацела паехаць у Маскву і зрабіць аперацыю, каб палепшыць зрок, не насіць акуляраў. Хацела абрэзаць валасы і замест сваёй вечна разбэрсанае гулькі на патыліцы штомесяц у цырульні рабіць новую модную прычоску...

Дзень пры дні сядзела бяна ў сваім, застаўленым маляванымі дыванамі кабінеце, — пакуль што адзіным пакоі будучага музея народнага мастацтва, хуталася б у любімую квяцістую хустку, разбірала б свае запісы з экспедыцый, а. калі адрывалася б ад папер, проста перад сабою, на сцяне бачыла б пранізлівы, празрысты краявід лепельскага мастака-самавучкі Жарнасека. Сіняе-сіняе сляпучае неба. Смарагдавая трава і даверлівы, аткі даверлівы цемнавокі алень...

Потым вярнуўся б з арміі Саша. Ён вярнуўся б на вёску, да яе. І пазнаёміла б яна яго з добрай дзяўчынай. І згулялі б вяселле. І гадавала б яна ўнукаў.

Усё менавіта так бы і сталася... Але Мікола Рыгоравіч кінуў працу ў Акадэміі, мінскую кватэру і прыехаў сюды, у Віцебск, у іхні інстытут простым выкладчыкам. Ён уцякаў ад самога сябе. У ягоных планах не было ніякага кахання, тым больш, сям'і. А яна, яна ж сама падскочыла, збіла, зблытала ўсе і ягоныя. І свае карты...

Не. Гэта проста адчай, роспач зноў раздзірае душу. Усё сталася так. Як мусіла стацца. Сходок пераўтворыцца ў маладзік. Ён як слязьмі абмыецца дажджом, ібудзе налівацц асілаю, покуль зноў не стане поўняю. І яна цяпер ведае. Яна ж ведае, што мусіць рабіць. Адпачынак сёння скончыўся. Але на працу яна болей не пойдзе. Ні заўтра, ні паслязаўтра. Ніны Вярэнькі болей няма. Не будзе болей Ніны Вярэнькі, якая з цялячым захапленнем вандравала па вёсках, збірала для інстытуцкага музея калекцыю маляваных дываноў. Усе свае веды. Увесь свой вопыт, усю душу яна цяпер мусіць пакласці на тое, каб давесці ўсе Міколавы справы. Усё астатняе не можа мець сэнсу. Пакуль не зроблена галоўнае. Яна разбярэ архіў, завязе ў

выдавецтва рукапісы. І абавязкова наладзіць яшчэ адну выставу Міколавых твораў. У Мінску. Было ж нешта, нешта, што прымусіла яго, калі ён ужо ведаў: жыве апошнія есяцы, адкласці ўбок, закінуцьусе свае навуковыя справы, забыцца нават на недапісаныя кнігі, а толькі маляваць, пісаць гэтыя незвычайныя, фантастычныя кампазіцыі з рэшткамі храмаў і жывымі, рухомымі аблокамі... Было ж нешта...

Пачуцці прыходзяць да нас, калі мы гатовыя іх прыняць. Ненастроены раяль не можа перадаць музыку вечнасці. Затое, калі ён гатовы, калі ён, як і піяніст, увесь у чаканні, мелодыя сама ўліваецца ў яго, множыцца ў клавішах. Струнах, малаточках. І вадаспадам адлятае ў вечнасць...

Ніна была гатовая. Ды што там, янаўжо як у юнацтве, кахала кагосьці, хто толькі наважваўся ўвайсці ў ейна ежыццё.

І калі зранку цёплы вільготны туман працягнуў у фортку сваю пухнатую росную руку, ёй нават падалося. Што яна ўжо ведае, ці эта ён ведае яе... І таму сціскаецца сэрца, плыве ўсё ў вачах, і хочацца жыць, спяваць, слухаць музыку... Проста вось зараз, у начной сарочцы сесці ў крэсла і ўключыць Месячную санату...

А ў інстытуце знаёмая студэнтка. з іхняе вёскі, суседава дачка, якую яна за ружовыя шчокі і заўжды ўсмешлівы твар пра сяб еназывала Мальваю. Сустрэўшы яе на лесвіцы, пазвала разам з іхняю групай на экскурсію па старым Віцебску.

— Сам Мікола Рыгоравіч Баравік павядзе, - шапнула Мальва з трымценнем у голасе і зачырванелася.

Баравік. У Ніны дома былі дзве ягоныя кніжкі. Па народнай драўлянай архітэктуры. І артыкулы ў часопісах чытала. Нядаўна нават фотаздымкі пераблыталі, і там, дзе ён пісаў пра Цімкавіцкую царкву, стаяў фотаздымак з ейнага, нінінага інтэрв'ю. Усмешлівая Ніна на фоне маляванага дывана з лебедзямі. Казалі, ён цяпер кінуў Акадэмію і пераехаў да іх у Віцебск.

Ніна няпэўна павяла плячыма...

— А не прагоніць?

Мальва засьмяялася.

— Ну, вы, як першакурсніца! Прагоніць! Памятае ён усіх.... Ён жа вачэй ніколі ад сваіх папер не адрывае...

А Баравік Ніну тады якраз заўважыў адразу. Не студэнтка. але што яму. Калі цікава, хай ходзіць. Хай слухае.

На ўсіх экскурсіях, як і на лекцыях, вядома ж, ёсць тыя, хто слухае і зусім мала тых, хто чуе. Ніна чула. Яна заўжды, і ў школе, і ў інстытуце заўжды чула, што хоча сказаць выкладчык. Ды што там, у

яе ў студэнцтве была проста манія пасля лекцыі падыходзіць да выкладчыкаў і задаваць пытанні. І яе, падсвядома, цікавіў не толькі адказ, але і тое, як паглядзіць, як усміхнецца той. Каго папраўдзе з-за кепскага зроку яна ніколі не магла як след разгледзець за кафедрай. Вочы ў вочы чалавек быў зусім іншым... І вось зараз, на гэтай экскурсіі па Віцебску Ніна быццам вярнулася ў студэнцтва. Спяшалася, працiскалася бліжэй, каб не прапусціць не тое што стлова, позірка, жэста гэтага імклівага, дасціпнага чалавека ў цёмна-сінім берэце.

Дзяўчаты ззаду хіхікалі, пасьмейваліся з ягонага кароткага драпавага паліто, са стаптаных чаравікаў, з, трэба ж, сапраўды, рознымі шнуркамі, напаўголася, каб ён не чуў, казалі, што, калі ўвесь час хадзіць у шапцы ці берэце, можна зусім аблысець... Баравік да гэтага ўсяго не прыслухоўваўся. Ён чуў толькі самога сябе. І Ніна, падтыкаючы пад хустку непаслухмяныя валасы, на хаду праціраючы акуляры, бачыла, як загараюцца ягоыня жывыя цёмныя вочы, і шчокі ружавеюць, і ён, расказваючы, сам быццам вяртаецца ў гісторыю. Яго тут няма. Ён там. Малады, натхнёны дойлід, які ўзводзіць на месцы гэтае пусткі храм.

Дзяўчаты стаміліся. Ім было горача. Яны ледзь клыпалі на сваіх абцасах. А Ніна, уся ў палоне такога ёй зразумелага, імклівага мужчынскага розуму, уся ў палоне ягонай фантазіі, тольк-толькі рашылася задаць першае сваё пытанне. Дз гэта было? Здаецца, ля доміка Шагала. І што яна спытала? Ага.

— Але што ў тврчасці Шагала ёсць беларускага?

А што ён адказаў...

— Неба. Вы ў каго-небудзь з мастакоў бачылі яшчэ такое глыбокае, васільковае, пралескавае неба?!

— Ды ў нашага Васіля Жарнасека з Лепеля такое неба!..

дзяўчаты зусім засьмяглі. Ім абрыдлі пустыя словы. І ўвогуле, хто прыцягнуў сюды гэтую “цікаўную”, што ляціць паперадзе ўсіх, а цяпер яшчэ лезе са сваімі пытаннямі?! Мальва маўчала. Мальва звяла ад Ніна́й актыўнасці. А тая, што клыпала з ёю пад руку, кранууўшы Ніну за плячо, параіла ёй выцерці з чобатаў гразь і перавярнуць спадніцу — разрэз збіўся набок.

— Такі фасон! — крутнула галавою Ніна і проста па лужыне зашыбавала ўлед за Баравіком. Той таксама стаміўся, крыху задыхаўся, ягоныя смалістыя валасы, што выбіваліся з-пад берэта на шыі кучаравіліся ад поту. Ён спыніўся, равеў дыханне, і падняў руку да ратушы, туды, дзе гадзіннік. Гадзіннік з ратушы на ягонай руцэ. Ці наадварот, ягоны гадзіннік на ратушы. Сонца слепіць.

— Якая ў яго валасатая рука, — зусім ужо млява вымавіла Мальва...

А Ніна зноў была з ім побач. Яна была не згодная. Яна таксама любіць барока. Але ж гэтая ратуша... Хіба гэта барока? На фоне зблытаных, імклівых аблокаў яна выглядае проста застылаю... Сапраўднае барока — гэта...

— Тут непадалёк мусілі стаяць дзве царквы. Рыначная і Васкрасенская. Вы, мажа, бачылі іх на малюнку Пешкі?

Ну, вядома, бачыла. Нават у іхнім інстытуцкім музеі ёсць рэпрадукцыя. Дык дзе, дзе стаяла Васкрасенская царква? Вось тут... Дзе зараз так імкліва, мякка перацякаюць адно ў адно жамчужныя аблокі? Вось гэта сапраўднае барока... Хочаце, давайце разам зойдзем у гэты, збудаваны з аблокаў храм? Хочаце? Вунь з атою валютай схаваўся залачоны Амур... Ён ужо нацягнуў лук. І страла, веснавы сонечны промень зараз патрапіць проста вам у сэрца... Не, спачатку вось сюды, у гэтую ямінку пад шыяй. Пад кадыком, пад Адамавым яблыкам. Туды, куды падкацілася, дзе пульсуе душа.

Аблокі расцякліся і сплылі. Ён зірнуў ўна гадзіннік. І як жа абразіў яе ягоны... може. Ёй гэта толькі падалося, н. сапраўды, скептычны посмех. У яе за спіною з палёгкай уздыхнула Мальва.

Усе спяшаюцца... Што ж, яна, Ніна, таксама можа зараз знікнуць, растаць, як аблачынка...

Схаваўшыся за альтанкаю аўтобуснага прыпынку, Ніна доўга цёрла насоўкаю запэцканую граззю, сапраўды перакручаную спадніцу, калготкі, чобаты. А дома, у люстэрку. У калідоры разгледзела, што кропелькі гразі прысохлі і да чырвонай. Быццам падмаляванае шчакі, і да ілба... Хустка спаўзла і валасы пасмамі выбіліся з-пад яе, ніякія шпількі не трымаюць...

Мікола Рыгоравіч, вярнуўшыся ў інтэрнат, дзе яму пакуль што вылучылі асобны пакой, таксама доўга чысціў паліто, штаны, чаравікі. Трэба было яшчэ прышыць гузік у сарочку. Але ж яна ўсё роўн абыла ўжо бруднаю. Лепш заўтра надзець новую. А гэтую ў шафу, у пакет, які зноў поўны. Шкарпэткі. Бялізан, цяпер вось яшчэ сарочка... і шкарпэткі. Зноў уся субота пойдзе на мыццё. Значыць, сёння трэба. Сёння ён павінен, ён мусіць дачытаць студэнцкія рэфератыю Акуратным, школаю пстаўленым, здаецца. Ва ўсіх адным почыркам перапісаныя старонкі з энцыклапедый, з ягоных кніжак... не, гэта чытаць немагчыма. Хоць за гэта яму плоцяць грошы і нават абяцалі даць кватэру... Гэта чытаць звыш ягоных сіл.

Тое, што ў Мінску здавалася адзіным выйсцем, прасветам, праталінай у ягоным скутым безвыходнісцю існаванні, цяпер. Усяго

праз які месяц пачало прыгнятаць нясцерпна... Ціснула столь, ціснулі сцены гэтага нябогага пакойчыку з паламанаю шафаю і рыпучым ложкам, сляпіла лямпа без абажура, раздражняў спісаны непрыстойнасцямі стол... У кутах нераспакаваныя кнігі, пад ложкам — скрыні з негатывамі, слайдамі, якія не было часу разабраць. І гэта таксама, як заношаныя шкарпэткі і бялізна, якую хоць раз на тыдзень. Але мусіў мыць, прыгнятала, выводзіла з раўнавагі. Злавала... Але нават злосці спагнаць няма на кім.

Гарэлка ў халадзільніку. Адзінае. Што ў яго сёння ёсць у халадзільніку. Не, яшчэ новыя кодакаўскія плёнкі для слайдаў. На падваконні чэрствы хлеб, цыбуліна. За вакном дождж. Зіма, люты. А там дождж. І гэта раздражняе, дзейнічае на нервы, наганяе трывогу... Усё нерэальна, усё безвыходна...

І час плыве, сплывае... Не ўхопіш... чысты аркуш паперы сам лёг пад рукі. А ручка... Ён. Здаецца, іне выпускаў яе з пальцаў. І еняк само сабою. Міжволі з’явілася на паперы царква... Імклівае, мяккае перацяканен аб’ёмаў. Крыж. Жаночы профіль. Мальвы. Шагалаўская скрыпка...

Даўным-даўно, у нейкім іншым, нябесным вымярэнні ягоная маці пісала казкі... Не. Спачатку яна расказвала іх яму на сон. Пра хлопчыка, які змайстраваў сабе скрыпку з воблака. Струнамі былі правады. І ён штораз узлятаў да іх са сваім, зробленым з арэхавага прутка смычком.... Арэхавым смычком па правадах, па скрыпачцы з аблачынкі, якая шбірала ў сябе музыку і расла. Арсла, пакуль не ператварылася ў хмару, у сталёвую, важкую навальнічную хмару. І маланка ўдарыла ў правады. І сам хлопчык преатварыўся ў аблачынку... Жахліва. Добра, што ніхто ніколі нідзе іх не надрукаваў. І не надрукуе. Калі мама памерла, жонка выкінула ўсе ейныя паперы, усе рукапісы ў смеццеправод. Яна спяшалася, ёй трэба было хутчэй вызваліць пакой, каб было куды запрасіць гэтага свайго чорнабародага “в’юнашу”, гэтага свайго новага мужа... “Мы с Сашей уже давно любім дін одного”... Божа. Як гэта пошла...

Мальвы, як і царква, імкліва ўзносіліся да неба. Жаночы профіль знік пад касым дажджом. Стрыжань спісаўся. І больш, здаецца, няма. Ні ручкі. Ні стрыжня.

Мікола Рыгоравіч патуыў лямпу. Але ў пакоі ўсё адно было светла. З-за хмар выпаўзла, проста ў вакне нахабна завісла фарфоравая поўня. Ад гэтага ейнага навязлівага святла не баранілі нават фіранкі. Ад яго рабілася яшчэ больш гнятліва, трывожна. Нясцерпна.

Ён ізноў адчыніў халадзільнік. Але бутэлька ўжо пустая. Ісці па ваду, варыць каву ці гарбату ўжо няма волі. Мікоал Рыгоравіч зноў запаліў святло. Дастаў з-пад ложка часопісы. Зноў сеў за стол...

У сне мама іграла яму Месячную санату... А калі ён прачнуўся. Проста перад вачыма, сярод півоняў і мальваў, на фоне маляванага дывана тк мякка, так лёгка ўсміхалася, здаеццаж, добра знаёмая жанчына. Без акуляраў, з распушчанымі валасамі ён яе не пазнаў...

Пайшоў у душ, і доўга, мылам, вадою, зубною пастаю, потым адэкалонам глушыў брыдкі. Уедлівы перагар. Надзеў свежую бялізну, шкарпэткі, ні разу не надзяваную кашулю. Можа шчэ й гальштук? У люстэрку застыла скептычная, з'едлівая ўсмешка...

А Ніна, ну, як добрая вучаніца. Перачытала ягоныя кнігі, артыкулы. Хацела нават схадзіць д аяго на лекцыю, перапісала расклад. Але, калі зазірнула ў аўдыторыю, убачыла. Што сядзіць там усяго чалавек дзесяць, разгубілася, зразумела, што ён яе адразу прыкмеціць, а прасіць задволу ўжо не ставала рашучасці. Нейкі надта ж бессаромныя прыходзілі да яе сны.

То снілася, быццам едуць яны разам некуды ў аўтобусе, і яна непрыстойна, гулліва ўсміхаецца яму, садзіцца проста на калені... І ён лашчыць, так прагна, соладка лашчыць яе і цалуе... а потым быццам зрываецца, ляціціць яна ў нейкую пропасць. І ён, яна пазнае яго па руцэ, па гадзінніку, ён ратуе, выцягвае яе наверх. І там наверсе. На нейкім стромым абрыве. Яна ўсё гэтак жа гулліва пытаецца ў яго: “Вы што, ляўша?” А ён смяецца і зноў туліць яе да сябе...

Салодкая разняволенасць імклівых сноў наяве перацякала ў бяссонне, у пакутную чырвань, што душыла нават калі проста віталася, выпадкова сустрэўшы яго на лесвіцы ці ў калідоры.

А тут яшчэ вясна. Ранняя, цёплая, трывожная... У канцы красавіка ўжо квітнелі сады. І гэтая паездка ў Варшаву... Пад самыя майскія святы. Ехалі толькі выкладчыкі, але ў аўтобусе заставалася месца і прапанавалі ёй. У дарозе яна частавала ўсіх адбіўнымі і трубачкамі з варэннем. І міжволі насцярожана лавіла ўжо добра знаёмую ёй скептычную ўсмешку. А за вокнамі белапеніліся, ахутаныя лёгкімі воблачкамі квецені сады...

У перадсвяточнай Варшаве іх чакалі гатэль з дзіўнаю назвай “Дом селяніна”, малочны суп з морквою і, пасля абеду, экскурсія ў мастацкі музей. Калі Ніна, пераапрануўшыся, спусцілася ўніз, перакладчыца, нервова пасмоктваючы цыгарэту, размаўляла з Міколам Рыгоравічам, ужо без берэткі, у адным касцюме. Усе адразу пасля абеду паехалі на рунак. І Мікола Рыгоравіч, просячы за іх

прабачэння, угаворваў перакладчыцу ісці дадому, бо дарогу да музея ён ведае, па-польску гаворыць не горш за яе. Ніне засталося толькі паківаць галавою ў знак згоды...

Варшава іх чакала. Ледзь не на кожным скрыжаванні, ля магазінаў іх сустракалі кіёскі з кветкамі. Пунсовыя, белыя ружы, гваздзікі, нават герберы і яшчэ нейкія незнаёмыя, вытанчаныя, пяшчотныя кветкі, сабраныя ў адмысловыя, фантастычныя букеты... Перавязаныя, аздобленыя стужкамі, стужачкамі, матылькамі... Яны люстраваліся. Множыліся, яны віталі іх і ўсіх, хто спыняўся ці проста праходзіў міма...

— Ніна... Мяне зваць Ніна.

— А мяне Мікола Рыгоравіч. Мікола.

— Я ведаю. Я ўсё пра Вас ведаю.

— Усё? Ну, гэтага нават я пра сябе не ведаю...

Адкуль тут гэты мяккі, лёгкі пах чысціні? Можа, яны мыюць брук спецыяльынм шампунем? Ён смяецца. Някрыўдна, лёгка. Нават весела.

Апранутая ў элегантныя светлыя плашчы, зрэдку касцюмы, шырокаполыя капелюшы і модныя капялюшыкі Варшава выстаўляла наперад трысцінкі парасолек, звонка прастуквала абцасікамі чыста вымытую, святочную брукаванку. Нават сабачкі, што беглі на павадках перад сваімі гаспадарамі, нейкія лёгкія, нязлосныя і крыху фаанбэрыстыя. Паньства гуляла. Але раптам з гэтага мернага, як гадзіннік, адладжанага жыцця, у шэрых сценах музея, як выбух, ахопленая блакітным святлом музейных лямпаў — “Зямля” Фердынанда Рушчыца. Гладкі, бліскучы арэх раскалоўся. Там зерне. Шорсткае, цвёрдае, моцнае.

... Селянін, беларус ідзе за плугам. І ягоны конь, плуг, і сам ён быццам вырастаюць з раллі, з гэтае вільготнае, узаранае глебы. І глеба, і і зямля чуюць у ім свайго адзінага сапраўднага гаспадара. Бо гэта ён вяртае ёй дыханне, абуджае да жыцця, бо гэта ён рассоўвае плячыма важкія сталёвыя хмары. Ён, такі малы, нязначны ў параўнанні з гэтым полем, з зямлёю — адзіная кропка яе апоры. Ён той, хто здольны перавярнуць увесь свет...

Пасля Рушчыца творы галандцаў выглядалі гладкімі, бліскучымі вокладкамі, рэкламнымі праспектамі глыбіннае, арганнае сутнасці быцця. І анват трывожныя балесныя пастэлі Выспяньскага былі толькі нотаю музыкі Рушчыца.

У люстэркавых кіёсках з кветкамі ўжо запалілася блакітнае святло. На вячэру яны спазніліся. Але ўнізе на канапе яшчэ сядзела, закінуўшы нага на нагу, смактала цыгарэту іхняя бялявая, адобная на

востраносенькую птушачку, перакладчыца. Убачыўшы Міколу Рыгоравіча, заўсміхалася, уздыхнула.

Аказваецца, за вячэраю нехта ўспомніў, што заўтра праваслаўны вялікдзень і ўсім захацелася схадзіць у царкву на ўсяношную. А яна і не ведае, дзе тут паблізу ёсць царква.

Мікола Рыгоравіч кіўнуў і зноў пасміхнуўся:

— Ды завяду я іх у царкву. Ідзіце, пані, адпачывайце.

Ніна, папрасіўшы пачакаць яе, пабегла наверх. Суседка спала. І яна. Каб не трывожыць, адразу пайшла ў ванну. Там, перад люстэркам, не здымаючы курткі, расчасалася, перакалола валасы, завязала хустку і правяла пару разоў па вуснах памадай.

Мікола Рыгоравіч, хоць і без берэткі, але ўжо ў паліто, сядзеў унізе, ан месцы востраносенькай пані і чытаў газету.

— А дзе ж вашая суседка?

— Спіць.

— Чакаць яшчэ ці не? Можа пойдзем?

А на вуліцы ўжо накрапваў дождж. І Ніна зняла. Схавала ў кішэню курткі акуляры. Усё адно запацеюць. Мікола Рыгоравіч падняў каўнер. Дарога да царквц адна. Цераз мост. Шырокі, бясконцы, слізкі ад дажджу мост над Віслаю. Ліхтары адмяраюць час кожныя дзесяць крокаў... Яны гамоняць. А можа маўчаць... Маўчаць пра Вялікдзень...

... Ягонага бацьку ўжо арыштавалі. Але быў такі пранізлівы сонечны ранак. І між свежымі крухмальнымі фіранкамі стаялі галінкі вярбы з жывымі шэрымі коцікамі. Пахла варанаю сялянскай каўбасой, салам, велікоднымі булкамі... Адна ляжала пасярод стала на вышываным ручніку. А яечкі, пунсовыя, бліскучыя яечкі стаялі ў глінянай місачцы, якую бацька прывёз са сваёй вёскі, маці берагла яе ўсё жыццё, як рэліквію, я ён сёлета, пераязжаючы ў Віцебск, разбіў... потым, калі яны ўжо паснедалі, мама збірала ўсе чырвоныя яечныя шалупінкі ў газету і ўвечары сама выносіла, закопвала ў зямлю, каб і ў смецці ніхто не прыкмеціў, што яна, настаўніца гісторыі, святкавала з сынам Вялікдзень.

... А Нінін бацька быў дырэкатрам школы. І на Вялікдзень Ніна, ледзь віднела, бегла да сваёй бабкі. Яна і навучыла яе мыцца яечкам (каб быць прыгожаю і здаровай) і гуляць у біткі. А бацька, паеўшы бабуліных велікодных булак, ды што там, і ў біткі пагуляўшы з мамаю, і з імі з сястрою, назаўтра хадзіў па класах, строгі. Непадступны, і задаваў адно і тое ж пытанне: “Ну, дык у каго былі ўчора фарбаваныя яйкі?” Усе, вядома, маўчалі. А ёй, Ніне, было так

сорамна з абацьку, за гэтыя ягоныя недарэчныя, абразлівыя допыты. Ёй так і карцела, калі бацька заходзіў у іхні клас, падняццв і сказаць: “У нас. У анс учора былі форбаваныя яйкі. І ты сам іх еў. І я ела. І мы гулялі з табою ў біткі”. Але яна паважала, а можа. проста пабойвалася бацьку, і шчэ не ўсё разумеючы, ведала, што мусіць маўчаць...

Іхні шлях у імглістай колкай смузе быў бясконцым. Але мост скончыўся. Скончылася дарога. Яны прыйшлі. Асветленая жывым, жаўтаватым святлом ліхтароў акруглая, сама, як велікодная булка. Царква ўжо была агучана суладдзем урачыстых, велічных спеваў. З прыадчыненых дзвярэй наплывала мяккае святло і салодкі, хвалюючы водар ладану. Яны падняліся на прыступкі, але праціскацца не сталі. Не навучаныя, хрысціцца і адзін, і другі пасаромеліся. Толькі вынулі рукі з кішэняў, галаву схілілі. Спусціліся ўніз, сталі пры агарожы. Каб не замінаць. А вакол усе, тыя. Каму не хапіла месца ў храме, запальвалі свечкі. Пачынаўся хросны ход. Не ўсе далучыліся да яго, не ўсе паўтаралі словы малітваў. Але гэтыя свечкі, дрыготкае, захінутае жывымі далонькамі святло быццам стварала ля царквы ахоўнае кола. Гэтая святло выцякала з царквы, рухалася па колу, ізноў вярталася ў царкву, яно збіралася, яно расцякалася, усё далей і далей... За вароты, у свет... Гэта было шчодрае святло. Усе маглі адагрэць ля яго свае душы.

— Хрыстос уваскрос! — раптам урачыста, весела вымавіў Мікола Рыгоравіч і сустрэў ейную мяккую, шчаслівую ўсмешку. І ён растаў у гэтым светлым, натхнёным позірку...

— Напраўду ўваскрос! — як у сне шапнула яна і пацягнулася да ягонай мокрай, калючай шчакі. Два пасачкі памады. Так недарэчна. Трэба сцерці. У самой шчокі, і пад сцюдзёнымі кроплямі шчокі гарэлі да слёз...

ад цёплага святла храма яны зноў вярталіся ў колкую, імглістую ноч, да цьмяных блакітных ліхтароў. На слізкі брук, ісці па якім ёй без акуляраў даводзілася ледзь не вобмацкам. Яна не паспявала. Спатыкнулася. Ледзь не ўпала. Ён падтрымаў. Яна ўзяла яго падруку. Шорсткі рукаў ягонага паліто быў вільготным і цёплым. І праз яго, праз гэты грубы, вынашаны драп, зусім не ў рытм іхнім крокам, ёй ад яго , яму ад ёй перадавалася нейкая напружанасць, трымценне, неспакой... Які ўедлівы туман. Знобка... Словы перасядалі ў горле і сорамна было што-небудзь казаць здаўленым, не сваім голасам. Ліхтары адзін з аадным патаналі ў шэрй ваце. Гэты мост праз Віслу, ну проста, бясконцы. Гэты мост у нікуды...

Назаўтра ўжо разам з перакладчыцай, усёй групай яны шмат хадзілі па касцёлах. Але Ніне пасля жывое Велікоднае ночы яны здаваліся занадта строгімі і... пустымі. Змрочныя вострыя цені, сталёвы бляск і рэха... Толькі рэха... Жывыя, з'ядналыя ў адзіным маленні чалавечыя галасы засталіся ў далёкім начным храме...

А сярод лета яны, ужо жаніх і нявеста ( калі вам за сорак, пад сорак, гэта, пэўна, гучыць крыху недарэчна, але ўсё ж гучыць)... яны паехалі ў Вільню. І правялі там свой мядовы, дакладней, пэўна, шампанскі дзень...

Прывакзальныя сасіскі былі, як заўжды, гарачымі, а кава па-віленску моцнаю, з гаркавым таемным прысмакам пасвячэння ў іншае жыццё, у іншы свет...

Строгая, бы высечаная з чырвонага крэменю Ганна блаславіла іх сваім ранішнім ценем. У музеі яны доўга стаялі ля карцін свайго любімага Рушчыца.

Яе сляпіў і ўсё ж неадольна прыцягваў, заліты сонцам залаты пакой. Мадэрн. Так хацелася вытварыць што-небудзь гэткае... Каб сукенка з разрэзам на спіне, чорнабурка на плячах, пальчаткі. І шмат-шмат касметыкі. І парфума. Корсткая, экстравагантная.

А ён не мог адарвацца ад "Пусткі", дзе ўладарыў бязлітасны восеньскі вецер, які наганяў густыя, важкія хмары, згінаў да зямлі ахопленыя ерадсмяротным полымем лістоты дрэвы, але. Здаецца, нават ссівелы каменны храм... будынак... Не, у ягонай душы ніколі не было і не будзе, ніколі не будзе спакою і раўнавагі.

А на вуліцы стаяла спякота. Нават у тых старых дворыках, дзе не сыходзіў сыры, цвілы водар стагоддзяў, было нясцерпна, душна. І халодныя, лёгкія металічныя столікі, крэслы пад ліловымі парасонамі не мелі сілы пераадолець гарачыню чалавечых целаў, распаленых паветрам, каваю, лікёрам ці каньяком...

Бармэн прапанаваў ім шампанскае з лёдам ібутэрброды з чырвонаю рыбай. Па тэлевізары за ягонай спіною пачынаўся французскі фільм "Сланы таксама бываюць нявернымі"... Распаленыя сонцам жывёлы падыходзілі адно да аднаго, напружваліся, павольна падымалі, ускідвалі зморшчаныя хобаты. У разяўленым вільготным роце ўслед за хобатам прызнімаўся, трымцеў востры ружовы язык...

Яны сядзелі пад ліловым парасонам і смакталі шампанскае. Мяккая ўсмешка, мяккая рука, мяккае цела... Ёй было лягчэй. І калі яны раптам апынуліся ў нейкім выпадковым змрочным, сырым пад'ездзе, яе прагны, вільготны пацалунак, гарачы ягоны пацiск мелі працяг... Ягоныя моцныя, вопытныя рукі падоўжылі. Завяршылі

небяспечную, п’янкую гульню. Яна, лёгкая, вольная, выплыла. А ён застаўся. Напружаны, спацелы. Пакутна крутнуў галавою, заплюшчыў вочы. Яна мусіла, ды не змагла. Толькі правяла, пагладзіла ягоны твар яшчэ дрогкаю далонню.

Гэты ейны дотык доўжыўся цэлую вечнасць. Яны разам вярнуліся ў ейную хату. І яна зноў адчула, як напружваецца ягоная шыя, кучаравяцца ад поту валасы, пульсуе, пульсуе гэтая, да болю знаёмая жылка. Вось і ён нарэшце адчуў палёгку. Яны шчэ раз, разам выплылі, яны луналі ў сусвеце. І ён заснуў у яе на руцэ. І бледная фарфоравая поўня за вакном налілася жывым, жаўтаватым, малочным святлом. І толькі поўня ведала ейную трывогу... Не аднойчы, штораз, як толькі яна тушыла святло, ён плюшчыў вочы. Гэта была ягоная вельмі даўняя звычка. Яшчэ ці не з маленства. Яна страшэнна раздражняла ягоную былую жонку. А Ніна думала, ёй здавалася, што ён плюшчыць вочы, прагнучы ўбачыць на ейным месцы іншую. Гэтая трывога засталася з ёю нават цяпер, пасля ягонае смерці, калі ўсё наўкола патанае ў ягоным халодным, блакітным, люстэркавым ззянні... Не выплыць.

А тады ён усё лета ездзіў на эцюды. Быццам вярнуўся ў студэнцтва. Джынсы сабе купіў, саламяны брыль. Удзень на эцюдах, а ўночы — н акухні. Нап’ецца гарбаты і піша, перапісвае свае краявіды. Увосень у той самай зале, дзе яна ладзіла выставу маляваных дываноў, ён развесіў свае творы. Гэта было незвычайная, рамантычная, трагічная сага пра нашую зямлю . Пра касцёлы, цэрквы, палацы і замкі, што даўней стаялі ці шчэ стаяць, што шчэ жывуць сярод людзей. Ян ызрасліся з зямлёю, небам, і, даўно перажыўшы тых. хто іх будаваў, цяпер перадаюць нам. Нашчадкам, тое. Што тыя не дагаварылі, не даспявалі. Яны мацуюць наш дух, ачышчаюць, натхняюць душу.

І толькі на адным палатне было глыбокае васільковае, пралескавае неба і хлопчык са скрыпкаю з аблачынкі...

У Мінск удвох яны з’ездзілі ўсяго раз. Дзень быў пахмурны і важкі. Паклалі кветкі. Букет васількоў, на магілу ягонае мамы.

— Яна не асуджае мяне?  Ну, што я забарла цябе да сябе? Не? Вельмі ж строга неяк глядзіць... Яна ў цябе была строгая?..

— Перастань...

У яго ў горле стаялі слёзы. І яна расплакалася...

Потым яна паехала ў Саюз мастакоў дамаўляцца пра выстаўку сабраных ёю маляваных дываноў у Мінску. А ён сказаў, што мусіць зайсці ў Акадэмію, а сам пайшоў д азнаёмага доктара... Ніна,

асепленая раптоўным, познім сваім шчасцем, яшчэ не ведала, не здагадвалася пра ягоную хваробу...

Пасля абеда яны сустрэліся ў метро, і ён, з нейкаю незразумелаю, незнаёмаю адчайнаю весялосцю пацягнуў яе глядзець, як адбудоўваюць Верхні горад.

Бялюткая, свежая імклівая царква ўзносіла ў неба маленні ўсіх, хто толькі падымаў да яе вочы. І яе, Ніна, таемнае, прыхаванае нават ад самой сябе маленне таксама... Хай гэтае шчасце доўжыцца вечна...

Яны спыніліся ля глухога, з няроўнымі, незашклёнымі вокнамі калісьці ружовага, а цяпер ссівелага дома масонаў. Калі яго збудавалі, вокнаў зусім не было. Толькі markings рознакаляровае шкло, умацаванае на сцяне, у нішах. Там. Дзе мусілі быць вокны. Чорнабародыя вольныя муляры ў скураных фартухах баяліся, што вечаровае святло парушыць іхняе змрочнае чарадзейства. А можа, зусім не ад вонкавага святла яны хаваліся? Можа, наадварот, баяліся, каб не расцяклося, каб ніхто не ўгледзеў прыручанага імі, а можа, папросту ўкрадзенага агню? Агню, украдзенага з пекла. Ніхто, апроч пасвечаных, не мог, не меў права грэцца ля яго. Ніхто . Чырвоная паходня асвятляе шлях да ісціны толькі абраным.

Але ж, калі святлом не дзелішся, калі яго хаваеш у сабе, яно паступова, без паветра, без свежага дыхання, тухне... І застаюцца глухія сцены і пустыя вачніцы, якія ўжо новыя, сучасныя, апранутыя ў запэцканыя робы, таксама ж вольныя муляры спрабуюць вярнуць да жыцця. Дарма. У фундамент гэтага дома ў Музычным завулку закладзены масонскі крыж. Сам дом, сценамі, дахам утварае ой самы крыж. А хіба можна жыць у крыжы? Крыж — гэта зорка, далёкая і недасяжная. На яго можна толькі маліцца...

Як важка. Хмары, здаецца, усім сваім цяжарам прыціскаюць да зямлі... І толькі адна стромкая, лёгкая, скіраваная да Бога камяніца трымае, не дае ім абрынуцца. Залачоны вобраз Хрыста, зорачкі крыжоў ды гарачае маленне, яе, Ніна маленне працінаюць усё наскрозь, гоняць прэч гэтыя важкія хмары, супроцьстаяць немінучаму...

І сталася неверагоднае. Хмары сапраўды рассунуліся. Над царквою яснела, свяцілася ледзь заўважная праталінка блакіту.

А над касцёлам, тут, у зале мастацкага музея, гэта ўжо была н епраталіна, а цэлая плынь святла і паветра... Вецер, заўсёдны спадарожнік Рушчыца, гнаў па небе апошнія ільдзінкі аблокаў, а можа, гэта былі тушы тых, хто ўжо пакінуў гэты свет? Яны адляцяць, растануць, ападуць дажджом, каб абудзіць да жыцця вось гэтую тлустую, плодную зямлю, з якою зліваюцца, з якою, здаецца. Зрасліся

не толькі дрэвы, але і ўкленчаныя, схіленыя ў маленні людзі, ды і сам узведзены імі храм... Усё аплятаюць, яднаюць рухомыя цені... І дрэвы сціляюцца, узносяць у маленні галіны...

— Не, усё ж у нашай веры, праваслаўнай, ці каталіцкай, заўжды заставалася нешта язычніцкае. Паганскае... Чаму вось Рушчыц намаляваў іх не ў касцёле. А менавіта ля касцёла? Яму не хапала паветра. Яны ж схіляюцца, моляцца не толькі Богу, але і небу, аблокам, сонцу, гэтай сваёй не ўтравелай шчэ зямлі... — Мікола змоўк на паўслове. У залу з халодным рэхам вострых абцасаў увайшла высокая жанчына ў чорным аксаміце. Яна ўзяла пад руку свайго барадатага спадарожніка, нешта яму шапнула і пасміхнулася. І Ніна пазнала гэтую скептычную, пагардлівую ўсмешку, гэты халодны посмех. Міколаў посмех. Які заўжды так балюча раніць яе... Дык вось ён адкуль у яго...

Яна апусціла вочы і яе апёк залаты крыжык на тонкім ланцужку. А ён не мог адарваць вачэй ад такіх знаёмых, родных маміных жамчужных пацерак, якія тая перад смерцю падарыла сваёй адзінай любай унучцы Міле, іхняй дачцэ.

Нічога не сказаўшы, як з гары ў пропасць, Мікола пайшоў да... вядома ж, Ніна адразу здагадалася, да сваёй былой жонкі.

— Мила теперь в Париже. Да. Вышла замуж за дипломата, — наўмысна гуча, рэхам па сёй музейнай зале адказвала ян ана Міколавы, шэптам, даўкім паўголасам пытанні.

І Ніна з жахам адчула, што ён, ейны Мікола баіцца, а мжа. Проста кахае. І да смерці будзе кахаць гэтую халодную мармуровую статую. Не. Гэта не н. а яна, Ніна, сарвалася і падае ў пропасць. Калі ж скончыцца гэтая пакута, гэтае бясконцае падзенне?!

У шкляной шыбіне, за якою схавалася чароўная, сто гадоў таму напісаная незнаёмка, так недарэчна адбіўся яе, Ніні разгублены твар, акуляры, чырвоныя шчокі, непадабраныя шпількамі, раскудлачаныя валася і гэтая недарэчная квяцістая хустка на плячах...

Ківок. Скептычны з’едлівы посмех. Барадач паслужліва падае ёй сагнутую ў локці руку. Мармуровая статуя адыходзіць. І з суседняе залы, рэхам, па ўсім музеі чуваць цоканне ейных вострых абцасаў...

Па дарозе дадому. У Віцебск, у аўтобусе, Мікола загаварыў пра тое, пра што ім нельга, абодва ж ведалі, нельга было гаварыць...

— Я ніхто... Ні вучоны... Вучоныя ж не ездзяць на эцюды... Ні мастак. Мастаком трэба пражыць жыццё. Мастаком перад самаю смерцю не станеш... Рукапісы дзвюх кніжак ляжаць недзе ў папках, а я па начах пішу неіснуючыя палацы і храмы...

— Не кажы так...—вымавіла яна ледзь чутна, — гэта не твае, гэта ейныя словы...

Усю дарогу ён, скрозь роспач і боль, расказваў ёй свой бясконцы, дасюль яшчэ бясконцы раман. Яна слухала і сціналася, фізічна адчувала, якою нязначнаю робіцца сама перад ім. Перад ягонаю трагедыяй. Што ў параўнанні з ёю, гэтаю трагедыяй было ўсё ейнае жыццё? .. Ейнае першае, яшчэ ў школе перажытае і так ніколі і нікому за жыццё не выказанае каханне да суседава сына... Ейнае глыбокае, да слёз, да бяссоння захапленне адным маладым выкладчыкам гісторыі ва ўніверсітэце, і ў адказ ан ейнае раптоўнае, па шчырасці прызнанне абразлівы смех сяброўкі: ён жа любіць не дзяўчат, а хлопцаў, усе пра гэта ведаюць, а ты, быццам з месяца звалілася!.. Потым гэтыя гняўлівыя, падачкаю кінутыя ёю на стол гваздзікі ў газеціне... Кім, дзеля чаго... Няважна. Усё цяпер няважна... Бо яна адчайна чапляецца за кожны выступ, за кожны, ёй і толькі ёй падораны Міколаў пагляд, хай сабе выпадковы, але ж шчыры, шчыры, ізноў зрываецца, падае ў пропасць ягонае адчужанасці... Ён усё яшчэ належыць іншай.

Той, з якою яго звязвала першае глыбокае пачуццё. Ён сам выбраў яе сярод аднакурсніц. Ціхую, нават запалоханую. У яе быў жорсткі, вельмі жорсткі бацька, старшыня калгасу. Ён мог на ноч паставіць яе ці ейную сястру ў кут, каленямі на гарох, ці з паднятым угору венікам. Нават за тое, што не вымыюць падлогу, ці не здымуць яму, п’янаму, чобаты...

Мікола, дазнаўшыся пра ўсё гэта, адразу зрабіў ёй прапанову. Яна перабралася жыць да іх з мамаю. А потым увесь час вінаваціўся, шчэ і цяпер вінаваціцца, што не даў ёй тады часу падумаць, пакахаць яго. Вінаваціўся, што так рана, шчэ студэнткаю, нарадзіла яна Мілу... А потым яшчэ гэты няўдалы спарон. Ён са студэнцтва прывык пісаць за яе рэфераты і курсавыя, ён дапамог, прымусіў яе паступіць у аспірантуру, абараніцца. Мама гадавала Мілку, варыла, мыла. Пакуль мела сілы. А потым... Міла канчала ўжо школу. Маму паклалі ў бальніцу. Больш з апаўгода яна пралежала ў бальніцы. Дадому ўжо не вярнулася. А жонка... яшчэ не прайшло і году пасля мамінай смерці. Яны сядзелі на кухні, за сталом. І Мілка... І Мілка ўсё чула... “Мы с Сашей давно любим друг друга... с тобою я не знала, что такое любовь...»

Ніна разумела. Яна ведала, што, чым больш укладаеш у чалавека, тым больш ён табе дарагі... А тут жа ён сам, як скульптар, вылепіў, з запалоханае правінцыйнае дзяўчынкі вылепіў даму... Такую, якою ёй, Ніне, ніколі не стаць... У іх чароўная дачка. Міла. Як

усе пазіралі на іх, як зайздросцілі, калі яны ўтрох ездзілі адпачываць на мора! Ён, вучоны сухар, а побач такія чароўныя, стройныя, вясёлыя дамы!..

І пасля ўсяго гэтага ён быў вымушаны жыць праз сценку, слухаць, як яна па начах гулюлюкае са сваім новым мужам?! Мастак. Бізнесмен. Уладальнік прыватнае галерэі. Ён не змог. Ён пакінуў ім сваю, маміну кватэру... Думаў, дзеля дачкі. А дачка вось выйшла замуж і паехала жыць у Парыж. І жонка цяпер носіць маміны жамчужныя пацеркі...

Ды ўсё роўна. Усё справядліва... У той выдатнай, з высокімі столямі кватэры ў цэнтры горада мусяць жыць багатыя людзі. Ягоная былая жонка з ейным новым мужам багатыя. А ён  цяпер ніхто. Каму патрэбныя цяпер гэтыя ягоныя кнігі?! Хто цяпер будзе чытаць пра драўлянае дойлідства?

Ніна нічога не магла яму сказаць. Яна зрывалася, ляцела ў пропсць.

Дзякуй Богу, урэшце рэшт, ён нешта адчуў. Імклівы позірк. Іншая, не пякучая, мяккая ўсмешка.

І яна адчайна чапляецца з авыступ.

Мост праз Дзвіну, як той, у Варшаве,  праз Віслу, быў засланы туманам... Яны ўжо моўчкі, пад руку, вярталіся ў сваю ўтульную аднапакаёўку на ўскраіне Віцебска, дзе на кухні па-над крухмальнымі фіранкамі ў падвешаным, аплеценым Нінаю вазончыку зырчэў, гарэў дробнымі пунсовымі кроплямі кветак агеньчык... Герань. Дзе з вакна адначасна відаць і вільготны лес, і вокны  новабудоўляў. Дзе акуратна раскладзены, расстаўлены па паліцах ягоныя кнігі, рукапісы, скрыні з негатывамі і слайдамі. Дзе так імкліва, так лёгка запаўняюцца гарачым шэптам, толькі ім дваім зразумелымі слвоамі і рухамі блакітныя вечары. І поўня залівае пакой мяккім малочным святлом, ценем кладзецца на іхні ложак.

Ніна ўтрымалася. У яе стала сілы зачапіцца за той выступ, да вечнасці расцягнуць так раптоўна падоранае ёй лёсам імгненне шчасця...

Але яны ўсё яшчэ ішлі па масту. І дол быў засланы туманам. І ўвесь іхні шлях заставаўся бясконцым падзеннем. Шляхам у нікуды...

Поўня сплыла і растала ў тумане. За вакном пазяхаў, пацяг-ваўся ўсімі сваімі пялёсткамі пяшчотны ранак. Цёпла. Пад раніцу пайшоў дождж. І засланыя смугою ліхтары люструюцца ў лужынах. Навошта яны цяпер, ранкам? З-за вільготнага цёмнага лесу вось-вось

выплыве сонца. Дамы насупраць тушаць святло, адварочваюць цікаўныя твары. Адчыні фортку і ў пакой наплыве, працягне росную руку ранішні туман.

Ніна накінула на плечы хустку і перавяла позірк на мальберт. Ягоная апошняя няскончааняя карціна…

Рэшткі касцёла, так падрабязна апісанага ў ягонай доктарскай дысертацыі. Росны ранішні вэлюм. Дзіўна, вось зараз, пад гэтымі першымі сонечнымі промнямі гэтыя ссівелыя рэшткі быццам ажылі… Яны зберагаюць рух, вобраз усяго храма… Яна ж ніколі не бачыла гэтай стромкай. Строгай, скіраванай у неба камяніцы. Не чула музыкі ейнага аргану… Але ж вось яна бачыць… яна чуе… Гэта ён, гэта ён адбудаваў гэты храм…

## АКВАЛАНГІСТ
## Бег ад смерці

Дажджавыя кроплі некалькі стагоддзяў узапар тачылі шэры камень. А потым, — хто, навошта, цяпер гэта няважна, — нехта звёз, закінуў яго на далёкі бераг. І цяпер мора, абдымаючы вострыя скалы, лашчыць і гэты камень, залізвае выбітыя на ім нябеснаю вільгаццю выспінкі-раны... Дождж, нават у самую навальніцу, ён заўжды чысты і светлы. Балючы, казытлівы, але ж. Такі салодкі дождж... А марскія хвалі, яны з вострым, ёдкім, гаркавасалёным прысмакам слёз. Жыццё, якім бы пакутным яо не здавалася, усё ж лепш за лагодную ў сваёй вечнай беспрытульнасці смерць... Дзеля таго, каб не дацца ёй, каб уцячы, Мікола Краўчук, невядома як трапіўшы на гэты халодны, бязлюдны востраў, цяпер бегаў па колу і, махаючы рукамі, грэўся. Грэўся ля яму самому нябачнага вогнішча ўласнае крыві. Але яна пульсавала, набірала моцы, і ад сэрца, гарачымі хвалямі прылівала да скуры. І вось ужо гарэлі шчокі, і вушы. І пот кропелькамі сцякае па скронях... Ён яшчэ жывы, і не надта галодны, яшчэ мае сілы грэцца. Разумна было б паставіць перад сабою нейкую канкрэтную задачу. Напрыклад, аббаегчы ўздоўж берга ўвесь востраў, і пакуль яшчэ свеціць сонца, пашукаць вады, ці хоць якой ежы, хоць травы, моху, калі яны растуць дзе-небудзь на гэтых скалах, на гэтых чорных, вострых скалах...

Але галоўнае, трэба прыдкмаць, як развесці агонь. Бо без паліто, пінжака, у адной, яшчэ нядаўна накрухмаленай белай сарочцы ды парадных штанах, босым, ён наўрад ці перажыве нават гэтую ноч. Трэба было ставіць перад сабою нейкія канкрэтныя задачы, а ён,ён бег уздоўж берага і ўспамінаў...

У іх суседка была, цётка Маня, дык яна, пра тое ўся вёска ведала, сабе на смерць берагла сарочку, яшчэ ў дзявоцтве вышыла, і фартушок, і андарак, і намітка, — усё ў яе куфры ляжала. Ён нейк яшчэ студэнтам прыехаў, угаварыў яе ўсё эта на сябе надзець, сфатаграфаваў, хацеў, каб яна хоць намітку ў музей аддала, а яна нізавошта. “Як жа мяне, — кажа, — Тадына тым свеце дзяды пазнаюць?”.. А ён вось тут, на гэтым востраве, без дакментаў, у адно йсарочцы і падраных штанах, не тое што на тым, на гэтым свеце, калі хто і знойдзе псля смерці — не апазнаюць. На пяску напісаць, ці на камені, на скале чым надрапаць... “Тутбыў Мікола Краўчук з Беларусі...” І адрас. Каб хоць дзеці, ці можа ўнукі дазналіся, дзе ён загінуў...

А магло ўсё стацца значна раней, тады, у семідзесятыя, у Ленінградзе. Ён тады ўжо выкладаў, і яго паслалі на нейкія курсы ўдасканалення, а ён, нехта падказаў яму, што ў бібліятэцы і ў архіве там безліч матэрыялаў па беларускай этнаграфіі, дык ён напакаваў чамадан каробак з беларускімі цукеркамі і за іх, гэтыя цукеркі, а, хутчэй, проста за апантанасць ягоную, дзяўчаты дазвалялі яму на ноч браць рэдкія кнігі і дакументы. Замкнуць яго ў гасцініцы з другога боку, ключ забяруць, а ён ноч фатаграфуе, там жа ў ванне праяўляе плёнкі... Спяшаўся, не было часу рукі як след памыць, дык потым з год экзэму вылечыць не мог... Дык вось, у адну з такіх начэй кароткае замыканне там было ці што, як пырхне, проста ў вочы і ручнік на сцяне загарэўся. Ён да дзвярэй, а яны ж зачынены. Ледзь патушыў. Добра што кнігі тады ў другім пакоі былі, ён ужо іх паразняў, спакаваў, каб назад у бібліятэку несці...

... А пачалося ўсё яшчэ ў шсцідзесятыя... Даўно пачалося. Гэта быў тысяча дзевяцьсот шэсцьдзесят... Няважна цяпер, які тады быў год... Ён прыехаў у сталіцу, паступаць у педінстытут, і толькі ўладкаваўся ў інтэрнаце, адразу паехаў на могілкі, здаля падобныя на ўзлесак ці стары парк, гарадскія могілкі. Ён хацеў адшукаць там магілу сваёй бабулі... Мама, як сказаў ёй, што сабраўся ў Мінск паступаць, пасадзіла яго побач, узяла за руку, сцішылася неяк, і ледзь чутна, горка так выдыхнула:

— Там недзе мама мая, бабуля твая пахаваная. Марыя Пятроўна Сечка.

І болей нічога. Яны з бацькамі ўсё жыццё пражылі ў Высокім, да Драгічына не дойдзеш, ехаць трэба, а бабуля, родная бабуля пахаваная ў сталіцы... Чаму? А мама толькі рукою махнула і расплакалася.

— Не пытай, сынок, не трэба...

Ён ведаў, што мама з бацькам рыехал ў Высокае перад самаю вайною, пасля педтэхнкума. У вайну бацька на фронце быў, мама яго ў першы год вайны нарадзіла. Тут, у Высокім, ён і школу скончыў, адсюль, з Высокага, і ў армію пайшоў, не дзе-небудзь, у Германіі, у ГДР служыў, і пасля арміі, зноў жа, як бацька з фронту, сюдыв, у Высокае вярнуўся, піянерважатым трохі папрацаваў, толькі вось цяпер нарэшце паступаць выбраўся... У педінстытут. Толькі вось яшчэ не вырашыў, на які факультэт.

Але спачатку яму хацелася, ён мусіў пастаяць ля бабулінай магілы. Яна ж таксама была настаўніцай, мама казала, што ён, Мікола, на яе, сваю бабулю, вельмі падобны. Такая ж светлая, амаль празрыстая, арыстакратычная скура, блакітныя, крыху пукатыя

вочы, рудаватыя валсы, тонкія вусны і востры, птушыны нос. Толькі што ростам не выйшаў. Вайна. Мама кажа, ніколі паесці як след не мог, толькі прыкладзе яго да грудзей — страляюць. Дзеж тут насмокчашся. Брат з сястрою пасля вайны нарадзіліся, дык яны, хоць блізняты, ужо і адзін, і другая. На дзве галавы за яго вышэй, і здаравейшыя... мама. Праўда, каб суцешыць яго, прыдумала: “Ты, Мікола, галоўнае, жонку сабе высокую вазьмі. Яна нам род і падправіць.” А бубуля высокая была, і валасы вакол галавы каронаю. Яна адразу пасля рэвалюцыі настаўніцкія курсы скончыла, і працавала недзе ў Хойніцкім ці Брагінскім раёне, вёска Бабчын, і мама, там, у Бабчыне наардзілася. Але чаго яе перад вайноюў Мінск пацягнула? Мама не кажа, а болей, пэўна, ніхто і не ведае. Так і застанецца гэта таямніцаю.

Як заўжды быў і застанецца для яго таямніцаю бабулін маляваны дыван, што, колькі ён сябе памятае, вісіць пры ягоным ложку. Гэта адзінае, што засталося ад бабулі, яна яго, гэты дыван маме ў пасаг намалявала. Не дыван — сон. Сярод кветак —густых півоняў ды яснавокіх рамонкаў, у нябеснай празрыстай глыбіні, не, бліжэй, тут, ля калодзежа, стаяць двое — малады вусаты казак з канём і прыгожая, танклявая дзяўчына з перакінутаю на грудзі даўгою рудаватаю касой, у малінавай, з белым карункавым каўнерыкам сукенцы... Казак нагу за нагу закруціў, і гаворыць нешта, расказвае... А дзяўчына слухае яго і чырванее. І кветкі, шыпшына, што яшчэ бліжэй, ля калодзежа, таксама, здаецца, зайшлася сорамам. Мама казала, што бабуля надта любіла шыпшыну, і ў іх пад вакном там. Дзе яны раней жылі, у Бабчыне, там у іх пад вакном таксама расла шыпшына. А яшчэ бабуля піла толькі крынічную ваду. Ля лесу была крынічка, дык яна туды шторанак, да сонца, хадзіла, мылася і вядзерца піць прыносіла... І тут ён, Мікола, у бабулю. Дасюль на вёсцы з яго ўсе пасміхаюцца, панічом дражняць. Як малы быў, што ні рабілі, не хацеў вады піць са свайго калодзежа, і цяпер яны яму брыдкая, балотам патыхае. А як малы быў, бацька яму ажно з другога канца вёскі ваду насіў, потым і сам прызвычаіўся бегаць па тую панскую ваду, чыстую, жывую, смачную.

Ля калодзежа, на дыване расла, квітнела шыпшына, а яму, колькі сябе памятае, заўжды хацелася зазірнуць у калодзеж, у той, намаляваны, і паглядзець, ці ёсць там, і якая там ёсць вада... Ды колькі не заглядаў — не відаць... Не намалявала бабуля вады... Толькі ўвесь засыпаны яркімі ружовымі кветкамі духмяны куст шыпшыны...

Вось-вось, на бабулінай магіле мусіць расці шыпшына... Калі тут, на гэтых могілках, можа яна расці. Бо дрэвы ж густыя, высокія,

усё абдымаюць, накрываюць сваім ценем. І крыжы. Вакол адны крыжы. І магілы. І крыжы. Вакол адны крыжы...

Падгнілыя драўляныя, з'едзеныя іржою жалезныя, чугунныя, не простыя, з ажурнымі, каванымі промнямі, лісцем, кветкамі... яшчэ відаць, што яны былі чорнымі, а тут блакітнымі... Хоць можа гэта не кветкі, а іхнія шкілеты. На крыжах — не проста абрысы, шкілеты лісця і кветак, а вось тут шкілет сонца... Як жа ўсе гэтыя крыжы, пэўна, зайздросцяць сапраўдным кветкам і дрэвам, вось гэтым старым таполям і ліпам. Адны штогод, на пачатку лета засыпаюць магілы цёплым пухам. Вецер уздыхне і ўсчынаецца тапалёвая завея... Другія ж усё наўкола, голаў кружаць сваім мяўкім, салодкім водарам. Але галоўане, яны, гэтыя дрэвы, усё глыбей і глыбей урастаюць у зямлю і ўсё вышэй і вышэй цягнуцца ў неба. Яны жывыя, вільготныя, у іх пульсуе сок, яны адчуваюць мяккія дотыкі ветру і дажджу, яны ведаюць, што такое птушынае крыло і чалавечая далонь... Дрэвы жывыя, а яны, крыжы. Мёртвыя. Нават тыя, на якіх выкананы абрысы лісця і кветак, нават тыя, што зроблены з тых самых дрэваў. І калі іх кранаюць людзі, і калі на іх садзяцца птушкі, яны не маюць сілы адгукнуцца, яны маўчаць, яны змярцвелі назаўжды. А можа гэта закон прыроды? Усё, што зрабіў чалавек, усё да чаго ён дакранаецца сваёю рукою, ці яшчэ горш, нейкім інструментам, прыладаю, мусіць памерці? Так памерла ссечанае дрэва, і распаленае ў кузні жалеза...

— Вы нешта шукаеце?

Мікола, які ўжо з гадзіну, а можа і болей блукаў між зарослых травою магіл, пахіснутых крыжоў і помнікаў, і напружана прыглядаўся да ледзь чытэльных, змытых дажджом, з'едзеных іржою ці цвіллю прозвішчаў, рэзка павярнуўся і ніякавата павёў плячыма.

— Я мог бы вам дапамагчы, я тут усё ведаю... У мяне тут усе, пачынаючы з прадзеда, пахаваныя...

Не, Міколу ўразіў нават не сам гэты малады яшчэ чалавек — ссутулены, ці, можа, нават гарбаты, з шэрыі, пранізлівымі вачыма, вострым, падобным, як і ў яго самога, птушыным носам і бледным тварам... Шэрая ў колер вачэй берэтка, з-пад яе — даўгія, ледзь не да плячэй валасы, шэры шырокі пінжак. Рукі, нізка апушчаныя, вялікія, змазоленыя рукі. У ім было нешта ад Сярэдневечча, ад тых, таемных, прывідных сутарэнняў. Дзе блукае густое, сонечнае рэха... Міколу болып за ўсё ўразіла тое.што гэты малады, не нашмат за яго старэйшы чалавек гаварыў па-беларуску. Тут. у сталіцы, зусім, як у вёсцы...

— Не, не, дзякуй, я сам...

Ты скажы, ажно голас займае, з непрывычкі. А па-руску адказваць няёмка, язык не паварочваецца адказваць гэтаму дзіваку па-руску. Мікола зачырванеўся, і, адвёўшы вочы, дадаў:

— Памажыце, калі можна...

Бабуліну магілу яны так і не адшукалі. Сонца садзілася. Сярод безыменных крыжоў, пад адным з якіх можа знайшла свой апошні прытулак ягоная бабуля, сярод нямых чугунных карункаў яшчэ блукалі цёплыя промні...

Такім было ягонае другое, калі лічыць мкляваны дыван першым, то такім было ягонае другое спатканне са сваёй бабуляй... І можна лічыць, што менавіта яна, бабуля, пазнаёміла яго тады, на могілках з маладым выкладчыкам педінстытуту, так-так, таго самага педінстытуту, у які ён прыехаў паступаць. Юрась Карачун быў гісторыкам. І Мікола ў тойдзень, у той вечак канчаткова вырашыў паступаць на гістарычны факультэт.

Цяпер ужо цяжка дакладна ўспомніць, пра што яны гаварылі ў той вечар. Але не, калі пастараца, усё, літаральна ўсё ўсплывае ў памяці. Як учора тое было... Як учора...

З могілак яны паехалі да Юрася. Ён дасюль так і жыве ў той самай аднапакаёўцы ў цэнтры горада. Тоўстыя сцены, высокія столі і пачуццё абсалютнай адасобленасці ад усяго свету. Ціха, як... у калодзежы...

— Мы тут жылі з мамаю, і пасля ейнае смерці я ўсё пакінуў так, як было, як было пры ёй...

Юрась сцягнуў з галавы береэтку і густыя русявыя валасы, гэтая ягоная амаль дзявочая стрыжка... Ён вельмі, надта ж быў падобны на сваю маму, якая строга, не, з енікім глыбокім спачуваннем пазірала на іх з партрэта, што вісеў тут ж аў прыхожай, над люстэркам. Здаецца, вось-вось уздыхне...

— Яна нікуды не сыходзіла з гэтае хаты, — неяк спакойна, упэўнена дадаў Юрась, — Яна проста растала... Як снег, як паветра, арстала сярод сваіх любімых, з такою любоўю зробленых рэчаў... Вунь на абразах на покуці, вышыты ёю набожнік, крыжыкам. Чырвоным. Чорным крыжыкам, па белым, бялюткім кужалі... А там, на піяніна, пад збанком — таксама яна, шыдэлкам вязала, карункі. Быццам сняжынкі ў фортку наляцелі, нападалі і не растаюць... На канапе — посцілка, вось гэтая, у сіне-чырвоныя краты, гэта мама яшчэ ў дзявоцтве, калі на вёсцы жыла, ткала... І хаднікі-вясёлкі, таксама з вёскі. Мы дываноў ніколі не куплялі. І я цяпер толькі хаднікі пад ногі сцялю.

Мікола тады вельмі здзівіўся — у гарадской кватэры — як у вясковай хаце. Як у іх на вёсцы. Ягоная ж мама таксама ніколі ні посцілак, ні дыванoў ніякіх не купляла. Трэба новыя выткаць, бацька ёй з гарышча кросны дастае... Толькі ў іх на вёсцы часцей не ў кратачкі, а ў паскі посцілкі ткуць. І ручнікі, навалочкі мама не крыжыкам, гладдзю вышывала, усё кветкамі, кветкамі. А хаднікі такія самыя — “вясёлкі”, толькі крыху ярчэйшыя... Ён, Мікола, калі малы быў, бывала, стане босы на хаднічок, ці яшчэ лепш — ляжа, вочы заплюсне і ўяўляе, што на сапраўднай вясёлцы, дзе-небудзь высока-высока ў небе адпачыве, грэецца...

— Гэта на Палессі любяць такія сакавітыя, сонечныя фарбы ды ўзоры...

Яны ўжо сядзелі н аканапе і юрась, мякка, ласкава пагладжваў маміну посцілку. І гаварыў, гаварыў...

— Кратачкі, пасачкі, кветкі... Мая мама, як і ты, родам з Палесся была... А на Віцебшчыне, там усе “дымкі” ткуць. Шэра0белыя, срабрыстыя такія посцілкі. Далікатныя. Па іх ўзоры, як кругі па вадзе расцякаюцца. Калі доўга глядзець — ажно галава кругам ідзе. На Віцебшчыне вады шмат, рэкі, азёры... Вось і любяць там гэтыя “дымкі”, і карункі любяць... Абрусы, настольнікі, посцілкі нават... І ў адзенні, на фартушках, галаўных уборах, і на ручніках, нідзе няма столькі карункаў, як у Паазер’і...

Мікола ніколі пра тое не задумваўся, гэта ў той вечар, у Юрася, ён раптам адкрыў для сябе, што і звычайны збан ці гарлач. Якіх вунь колькі заўсёды ў іх сушыцц ана плоце, і ручнікі, посцілкі. І нават хаднікі, можна разглядаць, пра іх можна гаварыць, як пра сапраўдныя творы мастацтва. І арнамент, колеры, каларыт гэтых вырабаў могуць расказаць пра прыродуд, пра эмперамент тамтэйшых людзей не горш з акнігі... Толькі мову гэтую трэба навучыцца разумець. Дзе знак сонца, дзе — засеянага поля, дзе пажаданне шчасця, а дзе перасцярога...

За дзівоснаю, мяккаю, духмянай, з мялісаю, гарбатай, яны гаварылі, дакладней, больш гаварыў Юрась, яны гаварылі, і не маглі нагаварыцца...

Юрась узяў паперу, аловак, нешта адразу маляваў, тлумачыў. Пра нешта ў яго, Міколы, пытаўся. А потым неяк незаўважна, яны зноў вярнуліся да гаворкі пра могілкі. Пра смерць... І Мікола ўспомніў, што вясною, на Радаўніцу, іхняя суседка, баба Маня, цётка Маня, заўжды ходзіць на могілкі і завязвае на крыжы ўсёй сваёй радні, на крыжы завязвае — каму ручнік, каму фартушок...

— я чуў, чуў пра гэта, — заківаў Юрась, — Там. Дзе пахаваны мужчына — ручнік, там, дзе жанчына — фартушок. Гэта яшчэ з даўніх, дахрысціянскіх часоў вядзецца. А яшчэ раней нябожчыкаў увогуле не хавалі. Не закопвалі. А палілі. Попел ссыпалі ў гаршчочак, гаршчочак ставілі на ўкапаны ў зямлю слуп... Лічылася, што такім чынам душы лягчэй вызваліцца з цела...

Мікола міжволі перасмыкнуўся. Гэтая глухая цішыня, зеленаваты паўзмрок (гарэла толькі настольная лямпа), і гэтыя размовы...

— Вы так лёгка пра гэта ўсё гаворыце, — перабіў ён Юрася. — Вы што, зусім не баіцеся смерці?

Юрась толькі павёў плячыма і, як падалося Міколу, ніякавата ўсміхнуўся...

— Калі я быў малы, бацька ў мяне вельмі рана памёр, дык вось, я вельмі баяўся смерці. Засынаць баяўся. А раптам у сне памру?.. І вось аднойчы мама прывяла мяне да сябе на кухню, узяла шклянку вады, лыжачку солі, размяшала яе ў вадзе і дае мне пакаштаваць. “Салёная?—пытаецца, — Вось бачыш, солі не відаць, яе няма. Яна памерла... А вада салёная. Так і мы, — кажа, — Мы паміраем, але гэта зусім не значыць, што мы знікаем назаўжды”... Чалавек не можа ператварыцца ў нішто, калі ён сапраўды чалавек”...

Тады ж, у той вечар Юрась даў паслухаць яму прывезеную, здаецца. З Балгарыі пласцінку з запісамі народных песень, сярод якіх былі і галашэнні...

Колькі потым сам Мікола запісаў гэтых галашэнняў па вёсках, нават кандыдацкую па іх абараніў, кніжку выдаў... І там, у той кніжцы. У тым зборніку, за кожным запісам — жывыя, часцей за ўсё. Ужо выцвілыя, налітыя слязьмі старэчыя вочы, спакутаваны, знямелы, бы з дрэва высечаны твар... Калі кабету просіш пагаласіць, проста так, дзеля таго, каб запісаць, рэдка якая згаджаецца. Гэта ж ёй ізноў вяртацца. Боль, роспач, хоць даўнія яны. Хоць састарэлыя, але ж не выпускаюць чалавека скрозь усё ягонае жыццё...

Татачка мой!
Куды ж ты выбраўся ў далёкую дарогу?
А ты ж ужо бачыш, што мы па табе
плачам,
Што твае дочачкі ідуць ды галосяць.
Чо ж ты нас аставіў?
Чаго ж ты з намі не захацеў жыць?
Да пследняя ж у цябе дарога,
Да паследній пуць.

Закрываюцца сцежкі-дарожкі твае,
Сабраўся ты ў вялікую дарогу,
А больш мы не пабачым цябе...

Але вось што дзіўна, ніводнае, нават самае роспачнае галашэнне не пакідае адчування безвыходнасці... не памёр, не знік, проста выбраўся ў далёкую дарогу. У дарогу, якая чакае кожнага з нас, рана ці позна, як лёс... Мікола потым часта паўтараў студэнтам Юрасёвы словы:

— Народная культура заўжды абапіралася і абапіраецца на славуты пастулат: жыццё—смерць—неўміручасць—новае жыццё—Бог, і менавіта яна. Народная культура можа дапамагчы кожнаму чалавеку паасобку і ўсёй грамадзе разам натуральна перажыць не толькі вялікую радасць, але і вялікае гора...

Колькі ён, Мікола, паездзіў за сваё жыццё, і з Юрасём, і сам па сабе, і са студэнтамі... Цяпер вось цэлая картатэка слайдаў, фотадымкаў (там і народныя касцюмы, і ручнікі, і посцілкі, і вясковыя хаты. І крыжы...), а яшчэ дзённікі, касеты з запісамі песень, галашэнняў, некалькі відэакасет...

Здаецца, вандроўка стала ягоным натуральным станам, для яго вандраваць то еж, што для птушкі — лётаць... Але ўсё адно, толькі пачні збірацца куды — хваляванне. Нервы, як струны... Чаму атк? Не пад ваду ж, не ў акіянскія глыбіні трэба спускацца... Вось-вось, коджны раз, калі ён выпраўляўся ў экспедыцыю, дакранаўся да новага, неспазнанага, як аквалангіст, усё глыбей, глыбей... Ці выплывеш?..

— Вяртанне ў гісторыю — гэта заўжды пошукі будучыні.

І тут Юрась на сто працэнтаў мае рацыю...

— Індзейцы майя вылічылі, што праз пэўныя перыяды адзеі паўтараюцца. Яны здолелі ахапіць у сваіх падліках тысячагодддзі гісторыі...

Пра гэта яны з Юрасём гаварылі ўсяго некалькі дзён таму.

— Толькі справа ў тым, што не кожны. А можі і ніхто з сучасных людзей не здольны ўявіць сабе ўсё гэта. Як цяжка ахапіць бясконцую вышыню, бясконцую глыбіню, так і бясконцасць часу папросту не змяшчаецца ў нашай свядомасці. Кола ў коле ў коле ў коле... Кругі па вадзе, ад якіх, калі доўга глядзець, робіцца млосна...

— Але ж у нас на тое ёсць падсвядомасць, — паспрабаваў ён запярэчыць Юрасю, а той толькі павёў плячыма.

Там, на мяжы бясконцасці адбываюцца невытлумачальныя з’явы.

Вось яно, так і сталася. Юрась не паехаў, а ён. Мікола, нікога не паслухаўся, выбраўся-такі ў гэтую, падобна, апошнюю сваю вандроўку. Цяпер вось бегай уздоўж берага... Ён, гэты халодны, непрыветны, скалісты востраў не такі ўжо і вялікі. Здаецца ж, адсюль, ад гэтага, з'едзенага дажджамі шэрага каменя ён і пачынаў свой бег. Значыць, ля берага ніякіх крынічак ці там ручаінак з прэснаю вадоюняма. Трэба лезці, караскацца на скалы. Ці ен, пакуль не села сонца, можна яшчэ раз прабегчы і прыгледзецца. А раптам дзе пад скалою — птушынае гняздо з яйккамі. Вунь іх колькі вакол лётае, і над морам, ці можа, гэта ўжо акіян? Крычаць, галосяць... Як людзі...

Юрась з ім не паехаў, а ён сам не мог не паехаць. Гэта ж якраз тыя мясціны, дзе мама ягоная нарадзілася, дзе бабуля настаўнічала... Бабчын.... адна ягоная студэнтка прывезла адтуль відэокасету. Вёску пасля

Чарнобыльскай аварыі выселілі. Толькі некалькі бабулек засталося, адна так і не выязжала адтуль, а тыя вярнуліся назад. Не спадабалася на наовым месцы, вось і вярнуліся. Шыбіны ў хатах дзе празбіваныя, дзе дошкамі забітыя, сляпыя, бельмаватыя хаты... І бур'яном, палыном усё пазарастала, высокі, ледзь не ў чалавечы рост... Лес калючым дротам агароджаны. Знак вісіць — нельга ў той лес хадзіць, грыбы-ягады збіраць. Радыяцыя.

Дык яны, тыя бабулькі, ідуць пад тую агароджу і спяваюць. Галосяць. Успамінаюць, што ў іх з тым лесам звязана. Апяваюць, адпяваюць свой лес. І так яго гэта ўразіла, што не перадаць. А тут яшчэ да адной у хату заходзяць, ну і паказваюць: сцены абшарпаныя, печка. А на сцяне, над ложкам — маляваны дыван, такі самы. Як у яго над ложкам, у мамінай хаце вісеў. Казак з канём і дзяўчына ля калодзежа.

З машынаю не дамовіўся, ен захацеў ніхто ў зону ехаць. Сам, ан аўтобусе, а там пешкі, уздоўж таго, агароджанага, ад усяго свету адгароджанага калючым дротам, засыпанага радыяцыяй есу, праз могілкі...

Крыжы яшчэ сфатаграфаваць паспеў. З ручнікамі, фартушкамі... Ад Радаўніцы засталіся. Кажуць жа, радыяцыя, не радыяцыя, а на Радаўніцу ўсе перасяленцы ў родныя вёскі вяртаюцца, на могілкі, да дзядоў сваіх ідуць, паклаінцца... Як здані тыя крыжы стаяць.

Дайшоў да вёскі. А там нікога. Пуста. І ціха. Веснічкі, вароты — напята, вокны бельмаватыя, палын па пояс — і нікога.... У адну хату зайшоў, а там куфар размаляваны, а ў куфры — і андаракі, і кашулі вышываныя, і ажно дзе наіткі. І ручнікі, не вышываныя,

тканыя, адразу, узорамі... Нідзе ён такіх раней не бачыў узораў. Па самым краі — чырвоныя, чорныя птушкі... Цэлы вырай. А гэты— кветкамі затканы, а кветкі, глядзі ты, кветкі пераўтвараюцца ў дрэвы і зноў кветкі, не, ужо зоркі... І посцілку можна было б у мцзей здаць, і гэты збанок...

На двары тачку нейкую знайшоў, цэаля, ан колах. У яе і пачаў складаць — і ручнікі, і андарак адзін, і намітку, і кашулю...

Куфар на двор выцягнуў — сфатаграфаваў. У другой хаце маслабойка цікавая была, потым ля веснічак дзежку, акуратненькую такую знайшоў, і бочачка побач ляжала. Дзежку ан тачку паклаў, а бочачку сфатаграфаваў. Як гэта ўсё да станцыі давезці? Назад жа кіламетраў сем. Не меней. І калі да вечара не выбарцца, ды дезтам да вечара, калі праз гадзіну не выбрацца. Толькі ад'едзеш, — пачне змяркацца. А там ваўкі, сабакі дзікія, ды ці мала што... Можа лепш ужо заначаваць тут, вунь колькі хтаў вольных. Вады яшчэ трохі ёсць, сала. Цыбуля, навта гурок... Але перакусваць толькі . як сцямнее...

І вось... Ён памятае, ён быццам зараз чуе, як рыпнулі тады тыя зялёныя веснічкі. Потым дзверы... І ў паўзмроку... Сонца ўжо садзілася... У паўзмроку ён убачыў. Над пустым, без матарса, голым жалезным ложкам—той самы дыван... Можна было б зняць яго са сцяны, вынесці на вуліцу, сфатаграфаваць, ён бы яшчэ паспеў. А ён тады, як застыў. Падыйшоў, яшчэ ўсё не верачы, сам сабе не верачы. Пагладзіў. Казака. Каня, дзяўчыну, шыпшыну. Калодзеж. І зазіраць у яго не трэба. Так відаць. Чыстая, празрыстая вада. А ў ёй люструецц сонца. Вада і святло. Вось яна, сапраўдная, жывая існасць прыроды. Убачыў і піць расхацелася. А фатаграфаваць... Навошта? Што-што, а гэты дыван ён абавязкова забярэ з сабою... А каб не знік ён, не выпарыўся. Як сон. Як роя, тут  у гэтай хаце можна і значаваць. Толькі тачку трэба зацягнуць у хату. А то, ці мала што...

Потым, што ж было потым... Ён зацягнуў тачку, падыйшоў да вакна... Шыбы ўсе цэлыя, і нават, на дзіва. Чыстыя... А гарод зарос. Лебяда ды палын. І ў суседзяў таксама. Толькі на яблынях спеюць яблыкі, белы наліў. Адчыніў вакно і ўбачыў шыпшыну. Адцвітае, асыпаецца ўжо... Сонца садзіцца...

Ён сеў пры вакне на лаўку, абапёрся на стол, сеў так, каб было відаць дыван. На сценах, за шклом, у рамачках — фатакарткі. Галапузыя дзеці, салдаты (пэўна, сыны ці ўнукі з арміі слалі). А дзяўчына з касою, другая з з завіўкаю ці можа, гэта тая самая? Кожная рамачка атуленая ручнічком. На адным — галубкі, на другім — кветкі. На покуці — абраз з набожнікам. Абраз звычайны — Маці божая за шклом, з застылымі, як у акварыуме, штучнымі кветкамі. А

там, над люстэркам — двое, яшчэ моцныя, прыгожыя, строгія... Ён, вусаты, чарнявы. Яан з касою вакол галавы. З белым каўнерыкам.

І тут, толькі тут ён раптам адчуў востры, як быццам анват саладкаваты, не, вельмі непрыемны пах, смурод... Падыйшоў да печы, адсунуў фіранку. І ледзь не самлеў. Там была яна. Мёртвая. Даўно халоданя і мртвая.

І ён, дарослы, пажылы ўжо чалавек, ён не ведаў, што далей рабіць. Кінуў дыван. Хату, кінуў нагружаную тачку. Сумку з фотаапаратам. З вадою, ежаю, усё кінуў і пабег... Сонца садзілася, а ён усё бег і бег. Праз могілкі. Праз той, абкружаны калючым дотам, засыпаны радыяцыяй хвойнік, напрасткі. І сам не заўважыў, як убіўся ў балота. Потым, як бы ручай нейкі ці што, кладачка, тоненькая, тоненькая. У адну дошчачку. Прайшоў праз яе і апынуўся на... востраве, мяккім, як бы гумовым, утарвелым, імшыстым балотным востраве... Ручаінка ан вачах налівалася вадою, шырылася, яна абступала, як бы сціскала востраў. І ён, гэты востраў, пачаў расці, ён падымаўся. І вось ужо ператварыўся ў сухую, тарфяную выспу. Трава на вачах жаўцела, сохла, вывальвалася цэлымі пасмамі...

Яму стала страшна. Не. Не тады, калі пачалапрыбываць вада не тады, калі востраў падняўся вышэй за хвоі, а менавіта тады, калі ўбачыў, што сохне, выпадае з зямлі трава і востраў на вачах лысее... вось тады і трапіўся на ягоныя вочы той шэры, абабіты дажджамі, шурпаты валун,і ён сеў на яго, падцягнуў да грудзей калені, абхапіў іх рукамі, заплюшчыў вочы.

А калі прачнуўся. Яму падалося, што ён спаў. Дык вось, калі ён прачнуўся, вакл былі ўжо гэтыя скалы і мора, ці акіян... І крыклівыя вастрадзюбыя птушкі. І ні травінкі. Толькі той камень, той шэры валун. Халодна, знобка, невыносна... Дык дзе тут могуць быць іхнія гнёзды?.. Калі яны, гэтыя птушкі адзволяць яму, калі дадуць пажывіцца іхнімі яйкамі... Але вось, здаецца, вуда. Так-так, сапраўдная вуда і... Ці гэта яму ўжо здаецца, ды не, праўда, карабель падае голас. Недзе зусім блізка. Кінуцца ў ваду. Плысці насустрач? У марской вадзе чалавек, нябожчык, за тры месяцы ператвараецца ў нішто. Нават шкіета не застаецца. З вады ўсе выйшлі, у ваду і вернемся, вадою станемся. Гаркава- салёнаю, як слёзы, вадою. А на зямлі застанецца тое, што зрабілі, што паспелі зрабіць. І ўсё гэта па кроплі, па кроплі. Як дождж гэты шэры камень, усё гэта будзе па кроплі тачыць час. Пажоўкнуць старонкі, зробяцца цьмянымі фотаздымкі, струхнеюць ручнікі. Не, усё роўна, нішто не знікае ў нікуды, толькі пераўтвараецца, толькі пераўтвараецца...

У адной з самых прыгожых канферэнцзалаў краіны этнографы, фалькларысты з усяго свету выказвалі сваё захапенне — нідзе ў Еўропе ўжо не засталося столькі сапраўды унікальных аўтэнтычных песень, танцаў, такіх народных вырабаў, як тут, на гэтайзямлі. Потым на трубуну паднялася маладзенькая аспірантка, вучаніца Міколы краўчука, яна так і прадставілася: “Я — вучаніца Міколы краўчука”, а потым уставіла ў відэомагнітафон касету, і ўсе ўбачылі абкружаны калючым дротам, засыпаны радыяцыяй хвойнік і пажылых вясковых кабет у белых хусцінках. Яны ўсхліпнулі, ўскрыкнулі, загаласілі...

Ой, лясок,

Які ж ты быў вясё—ёленькііі...

На экране застыў да драбніц, да сцяжыначкі, да пянёчка, да каменьчыка, да кветачкі, да ягадкі знаёмы ім, родны іх лес...

— Нашыя этнографы і фалькларысты часам нагадваюць мне падарожнікаў ці, яшчэ дакладней, аквалангістаў. Толькі яны вандруюць не ў прасторы. А ў часе. Яны спускаюцца ў такія глыбіні чалавечай памяці, яны спрабуюць ўратаваць, спасцігнуць тое, што здаецца, ужо не можа ахапіць чалавечая свядомасць... Вядомы ва ўсім свеце Жан Іў Кусто паказаў, які пераварот ва ўрбаністычнай свядомасці можа зрабіць адзін чалавек са сваёй камандай. І ўдачыненні да аўтэнтычнай культуры мы мусім памятаць, што нас ніколі не задаволяць пасадкі паркаў і сквераў, калі знікне лес...

А на далёкім, безыменным скалістым востраве, па калені ў халоднай вадзе стаяў Мікола Краўчук. Ён стаяў і адчайна махаў прывязанаю да вудзільна белаю сарочкай, на якой узыходзячае сонца чарціла пунсовы, крывавы след...

## САКРАМЭНТА
## Падарожжа наўпрост

Як пчолы мёду, мы шукалі, дзе паставіць намёт. Тут, ля гэтага возера, таксама хапала людзей, з шашлыкамі і навязліваю гучнай музыкай, якая сляпіла цішыню пылам ды брудам.

Бегалі, дурэлі, яшчэ мокрыя, у ручнічках,толькі з возера, дзеці... Рыбакі стаялі ля берага, наставіўшы свае лёгкія антэны. І ляжалі ў кустах стрыножаныя, спустошаныя Два буслы з-пад гарэлкі і тхнула ўчаааршнім півам "Крыніца"... Такія чыстыя. Святыя вобразы, такія словы, і вось. За нашым ужо часам спаскудзілі...

Але мы вырашылі спыніцца туткрыху наводдаль ад усіх, бліжэй да вады, пад вярбою. Бо яшчэ калі пад'язджалі, і не чулі навязлівай музыкі, і дым мангалаў не еў вочы, з пагорка, з вышыні. Перад намі арптам адкрылася такая дзівосная, анват не зямная, касмічная карціна... возера, акаймаванае плаўнымі лініямі лясоў ды аксамітнымі. Смарагдавымі ўзгоркамі, дыхала туманамі і ціха-ціха, шэптам перамаўлялася з небам. Яшчэ не вечаровым, сонечным, але таксама нейкім ціхім-ціхім, як казка...

Адсюль Драздовіч убачыў бы свае касмічныя бегі, і Таркоўскі пачуў. Як уздыхае Салярыс. Але, галоўнае, там, у гэтым чароўным возеры былі астравы... яны вабілі, нястрымна прыцягвалі да сябе... Яны нас чакалі...

Калі даеш нырца. Цішыня закладае вушы. І бераг адступае, бо цябе цікавіць дно і водарасці, сярод якіх сноўдаюць, снуюць. Як уток між асновы, уцякаюць ад драпежнікаў і рыбачкіх сетак карасікі, зыркаюць ці проста стаяць, чакаюць спажывы, што мусіць сама прыплысці ў зубы, шчупакі... водарасці паўтараюць музыку хваляў, музыку снечнага святла, што з цяжкасцю прабіваецца скрозь ваду. Дасюль больш паловы насельнікаў планеты — гэта рыбы. Ціхія, маўклівыя, яны заварожваюць музыкай свайго цела. Усе мы калісьці былі рыбамі, маўклівымі, ціхімі... Мы плылі і плылі сабе. У акіяне сваіх будучых сноў. Сваіх будучых мрояў. Сваёй уласнай цішыні...

### Калі я была рыбкай...

... пра гэта ніхто не ведаў. Як дасюль не дазналіся людзі пра тое, што русалкі робяцца русалкамі толькі н аадзін тыдзень угодзе. Той самы, перадкупальскі, русальны тыдзень.

А ўвесь астатні час яны рыбкі... Залатая рыбка, што можа выканаць тры вашыя жаданні таксама была русалкай, таму і гаварыла, таму і разумела чалавечую мову і чалавечыя жаданні. А яе ўласнае жаданне было адзіным... Хутчэй у ваду. Каб забыцца.Каб забыцца...

А я дала нырца, каб успомніць... успомніць той час. Калі я была рыбкай і ўпешыню падплыла вось да гэтага вострава, да гэтага берага і выпаўзла на яго...На сваю бяду. На сваё вялікае купальскае шчасце... і скруху.

Калі тваё цела раптам робіцца вялікім, а ў грудзях пачына ебіцца сэрца, кроў гарачая. Апякае цябе зсярэдзіны, — таго, што з'явіўся твра, рукі, луска ападае, як бы і не заўважаеш. Унатраныя перамены, яны больш значныя, чым знешнія. Хаця для тых, хто цябе бачыць, галоўнае — твой выгляд, твае грудзі, рукі, валасы, вочы... Калі вочы — люстэрка душы, значыць, у русалак ёсць-такі душа...

Гэты востраў дасюль называюць Бярозавым. Тут шмат бяроз. Цэлы бярозавы гай. А тады, калі я ўпершыню іх убачыла..., не, вядома ж, не гэтыя бярозы, а даўнейшыя, але тады, калі я выйшла, выпаўзла з вады і патанула ў вечаровым тумане. Калі мой хвост яшчэ не абсох, тады мне гэтыя дрэвы нагадалі нас, русалак... У іх, бяроз, таксама луска па ўсім целе. Кучаравыя, з зялёным адлівам валасы і гэткія ж жывыя, зеленаватыя вочы... І ніякй магчымасці сыйсці з месца, прабегчыся, затанцаваць...

Потым я агледзелася і заўважыла лодку. Лодка чакала свайго гаспадара.

Калі ён выходзіў з лесу, з вялізным ахапкам бярозавых галінак, — гэта цяпер я ведаю, што з іх вяжуць венікі для лазні, — а тады. Я падумала, што ён збіраецца раскласці вогнішча ( я бачыла, як раскладаюць вогнішча, ды не звярнула ўвагу: агонь жа з'ядае толькі сухоцце, а тут свежыя зялёныя галінкі)... Маладая. Зусім дурніца была я тады. Ён кінуў ахапак у лодку, вярнуўся і пачаў рваць валасы, ой, ламіць галінкі ў той бярозкзі, што стаяла бліжэй за ўсіх да вады, той, аб кару якой я зчышчала з сябе луску. І з якой збіралася пагаварыць. Мы, русалкі, можам гаварыць не толькі з людзьмі, але і з дрэвамі, птушкамі, звярамі. Усяго раз на год. Усяго тыдзень, але ж затое нагаворышся за год маўчання. Памятаеце? Маўчу, маўчу ўжо, як нямая рыба...

Сонца садзілася, і туман быў мне на карысць. Сутонне і, дзякуючы расе, ен так суха. Усё, што я прыдумала тады, каб пазнаёміцца з ім, дык гэта закапацца ў пясок і захінуць грудзі

папараць-лісцем. Што я тады з яго спляла, дасюль не разумею. Ніколі ж да таго нічога падобнага не рабіла. Ды што там, рук год не мела...

Убачыў мяне на беразе, ля сваёй лодкі, злякнуўся, спужаўся, але выгляду не падаў, усміхнуўся толькі. Прывітаўся. Тое ягонае першае, ціхае, але такое моцнае, гарачае, мужчынскае:

— Прывітанне!

...дасюль у вушах, у душы. Згадаю, і ўсё паплыло. Бы і не было тых гадоў, дзесяцігоддзяў, стагоддзяў. Яго няма, а рэха, бач ты, засталося.

— Ты адкуль тут?

— А ты адкуль? — усё што прыдумала я сказаць яму ў адказ.

— Я з вёскі, з Заазер'я. вось па венікі прыплыў. Зімою, ведаеш, як у лазні такімі венікамі парыцца... Ухх! Смаккатта.

І ён сцебануў сябе па грудзях, па спіне і з насалодай перасмыкнуў плячыма. Я тады нешта ўспомніла, з даўняга свайго, яшчэ чалавечага, дзявочага жыцця, ці зразумела.Не ведаю.

— Дык ты любіш парыцца бярозкінымі валасамі?

Ён засмяяўся. Проста ў вочы мне зірнуў і засмяяўся.

— Ну ты скажаш! Бярозкінымі валасамі... Хаця... Прыгожа гучыць. Бярозкіы валасы... Усе косы бярозам павыдзіраў, пасушу і парыцца буду... І ты прыгожая. Ні ў кога такіх вачэй не бачыў. Проста вір нейкі. Зялёны вір...

— А ў цябе тады нябёсы ў вачах лашчацца... — бы і не я тады казала.

Словы самі наплывалі аднекуль і выплёскваліся, біліся, як хвалі аб бераг.

Мы гаманілі, мы гаварылі, лашчылі адно аднаго словамі, пакуль сонца грала, не магло нагуляцца з возерам. У паўзмроку, што ахутаў нас. Ужо іхавацца мн ене было чаго. Але я прыціскала папараць да грудзей, надта сэрца білася. Я баялася, што выскачыць і я адразу памру, так і не дагаварыўшы...

Яго звалі Ветрам. А я назвалася Вадою. Прыгожае імя, праўда? Вада. І закалыхвае, і астуджае.

— Ты што, тут застаешся? — спытаўся ён, адплываючы.

— Я тут ыву, — кажу яму, — Я тут цяпер жыву.

— А я думаў, гэты востраў бязлюдны... Мы сюды звычайна н а Купалле прыплываем. Нашым гуртам. І сёлета прыплывем. Ты прыходзь да нас. Патанчым...

О, колькі жарсці было ў гэтым ягоным, зусім жа шэптам "Патанчым..."! я тады ўпершыню адчула, што такое мецъ ногі і ўсё астатняе... але ж толькі адчула. Там, пад халодным, цяпер мне, з

жывою, гарачай крывёю, халодным пяском быў хвост, вялізны, у рост дзявочых ножак. Ае ж хвост...

І тады я пачала чакаць Купалле... Дзве мае знаёмыя, не хачу назваць іх сяброўкамі, бо сябровак у мяне ніколі, яшчэ з таго, чалавечаага жыцця не было. Дык вось, дзве мае знаёмыя русалкі прыплылі той ноччу на мой, я ж думала, толькі мой і Ягоны. Бярозавы востраў. І, расчэсваючы на сон косы, пачалі свае нудныя спевы пра нядолю, успаміналі, згадвалі свае даўнія чалавечыя, дзявочыя пакуты, і самі, здавалася, цешыліся тымі балючымі згадкамі-успамінамі. А пачалося ўсё з маёй згадкі пра ногі, якіх у нас цяпер не было. І не магло быць за той грэх, які ўчынілі сваёй душы і свайму целу. Той грэх, на які кожную з нас штурхнуў боль, пякучы, непераадольны, як вечнасць, што цяпер стала нам пакараннем.

— Кажуць. калі каторай з нас хоць на імгненне дадуцца цяпер ногі, кожны крок будзе падобны на крок па шкельцах, па ільдзінках, па вугельчыках... Але я, пэўна б, усё адно хацела іх мець. Хоць на імгненне. Каб патанчыць ля вогнішча на Купалле, разам з усімі...

Я ўздыхнула, а дзяўчаты здзівіліся.

— Навошта? — спыталася Рэя, так яе звалі цяпер, — Мы ж можам каго хочаш заказытаць і забраць з сабою ў вечнасць, цэлую вечнасць. Няўжо ты забылася, як балюча было нам хадзіць па зямлі?

*Па шкельцах...*
*Ён прыплыў з далёкай краіны*
*Князя нашага сынка адзіны...*

*Цуд празрысты прывёз у падарунак —*
*Так каханню падвёў ён рахунак.*

*Мы сустрэліся ў казачным лесе*
*Па вясне. Я ішла у Залессе.*

*А ён скача насустрач, як вецер,*
*Супыніўся... Ёсць цуды на свеце!*

*Не дайшла я нікуды тады.*
*І чакала яго тры гады.*

*А ён цуд той прывёз ў падарунак.*
*Не сказаў, што падводзіць рахунак.*

*Покуль кветкі я ў лузе збірала,*
*Яго жонка ўжо абдымала.*

*У празрыстае шкло наліла я вады*
*Кветкам піць. А сама — ў нікуды.*

Уздыхнула другая русалка—Завея:

*— Па ільдзінках...*
*Басанож бегл ая на спатканне,*
*І шаптала я:"Панечку, пане..."*

*А яго ўсё няма і няма,*
*Незаўважна апала зіма...*

*Рэчку лёдам зняволіў мароз,*
*І не ўбачыў ніхто маіх слёз.*

*Да вады, да жывое вады...*
*Ў пельку, ў пельку. Бы ў неба тады...*

Я маўчала. Баялася словаў. І маўчанне было маёй мовай...

*Па вугельчыках...*
*Ая не... Не скажу, не скажу...*
*Бо дасюль на цябе варажу.*

*Бо і ўсмешку тваю, твае вочы*
*Мрою, сню з ночы ў ноч, і без ночы...*

*Мы спаткацца з табою хацелі, ты сам папрасіў.*
*І бачыла я: ты даўно дакасіў...*

*Я цяпельца расклала пад нашай вярбой.*
*Любавалася ў возеры ціха сабой.*

*Потым бачу: да лазні ідзеш.*
*За руку ты суседку вядзеш.*

*І так хораша вам, так салодка,*
*Што навошта ж табе наша лодка?*

*І наш востраў і наша спатканне...*
*Толькі дровы расклала каханне.*

*Басанож я вуглі затаптала.*
*Я па зорках на востраў пайшла. І прапала...*

Да Купальскае ночы зніклі Рэя з Завеяй. А я засталася там, дзе была. І зноў я чакала. Не чакаць не магла. Вецер згадкаю быў пра маё мне каханне.

Вось і Ён. Падплывае мой мане... Я не бачу яго, адчуваю. Там, на беразе вогнішча ззяе... Танчаць там і спяваюць. І вяночкі ў ваду запускаюць. Свечкі зоркамі сцежкай кладуцца... трэба ў папараць зноў апрануцца... Кветак я назбірала ў вяночак, на карону сабе гэтай ноччу... У вяночку яго я сустрэну. Я змагу, гэтым разам я хвост не надзену. Кожны крок, як крывавая рана. Але сёння тваёю я стану...

Зноў расклала я ціха цяпельца. Не хачу я кахацца з тапельцам. Я жывога, гарачага хлопца хачу, я яго мроіць мною адной навучу...

Чую смех. Яны падплываюць. Хлопцы лодкі на бераг штурхаюць. Ён паходню трымае, мой Вецер, мне ты першы мужчына у свеце...

— Гэй, ёсць тут хто жывы?!

Ён гукнуў. Рэхам я уздыхнула...

— Вы... Вы? Вы!

— Здаецца, нікога няма... — ён сказаў і ўздыхнуў.

— Не выйду сама! — засмяялася, крыўдна так...

— Леся! Дай руку...

На руках яе з лодкі ён вынес. А я рэхам зноў сталася... Я на іх любавалася. Як скакалі яны, як спявалі. Потым папараць-кветку шукалі. І знайшлі яе недзе ў вадзе...

А мяне не кахае ніхто і нідзе. Толькі след вось крывавы з параненых ног. Што ж паробіш, убачыць мяне ты не змог.

Я хваста не надзела і стала празрыстай, я стала паветрам, вадой чыстай-чыстай. Вам соладка так цалавацца ўва мне... Лепш рыбкай зноў буду і жыцьме н адне...

Ізноў я маўчала. Год, два. Ўсе гады.

І аднойчы увосень прыплыў ён сюды. Я па лодцы пазнала. Стары быў ён дзед. Але нерат закінуў — ў ім сышоўся мой свет.

Зноў я бераг адчула. Ссівелі бярозы. І не п’яны ён быў, а цвярозы. А хістаўся. На нагах не стаяў. Так спужаўся.

— Ты нейкая незвычайная, рыбка мая, — сказаў ён такім знаёмым, маладым голасам.

І я не магла не адказаць яму…

— Я самая, што ні на ёсць звычайная рыбіна, проста золата бяроз люструецца… Мая луска люструе сонечнае святло і золата бяроз.

— Але ж ты яшчччэ і гавор-рыш, — запінаўся ён, — І твой голас мне дзіўна знаёмы.

— А ты мяне калісьці запрашаў патанчыць на Купаллі, але я цябе прашу, адпусці мяне зараз у ваду. Бо я ўжо задыхаюся. Навошта табе дохлая залатая рыбка? Адпусці. І я выканаю ўсе твае жаданні.

— Усе?

— Усе.

— Ладна. Паверу. Усё роўна, адна рыбіна — гэта не ўлоў, а нейкі проста здек з рыбака. Мая баба мяне засмяе.

— Дык што ты хочаш? — спыталася я, даўшы нырца і крыху аджыўшы.

— Рыбы. Не магу я сёння ізноў вярнуцца без рыбы. Мяне і так у вёсцы клічуць “Вецер — дзіравы нерат.”

— Добра. Лаві сваю рыбк…

Што мне было пераканаць карасікаў ды плотак, што гэты нерат — гэта іх ратаванне, што ён дапаможа перабрацца туды, дзе няма драпежных шчупакоў, няма рыбакоў і ніколі, ніколі не бывае зімы… А шчупакі, ім што, пакажы, куды дробная рыба кінулася, яны за ёю следам. Хоць у нерат. Цяпер вось ні ўзад, ні ўперад. Ды ладна, няхай хоць сонца пабачаць, бярозы ў золаце, дзеда, які калісьці быў такім маладым ті прыгожым. Даруйце, падвяла ўсіх. Цяпер болей ніхто мне ніколі не паверыць. Хаця, калі наступны раз сказаць, што каб рыбкам было кепска там, куды я іх паслала, яны б вярнуліся… А раз не вярнуліся, значыць, там ім добра… Ад жадаючых трапіць у нерат адбою не будзе. Дзед штораз будзе рыбу дадому прыносіць. І ніхто больш не назаве яго Вецер-дзіравы нерат… Багата жыць яны стануць са сваёю бабай Лесяй. Дом новы паставяць. Сабе. Дзецям. Унукам…

Якою нядобраю, цянічнаю я стала.

Але назаўтра мой Вецер не папрасіў у мян ерыбы. Ён папрасіў, каб я вярнула ягонай бабе маладосць. Вярнула. Чаго не зробіш дзеля каханага.

А назаўтра ён прыйшоў прасіць мяне, каб вярнула я яму ягоную бабу, бо збегла яна да маладога суседа. А я проста вярнула ёй яе ўзрост, зноў зрабіла яе старою. І яна сама вярнулася да дзеда.

Цяпер колькі ён н естаіць на беразе, колькі не закідвае свой нерат, абплываю яго бокам. Ёсць мяжа цярпенню і болю.

Там, на дне ціха-ціха, і такія мккія, чароўныя водарасці. Гэта цяпер маё, зялёнае купальскае вогнішча, мая чароўная папараць-кветка. Калі наступны раз я выберуся на бераг, я не буду ні дзяўчынай, ні русалкай, ні рыбкай…

**Змяіны Замак…**

… таямніца якога камньчыкам, люстэркавым шкельцам легла ў ягоныя сцены. Калі я там была Чааруніцай.

Цяпер гэта проста рэткі, ансып камення на востраве з годнаю назваю Замак. Людзі н елюбяць, дакладней, баяцца нас, змей. І мяне баяцца. Хаця яд мой лячэбын, чароўны. Зажыўляе любыя раны. Такіх, як я, на зямлі больш няма.

Восень… Час, калі мы, змеі, як птушкі, збіраемся ў адно месца. Каб паўзці ў вырай. Наш вырай, наш рай. Калі на Ўзвіжанне паўзеш срозь апалае лісце, здаецца, што гэта парчовая мантыя шоргае за табой па зямлі, як тады, калі я была Каралевай… Бацька сам збудаваў і падарыў мне гэты замак, падалей, сярод возера. На востраве, каб не перашкаджала яму цешыцца з новаю яго каханкай, з-за якой памерла мая маці… Я рана стала жыць сама… І калі бацька памёр… страшная хвароба з’ела іх усіх. Гэта было пакаранне. Дык вось, я не стала перабірацца ў ягоны  замак. Урэшце рэшт гэта мяе і ўратавала. А замак хутка зарос так, што да яго цяпер і не дабарцца.

Я засталася тут, на гэтым, сваім востраве. І адсюль кіравала сваім Каралеўствам. Княжыла. Бо я была Княгіняй. Але мне захацелася звацца Каарлевай, каб займець свайго Караля.

Аб адшукць яго, я загадала прывесці да мяне самага лепшага з вядомых на маіх землях мастакоў і папрасіла яго напісаць некалькі маіх партрэтаў. І разаслаал іх ва ўсе суседнія. Анват далёкія каралеўствы. І вось аднойчы падвечар, калі сонца ўжо садзілася за лес, і возера ціха перамаўлялася з залітым румянкам небам. Да майго вострава прыстаў карабель. З чароўнымі белымі ветразямі, яія ў промнях сонцавага зыходу здаваліся пусовымі.

І мне прынеслі дзіўную рэч—шкляное люстэрка. Ва ўвесь мой рост. Я ўпершыню ўбачыла. Што ў мяне не толькі прыгожыя, густыя цёмныя, як смоль валасы, глыбокія, карыя, з зялёнымі жывымі вогнікамі вочы, лёгкімі крыламі бровы і ясная, з лёгкім сумам усмешка, але і прыгожы, бы вытачаны з дрэва, годны стан і такія лёгкія, гнутнія рукі… Калі я глядзелася ў тое люстэрка, я адчувала сябе такою шчаслівай, анйшчаслівейшаю ў свеце…

А можа гэта ад  тых словаў, якія заспяваў для мяне пад пяшчотныя стуны лютн іна маёй мове Ягоны пасланнік. Уяўляеце, там. У далёкім загорным краі вывучылі маю мову, каб на ёй праспяваць мне песні.

Адплываючы, рыцарпакінуў мне скрутак, прысвечаных мне вершаў. Іх склаў той, што не даслаў мне свайго партрэта. Толькі люстэрка. Ва ўвесь мой рост.

Паляцела б я птушкаю за караблём. Ды не даў мне лёс крылаў. Народжаны поўзаць лётаць не можа... бацькаў грэх не дае мне ўзляцець. І ў ваду нырца не дасі, іў нябёсы не ўздымешся. Ні дна. Ні бяздоння.

* * *

*Я ўбачыў партрэт і зрабіўся калекам.*
*Без вушэй  і без рук — напоўчалавекам...*

*Толькі зрок. Толькі вочы мае Вас кранаюць.*
*Толькі вочы мае Вас кахаюць.*

*Я глядзеў н апартрэт і нічога не чуў,*
*Не мог піць, не мог есці нічога.*
*А сэрца ў грудзях паўтарала:*
*Ў дарогу, ў дарогу, ў дарогу...*

*Але ж не, не магу адарвацца ад вас, не магу варухнуцца.*
*Я блукаю у сне, і без вас мне*
*Ніяк не прачнуцца.*

*Валасы вашы, вусны і вочы*
*Цішыню разарвалі уночы.*

*Я пачуў салаўіныя спевы, —*
*Гэта голас гучаў маёй Дзевы.*

*Потым ластаўка крылцам шчаку мне кранула,*
*Быццам ваша далонь там пышчотна заснула.*

*Водар кветкі чароўнай свежасцю ўсё ахінуў.*
*Такога раней я не бачыў, ен адчуваў і не чуў.*

*Пацалунак салодкі малінаю — ў рот.*
*Не заўважыў я нават, а з сотаў выпіў ўвесь мёд...*

*Як з зерня адросткі, з душы*
*Аджыліся ізноўку пачуцці.*
*Не толькі вас бачыць цяпер я магу,*
*Але і адчуць, і пачуць я...*

*Я бачу вас і адчуваю... на голас, на дотык, на водар, на смак.*
*І я даплыву да Вас!.. Чуеце? Так.*

Гэтыя словы, як хвалі, наплывалі, накатваліся на мяне спачатку з голасам і музыкай Ягонага пасланніка. Потым з напасанымі Ім самім літарамі, водарам пергаменту, шэптам-шоргатам старонак. Я перачытвала ягоныя вершы. Калі Ён у сваёй роднай краіне садзіўся на карабель, выпраўляўся ў плаванне, калі хвалі закалыхвалі яго, і зоркі нагадвалі пра мае вочы. Я іх, гэтыя словы не чула, але адчувала... Бо ёсць найвышэйшы закон свету. Калі цябе хтосьці кахае. Калі хтосьці моліцца за цябе, — табе шанцавала і будзе шанцаваць.

Ды нешта не склалася ў нашай зорнай картачнай калодзе.

Ён даплыў да мяне... я ўбачыла яго. Але гэта была не сустрэча. Гэта было развітанне.

Ведаць бы тады, што калі доўга рыхтуешся да сустрэчы, яна робіцца развітаннем. А я рыхтавалася вельмі доўга. Спачатку прымярала сукенкі... ружовую, смарагдавую, аліўкавую, нарэшце вось гэтую, чорна-карычневую, аксамітную, з аліўкавымі знічкамі. Потым расчэсвала валасы. Я пакінула іх непрыбрнымі, нават у косы не стаал заплятаць. Чорныя, амаль на каленяў густыя хвалі. Хай яно так і будзе. Толькі нефрытавая заколка з аліўкавым празрыстым вочкам. І гэтыя завушніцы. І пацеркі, бранзалет... Яшчэ туфлікі ан абцасіках. Чорненькія, аксамітныя... а на плечы — шаль, лёгкі, празрысты, з нефрытавым адценнем шаль... Колер маіх вачэй стаўся маім колерам. Там, у люстэрку была тая, што чакае свой лёс... І гатовая прыняць яго, які бы ён не стаўся.

Я прадчувала. І тым вечарам мой люстэркавы адбітак выйшаў з рамы люстэрка і пайшоў са мною н абераг. І ў развітальных сонечных промнях, там, на захадзе, з развітальных сонечных промняў матэрыялізаваўся карабель. З белымі, бы аблокі, але цяпер, на захадзе сонца. Як аблокі, залітыя хвалюючым румянкам ветразямі. Мае шчокі

таксама гарэлі. Я хвалявалася, бо ягоныя вершы пульсавалі ў маёй крыві.

Тут, на беразе, мы яшчэ не ведалі, што мой не бачаны мною Закаханы ўсю дарогу, усё плаванне штовечар выходзіў на палубу і спавядаўся зоркам музыкаю і словамі свайго да мяне кахання. Але. Калі струны нацягнеш, як нервы, яны лопнуць. Нешта не склалася. І зранку ў майго Закахнага пачаўся жар. І ягоныя мроі сталіся трызненнем. Ён ужоне мроіў, ён трызніў мною.

На мой бераг яго знеслі на насілках. Ён узняў галаву. Ён убачыў мяне. Нашыя вочы мусілі сустрэцца.

І тут пачуўся звон разбітага люстэрка. Там, у замку, за тоўстымі сценамі. Але я пачула яго. Мае малыя пляменнікі трапілі ў люстэрка каменьчыкам.

Зарослы сівізною, заінелы твар і ясныя, блакітныя ільдзінкі-вочы... Пяшчота растапіла, пяшчота... Усё, што паспела я заўважыць. Мой закаханы прыўзняў галаву. А я ўжо ляцела ў замак. Там. За шклом у люстэрку была атрута, была ртуць... Усе ведалі, што калі разабьеш люстэрка, смерць чакае ўсіх, хто будзе побач. Я дабегла першаю. І злізала туюртуць, тую атруту. І ў тую ж хвіліну адчула, як сукенка прырасла да майго цела. А ногі зрасліся ў хвост. Але я ўратавала іх, маіх пляменнікаў, што знямелі ад страх. Знямелі ад жаху. І я не ведала. Што не разбітае люстэрка, і не ртуць спужала іх. А маё, на іх вачах пераўтварэнне.

На бераг я ўжо не вылецела. Не выйшла. Выпаўзла. Сонца села. Насілкі стаялі на беразе. Твар майго Закаханага быў захінуты прасцінай. І нікога. І нкога навокал, нікога ў цішыні нашага з ім спаткання.

## Калі я была птушкай...

... пра гэта цяпер ведаюць цсе. Бо гэта я ўгаварыла сваіх сяброў, сваіх родзічаў, марскіх чаек ляцець гнездавацца на Птушыны востраў.

Калі я была птушкай, я сніла сны... І ў адным з іх убачыла ціхае возера, зялёны востраў і на ім, з маёй вышыні, з вышыні птушынага палёту, жывы ланцужок, жывыя бела-чырвоныя пацеркі. Карагод... Дзяўчатывадзілі карагод і загукалі вясну...

— Жавароначкі, прыляціце,
Вясну красную прынясіце!..

Яны падкадзілі ўгору маленькіх птушачак і яечкі... адны, папяровыя, падхопленыя ветрам, узляталі, а іншыя, з цеста, ападалі

на зямлю. Дзяўчаты чакалі жаваронachкаў. А я была Чайкаю, але здзяўбла адно яечка. Такое смачнае, салодкае.

І той смак, смак, які я прыснiла. І прывёў мяне  і маіх родных, сяброў на  Беларусь, на Птушыны востраў.

І мы пачалі абжываць яго, гэты дзіўны востраў. Мы ачалі абжываць Птушыны востраў. І праз яго, праз гэты зялёны, аксамітны акрайчык зямлі пачалі спазанваць Беларусь. Чайкі, тым больш. Мы, марскія, ніколі не гняздуюцца высока. Ля мора няма дрэваў. І тут. на Птушыным востраве нашыя гнёзды былі на зямлі, ля берага.

У мяне яшчэ не было пары, а я ўжо думала пра тое, як зрабіць нашае гняздзечка самым цёплым, мякенькім, утульным... “Я выкладу яго сваім пухам!” — вырашыла я, — “Сваім уласным пухам...” Мне чамусьці не хацелася думаць “нашым”, мне не хацелася  нікога трывожыць, нават бацьку маіх дзяцей. Калі выведуцца птушаняты. Яны адразу адчуюць цяпло майго пуху. І потым, калі ім трэба будзе стаць на крыло, калі ім трэба будзе ўзляцець, яны будуць згадваць гэты мой цёплы і мяккі пух... Аблокі будуць нагадваць ім мой пух. І ім будзе лёгка і проста лётаць па небу. У бяздонні яны заўжды будуць мець востраў цішыні, Мамін, мой востраў... Аблокі заўжды будуць нагадваць ім мой пух. Маё цяпло. Аблокі заўжды будуць нагадваць ім Беларусь, птушыны востраў, дзе яны ўпершыню сталі на крыло.

Я вырашыла, што сама агарну сваіх птушанят цяплом і пяшчотай, і сама пастаўлю іх на крыло. І толькі тады пачала шукаць сабе пару. Большасць маіх сяброваk знайшлі сабе пару яшчэ ў пералёце. А я толькі тут, на востраве.

Але спачатку была туга. Сяброўкі  будавалі гнёзды, ладзілі сваё шчасце. Удзень я дапамагала ім. А падвечар, стомленая, кульгала на бераг...  Хадзіць па зямлі я так і не навучылася. Толькі калі я ўзлятала ў неба, насустрач сонцу, якое так соладка цалавалася з далягладам, з возерам цалавалася, я адчувала сваю моц і сваю дасканаласць, я ўзлятала над возерам насустрач вечароваму сонцу, каб перадаць апошнім. Ужо затканым туманам сонечным промням сваю тугу... Тугу па моры... Усе атк хутка забыліся на яго, нашае неўтаймоўнае, палкае, бурлівае і такое пяшчотнае мора. Рыбы хапала і тут. Смак іншы, але што ж... І хвалі шапталі... Цішэй, чым на моры, але што ж... А я пакутвала.я сама прывяла ўсіх за сабою, да гэтага возера. На гэты востраў. А цяпер не магла пераадолець сваю тугу... Мора было глыбокім. Амаль як неба, і ў ім. Як у небе аблокі. Пеніліся хвалі...

А зямлю я так і не здолела палюбіць.

Гэта так дзіўна. Калі доўга-доўга лунаеш сярод аблокаў, у бяздонні, а птым спусцішся, асядзеш уніз, на зямлю...

Калі ляціш, рассякаючы цішыню, чуеш толькі шум сваіх уласных крылаў. А тут, на зямлі, столькі гукаў, рэзкіх, надрыўных, стракатых. Тут столькі мітусні. Толькі ж ні ў небе, ні на моры не выведзеш птушанят.

Нас з Чаем яднала памяць пра мора і памяць пра неба. І ён. Як і я, насіў у сабе тугу. І падвечар кульгаў н абераг і ўзлятаў у неба... Калі нашыя сябры ладзілі свае гнёзды, адпачывалі, мы з ім узляталі ў бяздонне...

* * *

*Вершы пра неба не пішуць ў палёце.*
*Толькі акыны славяць, што ёсць.*
*Марыцца лёгка хіба што на ўзлёце,*
*Там, дзе ты будзеш, ці быў ужо госць.*

*Зорку, як сонца, не возьмеш у крылы,*
*Не прыхінеш, бо згарыш без слядоў.*
*Рэхам пустэча зноў поўніцца. Мілы...*
*У небе каханне, унізе—любоў.*

У яго былі такія моцныя, прыгожыя крылы. У палёце ён быў бог. Ён любіў узлёт, як і я, ён любіў узлёт, бо узлёт рассякаў тугу. Там, на зямлі, мы былі ці не самымі няўклюднымі з усіх. А тут, у небе. Нам не было роўных, і не будзе роўных нашым дзецям, бо спачатку маё пер'е, мой пух у гныздзечку, будуць нагадваць ім аблокі, а потым скрозь усё жыццё аблокі падтрымаюць і ахінуць. Адвядуць небяспеку і дапамогуць узняцца з зямлі.

Усё склалася неяк само па сабе. Незаўважна і хутка. У птушак заўжды ўсё стаецца вельмі хутка, імгненна. Як узлёт.

Я не паспела выкласці пухам нашае гняздзечка. Ужо, калі яйкі з'явіліся. І я грэла іх сваім целам, толькі тады я пачала вышчываць пух і падкладаць яго пад яечкі. Яшчэ да з'яўлення на сьет я спавівала сваіх будучых птушанят аблокамі. Каб яны не баяліся вышыні, каб яны мроілі небам. І любілі ўзлёт. Я мушу навучыць іх лёгка і прыгожа хадзіць па зямлі, але спачатку я навучу іх лётаць.

Я не ведала, што, пакуль сяджу ў гняздзечку, абкладаю сваіх будучых птушанят пухам, да вострава, блізка-блізка да вострава падплылі людзі. І чайкі, усе, хто ўжо выседзеў, або не выседжваў сваіх птушанят. І мой Чай таксама... Яны кінуліся бараніць наш Птушыны востраў...

Я ўбачыла іх пазеній. Дакладней, спачатку пачула. Пачула. Як трывожныя галасы чаек сплятаюцца, вузлы ў небе вяжуць з адчайнымі жаночымі ўскрыкамі.

— Божа! Божа, за што?!..

У лодцы была жанчына, мужчына і два хлапчукі. Мужчына спаў ці што. Жанчына старалася целам захінуць дзяцей і немаўля адбівалася. Махала рукамі. А яе дзеці, хлопцы, адбіваліся ад майго Чая. Ён усё ніяк ен мог налаўчыцца дзеўбанць іх як след... Усе астатнія птушкі кружылі вакол лодкі, не падпускалі да вострава.

А я, калі прыўзнялася над гняздзечкам і ўгледзела іх, нашых нечаканых гасцей, якіх мы, чайкі. адразу прынялі.як ворагаў, як ворагаў, як небяспеку...

Дык вось. як толькі я ўбачыла іх, адразу быццам пачула, адчула тую жачыну. Быццам у душу да яе зайшла. Заляцела. А можа, я і была яе душа?..

... Як я не заўважыла, што, калі мы, калі мы з дзецьмі адплывалі ад берага, ён, мой калісьці каханы, мой пакуль што муж, узяў з сабою бутэльку піва і бутэльку гарэлкі... Узяў брудна-карычневую “Крыніцу” і Двух стрыножаных буслоў.

Рыб, даючы нырца, не бярэ з сабою бутэльку. І змей, выпаўзаючы пагрэцца на сонца, не бярэ. І птах, узлятаючы ў неба, не бярэ. А чалавек, месца чыё між вадою і небам. Між дном і бяздоненм, можа ўзяць, каб забыцца. У чалавека ёсць памяць. А ён хоча забыцца.

Я павінна была нешта зрабіць, там, на беразе. Да адплыцця. Або не плысці нікуды. І дзяцей пакінуць на беразе. Але ж падумаць пра тое цяпер мне няма як...

Пакуль мы даплылі да таго вострава, грэблі ж, без стомы, грэблі па чарзе дзеці, а ён, мой былы каханы, але ніколі не закаханы ў мяне чалавек, спакваля выжлукціў беленькую са стрыножанымі бусламі, потым брудна-карычневую, што ў нас завецца “Крыніцаю”. У адной напой быў празрысты. У другой—пеністы, шыпучы, як і бутэлька, светла-карычневы. Я не магла яго спыніць, бо ён не кахаў мяне. А цяпер мы былі ў лодцы. Лодка ж не паплыве, калі сварыцца. А без сваркі ён ніколі нікому бутэлькі не аддасць, калі там хоць на донцы плёскаецца гэая атрута для душы. Спачатку ён нешта гаварыў, балбатаў, выклікаў нас на размову. Я еншта нават чыста механічна адказвала, а сама ен зводзіла вачэй з хлопцаў і хрысцілася. Малілася Богу, каб жа толькі нічога не здарылася. Калі напоі скончыліся. Ягоаня балбатня сталася мармытаннем, вочы з калісьці блакітнымі, а

цяпер выцвільмі, як ва ўсх, хто любіць напіцца, радужкамі, зрабіліся няўцямнымі, асалавелі. Ён пачаў пахрапваць. І мне стала спакайней.

Мы падплывалі да вострава, які называлі Птушыным. І з яго. Таго вострава. Проста на нас ляцелі чайкі. Цэлы вырай чаек. Яны зніжаліся. Вос-вось пацэляць дзюбаю проста ў вочы, проста ў сэрца.

— Назад. Вяслуйце назад! — крычала я, захінаюч ыдзяцей.

Лодка хіснулася.

— На востраў! — мыркнуў бацька. — На востраў! Вы ж хацелі навостраў!

Ахлопцы ўжо, кінуўшы вёслы, схапілі пустыя бутэлькі, адзін—празрыстую са стрыножанымі буслямі, другі—брудна-карычневую з-пад “Крыніцы”. Яны схапілі бутэлькі і пачалі адбівацца. Я павярнулася — проста на мяне ляцела вялізная Чайка. Ці можа гэта быў Чай? Я зірнула яму ў вочы, я павярнулася да яго, зірнула проста ў вочы і з жахам успомінла. Гэта ўжо было, гэта ўжо аднойчы было са мною... Я сніла аднойчы, што мяне пакахаў арол, ці можа коршак? А можа Чай? І ў мяне насустрач той птушцы прараслі крылы.

Мой меншы з усяе моцы стукнуў Чая так, што той завіс нада мною, а потым упаў да вады. Мой большы налёг на вёслы. Мы паспелі адплысці.

Я азірнулася. Чай павольан ўздымаўся з вады. Наўздагон птушкі не паляцелі.

А мы праз нейкі час прычалілі да суседняга вострава. Безназоўнага.

Бацька так нічога і не заўважыў. Ён не зразумеў, што мы прычалілі да іншага вострава.

Як і сабакі, чайкі п’яных не чапаюць.

Мы ен сталі чакаць, пакуль чайкі выгадуюць сваіх птушанят і зноў адляцяць з Птушынага вострава ў цёплыя краіны. Мы сталі абжываць свой востраў. Безназоўны. Для нас, праўда, ён меў анзву. Толькі мы вам яе не скажам. Назву свайго вострава, як і сваё сапраўднае імя, ен варта адкрываць людзям.

Пакуль мой каханы спаў у лодцы, якую дзеці прычалілі да берага, пакуль мой каханы, .як енмаўля спаў у лодцы-калысцы, вада калыхала яго, а вецер спяваў калыханку. Я закапала ў ЗЯМЛЮ бутэлькі, адну са стрыножанымі буслямі, а другую з-пад “Крыніцы”. І зараз-жа пачула голас меньшага:

— Мама, хадзі сюды, тут крыніца!

Большы прынёс бутэльку з-пад мінералкі і мы набралі чысцюткай. Празрыстай. Сцюдзёнай ВАДЫ, што імклівa выбіваецца

з-пад зямлі і бы, саромеючыся сваёй цноты, хавалася ў травах, у вербалозе...

— Як тут лёгка дыхаецца! — сказаў мой старэйшы, глынуўшы вады.

І я разам з сынамі ўздыхнула на поўныя грудзі, каб наталіць смагу душы гэтым гаючым ПАВЕТРАМ, каб душа разгарнула крылы.

Лес быў змешаны. Тут раслі і хвоі з елкамі, і бярозы. А яшчэ арэшнік, травы, кветкі, мох, ягады, грыбы... Што за лес без моху, ягад ды грыбоў...

Пакуль дзеці шукалі галлё і разводзілі АГОНЬ, я назбірала амаль поўную пластыкавую бутэльку чаніц і суніц. І яшчэ ўзнайшла пяць крэпенькіх баравічкоў. Сыраежак не брала. Пакінулв на потым.

Сонца садзілася за далягляд. Ружовую, ліловую празрыстаць зацягваў лёгкі вэлюм туману. Н атым беразе таксама нехта паліў вогнішча. І лёгка лёталі, разгарнуўшы моцныя крылы, усім добрай ночы жадалі клёкатам буслы. Цэлая сям’я. Пэўна, гэта з таго гнязда, што на вунь тым дубе...

Пачыналася маё новае, чалавечае жыццё.

**ЗМЕСТ**